# Янка Купала

## *Поўны збор твораў у дзевяці тамах*

# Янка Купала

*Поўны збор твораў*

*Том*

# 3

**ВЕРШЫ. ПЕРАКЛАДЫ**
**1911—1914**

Рэдактар тома
МУШЫНСКІ М. І.

Падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі
ЗОЛАВАЙ Э. А., МАЗАНІК Л. М.

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1997

# 1911

## ВАЎКАЛАК

Як змеркне, як ноч дзень зваює
І зораў паявіцца знак,
Па нівах, па сёлах шнуруе
Туды і сюды ваўкалак.

У поўнач на пні і на сталі
Знімае, ўздзявае свой від;
Не кеміць ні крыўды, ні жалю,
Ні наспаў магільных, ні пліт.

На веры людской і павазе,
10 Хаваны між яраў і лоз,
У кожны надворак залазе
І водзіць труслівасць за нос.

Паношыцца ў кожнай прыгодзе,
Смяяцца не дасць над сабой;
Малітвы на губы наводзе,
Як лістам, трасе цемнатой.

Ці з ласкай яго, ці няласкай —
Рахунак вядзе забабон;
Складаецца казка за казкай,
20 Падданых з'ярміў ён мільён.

Лет тысячы з'ела няпамяць,
За богам узводзіцца бог,
Сто ўспелі праўд новых спаганіць —
Ніхто ваўкалака не змог.

Як толькі зямля заначуе
І зорак абойдуць рады,
Па нівах, па сёлах шнуруе,
Шнуруе туды і сюды.

[*1911*]

## ІГНАТУ БУЙНІЦКАМУ

Важна рэй Ігнат Буйніцкі
    Ў танцах нашых водзіць,
Аж здаецца — усё чыста
    Хадыром з ім ходзіць.

Калі пусціцца скакаці,—
    Ажна сэрца скача;
Лепшых танцаў і ўвесь Піцер
    Бадай што не бачыў.

Ці «Мяцеліца», ці «Юрка»,
10 «Мельнік», ці «Антошка»,—
Ўсё ў яго сыходзіць гладка,
    Не змыліць ні трошка.

Пад дуду і пад цымбалы
    Топне, прыспявае...
Сцеражыцеся, ўсе людзі:
    Беларус гуляе!

Не ўнімайся ж і скачы нам,
    Покі сілы хваціць,
Мо пачнуць і думкі нашы
20 Весялей скакаці!

*1911*

## РЭЧКА

Між гор — далінаю — за вёску,
Не аглядаючыся ўзвыш,
Суважна, папрасту, па-свойску
Бяжыш ты, рэчка, і бяжыш.

Падгоніш каменьчык жвіровы,
Травінку водную трасеш,
Чапаеш кораньчык альховы,
Па верху кветачку нясеш.

І лёд зімой табе не шкодзе —
10 Ўсё коцішся; а цёплым днём
На бераг выглянеш разводдзем,
Дый после — зноў сваім слядком.

Нясецца весела вадзіца,
Мая з ёй думка след у след,—
То рвецца ўдаль, то зноў баіцца:
І міл, і страшан думцы свет.

А рэчка як бы мне гавора:
«Аб долі хочаш знаць маей?
Я — капля ў моры; толькі ж мора
20 Мае ад дум тваіх святлей!..»

[*1911*]

## САД

Галлё панадна разлапушыў
За хатай прадзедавай сад;
Чарэшні, яблыні і грушы
Сышліся згодліва у рад.

Ківаюць макаўкамі ўдала,
Плывуць напевы ад галін,

Як бы з іх кожная ўзывала:
«Хадзі, бяспутнік, адпачынь!

Хадзі, усядзься каля нас ты,
10 Жыцця прыгод забудзь напасць,
Паслухай музыкі лісцястай:
Яна табе гарт новы дасць.

Ты многа йшоў, блудзіў ты многа,—
Жадання крыж ты нёс і нёс,
Аж на расстайных стаў дарогах;
Цяпер — да нас ад бур і слёз!..»

Так быццам вабіць сад лісткамі
Пад цень свой думку многа лет;
А думка — што? яна з вятрамі,
20 Не знай, за чым ляціць у свет...

[*1911*]

## СЁМУХА

Нарэшце па віхрах, па сцюжы
Заглянуў вясенні прасвет;
Ці чуеш, ці бачыш, мой дружа,
Як іншы, як лепшы стаў свет?

Ці бачыш, як неба міргае,
Як траўкай смяецца зямля?
Ці чуеш, што кум-лес нам бае?
Уцям, колькі ў рэчцы жыцця.

А глянь ты на вёску на нашу,
10 На брацццяў забытых у ей,
Я знаю, як доля іх страша
І колькі ім зводзіць надзей.

Во Сёмуху выйшлі спаткалі,
Надзелі святочны убор,

Зялёнай галінкай уткалі
Святлічку, і ганак, і двор.

І цешацца людзі, як дзеці;
Сягоння труд скінуўся з рук,
Хоць заўтра на белым на свеце
20 Ах, колькі чакае іх мук!..

[*1911*]

## ГЭЙ, НАПЕРАД!

Гэй, наперад, покі сэрца
    Б'ецца, рвецца на прастор,
Годзе млеці ў паняверцы;
    Гэй, да сонца! гэй, да зор!

Хай бацькі стагналі ўчора,
    Йшлі на той свет без пары;
Сёння ў нашай моцы гора,
    Мы — жыцця гаспадары!

Думка ў думку, дружна, смела
10     Ўсе наперад грамадой!
Кожны ведай сваё дзела,
    Знай, за праўду крэпка стой!

К новай долі шлях нам ляжа,
    Як на небе Млечны Шлях,
Слова, дум ніхто не звяжа,
    Жыць, цярпець не будзе страх!

І не стане больш пакуса
    Першых-лепшых збоку брацць,
Славяніна-беларуса
20     Вечна ў лапці абуваць.

Дык наперад, покі сэрца
Б'ецца, рвецца на прастор,
Годзе млеці ў паняверцы!
Гэй, да сонца! гэй, да зор!

*1911*

## НАД НЁМАНАМ

Ціха і плаўна ўдаль коцяцца воды
Вольнага Нёмана ў цёмную даль,
Толькі у часе глухой непагоды
З берагу Нёман не выйдзе амаль.

Вербы і вольхі калышуцца глуха,
Сінія хвалі шумяць і бурляць.
Чуткай душою ў такі час паслухай,—
Здасца, там гэтакі голас чуваць:

«Гэй, не дзівуйся, мой дружа нядбалы,
10 Што я сягоння так злосна шумлю:
Грудзі здавілі мне хмары навалай,
Пошасць уелася ў матку-зямлю.

Сумна мне, сумна, што ўсё тут іначай
Некалі бераг мой бачыў і знаў,
Іншы меў выгляд — не гэткі жабрачы,
Іншы я плыт на плячох сваіх гнаў.

Край, дзе жыццё я сваё пачынаю,
Шмат весялей прыглядаўся на свет,
Песні і казкі інакшыя баяў,
20 Шчасце цвіло ў ім, як макавы цвет.

Буйным жыццём усё чыста кіпела,
Слава далёка за мора ішла,
Ворага кожны за плечы браў смела,
Цемра чужынцаў не страшнай была.

Панам быў дома і слаўным за домам
Мой, патаптаны сягоння, народ;
Змог ён не толькі знаць штукі з заломам,—
Роднаму слову ўмеў кніжны даць ход.

З вольнай дружынаю князь на пасадзе
30 Вольнаму люду законы пісаў;
Слухалі князя, а князь што не ўладзіў —
Слухаў, што веча яму звон казаў.

Чую, ах чую цяпер яшчэ ясна
Той неўгамонны, расходзісты звон...
Сціх, занямеў, аглушылі напрасна;
Ці адазвецца калі болей ён?..

Так, так, мой дружа, іначай бывала,—
Не называўся забытым мой край;
«Поўнач» не раз у ім схову шукала,
40 «Захад» знаў сілу яго неўнарай.

Га, а цяперака што гаварыці?..
Ўсе мае скарбы намарна ідуць:
Жыта учора вывозілі віці,
Родныя хвойкі сягоння плывуць.

Людзі чужыя змагаюць мне грудзі
З новым парадкам, з адменным жыццём,—
Роднага ж краю тутэйшыя людзі
Ў скуру чужацкую лезуць жыўцом.

Я іх не ваблю сваёю ўжо красай:
50 Вецер інакшы ім дзьме ў галаве,—
Вісла адным усміхаецца ласа,
Тыя, заплюшчыўшысь, пруцца к Няве.

Скора сын бацьку, а бацька сыночка
Не распазнаюць адзін аднаго;
Дзеці чужацкія корме ўжо дочка,
Маці працуе на злыдня свайго.

Так грамадзяне свабоднага краю
Ёрмы уздзелі, у рабства пайшлі,
Прадзедаў слава лазой зарастае,
60 Памяць мінуўшчыны дрэме ў зямлі.

Рынкам жывога тавару няслава
Край ўвесь зрабіла, загнала на ўбой,
Дзе ўжо лет сотні Масква і Варшава
Торг груганоўы вядуць між сабой.

Га! ты не слухаеш, бачу, ўжо болей.
Ой, чалавеча, змярцвелы у сне!..
Доўга йшчэ будзеш глухім ты, саколе?..
Камень і вольха перш поймуць мяне!..»

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Гэтакі ў часе глухой непагоды
70 Чуецца ў Нёмнавай гутарцы жаль.
Сціхне, і плаўна зноў коцяцца воды
Вольнага Нёмана ў цёмную даль.

*1911*

## ЯК У ЛЕСЕ ЗАЦВІТАЛІ...

Як у лесе зацвіталі
Ліпы ды каліна,—
Залатыя сны снавалі
Мы з табой, дзяўчына.

Калыхаліся, шумелі
Вольныя бярозы,
Шапацелі, шалясцелі
Трыснягі ды лозы.

*

Як у жыце наліліся
10 Каласкі нагінна,—
Сустрэліся, абняліся
Мы з табой, дзяўчына.

Мігацелі, зіхацелі
  У пракосах косы,
Заміралі кветкі, зелле,
  Заміралі росы.

*

Як даспела, счырванела
  Ягада-рабіна,—
Ўвокал глянулі нясмела
20  Мы з табой, дзяўчына.

Верасы пад лісцем спалі,
  Бор зялёны гнуўся,
Недзе пелі ў цёмнай далі
  Журавы ды гусі...

*1911*

## З НЕДАЦВЕТАЎ

Зелянелі лагі,
Зацвіталі сады,—
З маладою сваёй
Я спаткаўся тады.

Вецер косы яе
Расплятаў, спавіваў,
Прыпадаў да грудзей,
Калыхаў, напяваў...

Абняліся мы з ёй,
10 Божым сном паплылі
Ўдаль да сонца ўдваіх
Па зялёнай зямлі,

Па квяцістым пуці,
Паласой залатой,
Ўдаль да сонца ўдваіх
Заадно з яснатой...

Пад агністай зарой,
Над сівым курганом
Заручаліся з ёй
20 Туманом і агнём...

Аж нязменная ноч
Наплыла, апляла,
Непраходнай сцяной
Паміж намі лягла:

Маладую маю
Разлучылі са мной...
. . . . . . . . . .
Так расстаўся навек
Я з сваёю вясной.

*1911*

## З ДУМАК МІМАХОДАМ

Сонца кажа — ўкараную,
Ночка кажа — ўкамяную,
Мы ж варожым на абое:
Перш — адно, пасля — другое.

*1911*

## ДУБ

Распусціўшы суччa
У глухім прыволлі,
Сам адзін расце ён
На далёкім полі.

Як цар, у кароне,
Аб нічым не дбае,
Ці то стогне бура,
Ці віхор гуляе.

На адным ён месцы
10 Днюе і начуе;
Многа казак знае,
Многа песень чуе.

Дождж падмыў карэнне;
У ім дупло — як хата...
Ён стаіць і дрэмле —
Грозны, расахаты.

[*1911*]

## ХОХЛІК

Як зайграе ў лесе хохлік,—
Замірае песень воклік;
Як зачэпіць мох і лозы,—
Аджываюць смех і слёзы...

У цёмным яры скачуць чары,
Кветка чахне на папары,
Лісць трасецца на асіне,
Вогнік блукаецца сіні.

Барадой лясун ківае,
10 Шалы нетрай спавівае;
Ваўкалак за дамавінай
Выпаўзае на пуціну.

Ад загону да загону
Хохлік царскаю каронай
Каранує у сусветы
Сухалесы, пустацветы.

Хохлік грае, ведзьма скача,
Ноч смяецца, сонца плача,
Толькі песень не чуваці
20 На стаптанай сенажаці.

*1911*

## ЗА КАСОЙ

Кожны раз, як жывой муравой-дыванам
Лета высцеле луг, сенажаць,—
Косы свішчуць, звіняць над ракой за сялом,
За касой касцоў песні чуваць.

Ясна косы блішчаць у цвітучай расе,
Высцілаюць пракос у пракос;
Песні з ветрам шумяць, пушча водклік нясе,—
Пушча слухае песень і кос.

Шле яна свой адказ ад капцоў да капцоў,
10 Заміраючы ў вечнай жальбе;
Ці даждуся калі кос і песень касцоў
На другой, на вялікай касьбе?..

[*1908 ці 1911*]

## ВЯРБА

Стаіць вярба сухая
У полі на мяжы,
Кару з галін спіхае,
Галіны — як крыжы.

Ці непагадзь іх мые,
Ці спеката пячэ,—
Ўгару глядзяць нямыя,
Штогод нямей яшчэ.

Шчабетлівая птушка
10 Папеці не ляціць,
І мятлічак, і мушка
Гняздо баяцца віць.

Адно птах несвянцоны
Спраўляе свой папас...
Падбітыя вароны
Ды груганы падчас...

А ўсесвяточнай ночай,
Як ляжа цемната,
Ў сухой вярбе ляскоча
20 Асенняя слата.

Галодны вецер свішча,
Шалее ў злыбядзе,
Цямняцкае ігрышча
З сухотніцай вядзе.

Праклёнены хохат-рогат,
Выклічыны жуды,
І жальны ціхі ёкат
Там чуецца тады.

Ў такі час кажуць людзі
30 Аб той вярбе сухой:
Хай Бог суддзёю будзе
Над грэшнаю душой.

*1911*

## З ТАБОЮ...

З табою спаткаліся ў лесе;
Багун і чарнобель к нам слаўся.
Смяяўся пушчар, а у смесе
За ценем цень новы снаваўся.

За намі, прад намі снавалі
Павучныя, бледныя цені,—
Мяне у палац зазывалі,
Цябе — у святыя прадсені.

Святая пасцель небасхіла
10 Крывавай імглой заплывала,
Пасад заручальны магілай
Пуціна сляпая хавала.

Пуціна была, мы і тую
Згубілі, як лепей — не зналі:
Ці маем шукаці старую,
Ці к новай блукаціся далей?

*1911*

## ЗА ЧАРКАЙ

Ну, што сумен там ты, мой дзяцюк малады?
Давай чарку на стол,— вот і ўся тут бяда!
Кінь драмаць і ўздыхаць, уздыхні лепш тады,
Як ці жыць, ці ўміраць будзе ўжо не наўда!

Груканём, стуканём чарка ў чарку, як след,—
Бач, і стане душа паланеці агнём;
Весялей і смялей глянуць вочы на свет,
Весялей і смялей пойдзе ўсё хадуном.

Ты бядуеш адно, што жыць кепска табе;
10 Плюнь на тое, што кепска, што лепей — шукай!
Як вужака, калісь і я віўся ў жальбе;
Глянь, сягоння ўсё роўна — ці пекла, ці рай.

А было, ой, было, як малінка жыццё:
Быў шчасліў, песні пеў, на ўсё птушкай глядзеў...
Калі хочаш, скажу, раскажу табе ўсё...
Дай вось чарку, и то ўжо язык прымадзеў.

Як напэўна спазнаў, дагадаўся і ты,
Праз дзяўчынку пайшло, а нялёгка пайшло.
Маладыя былі, шмат было дурнаты;
20 Дваццаць першы мне йшоў, ёй семнаццаць было.

Па суседству жыла, звалі Еўкай яе,
Даспадобы была як і мне, так і ўсім.
Ці глядзіць на цябе, ці то песню пяе,—
Не было ёй раўні ні у гэтым, ні ў чым.

Падабалася мне лепш, як сам я сабе;
Неспакой мучыў днём, ночкай сон уцякаў;
Ці ішоў за сахой, ці пацеў у касьбе,—
Павідаці яе, як збаўлення, чакаў.

Не скажу, каб мяне адганяла яна:
30 Ёй па сэрцы и быў, як яна для мяне.
І часіна ўцякла удваіх не адна,
І цяпер гэты час маю ў сэрцы на дне.

На кірмашы хадзіў з ёю разам не раз,
І гасцінцы купляў, і ў садочку гуляў;
Ненаглядку маю я галубіў падчас,
Абнімаў, цалаваў, думкі ёй асмяляў.

А матуля мая (рай нябескі ўжо ёй)
Так любіла яе, як бы родну дачку:
Ўсё чакала, калі назаву я сваёй,—
40 Калі Еўку сваю павяду у царкву.

Дый адна злыбяда мой сушыла папар:
Прызыў мне, як пятля, ўжо на шыі вісеў...
Брату выйшлі гады, бацька жыў і не стар,
Я сам дуж і здароў,— значыць, льготы не меў.

Што рабіць у такім тут жыцці, беспуцці —
Выйсці цэлым з пятлі, не палезці наўрад:
Ці жаніцца цяпер і ў салдаты ісці,
Ці жаніцца тады, як вярнуся з салдат?..

Варажыў, разважаў сам адзін і з людзьмі:
50 Еўка кажа, што ёй можна гэтак і так;
Маці кажа: цяпер ажаніся вазьмі;
Бацька раіць — пасля, бо мо здарыцца ўсяк.

Адлажыў напасля, адлажыў наўсяды...
Хутка восень прыйшла, і на прызыў у Шклоў
Татка з хаты павёз. Там пайшло без бяды:
Папрашчацца дзядзькі адпусцілі дамоў.

Мо і год не мінуў, як шынель я надзеў,—
З дому вестку дастаў, што матуля ўмярла;
Слёзы хлынулі мне, прост, на свет не глядзеў;
60 Жаль яшчэ і цяпер — недакучнай была...

У паходзе былі, і прыехаць не мог
Доўг апошні, хаўтурны, радзімай аддаць;
І пасля, да канца маёй службы, ўжо Бог
Хоць магілкі яе не судзіў аглядаць.

Ну, аб Еўцы чаму — ты спытаеш — маўчу?
От, пісалі, што жыва, здарова, і ўсё...
Верыў гэтаму і снаваў ўціхачу
Думкі, як гэта мы з ёй устроім жыццё.

Хоць далёка стаяў, а любіў, ўспамінаў
70 І ахвоты не меў да другіх да дзяўчат:
Ёй адной пісьмы слаў і спакою не знаў,—
Ўсё чакаў таго дня, калі пусцяць з салдат.

Так сышло колькі год, аж нарэшце і срок
Маёй службы прыйшоў — адпусцілі зусім.
Я вярнуўся, і што ж? Э, мой мілы браток! —
Была замужам Еўка за бацькам маім.

Што прыйшло ў галаву за старога пайсці —
Над адгадкай такой думак я не ламаў:
Сіратою была, а у простым жыцці,
80 Хто пасватаўся перш, той і верх атрымаў.

Сам згадаеш, што я пераЖЫў у той час,—
Колькі ў роднай хаціне паспытываў мук.
Чаму лепш не ўзяла смерць каторага з нас?
Хлебам хлеб не быў мне, ўсё валілася з рук.

А яна — ўжо пры мне — ўсё хмурней з кожным днём...
Дзе шчаслівы той смех, дзе вясёлы паглёд?
Часам разам няўзнак — я, яна уздыхнём,
Ды я ў поле барзджэй, а яна — ў агарод.

Так праходзілі дні ў злыбядзе, а яна —
90 Наша мачыха ўжо — бачу, тае ў вачах;
Бацька хмур, не глядзіць і маўчыць, як сцяна;
Ношку добрую нёс, знаць, і ён на плячах.

Год, не болей, прайшло нам такога жыцця...
Як казалі ў сяле — нехта кінуў урок...
На душы дзве паменшыла наша сям'я:
Еўку Бог к сабе ўзяў, ■ сюды з хаты ўцёк.

Гэтак спятрала мне доля-байка навек;
Хатай стаў мне шынок, а свет цэлы — турмой.
Змарнаваў за нішто сам сябе чалавек.
100 Праз няўлад праўды ў нас, праз паглёд мілы той.

*1911*

## У КУПАЛЬСКУЮ НОЧ

Цёплым летам на Купалле,
Як ноч ляжа без граніцы,
Зводы, чары бліжай, далей
Відны ў пушчы над крыніцай.

Ля калоды, на калодзе —
Ў кожным лесавым куточку —
Кветка-папарацъ усходзе,
Зацвітае ў гэту ночку.

Хто захоча ў цёмнай гушчы
10 Пашукаці, паспытаці,
Падпільноўвае дух пушчы —
І не дасць нічога ўзяці.

Вось глядзіце! Зважна, ціха
Чалавек ідзе, крадзецца;
Што за немач, што за ліха?
Ці ж няма ўжо дзе падзецца?

Вочы кроўю наліліся,
Аб зуб зубам страх ляскоча,
Клубам гнецца, прыхіліўся:
20 Кветку-шчасце цапнуць хоча.

І мармоча, як спрасоння,
Пад шурпатымі сукамі:
«Ці ж, як летась, і сягоння
Мне з пустымі йсці рукамі?

Кожны год іду сюды я,
Кожны год надзею маю,
А тут немачы нямыя
Круцяць, верцяць з боку, з краю.

Збіўся з толку, жыць нязмога;
30 Вечны голад кветкі-шчасця,
То ад Бога, то да Бога
Гоніць, цісне, як з напасці.

Стой! Здаецца, вунь зірнула,
Як бы зорка, як бы сонца!
Ах, не тое! Адвярнула!..
— Гэта шышка на сасонцы».

Ну шукаці, як шукаці!
Цемра з нетрай скача скокі,
Звод рагоча ў цёмнай гаці,
40 Смоўж зіркае аднавокі.

Так шукае, лазіць лазам,
Просіць, моліць, заклінае,
А дух пушчы з пушчай разам
Успамінкі ўспамінае:

«Кінь шукаць, спраўляць скавыты,
Не чапай маіх харомаў!
Я — дух пушчы, дух сярдзіты,
Не спушчу нідзе нікому!

Кветкі пільна я пільную,
На замкоў замкнёна сорак,
А дарожку даў такую:
Людскіх костачак узгорак.

Не пачуеш нашай рады,
Будзе тое і з табою!
За цвяточак для прынады
Ты заплаціш галавою!

Як на свет свет нарадзіўся,
Як душа засела ў целе,
Ўсе ляцелі к гэтай місе,
І ніводныя не елі.

Пушча знае, што бароне,
Што ёй дадзена на сховы,
Крыжам ляжа на загоне,
А не дасць надзець аковы.

Адчапіся, адхрысціся!
Доляй-казкай счараваны,
Ты яшчэ не дарасціўся
Цвет пасцігнуці жаданы.

Бачыш, ночанька, як сажа,
Жджы лепш раніцы, не кветкі!» —
Так дух пушчы з пушчай кажа
Чалавеку напаследкі.

А ён блудзіць, ходам ходзе
Тамка, тутка, далей, бліжай,
То скрадаецца, як злодзей,
То бярэцца плазам-крыжам.

То абыйме дрэва-елку,
То рукамі водзіць пуста,
То пагоніць з хвойкі белку,
То спужае птушку з куста.

Пад нагамі мох шапоча,
Лісце ласіцца па твары,
Ён шукае і мармоча,
Як не чуе чараў-мараў.

«Прэч, загіньце, ведзьмы, злыдні!
Вунь вам верас, вунь вам лычка;
Ці няўжо вам не абрыдне
Шаматаці мной, як тычкай?

Шоў я полем, сенажацяй,
90 Шоў гарою і далінай,
А тут кветкі не спагнаці,
Хоць хавайся ў дамавіну!

А нашто ж мне над калыскай
Аб ёй ночка напявала?
Напявала, што ўжо блізка,
А пасля сама схавала.

А нашто ж мне на папары
Насвістоўвала жалейка,
Жальма жаліла на сквары?
100 Аж і сціхла, дабрадзейка!

А нашто ж мне звонам косы
Вызванялі на прасцягу?
Самі выгубілі росы,
Мне пакінулі боль-смагу.

А нашто ж мне на вяселлі
Пелі, гралі, чаркі білі?
Самі сціхлі, занямелі,
Мне ўчарашні дзень згубілі.

А нашто ж мне на Каляды
110 Галасілі па-хаўтурну?
Самі вылеглі загладай,
Я ў жальбе снуюся бурнай.

А нашто ўсё гаварыла:
Жджы на кветку, на Купалле!
З году ў год чакаю мілай
І шукаю бліжай, далей.

Можа, тамка? можа, гэтта?
Пнуся, рвуся ўзад і ўперад —
І на лета, ўсё на лета...
120 Вязнем я і кветка ў нерат.

Не трашчыце, не шасціце,
Сухалесы, пустацветы!
Дайце кветку, дайце жыці,
Не чаруйце у сусветы!

Мох, чарнобель, расхіліся!
Кветка, кветка, выглянь смела!
Чорнай кроўю ўвесь абліўся,
Сухажылле зводзіць цела...

Стой! Здаецца, вунь зірнула,
130 Як бы зорка, як бы сонца...
Ах, не тое! Адвярнула!..
— Гэта шышка на сасонцы».

І пабег, пабег па лесе,
Закруціўся дымам-пылам,
Стаў, глядзіць, на грудзі звесіў
Галаву над пнём пахілым.

А дух пушчы з пушчай разам
Успамінкі ўспамінае
І так далей кажа сказам,—
140 Ночка слухае нямая.

«Вырві сэрца, высуш сэрца,
Запалі агнём, як свечку!
Не глядзі, што кроў сатрэцца,
Не паглядывай на печку!

Як ноч прыйдзе, гэта ночка,
Выйдзі з сэрцам, як з паходняй,
Ад кусточка да кусточка
Асвяці мой хорам годне!

Так свяці, не бойся мукі,
150 З верай вернай і надзеяй,—
Кветка прыйдзе сама ў рукі,
Толькі сэрца спапялее.

Чуеш гэта, зробіш гэтак?
Будзеш панам, слаўным князем;
А не зробіш — сотні летак
Выць так будзеш паміж вяззем.

Прыйдзеш, пойдзеш у нягодзе,
Віцца будзеш, як вужака,
Дзень ці ноч, не скажаш: годзе!
160 Чахнуць будзеш, небарака!

Бачыш, чуеш: царства наша
Вечна, сільна, неўгамонна;
Духа пушчы не застраша
Ні сякера, ні карона.

Не ўздымайся сухавейне,
Не вышуківай закляцця!
Скора поўнач, скора пеўні
У тваёй зайграюць хаце».

Дух гамоніць, лес трасецца,
170 Стогнуць хвойкі і асіны,
Шум пакоцісты нясецца,
Як хто гіне або згінуў.

Чалавек маўчыць, марудзе,
Ўзад, уперад пройдзе, гляне.
Вось мінута, ■ штось будзе,
Можа, можа, і дастане...

Абы поўнач, як маланка,
Не змахнула цвет закляты,—
Прахам пойдзе ўся гулянка,
180 Зноў год жджы на гэта свята!

Што? Стаіць, глядзіць, о Божа!
Кветка-папараць абходзе,
Зацвіла, як мак, прыгожа,
Як бы сонца на усходзе.

Схамянуўся, прэ кустамі,
Як шалёны, прэцца к кветцы;
Лес кусаецца сукамі,
А ён туж дапрэ, здаецца.

Раптам певень загалосе
190 Недзе ў вёсцы, ў роднай вёсцы.—
Ўсё — як сон... не засталося...
Лісць трасецца на бярозцы.

Не то з пуду, не то з жалю
Вочы трэ, глядзіць нясмела —
Пуста, дзіка, бліжай, далей,
Толькі штосьці зашумела.

Зашумела, замуціла,
Дзікі рогат паплыў рэхам,
Думка сніла, не дасніла,
200 Паляцела з пушчай смехам.

Паваліўся, як сноп жыта,—
Як сноп жыта пры сасонцы.
Крык адно, як звон разбіты:
«Дайце кветку! Дайце сонца!»

*1911*

## ПЕСНЯ МАЯ

Песня мая не ўзышла сярод кветак,
Кветак цвітучага вечна паўдня...
Поўначы сумнай забыты палетак
Даў ёй жыццё пасярод палыння.

Пушча і ночка яе гадавалі,
Няньчылі казкамі долі нямой;
Дождж і расіца вясною купалі,
Снежныя буры тулілі зімой.

Песня мая не ўспінае атласаў,
10 Выдумкай хітрай у свет не ляціць,—
Знацца ёй досць з беларускаю красай —
Лесам шумеці, касою званіць.

З думкамі ходзіць забранага краю,
Служыць і верыць у лепшы усход...
Бо, калі гасне паходня старая,—
Новую заўтра распаліць народ.

Песні маёй не патрэбны святліцы
Ў княжацкіх хорамах слухаць музык,
Коціцца-ўецца свабоднай крыніцай
20 К сонцу і зорам, прастор дзе вялік.

Ёй не патрэбна ўсясільных прынука,
Службы лакейскай не знае яна:
Воля жывая ёй вечнай зарукай,
Волі нязмеранай — служба адна.

Песня мая не шукае прывету,
Ласкі ў скурганеным сэрцы чыім,—
Вецер свабодны з далёкага свету
Стрэне, праводзіць адпевам сваім.

З небам і ніваю ў дружбу заходзе,
30 Слухае бору адвечнай жальбы,
Водклікі лове ў бурлівым разводдзі,
Ў зорках шукае жыцця варажбы.

Песня мая не зачэпе сягоння
Думкай сваёю ўсіх хат і сяліб,
Зваленых хат і людзей у прыгоне,
Ўсходным зярном неабсеяных скіб...

Час, як крыніца, ідзе, не марудзе...
Кіне стары дзень жыццём кіраваць,
Новы дзень прыйдзе, і новыя людзі
40 Будуць пачатую думку снаваць.

Песня мая не шукае чырвонцаў —
Будучнасць гэткіх не знойдзе ў ёй плям,—
Жыць хоча толькі ў радзімай старонцы,
Пеці па сэрцу ўсім добрым людзям.

Пеці, і з часам, у добрую пору,
Выклікаць водклік у сонным сяле...
Ўсю Беларусь — неабнятну, як мора,
Ўбачыць у ясным, як сонца, святле.

*1911*

## НЕ ПРАСПІ

Спі, дзяўчына, покуль сонца
Не зайграла над хацінай;
А як сонца на аконца
Бліскі кіне — ўстань, дзяўчына!

Ўстань, зніміся, схамяніся,
Ўмыйся сочнаю расою,
Сэрцам к сонцу прытуліся,
Ветру дай гуляць з касою!

Ў сонцы вімся далей, вышай,—
10 Паланей, красуй дзянінай,
Не пужаючыся крыжа,
Сонцу роўная дзяўчына!

Заіскрыся кветкай белай
На зялёнай сенажаці;
Кінь патолю думцы смелай,
Пасмы радасці снаваці...

Негаданай песняй-казкай
Разыграецца часіна...
З сонцам, з сэрцам, з вечнай ласкай
20 Не праспі вясны, дзяўчына!..

*1911*

## ГРАЙЦЕ, ПЕСНІ

Ці то позна, ці то рана
Чую нейкую напасць;
Дзе ні стану, дзе ні гляну —
Думка ўсюды голас дасць.

Неба, сонца, месяц, зоры,
Людзі, пушча, ўся зямля,

Ўсё да сэрца штось гавора,
Ўсюды бачу моц жыцця;

І пагодай, непагодай
10 Не магу драмаць, чакаць:
Так і хочацца заўсёды
Песню вечную снаваць;

Добрай доляй, дзіўнай казкай
Сон палошыць з хат нямых,
Пацяшаці сонца ласкай
І старых, і маладых;

Звацi, клікаць на пакосы,
На нязмераны прастор,
Хай зазвоняць смела косы,
20 Грукне ў лесе хай тапор;

Хай цярэбяць, косяць, звоняць,
Клік пускаюць на ўвесь свет,
Аж няўлады ўсе разгоняць,
Ляжа чысты роўны след.

Гэтак, покі сэрца чуе,
Што не час у шапку спаць,
Грайце, песні, хай красуе
Наш загон і сенажаць!

*1911*

### ЖНЯЯ

Як сама царыца
Ў залатой кароне,
Йдзе яна ў вяночку
Паміж спелых гоняў.

З каласкоў вяночак —
Моладасці сведка —

На ёй зіхаціцца,
Як у садзе кветка.

На грудзях шчаслівых
10 Каптанок ружовы,
У руцэ сярпочак
Зублены, сталёвы.

Вецер абнімае
Стан яе дзявочы,
Сонца ёй цалуе
Шыю, твар і вочы.

Каласкі хінуцца
Перад ёй паклонна,
Дзівіцца ігруша
20 На мяжы зялёнай.

А яна — царыца —
Весела, шчасліва
Карануе песняй
Залатое жніва.

Смела йдзе у сонцы
Ўся сама — як сонца,
Гэта жнейка наша
Ў нашаей старонцы.

*1911*

## З ЛЕТНІХ МАЛЮНКАЎ

Коціцца, ўецца далінкай крыніца,
Б'ецца, плюскоча ў каменнях вадзіца,
    Далей плыве і плюскоча.
Белымі грудкамі лёгшы на траўцы,
Хоча дзяўчынка к вадзіцы дастацца,
    Губкамі чэрпнуці хоча.

Вольха лісткамі ёй шыю ласкоча,
Плюскатам рэчка смяецца у вочы,
  Сонейка ўсіх абнімае.
10 Сонейка, рэчка, вольха, дзяўчына
Думцы ўсміхаюцца соладка, дзіўна,
  Думка іх шчыра вітае...

*1911*

## ЯК У ПОВЕСЦІ

Шлях. Каля шляху лес хілкі.
Вёска, дзе лес, і магілкі;
  Ў вёсцы — з святліцай хаціна,
  Ў хаце — з бабуляй дзяўчына.

Там жа паблізку стаяла
Гэткая ж хатка бязмала,—
  Хлопец у хаце жыў з дзедам,
  Быў той дзяўчыны суседам.

Звалі дзяўчыну Маланкай,
10 Хлопца, чуў, клікалі Янкай;
  Зналіся змалку абое,
  Зналі і сёе, і тое.

Кожны год цёплай вясною,
Ў поле шоў Янка з сахою;
  Кужаль Маланка снавала,
  Цэўкі сукала і ткала.

Ўлетку кляпаў хлопец коску,—
Шоў луг касіці за вёску;
  Сена дзяўчына сушыла,
  Ніўку жаць потым хадзіла.

Жыта ляшыў ён увосень
Або лучыну біў з сосен;
  Шла яна бульбу капаці
  Ці лён часала у хаце.

Сані ён ладзіў зімою,
Ехаў ці йшоў ў лес з пілою;
    Часам яна ў лес хадзіла
    Ці на таку малаціла.

Далей, не так ужо далей:
35 Янку кудысьці пазвалі,
    Там пасадзілі за штосьці,
    Не адпусцілі і ў госці.

Болей яго я не бачыў;
Чуў, што не вельмі там скача,—
    Нешта капае, валоча,
    Ждучы ўсё сонейка ўночы.

Ну, а дзяўчына?.. Э, што там!
Збаю калісь аб ёй потым...
    Людзі ж казалі, што Янка
40 Вельмі любіўся з Маланкай.

*1911*

## МІНУТЫ ШЧАСЦЯ

Сплылі ў душу з высі высокай
І зацвілі ў ёй яснавока,
Як светласць бледная аблокаў
    На дальнім летнім небасхіле.

Цвілі, гулялі пераліўна
Світаннем новым долі дзіўнай;
У казку волі неспажыўнай
    Цяклі нявыплаканай сілай.

Вялі па сцежках нехаджалых,
10 Арлом узносілі на скалах,
Карону клалі ў міртных хвалах
    На ўсёй будзённасці завілай.

Так асянялі, панавалі,
Як сонца бліск на вод крышталі,
Аж пацягнулі вышай, далей,
    Туды, адкуль сышлі так міла.

Вітаю іх і не вітаю,
Стаю, як пільгрым на расстаю
Ў чужым далёкім недзе краю,
20    Як над пустой стаю магілай.

*1911*

## ЧАТЫРЫ КРЫЖЫ

Як Лявон прашчаўся з хатай,
    Як стаў ў свет збірацца,
Пакланіўся маме, тату
    І Прачыстай Матцы.

Пакланіўся, памаліўся,
    Выплеўся за вёску.
На мяжу, як сноп, зваліўся
    Пад крывой бярозкай.

Паліліся самі слёзы,
10    Хоць даўно не плакаў...
Ўстаў, пайшоў, як нецвярозы,
    Далей, небарака.

Смоллю вецер лез у вочы,
    Хмары палівалі;
Пушча страшыла уночы,
    Людзі ўдзень чапалі...

. . . . . . . . . . . . . . . .

Як Лявон прашчаўся з светам,
    Як дамоў вяртаўся,—
Ні з пацехай, ні з прыветам,
20    Кажуць, не спаткаўся.

Ўсюды добра, дома — лепей,
Дзе гуляў дзяцінай,
Дзе ніхто цябе не чэпе
Так, без дай прычыны.

Да сваёй даплёўся вёскі
І ... пляцецца далей,
Дзе магілкі, дзе бярозкі
Ля крыжоў стаялі.

Тры крыжы там небарака
30 Новенькія ўбачыў...
Сеў пад імі і заплакаў —
Па сваіх, няйначай.

. . . . . . . . . . . . .

Першы — маткі, другі — таткі,
Трэці — Паланеі...
Ў месяц стаў яшчэ адзін крыж
На магільнай кнеі...

*1911*

### ДЗЕ?..

Дзе ты, хатка, дзе сялібка,
Родны мой куточак,
Што мне даў бы скаратаці
Рэшту дзён і ночак?

Дзе загон зямелькі чорнай,
Дарагая ніва,
Што дала б мне нацяшацца
З залатога жніва?

Дзе ты, конік мой, буланчык,
10 Хто цябе дзе спасціў,
Што павёз бы, што памчаў бы
Ў свет, за лес, па шчасце?..

Дзе прыяцелі, дружочкі,
Родныя, чужыя,
Што мне б крыўдай не сушылі
Леты маладыя?

Дзе ты, любая дзяўчынка,
Роўная цвяточку,
Што мне зачыніла б вочы
20 У апошнюю ночку?..

Што было, што не — сплыло ўсё,
Як вадзіца ў мора,
Засталіся толькі думкі
На бяду, на гора.

Засталіся толькі песні,
Ды што з імі будзе:
Доля смуткам аплятае,
Смехам бэсцяць людзі.

*1911*

## БЛІЗКІМ І ДАЛЁКІМ

Вам, цемратворцам блізкім, далёкім,
Шлю свой прывет і ласку ад сэрца;
Дзякуй шлю вам, шмялям слепавокім,
Дзякуй! Хай далей моц ваша прэцца!

Піце, смакчыце кроў маю з жылаў,
Будзе хай сліўням, піяўкам завідна,
Рыйце, капайце брату магілу,—
Вам толькі гэткай працы нястыдна!

Можаце рыці, віцца, кусацца,—
10 Мне ўжо не страшны рык ваш звярыны;
Вырвіце жылы, сэрца не дасца,
З вашай крывавай вырвецца ціны.

Мне ўжо не страшны крыўды аковы;
Любасці братняй ясным пажарам
Кіну у попел цемры асновы
Гніць пад нагамі лозным папарам!

Жыў і без вас я, жыў і між вамі,
Толькі, як воблак, быў я свабодны,
Спутаць не даў я дум ланцугамі,
20 Не аплуціў іх свіст ваш нязводны.

Дух мой свабодна з вашых цянётаў
Выйсці здалее к яснасці божай,
Не апаганен выйдзе з балота,
Далей, к высотам, шлях свой пралажа;

Далей, дзе йшчэ беларуская думка
Зоркай сягнуці часу не мела,
Дзе толькі злосна чорны птах крумкаў,
Дзе хітры звер паношыўся смела.

Дзе торг з адвечнай праўды зрабілі,
30 Слёзамі ўткалі радасць і шчасце,
Дзе толькі сонца звод не асіліў...
...Сонца не вашай чэрні раскрасці!

Славу маю не вам, падваротні,
З граззю мяшаці хлысцьбай падлыжнай,—
Сам я суддзёю! Й прышлых лет сотні
Выдадуць суд свой правы, не кніжны.

Вы мне маіх год не гадавалі,—
Летаваў сам я, зімку праводзіў;
Віхры і буры сілу давалі,
40 Крылле даў новы промень на ўсходзе.

А хоць без часу ўдасца вам нетрай
Вычасаць гроб мне, косці скрышыці,
Я не памру ўвесь, як не мруць ветры,—
Будзе праклянцце вам усім жыці.

Цень з таго свету ўстане мой ноччу,
Прыйдзе пад вашы сховы гнілыя
І засмяецца грозна у вочы,
Аж ваша хеўра гібельна ўзвые.

*1911*

## ЗА СВАБОДУ СВАЮ...

За свабоду сваю
Ўсёй душой пастаю;
У агонь, у ваду
Я за ёю пайду.

Лепей сам сябе дам
Пахаваці людзям,
Як свабоду хаваць,
Злыбядзе аддаваць.

Ў сэрцы, ў думках сваіх
10 З самых лет маладых
Я яе ўзгадаваў
І сваёю назваў...

Гэй, ты, гэй, вецер, пей
А свабодзе маей!
Гэй, ты, гэй, бор, шумі,
А свабодзе грымі!

Гэй, ты, сонца, гары
Ад зары да зары,
Ланцугі распалі
20 Па ўсёй чыста зямлі!..

*1911*

## КАБ Я КНЯЗЕМ БЫЎ...

Каб я князем быў ўладарным
Гэтых ніў і хат,—
Быў бы князем гаспадарным,
Вёў бы добры лад;
На пасадным месцы б селі
Права і закон,
Праўду вечную ўсе б мелі —
Вечавы свой звон.

Не цягнуў бы я з падданых
10 Крыўдай соль і хлеб,—
Кожны сам сабе ад рана
Малаціў бы цэп.

Каб я сонцам залацістым
Плаваў над зямлёй,
Быў бы сонейкам вячыстым
Летам і зімой.
Не лажыўся б на разлогі
Непраглядны цень,
Асвятляў бы ўсе дарогі
20 Уночы і удзень.
Гадаваў бы ў вечным цвеце
Поле і лугі,
Распаліў бы ўсе на свеце
Путы-ланцугі.

Каб я рэчкай быў міжгорнай
На зямлі маёй,
Быў бы рэчкай жыватворнай
Для старонкі ўсёй.
Ажыўляючай крыніцай
30 Быў бы наяву,
Чыстай, шклістаю вадзіцай
Змыў бы сон-траву.
На засушаныя кветкі
Клаўся бы расой
І каціўся б праз палеткі
Светлай паласой.

Каб я птушкай быў крылатай,
Пець і лётаць мог,
Быў бы птушкай незаклятай,
40 Па расе не сох.
Груганом бы я не крумкаў,
Не наводзіў слёз,
А на крыллях нашу думку
Да Бога б панёс.
Крыўду-ведзьму нашых межаў,
Беднату і цьму,—
Ўсё б папраўдзе, як належа,
Вылічыў яму...

*1911*

## ВЯЧЭРНЯЯ МАЛІТВА

Як летняе сонца свае згасіць косы
І кветкі нябесны зайграюць нясмела,—
Ноч сее тады серабрыстыя росы,
Над логам звісае туманнай пабелай.

Ад бледнага месяца бледныя цені
З сялібаў і пушчы кладуцца на гоні;
Як цені мінуўшых даўно пакаленняў,
Устануць, пастануць слупамі ў прасонні.

Цікавая думка над сном усплывае,
10 Вяртаецца з цішай і просіцца ў сэрца,
Дзе ласкай світае, як байка жывая,
І вогнікам ціхім навокала ўецца.

Малітва вячэрняя ў той час выходзе,
Ахвярна кладзецца на спячыя далі,
І пасмай няўгледнай да зорак на ўсходзе
Плыве і мяняецца ў кветным крышталі.

О, будзь вечна слаўнай, вячэрняя ціша
З планетнай зарніцай і месяцам бледным!
Хай песня спакою душу укалыша
20 І вынесе чыстай над шумам пабедным!

*1911*

## ЗАРУЧЫНЫ

Далёкай, нялёгкай сцяганы хадзьбой,
Пад хвойкай высокай мы селі з табой,
Як цар і царыца;
Шурпаты нcorrectжаты сох верас ля ног,
Спаў белы спляснелы пад шышкамі мох
Над цёмнай крыніцай.

На суччa плятуча паўзла дзермяза,
Блішчэла нясмела раса, як сляза,
    На лісцях лазовых;
Каронай зялёнай дзед-бор патрасаў
І шумам-задумам законы пісаў
    Ў нягаданых словах.

Нам моўча, як ночай, мігцелі агні,
Падгалей міргалі абгніўшыя пні,
    Як варта на стражы;
І ціха суліхай сцікаўся, плыў цень,
За горы, за моры адходзіў наш дзень,
    Мінуты ўжо важыў.

Ўжо клаўся на часе мрок сумна нямы,
І поўнач на помач, палохаці сны,
    Нязначна падклікаў...
З-пад сосны выноснай ты ўстала, и ўстаў...
Над намі сукамі шум-бор рагатаў
    Без памяці, дзіка...

*1911*

## ЗОРКІ

Ночкай, як толькі выходзіў я з хаты,
Зоркі на небе страчаў я чатыры;
Кожны раз зводзіў іх вогнік крылаты,
Хоць к ім з малітвай узносіўся шчырай.

Першая — бацькава зорка яснела,
Маткі — другая глядзела ў свет горка,
Трэцяя мне мігацела нясмела,
Роднай зямелькі — чацвертая зорка.

Першая згасла навекі не ў часе,
Звольна губляе бліск свой другая,
Трэцяя сумнаю мглой спавілася,
Толькі чацвертая лепей міргае.

*1911*

## Я КАЗАК — НЕ КАЗАК...

Я казак — не казак,
Што нагайкай свісціць,
А казак, што калісь
Знаў, як волю любіць!

Што гуляў за Дняпром
Ад зары да зары,
Ў вольнай Сечы грымеў,
Як парогі ў Дняпры.

Што на бел-свет спяваў
10 Песні з поўных грудзей
І гасцінна прымаў
З свету вольных людзей.

Што умеў пастаяць —
Паляцець у паход —
І за волю сваю,
І за ўвесь бедны род.

Што кароны пікой
І пасады ўстрасаў,
А законы крывей
20 Самаўладцам пісаў!

*1911*

* * *

Днём і ночкай працаваў ён
І за хатаю, і ў хаце,
А памерці як прыйшлося,
Не было ў чым пахаваці.

*1911*

## НА ЎСЕ РУКІ

Ён з начальствам знае дзела:
Па-расейску валіць смела;
Ліжа, выйшаўшы за вёску,
Ласку панскую па-польску.
Нават жыду — ў доўг як просе —
«Гутэ-моргэн!» — буркне ў носе.
Калі ж сядзе у кутузку,
Ўсіх кляне па-беларуску.

[*1911*]

## ЭПІГРАМА НА САМОГА СЯБЕ

Завуць мяне Янук Купала,
З бяды я песенькі складаю,
Пазнаў людзей і свет ці мала,
Вось дзе радзіўся, дык не знаю!

[*не пазней 1911*]

## ДЗВЕ ТАПОЛІ

Там, за вёскай, у полі дзве стаялі таполі,
Як адна, дзве таполі стаялі,
І стагналі у полі сухавейна таполі,
Як адна, дзве таполі стагналі.

Аб Усходзе у полі ўсё шумелі таполі,
Як адна, дзве таполі шумелі,
І аб Захадзе ў полі лісцьмі пелі таполі,
Як адна, дзве таполі ўсё пелі,

Што панууюць у полі над дубамі таполі,
10 Як адна, дзве таполі панууюць,
Што начуюць у полі самаўладна таполі,
Як адна, дзве таполі начуюць...

Неба помсту у полі тут пачулі таполі,
Як адна, дзве таполі пачулі,
І навекі у полі дзве заснулі таполі,
Як адна, дзве таполі заснулі.

*1911*

## ЯК СПЫТАЮЦЦА НАС

Прыйдуць людзі з Усходу,
Прыйдуць з Заходу людзі
І спытаюцца нас:
«Скуль, якога вы роду?
Дзе зямля ваша будзе,
Дзе айчызна у вас?»

Мы ля плота, пад плотам
Паглядзім, пашукаем,
Які даць тут адказ,
10 І адкажам: «Э, што там...
Мусіць, бабскім звычаем
Збегла ўпрочкі на час».

*1911*

## ТЫ ПРЫЙДЗІ...

Ты прыйдзі ка мне вясною,
Кветкаю прыйдзі;
Зацвіці красой са мною,
Думку разбудзі...

Ты прыйдзі ка мне улетку,
Коласам прыйдзі;
Песняй жніўнай на палетку
Думку саладзі...

Ты прыйдзі ка мне зімою,
10 Сонейкам прыйдзі,
Даўнай казкай залатою
Думку абудзі...

Ты прыйдзі ка мне увосень,
Зоркаю прыйдзі;
Ў свет далёкі з шумам сосен
Думку павядзі...

Ты прыйдзі і на магілкі,
Кветкаю прыйдзі;
Белай ручкай клён няхілкі
20 Шчыра пасадзі...

. . . . . . . . . . .

Ты прыйдзі...

*1911*

## НАД РАКОЮ Ў СПАКОЮ

Над ракою ў спакою
Зацвітала каліна;
У сяле за ракою
Вырастала дзяўчына.

Да зялёнай каліны
Прылятала зазюля;
Да дзяўчыны-маліны
Удаваўся Януля.

Над ракой, дзе каліна,
10 Сенажаць церабілі;
У сяле, дзе хлапчына,
У паход затрубілі.

Перастала каліна
У цвяточкі ўбірацца;
Перастала дзяўчына
З ненаглядным страчацца.

Бедавала зязюля,
Што каліны не стала;
Бедавала матуля,
20 Што дзяўчына ўсыхала.

Па рацэ гналі хвалі
Ўдаль галіны каліны;
Людзі ў рэчцы шукалі
Самагубкі-дзяўчыны...

Над ракою ў спакою
Зацвіла зноў каліна;
А ў зямельцы пад ёю
Спала наша дзяўчына.

*1911*

## СПЕКА

Прыскам пылае і жарам,
Жарам дрыжыць, зіхаціць,
Як бы свет вечным пажарам
Хоча абняць і спаліць.

Звугліла высі-загоны,
Звугліла долы-лагі,
Завалакла лес зялёны
Ў чорныя дыму кругі.

Сцежкі заслала агніцай —
10 Белым пякучым пяском,
Выссала рэчкі-крыніцы,
Ў дно іх зірнула агнём.

Саванам бледна-замглёным
Свету душу спавіла,
Потам крывава-чырвоным
Вочы зямлі заліла.

Крык-жальба вырвецца з губаў
К сонцу з плакучых грудзей,—
Сонца зіяе загубай,
20 Сонца смяецца, як змей.

*1911*

## ЛЕТНЯЯ РАСА

Як брыльянты, рассявае
Ночка летняя расіцу,
Туманамі спавівае
Луг зялёны над крыніцай.

А як раніца настане,
Бліскі сонца загуляюць,—
Рос прыходзіць адцвітанне,
Туманы у рэчцы таюць.

Як брыльянты, гінуць росы
10 На зялёнай сенажаці;
Сонца косы, нашы косы
Не даюць паўдня ім знаці!

*1911*

## ВАЯКІ

Сышліся два светы на сцежцы адной
І ўдарылі ў спрэчку яны між сабой.

— Маё ўжо тут права! — сказаў малады.
Стары: — Не тваё, а маё — заўсягды!

Дагледзела трэцяе тут іх жыццё
І кажа: — Не ваша, і ўсё тут маё!

Чацвёрты ўсім вецер кіўнуў галавой...
Сышліся ваякі на сцежцы адной.

*1911*

## «НАШАЙ НІВЕ»

Не загаснуць зоркі ў небе,
    Покі неба будзе,—
Не загіне край забраны,
    Покі будуць людзі.

Ночка цёмная на свеце
    Вечна не начуе;
Зерне, кінутае ў ніву,
    Ўсходзіць ды красуе.

Наша зерне — нашы думкі —
    Не загінуць свету,—
Бліснуць краскай непаблеклай
    Вечных агняцветаў.

З добрых думак, што мы кінем
    На сваім дзірване,
Будзе ўнукам нашым жніва —
    Доля, панаванне.

Беларускаю рукою
    Светлай праўды сіла
Славу лепшую напіша
20 Бацькаўшчыне мілай.

Зацвіце яна, як сонца
    Пасля непагоды,
Ў роўнай волі, ў роўным стане
    Між усіх народаў.

Не загіне край забраны,
    Пакі жывы людзі,—
Не загаснуць зоркі ў небе,
    Пакі неба будзе!

[*1911*]

## ХРЫСТОС ВАСКРОС!..

Хрыстос васкрос!.. Усюды радасць,
Усё глядзіць смялей, святлей;
Вялікі мучальнік, здаецца,
Абняў ўсіх ласкаю сваей.

Хрыстос васкрос!.. Неугамонна
Плыве па нівах, пушчах клік,
Плыве адна святая думка
З канца ў канец, як свет вялік.

Хрыстос васкрос! — пяе сялянін
10 З сваёй убогаю раднёй,
Забыўшы песні аб прадвесні,
Забыўшы ўсё усёй душой.

Хрыстос васкрос! — пяе сіротка,
Слуга, таптаная людзьмі;
Пяе ў чужыне падарожны,
Забыты бліжнімі сваймі.

Хрыстос васкрос! — пяюць і тыя,
Хрыста згубіўшыя сыны,
Што ўціхамоўку куюць путы
20 Для нашай беднай стараны.

Хрыстос васкрос!.. К табе, о Божа,
І я ў дзень гэты просьбу шлю:
Хай Беларусь, мая старонка,
Ўваскрэсне к вольнаму жыццю!

*[1911]*

## СЛУГАМ АЛТАРНЫМ

Не папе рымскаму служу
І не «святейшаму» сіноду!
Я аддаю сваю душу
Свайму няшчаснаму народу!

І маіх песень судзіць сказ
Не вам, не вам, хрыстапрадаўцы!
Бо той, што прыйдзе, лепшы час
На вас пятлю наложыць, здрайцы!

Вы ўсё на свой манер, капыл
10 Жадалі б звесці, атуманіць,
Жывых ўсіх на трупоў з магіл
Перахрысціць і апаганіць.

Лет сходзіць тысячы дзве ўжо,
Як вы гандлюеце Ісусам,
І ўсё ў пятлю — нутром вужоў —
Цягнуць жадаеце прымусам.

Вы — для вітання ў чорнай хвале,
Для мітраў, персняў і тыяраў —
«Інакамыслячых» каралі
20 Крывёй, крыжамі і пажарам.

Свабодзе, брацтву і святлу
Калісь мо звалі вас на службу,—
Вы ж крывапіўцам, срэбру, злу
Запрадаліся ў вечну дружбу.

І вы свой важыцеся суд
Свабоднай думцы выдаваці;
Вы, што ўзвялі у святасць кнут,
Сябе змяніўшы на праклятце?!

*1911*

# 1912

## Ў ВЕЧНЫМ БОРЫ...

Ў вечным боры цемнатворы
Скачуць, плачуць, весяляцца;
Жнуць, збіраюць дзіва-жніва
Ў сонным полі, ў горкай долі.

Ночай ходзяць, днём заводзяць,
Твораць, мораць яснагляды;
Веюць, сеюць плесні ў песні
На палаці ў кволай хаце.

Як начніцы-чарналіцы,
10 Скрыпам, шыпам маладзяцца:
Кінем, плюнем чары-мары
На паляны нечапаны;

Над курганам незабраным
Скруты-путы разасцелем,
Сном-травою станем, глянем
На няўлады, на пасады...

З чорным богам прад парогам
Сталі ў хвале, як кароны,
І пануюць — скачуць, плачуць
20 Цемнатворы ў вечным боры.

*1912*

## ТЫ,
## ЗЯЛЁНАЯ ДУБРАВА...

Ты, зялёная дубрава,
Сон скідай, расцвітай,
І шумеці добрай славай
Не кідай на ўвесь край.

Гамані, расходзься шумам
Ад мяжы да мяжы,
Ўлі надзею вольным думам,
Аб усім раскажы.

Казку быўшых песняспеваў
10 Распалі, разагрэй;
Размяці управа, ўлева
Сухацвет, сухавей.

Маладыя загаворы
Ў ход пусці, сатвары;
Яснаглядам долы, горы
Асвянці, прыбяры.

Кінь разгонна весці свету
Аб сабе, аб сяўбе
І да неба вестку гэту
20 Данясі у кляцьбе.

Абніміся з нівай роднай
І душой, і грудзьмі;
Край прыбіты, непагодны
Ўскалыхні, падымі...

*1912*

## ЧАРАЎНІК

*(Забытая казка)*

### I

Трох сыноў чараўнік на свет белы выводзіў,
    Трох сыноў, што хаваў узаперці;
Шэпты-чары тварыў ён над імі на ўсходзе,—
    Як жыць лепей, як лепей памерці.

Тры паказываў ім ён на свеце дарогі,
    Тры пуціны іх долі-нядолі,
І даваў-насылаў ён сынам асцярогі:
    Што чакае у чыстым іх полі.

«А як пойдзе хто першай,— ён кажа ім гэтак,—
10    Што на ўсход шляхам чорным кладзецца,—
Напаткае чужацкі крывавы палетак,
    І ў крывавай скупаецца рэчцы.

Той шлях першы і першая рэчка атрутай
    Спояць так і за хатай і ў хаце,—
На другіх будзе строіці петлі і путы,
    І сам гэтыя путы цягаці.

А як пойдзе другім хто гасцінцам-дарогай,
    Што на захад кладзецца вужакай,—
Свой палетак любіць стане горай чужога,
20    Прыпадзе к чужой рэчцы, як п'яўка.

Той другі шлях і рэчка другая загладай
    Атуманяць душу, зальюць вочы;
Будзе сонца шукаці сабе, як прынады,—
    Даць, знайшоўшы, другім не захоча.

А як пойдзе хто трэцяй сцяжынай-пуцінай,
    Што сваёй не мінае граніцы,
Будзе чэзнуць і вянуць націнай, паўцінай,
    Смягнуць будзе над роднай крыніцай.

Той шлях трэці і трэцяя рэчка сляпою
30 Ласкай-крыўдай апутаюць грудзі...
Ён насыпе пяшчаны узгор нада мною
    І таптаці узгор гэты будзе».

Так сказаў чараўнік, і казаў доўга жыці —
Спадкі — цень свой на памяць аставіў...
А сыны сталі праўдзе — няпраўдзе служыці
У сваёй кожны долі і славе.

Спадабалася першаму першая сцежка,
А другая — другому сыночку,
Ўзяўся трэці на трэцяй, як грыб-сыравежка,
40 Спатыкаці, праводзіці ночку.

II

Дні за днямі, гады за гадамі плятуцца...
Ўжо збываюцца бацькавы словы:
Ад рукі сына першага вісельні гнуцца,
Ў зямлю йдуць маладыя галовы.

Захапіў яго похмур лядачны, крывавы,
Жалязянымі клешчамі сціснуў;
Дзе ні ступіць — згібаюцца краскі і травы,
І праклянцце шуміць бескарысна.

Ён і рад і не рад, а пуцця меней штодзень
50 На тэй выбранай сцежцы, і ныя;
Ўжо адны ў вочы кідаюць — здраднік, звыродзень,
На пагібель, на звод шлюць другія.

Не зыходзіць са шляху свайго і другі сын —
Чуць не йдзе следам першага брата:
Ўжо на згубу з зямлёю і з хатай запісан,
І ўсё ж долі завідуе ката.

Засядаць, панаваць на хватаным багацці
Не кідае за дзверы надзеі,
Хоць мінула даўно яго свята па свяце,
60 Хоць пасад свой на выдмах развеяў.

Загубіў сваю скуру, чужая ж не цешыць
Абадранай душы ў павуціне;
Проць сваіх, проць чужых крывадушыць і грэшыць,
І так вязне, як камень у ціне.

Трэці, смоўжам прыліпшы да трэцяй пуціны,
Чэзне чэрвем на службе ў напасці:

Уздыхае, чакае збаўленчай дзяніны,
Не дае, што не мае, раскрасці,

З кволых ніў палыны быццам зводзіць, не зводзіць,
70 Часам косці зачэпіць нарогам;
Дома дрэме, сціскаецца стульна, як злодзей;
Б'е падданчы паклон за парогам.

А сваяк і чужак строіць петлі і сеці,
Аплятае ўсё віднае ночай;
Зварухнуцца не смее ў заплеснеўшай клеці;
На браточкаў зубамі скрыгоча.

Так расце нездавольства ў сыноў чарадзея —
У іх саміх і на іх, на ўсім свеце;
З ходу-выхаду выйсці адна ў іх надзея:
80 Каб саміх адалеці і свет адалеці.

### III

Ні далёка, ні блізка, ні ў полі, ні ў лесе
Важны ўзносіўся хорам-сталіца,
Чарнабожнік над ім непрагляды завесіў,
Каб нялёгка было прыступіцца.

Стуль выходзілі ветры — і шум падымалі,
Туды з неба валіліся зоры,
Там адны уставалі, другія драмалі,
Смерць, жыццё свае мелі запоры.

З зор сатканы былі недасяжныя сцены,
90 Росы ўнізе ірдзелі яскрава,
А на вышках, як сон на зямлі, пераменны
Залаты месяц радасна плаваў.

Залацісты пасад красаваўся ў сталіцы,
Зіхацела ў ім кожна часціна,—
На пасадзе сядзела цвет-ночка — царыца...
Звалі тыя і сія Судзьбінай.

Векавечна ў руцэ адной сонца трымала,
Перуны у другой руцэ мела:
Іншы раз ціхім сонцам зямлю абнімала,
100 Іншы раз перунамі шумела.

Патрасала пасады, скідала кароны;
Тым, другім, была каменем-хлебам;
Выдавала народам старыя законы,
Кіравала зямлёю і небам.

Не адзін аб ёй ведаў і разам не ведаў,
Чуў — не чуў аб ёй, бачыў — не бачыў,
Кожны толькі яе падпільновываў следу,
Плакаў, выў, як было што іначай.

Чуткі толькі ішлі, як туманы, і вялі
110 Ў самасейным паходзе сталеццяў,
Што пранікнуць яна можа ў тайныя далі
І адкрыць светы новыя ў свеце.

Гэткай паняй яснела у хораме зорным
Цараўладнай і разам няўладнай;
Белым шляхам адных, а другіх шляхам чорным
К царству, к рабству вяла беспраглядна.

Тры браты, што пуці чараўнік тры адмерыў,
Захацелі знаць, хто ім што зрэпіў,—
Захацелі ў Судзьбіны даведацца меры,
120 Як жыць лепей, памерці як лепей.

## IV

Трох братоў, сваёй кожны дарогай-пуцінай
Наблудзіўшыся, выхад спаткалі:
Ім парады далі назаўсёды ў Судзьбіны,
Як трымацца тых радаў, сказалі:

Першы брат ад яе меў наказ незабыты:
— Нездарма быць хацеў царам ночы,
І сваіх і чужых распінаў на крыжы ты;
Крыўдай праўдзе смяяўся у вочы.

Бачыш зоры і сонца вясёлае бачыш?
130 З імі рвіся ўсім сэрцам зраўняцца,
А як след свой зарнічным святлом абазначыш,—
За табой кінуць зморы ганяцца.

Хочаш цішы прытульнай і ласкі патольнай,
Збудаваць Божы быт на пакутах,—

Дай другім волі ў волю, і сам будзеш вольны,
Не дасі — з свету зыдзеш у путах.

Брат другі яе мудрыя выслухаў рэчы:
— Не туды цэлы век пёрся здуру;
На быдлячы мяняў воблік свой чалавечы,
140 Каб напяці гладзейшую скуру.

Хто пакінуў свой дом на пасмешышча нетрам,
Дом чужы таму будзе астрогам;
Хто паклоны біць стаў збоку злыбедным ветрам,
Свой пасад таму стане бярлогам.

Вызнай, кім цябе бацька на свеце пакінуў,—
Станься тым ды йдзі к меншаму брату...
Не прыслужнем будзь ласцы прыблуднага сына,
Будзь пракляццем яму — свайму кату.

Трэці брат ад Судзьбіны наказ параслухаў:
150 — Сну-траве ты занадта даў веры,
І ў сябе шанаваць чалавечага духа
Не патрапіў навучыць брата-звера.

Ўспомні, выклічы родныя ўсе загаворы
І зводзь імі прыблудаў заломы,
Што ляглі на тваё крывасейна разоры,
Што страчаеш за домам і дома.

Схову новую ладзь, больш твае скуль прыпасы б
Не валок зводны змей і начніцы;
Разбудзі сам сябе і той бацькавы насып,
160 Што паганіць нага чужаніцы.

## V

Дні за днямі, гады за гадамі йдуць важна,
Йдуць суважна за зменамі змены,
Перамены ў сябе засявае брат кожны,
Шчасцю ўзносяць свайму новы сцены.

Асвяціў сваё чорнае першы сумленне
Прагавіццем быць сонцу раўнёю,
Ў путах сцюжу трымаць, меці жараў насенне,
Тлець, пылаць над людзьмі, над сабою.

Як сам цар-Грамавік, чуе ў жылах пажары:
170 Сонцы б новыя сеяў па небе,
Абярнуў бы сялібныя ў полым абшары
І свет цэлы спаліў бы ў патрэбе.

Гэткіх думаў сягнуць недасягнутых чынаў,
Аж сябе сам сабою распражыў:
Сонца сэрца яго растапіла, як льдзіну,
А душу спапяліла на сажу.

Брат другі шоў на нетры сляпыя аблавай,
Воблік крадзены кідаў загубам,
Акрыляў сам самога асілкавай славай,
180 Паўставаў проць хапанага клубам.

Як двурог-маладзік, маладзеў сярод зломаў,
Вызіраў непакорай, пакорай,
На мінуўшым мінуўшыя ўзводзіў харомы,
Падпіраў кастылямі падпоры.

Прыпадаў к мёртвым краскам грудзьмі і душою,
Саграваў сэрцам лозы і шышкі,
Выцвітаў, аж і стаў — чым быў — чорнай зямлёю,—
Звесць не звёў недахваткі і лішкі.

Трэці брат загаворы здымаў з папялішча,
190 Знаць даваў моц іх спячым народам;
На вялікае новых прыпеваў ігрышча
Выступаў — адступаў чараводам.

Зводам браў-сунімаў крыўдадзейнага змея,
Трос заломам, як сівер мятліцай;
Сховы новыя ўзносіў паміж сухавеяў
І пускаў к ім старыя крыніцы.

Гнаў крыніцы, піў з іх і ў іх затапіўся...
На былым даў быломy ўзрастаці;
Склеп нямы, дзе ляжаў чараўнік, адчыніўся,—
200 Свет нанова стаў новых чакаці.

## VI

Уставаў чараўнік, што сыноў трох выводзіў
І паказываў тры ім дарогі:
Віцца ў захадзе стаў, віўся ў чорным усходзе;
Стаў сачыць скрозь глухія парогі.

Ў хвалях мутных шукае, к каму дзе падсесці,
Нагавормі сваімі абвеяць;
Трох сыноў ён шукае, што ў чэсці, не ў чэсці
На яго месцы пошасці сеюць.

Азірае сыноўнія спадкі ў пустошы,
210 Ў быт глядзіць ад канца да пачатку;
Засыпае, ўстае на адцвіўшай пакошы,
Аджыўляецца ласкай прыпадку,

Барадой яго пошум, як лесам калыша,
Хмары звонам кладуцца на плечы,
Грамавік на грудзёх яго гібелі піша,
Ведзьмы шэпчуць аб соладкіх рэчах.

Ён ідзе... Сям і там набіваецца ў госці,
Упіваецца ў сэрцы нямыя,
І сцібрае на путы струхлеўшыя косці,
220 І пляцёнкі з аслепленых шые.

За сабою валочыць патухшыя душы,
Разбаўляе дрыгву імі ў пушчы;
Кроўю цёплай сцюдзёныя вогнішчы тушыць,
Сэрцы лёдам аблітыя лушчыць.

І свае і чужыя выцягвае звадай,
Жылы белыя чорным патрэбам,
Каб заместа усіх і ўсяго ў светагляду
Быць усім — і зямлёю, і небам.

Каб спустошыць, абнетрыць труп'ём чалавека,
230 Даць папас на магільным папасе,
І так хэўраю будучых, быўшых адвекаў
Расцвісці, растапіцца ў бясчассі.

Гэткай рдзее душой чараўнік-слепаводнік,
Што сыноў навучаў трох калісьці,

А за ім сучыць следам, цянюючы, зводнік
І гайдае зялёнае лісце.

Шапаціць тое лісце заснуўшым палянам,—
Чуе ночка глухая, нямая:
Кожны край, што дачэсна завецца забраным,
240 Гэткіх казак забытых шмат знае.

*1912*

## НА РЫНКУ

— Хадзеце, хадзеце, вясёлыя людзі!
А жыва да нас на таргоўлю:
Пакупка — гасцінчык вам кожнаму будзе
Чырвоненькі, хатняй гадоўлі!

Паціху... не бойцеся — пойдзе ўсё гладка,—
Крый божа, якога прымусу.
Маленькая рэч,— як матыль ці стрынатка...
Ўсёй куплі — душа беларуса...

Меў хату, меў поле; — прыйшлі і забралі...
10 Сам вінен: не ўмеў пільнаваці.
Ну, ўсякаму ж трэба як-небудзь жыць далей,—
Душу вось і можа прадаці...

Падходзь жа, паночку!.. знімі акуляры —
Лепш будзе агледзіць пакупку,
Ты, барынька, так жа падбліжся!.. мы нары
Дамо нават з ёю, галубкай...

Штось срэбнікаў з трыццаць — як піша ў законе —
Узяў за Хрыста калісь Юда...
Аб гэткай цане ані снім мы сягоння:
20 Станела ўсё.— душы і цуды.

Дасцё крыві з каплю, з гарошынку чэсці,
І — ваша душа ва ўсёй хвале...
Бо так — не купіўшы — не след на крыж весці,
Гатовы сказаць, што вы ўкралі...

*1912*

## ПАПРОСТУ

Простым мы словам з светам гаворым,
Песні аб цяжкай творым нягодзе,
З думкамі рвёмся к сонцу і зорам,
    Рвёмся к свабодзе.

Простая нашых прадзедаў слава,
Хоць апаганена мудрым чужынцам;
Шлі, ідзём далей ўлева ці ўправа —
    Простым гасцінцам.

Свет там выдумкі хітрыя знае —
10 Троны, кароны, вісельні, кулі,—
Выдумаць гэта мы ў сваім краі
    Неяк мінулі.

Летась нягодна, сёлета горай
Проста жылося, проста жывецца,
Красці ж не пойдзем, хоць у каморы
    Кожны к нам прэцца.

Нас гадавалі віхры і ночкі,
Крыўдай паілі нас ад пялёнкі —
Толькі ж папросту мы не йшлі ўпрочкі
20     З роднай старонкі.

Хочам папросту, каб лепш ручыла
Нашым хацінам, нашым прыплодам,
Каб стаць раўнёю славай і сілай
    Іншым народам.

Проста жывём мы, як доля лучыць,
І крывадушыць не прабавалі...
Просім папросту: кіньце нас мучыць,
    Ляхі, маскалі!

*1912*

## БЛЕДНЫЯ БУДНІЯ ДНІ...

Бледныя буднія дні
Сумна па роднай зямлі
    Мутнай плывуць паласой;
Часам калі-нікалі
Дзе-нідзе бліснуць агні,
    Глянуць крывавай расой.

Песні раздолля маўчаць,
Песні, што рабскія сны
    З душ паднявольных змялі б,
10 Толькі заводзяць званы,
Толькі асіны скрыпяць
    Над уміраннем сяліб.

Скрогат нясецца з асін...
Рабству паклоны біў дзед,
    Гнуўся пад палкамі ў крук;
Бацька — за дзедам; услед
З бацькам пляцецца і сын;
    Ты ж кудой пойдзеш, унук?..

*1912*

## У ЧУЖОЙ СТАРАНЕ

Тут далёка, ў чужой старане,
Ўсякі раз, як зближаецца ноч,
Сэрца боллю сціскаецца мне
І спакой недзе коціцца проч.

Думы цяжкія роем снуюць,
Капашацца чмяльмі ў галаве,
Сноў спазнаць залатых не даюць,
Кожна мучыць, к загубе заве.

Ўсё, што чахне, не меў долі ў чым,
10 Чорнай п'яўкай слізгоча ў душы...

Аб жыцці беспраглядным сваім
Развяжаю я ў гэтай цішы.

Ах, салодкі ўспамін не адзін
Шалясціць, як вяроўкаю кат...
Столькі іх, гэтых мілых часін!
А забыці іх сілы няхват.

Гэй, ты, гэй, прамінуўшы мой час!
Гэй, ты, гэй, мой цяперашні дзень!
Што я меў, што я маю ад вас?
20 Дзе прасвету хоць цень — бледны цень?

Роднай песні вясёлы напеў
Не ўзлунаў над калыскай маей;
Супраціўны скрозь мучыць павеў,
Як за хлебам пайшоў да людзей.

Гоняць, гналі, дзе гнаці маглі,
Як шалёных ганяюць сабак;
На сваёй, ах, на роднай зямлі
Сустракаўся я з сонейкам так.

На зямлі, што дзед, прадзед слязьмі
30 І гарачай крывёй паліваў,
Ўнук — ужо між чужымі людзьмі —
Тэй зямлі трох аршын не дастаў.

Што ж? — разгулівай, сыты чужак,
Між забраных крыжоў, курганоў,
Брат скаваны не згіне і так:
Ён другіх пашукае братоў.

Гэй, ты, краю халодны, чужы,
Прытулі бесхацінца к сабе:
Ён цябе, як і роднай мяжы,
40 Не забудзе ў прадсмертнай кляцьбе.

Ты, дзяўчына чужая, закрый
Па скананні мне зрэнкі мае,
Ты, чужы друг, мне яміну рый,
Віхр чужы хай памінкі спяе.

Крыж пастаўце, як ставіце ўсім,
Мае путы павесце на ім;
Мае слёзы з магілы расой
Выйдуць путы з'яднаці іржой.

*1912*

## ПРЫСТАЎ Я ЖЫЦЬ...

Прыстаў я жыць на белым свеце,
Хоць столькі ўвокала жыцця;
Завялі думкі на расцвеце,
Душа жадае небыцця.

Нуда гняце з днём кожным болей,
Быт спавівае чарнатой,—
Як сухавей у чыстым полі
Гуляе з зернем-сіратой.

Пытання злога не пазбыцца,
10 Як мара бледная, стаіць:
Куды ісці? за што ўчапіцца?
Якім багам паклоны біць?

Мінуў, загінуў час вясёлы,
Калі зрываўся з усіх сіл
Ад родных ніў, ад родных сёлаў,
Ад апаганеных магіл.

Туды, туды, ўсё далей, далей,
Да недасягнутых вышынь,
Каб, апынуўшыся ў крышталі
20 Шчаслівых сонечных іскрын,

Самое сонца ўзяць у рукі
І, як з паходняй, з ім ісці,
Святлом ніштожыць нашы мукі,
Увесь плач роднае зямлі.

Ўзнімаць патоптаныя душы,
Людскім названнем акрыляць,
К жыццю падняць з магільнай сушы
Усіх, што толькі яшчэ спяць.

Служыць, служыць жадаў народу,
30 Сваім закованым братом...
І сіл не стала з непагодай
Вясці вайну, вясці з жыццём.

Чырвонай зданню ў цёмных сенцах
Наш рок сляпы снуе, цвіце;
Змяіны рогат адшчапенцаў
Жывыя грудзі рве, гняце.

На ніве роднай зброд прадажны
Скрозь гаспадарку распрасцёр,
Чужацкай песняю прыказнай
40 Калыша здаўлены прастор.

І шумна чаркі напаўняе
Крывёй аслепленых рабоў...
Гульню так чорную спраўляе
Паміж крыжоў, паміж грабоў.

Ваякі лепшыя за славу,
За славу роднай стараны,
Або ляглі ў бітве крывавай,
Або у путах — і яны

Ярмо валочаць паніжэння,
50 Ў кляцьбе бяссільнай гоняць век...
Глядзіш... пытаеш свайго ценю:
Дзе тутка звер, дзе чалавек?

У жудкім, чорным беспрасвіцці
Бушуе выпасвены кат...
Любіць... Каго, за што любіці?
І ненавідзець сіл няхват.

О Божа праведны, ты сілу
Сваю вяліку акажы:
Не згінуць з бацькаўшчынай мілай
60 Свайму слузе дапамажы.

Сашлі мне светлую падмогу
Астаткі сіл с в а і м аддаць
І — не зрабіўшы брату злога —
Пад крыжам бацькавым сканаць.

*1912*

## ВЯСНА ЗА ВЯСНОЮ...

К нам вясна за вясною ідзе
І бясследна адходзе ад нас...
Ні канца той бядзе і нудзе,
Ні пачатку святла хоць на час.

Хоць бы раз заірдзела раса
Жыватворна убогім палям,
Хоць бы раз зазвінела каса
І дзень лепшы наклікала нам.

Вянуць кветкі штораз без пары,
10 Вяне зелень спустошаных ніў.
Шум не моўкне ў зялёным бары:
Не чакаць, людзі, вам буйных жніў.

Не напоўніць вам клецяў сваіх,
Пот і слёзы льіцё вы здарма;
Ў паднявольнічнай службе ў чужых
Не падняць вам галоў з-пад ярма.

Вам — пакорным рабам — не вясны,
Рукі накрыж зложыўшы, чакаць,
А пад песні паўночнай зімы
20 Ямы ў полі сабе ж будаваць.

Будаваць, покі вы чужака
Нівай будзеце роднай карміць,
Будаваць, покі ваша рака
Чужакову каню дае піць.

Для аслепленых, здаўленых вас
Не было і няма іншых дум...

. . . . . . . . . . . . . . .

Так над намі вясной кожны раз
Стогне бору зялёнага шум.

Так вясна за вясной к нам ідзе
30 І бясследна адходзе ад нас...
Ні канца той бядзе і нудзе,
Ні пачатку святла хоць на час.

*1912*

## РУСАЛКА

Дайце галінку, дайце павесіцца
Гэтай русалцы, гэтай дзяўчыне!
Вы яе гналі, вы яе мучылі,
Дайце ж хоць сцежку беднай к галіне!

Дайце, як следна, з ветрам нацешыцца
Вольна, прывольна ў тайнай мясціне;
Стуль, каб ёй болей не надакучылі,
Скочыць з галіны, скрыецца ў ціне.

Ў ціне, як бледны месяц засвеціцца,
10 Будзе русалка плаваць, круціцца;
К ёй вадзянік там зблізіцца сватацца,
Выйдзе і сядзе з ёй над крыніцай.

І лесавік к ім выпаўзе братацца
З пушчы махнатай, сам весь кудлаты.
Шлюб неразлучны дасць ім, малодзенькім,
Зграе вяселле вецер крылаты.

Пойдзе гульня у іх мёдам салодзенькім,
Развесяляцца, чары завесяць;
Вецер, лясун, русалка з вадзянікам,
20 Пушча, крыніца, ночка і месяц.

Казку аставяць дзіўную згнаннікам.
Страх баязлівым кожны з іх кіне;
Сум маўчалівы там раскудзесіцца,
Песню аб гэтай зложыць мясціне.

. . . . . . . . . . . . . . .

Дайце ж галінку, дайце павесіцца
Гэтай русалцы, гэтай дзяўчыне!..

*1912*

## ХМАРКА І МАЛАДЗІК

Над задумаю ніў
Маладзік бледны плыў,
Дзіваваўся з жыцця,
Што ўнізе без пуцця
 Спала сном нежывым.

Хмарка свой бледны лік,
Дзе лунаў маладзік,
Ціхавейна ўзняла,
Шопат-сказ павяла
10 Так з суседам сваім:

— Маладзенькі ты мой,
Абніміся са мной,—
Паплывём, паляцім,
Каб было абаім
 Вольна, весела нам!

Будзем цені снаваць,
Бледнатой спавіваць
Мёртва-спячу зямлю,
З ёй заводзіць гульню —
20 Сеяць сум тут і там.

З вутлых сетак, як цін,
Я сплялася з краплін,
І мяне — сірату,

Як плыву ў высату,
   Страшыць сонца не раз.

А ты — лепшай душы,
Жаль ка мне акажы;
Буду цешыць цябе
Я ва ўсякай журбе,—
30 Дык прымі ў добры час...

Маладзік звесялеў,
Падміргнуў ціха ей:
— Маладая мая,
Выглядаў цябе п
   Ўжо даўно ў вышыне.

Я тут — сам — адзінок,
Як бы той каласок,
А ты, хмарка-імгла,
Мне нуду развяла,—
40 Прытуліся ж ка мне...

Ты — царыца, я — цар...
На зямлі молад, стар
З-пад наплеценых пут
Нам зайздросціць жа тут
   Будуць з веку у век.

Мы і ночкай, і днём
То ўсплывём, то сплывём
Вольна так, згодна так
І ўжо волі ніяк
50 Не дадзім мы на здзек.
. . . . . . . . . . . . . . .
Абняліся яны,
Як вясеннія сны,
І гуляюць адны
Ад вясны да вясны
   На сум вечны людзям.

Цені-сеткі снуюць,
Песню-змову пяюць:
— Паплывём, паляцім,
Каб было абаім
60 Вольна, весела нам!

*1912*

## ЗЛАЖЫЎШЫ РУКІ...

Злажыўшы рукі накрыж,
Стаім, як вехі ў полі,
І з дня на дзень чакаем,
Чакаем лепшай долі...

А дні за днямі сходзяць,
У вечнай гінуць далі...
Чакалі мы; чакаем,
І што ж мы дачакалі?..

*1912*

## ПА ЗАХАДЗЕ...

Мой міленькі прыйшоў ка мне
Па захадзе ўжо сонца
І ціха ў цёмнай цішыне
Пастукаўся ў аконца.

Заныла сэрцайка маё,
Як гэтае пачула,
Сваё зняла я акрыццё
І на зямлю ступнула.

Ў кашулі выйшла я на двор
10 Да любага з святліцы,
А неба рдзела ўжо ад зор,
Шумеў лес над крыніцай.

Шлі ветры: пелі пра красу,
Хісталі стан, любыя,
І расплятаті мне касу,
І ласкаталі шыю.

На прызбе селі мы ўдваіх —
І моўчкі паглядалі,
Як цені з хат і пунь сівых
20 То ніклі, то ўставалі.

Мяне к сабе ён прыціскаў,
К грудзі туліўся белай,
Глядзеў у вочы, уздыхаў
І штось шаптаў нясмела.

Сляза жывая за слязой
З маіх зраніц сплывала,
Ў адно мяшалася з расой,
Што на пяску ляжала.

А ночка пела з бліскам зор
30 Нам смелы гімн кахання,
Смяяўся, плакаў сіні бор
Да самага світання.

І мілы выйшаў ад мяне,
Адзін пайшоў к пагонцы,
А ўслед за ім у цішыне
Ўзыходзіла ўжо сонца...

*1912*

## ГРАЙ ЖА, МУЗЫКА...

Цёпла, спакойна, цёпла і сыта
Ў хорамах ясных вам век векаваць...
Поўны аруды буйнага жыта;
Хто ж не захоча тут жыць, панаваць?..

Грай жа, музыка, сэрцам рві струны...
Не пажалеюць заплаты табе!..
Што? Хочаш ладзіць скрыпку ў тон сумны?
Весела грай, як віхуры ў кляцьбе...

Шумна, разгульна... Чым не бяседа?!
10 Пеніцца ў чарках крывава віно...
Кроўю гулялі прадзеды, дзеды,—
Сыну і ўнуку падаўна дано...

Грай жа, музыка! Рэж на скрыпулі
Так, як там рэжа аслепленых кат...
Прэч, прэч, сумленне! Золата ў гулі!..
Чуеш, як звоніць па скрыпцы дукат?..

Светла, прасторна... Ззяюць брыльянты...
Хто там?.. Цень бледны шмыгнуўся ў акне?..
Вісельнік?! Тут ён?.. Прэч яго, франта!
20 Нашы асіны! Хай толькі чапне...

Грай жа, музыка, каб і ў магілах
Голас уцешны пачулі з зямлі,—
Каб аж з-пад наспаў, плітаў пахілых
Косці паўсталі і ў танец пайшлі.

Гэй жа ў тахт ногі!.. Пара за парай!..
Стой!!! Бліск чырвоны шыбае з акон.
Ах! Гэта вёска свеціць пажарам...
Ну, галасі там нябожчыцкі звон!..

Грай жа, музыка! Рэж, дармажэрца!..
30 Змоўк?.. Што?.. Галоўку ты клоніш ка сну?..
Глупства!.. Ў музыкі лопнула сэрца...
Гэй, ты, другі, там! рві сэрцам струну!..

*1912*

## ВЫЙДЗІ...

Ўстань ты, старонка, родная маці!
Годзе зімовага рабскага сну,
Годзе табе ўжо слёзна ўздыхаці,—
Выйдзі на поле, на сенажаці,
Выйдзі спаткаці вясну!
Скінь лахманы, што доўгія векі
Ты валачыла з кастры, з палыну;
Выйдзі з-пад дзікай зімняй апекі,
Што над табою строіла здзекі,—
10 Выйдзі спаткаці вясну!

Вырылі сцюжы віхрамі, снегам
Яму глыбоку табе не адну;
Снежныя наспы мела начлегам...
Глянь, снягі таюць, рэчкі йдуць бегам...
    Выйдзі спаткаці вясну!
З поўначы сівер кідаў табою,
Як абадрану з лісткоў галіну;
З захаду зверы йшлі чарадою
Рваць твае грудзі... Выйшла жывою,—
20 Выйдзі ж спаткаці вясну!
Дзетак тваіх скрозь крыўдай сляпілі,
Мучылі, гналі без часу ў труну,
Казак вучылі, што ты ў магіле,
Толькі ж бліск сонца здраду асіліў...
    Выйдзі спаткаці вясну!
Ясна, святочна ў красы ўбярыся,
Птушкай свабоднай сягні ў вышыну,
З сонцам злучыся, зорамі йскрыся,
Песняй распейся, славай акрыйся,
30 Выйдзі спаткаці вясну!
Сплецену з церняў маеш карону,
Хорам твой — неба і нівы краса,
Царства ў чатыры дрэмле староны,
Слугі — мазольных рук міліёны...
    Выйдзі... Чакае вясна!..

*1912*

## МАЯ МАЛІТВА

Ва ўсяку мінуту, ва ўсякай патрэбе,
І ў полі шырокім, і ў вузенькай хатцы
Малюся я гэтаму сонцу на небе
    І зоркам, што ночкай мігцяцца.

Малюся свабоднаму ветру — віхуры,
Што лётае птушкай ад краю да краю,
І пасвіць у высях панурыя буры,
    І ў комінах песні іграе.

Малюся агню я, што сее пажары,
10 Як стане пара, па нязмераным свеце,
Наводзячы жудасць вялікаю карай,
Пужаючы старцаў і дзеці.

Малюся жывучай вадзіцы — разводдзю,
Ў дзень ясны бліскучай, а страшнай уночы,
Што, нівы палошчачы, йдзе, не праходзе,
І хаты, і чоўны друзгоча.

Малюся [illegible] небу, зямлі і прастору,
Магутнаму Богу — Ўсясвету малюся,
Ва ўсякай прыгодзе, ва ўсякую пору
20 За родны загон Беларусі.

*1912*

## ПАД КРЫЖАМ

З балеснаю ў сэрцы пакорай
Пад крыжам збуцвеўшым стаю
І ўвокал — ад гораў да гораў —
Зямлю аглядаю сваю.

Навокала сцелецца столькі
Багацця, красы і святла!
Хоць болькі, старыя ўсё болькі,
Адна за адною лягла.

Плакучыя стогнуць бярозы,
10 Скідаючы лісць залаты;
Хістаюцца дзікія лозы,
Глухія, сухія кусты.

Звод нейкі гамоніць, шапоча:
— Калодаю, дружа, ты будзь!
Душа толькі верыць не хоча,
Не хоча паняць і заснуць.

Упаўшыя грудзі калыша
Жальбой непрыхільнаю сум,
І тысячы ў памяці піша
20 Гаротных, нявыжытых дум.

Бяссільна народ свой пытаю,
Абняўшы пахілены крыж:
— За што ты ад краю да краю
Магілай жывою ляжыш?

Ці коні твае патрупелі,
Цягаючы ў поце плугі?
Ці косы твае прытупелі
З крывавай на лузе смугі?..

Пытаю жывых назаліста,
30 Чакаю, адказ ці бяжыць...
Маўчыць, як дамоўка, ўсё чыста...
Пракляцце — і тое маўчыць.

*1912*

## З КУТКА ЖАДАННЯЎ

З цэлым народам гутарку весці,
Сэрца мільёнаў падслухаць біцця —
Гэткай шукаю цэлы век чэсці,
Гэта адно мне падпорай жыцця.

Песню стварыці ясну, як неба,
Ў кожнай з ёй хаце быць мілым гасцём —
Гэтакіх толькі скарбаў мне трэба,
Гэткім я толькі жыву пачуццём.

Што не загубяць крыўды жывую
10 Душу народа, што ўстане са сну,—
Гэткай надзеяй толькі жыву я,
Гэткую толькі чакаю вясну.

К яснаму сонцу з цьмы, з беспрасвецця,
К славе з бясслаўя ўсім нашым людзям —
Гэткай шукаю сцежкі на свеце,
Гэткаму богу і душу аддам.

За лепшу долю роднага краю,
За сваіх брацціяў ў святой барацьбе —
Гэтакай толькі смерці жадаю,
20 Памяткі гэткай чакаю сабе.

*1912*

## Я ЛЮБЛЮ

Я люблю ўсходы нашых палеткаў,
І спавітыя ў зелень лугі,
І шум бору пануры, глухі,
І шаптанне крынічнае ўлетку...

Я люблю упрыгожану ў мхі
Нашу вёску — сваёй крыўды сведку,
Свой народ — гэту звяўшую кветку,
Цэлы край — родны мне й дарагі.

Я люблю ясны вочы і грудзі
10 І стан гібкі дзяўчыны-красы:
Аб ёй брэджу наяве і ў сне.

Я люблю і заву, бы ў нялюддзі,—
Чуюць кліч мой сухія лясы,
Кліч: хто ж любіць, хто любіць мяне?

*1912*

## НА ВЯЛІКІМ СВЕЦЕ...

На вялікім свеце б'е жыццё крыніцай,
Барацьба за волю і за долю рдзее,
Маюць панаванне вера і надзея,
Асвяціць народы лепшы быт маніцца.

На вялікім свеце неба слёз не сее,
Ёрмаў не майструе крыўда-чараўніца,
Не галубіць думак цемра-асляпніца
І не водзіць душаў пагібення кнеяй.

На вялікім свеце б'юць званы на славу,
10 Людзі з плеч скідаюць ланцуговы скруты,
К сонцу йдуць браточна з рабскае пакуты.

На вялікім свеце ўсё ідзе па праву,
Па законе божым, з яснатой яскравай...
А у нас, у нас што?.. Толькі звоняць путы...

*1912*

## ДЛЯ ЗЯМЛІ ПРАДЗЕДАЎ МАІХ...

Я табе, зямля мая прадзедаў маіх,
Не патраплю нічога жалець на свеце,
На свет цэлы гатоў твой прыгон апеці
І ўзнясці пасад на магілішчах тваіх.

Я цябе душой рад бы сваёй сагрэці
І карону сплесці з сонца, зор залатых,—
На цябе карону ўзлажыць, каб хоць на міг
Заяснела ты ў цяжка дабытым цвеце.

За цябе загінуць гатоў я ў барацьбе
10 З крыўдай той, што цярпіш ад людзей і Бога,
Ад чужынца і ад сына свайго сляпога...

Буду ў вечнай мучыцца жальбе і кляцьбе...
І за гэта толькі прашу, малю цябе:
Не гані ты мяне ад свайго парога.

*1912*

## КАЛІ ПАЧНУЦЬ...

Калі пачнуць збірацца хмары
І неба ўсцелюць чарнатой,—
Тады ўсплываюць буйны ветры
І віхрам гоняць над зямлёй.

Адвечным борам закалышуць,
Сухі ліст з лесу гоняць проч,
Ніштожаць хмар калматых горы
І ясным днём змяняюць ноч.

Калі прыгнецены няпраўдай
10 Які знябудзецца народ,—
Тады з'яўляюцца прарокі
І ўсенародны клічуць сход...

Расце на сходзе недавольства,
А дудароў магутны хор
Пяе аб крыўдах і ўсіх кліча
Да новых праўд, да новых зор.

*1912*

## ГОДЗЕ...

Годзе брахні ўжо, падкупленых зводаў!
Годзе таптання праўд вечных, святых!
Сцежку свабоднаму духу народа,
Сцежку да сонца і зор залатых!

З году у год мы жылі, як жывёла,
З году да году чакалі святла...
Што ж нажылі мы, як глянуць наўкола,
Што нам апека тут наша дала?

Тыя, ў дагонцы за блескам часовым,
10 Брацяў запрэглі ў нявольнічы плуг,
Тыя, таргуючы імем Хрыстовым,
Цемру і здраду спладзілі ўвакруг.

*

Годзе заходняй ці ўсходняй культуры!
Для беларуса цана ім адна,
Усе вы, панове, аднакай натуры:
З сэрца чужога кроў ссалі б да дна.

Вашу карысць нам і вашы заслугі
Добра ўжо скеміў таптаны народ;
Добра вядомы і путы і пугі,
20 Песціў якімі ваш Захад і Ўсход.

Мы не пакінем свае папялішчы,
З сцежкі — наперад, не пойдзем назад.
Смела здрузгочам старыя бажышчы,
Новым законам збудуем пасад.

*

Годзе нам сілу прыблудаў вялічыць
Дзецьмі, багаццем радзімай зямлі!
Нашы загоны даўно ўжо нас клічуць,
Нашы загоны, што зеллем зраслі.

Досыць ішлі на чужым павадку мы
30 Доўгія векі без веры ў сябе;
Мы ўжо не тыя,— інакшыя думы
Выраслі з намі, завуць к барацьбе.

Станем к змаганню мы з ведзьмаю-крыўдай
Дружна, адважна, плячо ў плячо:
Рухне старое, хоць крэпкае з віду,
Яснае, вольнае створым жыццё.

*

Годзе нам есці аб'едкі і косці,
Злыбядзе ўсякай паклоны дарыць!
Гаспадары мы ў сябе, а не госці,
40 Час к панаванню нам след церабіць!

Тое, што ўзята маною дачэсне,
Вечна не будзе душыць, як прыгон;
Наша вярнуцца к нам мусіць канешне,—
Гэткі ўжо быту народаў закон.

Гібне памрока душыўша ад векаў,
Сонца і зоры к сабе свет завуць...
Сцежку свабоднай душы чалавека!
К вольным дням вольныя людзі ідуць!

*1912*

## ПРАРОК

Сярод маны, сярод насмешкаў,
Знак нейкі тулячы к грудзям,
Ішоў прарок пясчанай сцежкай
З навукай новаю к людзям.

Праціўны вецер лез у вочы
І плачам пеў, як дзіцянё,
Звяр'ё зубамі йграла ўночы,
Днём выла ў небе груганнё.

А ён, не знаючы граніцаў,
10 Ішоў, хістаючысь наўслонь;
Агонь біў толькі з-пад зраніцаў,
Вялікіх праўд святы агонь.

Душа палала дзіўным жарам,
Бы з зораў выснутая ніць,
Што свет магла б сваім пажарам
Абвіць і к сонцу ўваскрасіць.

Ужо з сваім аклічным словам
Прарок далёка быў вядом,
Народу шмат збудзіў к дням новым,
20 Даў славу братнюю братом.

Аж так дасяг — аквечан хвалай —
Зямлі забранай сумных хат,
Дзе царства цемры панавала,
Дзе сілу ўзяў над катам кат.

Народ змарнеўшы таго краю
Свайго на'т імені не знаў,
Як непатрэбшчына якая,
Гібеў на свеце і канаў.

Галовы людзі пахіліўшы,
30 Зямлю капалі, як краты,
Ўтапіўшы ў мёртвай ночнай цішы
Усе жаданні яснаты.

Прарок — пасол святла — ў загону
Людзей убачыўшы такім,
Маячыць стаў ім, як шалёны,
Прарочым голасам сваім:

«Паўстаньце, рабскія натуры,
Пакіньце свой адвечны сон,
Загаманіце віхрам, бурай,
40 Каб ажна дрогнуў ваш палон!

Глядзіце: прадзедавы косці
Ў зямлю калісь за вас ляглі,
А вы, як збэшчаныя госці,
Пракляццем сталі той зямлі.

Дзе вашы песні жыватворны?
Дзе ў вас прарокі й дудары,
Што над пагібельнасцяй чорнай
Віталі б полымем зары?

Забылі ўсё, згубілі долю,
50 Змяшалі славы цвет з газёй
І запрадаліся ў няволю,
З душой і скурай счэзлі ў ёй.

Пара у рукі браць паходні,
Ўставаць, ісці, ноч рассвятляць!
Бо што не возьмеце сягоння,
Таго і заўтра вам не ўзяць.

Назло крывавым перашкодам
Скідайце ёрмы, клічце сход,
І дайце знаць другім народам,
60 Які вы сільны йшчэ народ!

За мной, за мной, забраны людзе!
Я добрай доляй послан к вам
І знаю, што было, што будзе,
І вас у крыўды не аддам».

Так гаварыў і з рабства клікаў
Людзей на волю той прарок,
Ждучы з трывогаю вялікай
Ад іх адказу неўнарок.

А людзі, глянуўшы на сонца,
70 Адказ казалі грамадой:
— Па колькі ж нам дасі чырвонцаў,
Калі мы пойдзем за табой?
. . . . . . . . . . . . .

*1912*

## ЦАРУ НЕБА Й ЗЯМЛІ

За што, о Божа праведны, магучы,
Караеш так няшчасны свой народ?
Чаму на стогн маўчыць Твой гром бліскучы,
На стогн, што да Цябе йдзе з году ў год?

За што над намі даў перамаганне
Табою створанай бядзе і цьме,
Спладзіўшы быт сірочага канання
Сынам і іхняй матцы-старане?

*

Ты перунамі крышыш горы, скалы,
10 І пушчам гібелі Твой шле пажар,
А нашых крыўд скрышыць, спаліць і хвалай
Змяніць не можаш, свету Уладар!

Зямлю услаў Ты ў моры-акіяны,
Штогод разводдзем мыеш рэк сваіх,—
Чаму ж не змыеш Ты цярпенняў раны
З душы і сэрца верных слуг тваіх?

*

Вачамі сонейка і зор агністых
Агляд Ты робіш дзень і ноч міроў,
І толькі сцежак нашых камяністых
20 Не бачыш Ты, ўсясільны цар цароў.

Не бачыш тых магіл, што путы родзяць,
Магіл, рассеяных, як мак, Табой,
Скуль цені прадзедаў выходзяць
І ўзносяць рукі ўвысь к Табе з мальбой.

*

Ты ў цвет сваіх нялічаных народаў
Мінуўшчыну і будучыну ўбраў,
А ў нас — караючы чужой свабодай —
Мінулае — і тое адабраў.

Бадзяцца кінуў па бязмерным свеце,
30 Нявольнікамі кінуў нас гібець
За тую веру, што бацькі і дзеці
Лет сотні ў моц Тваю вучыліс мець.

*

Паўзводзіў царствы, даў ім панаванне
І над пасадамі ўзнёс свой пасад,
А нашу Бацькаўшчыну на'т прыстання
Пазбавіў, выгнаў чэзнуць сярод крат.

Прадаў на глум і годным, і нягодным
Усё, што ёсць святым для нас і ў нас;
Мы дома — як не дома, правам родным
40 Сваім не смеема пажыць хоць раз.

*

І Ты глядзіш на гэта ўсё, і неба
Тваё маўчыць, як падзямелля мур;
Мальбы няшчасных: долі, праўды, хлеба!
Ты глух паняць, паслаць маланкі бур.

Паймі! пачуй! Сон наш і свой стрывожы,—
Закон і суд свой праведны пашлі!..
Вярні нам Бацькаўшчыну нашу, Божа,
Калі Ты цар і неба, і зямлі!

[*1910, 1919*]

## НОВЫ ГОД

Са звонам пут, са свістам пугаў,
З брахнёй, з грызнёй у чарадзе,
Ў той самай цьме, ў тым самым кругу
Стары сышоў, а Новы йдзе.

Ідзе. А вылюдкі марочаць
Маной мазгі адны адным,
Што будзе светамі варочаць
І сеяць змены скрозь усім.

Што будзе годам пераменаў,
10 Тым на дабро, а тым на зло;
Сляпым і зрачым неадменна
Таго не будзе, што было.

Кляцьбой, мальбой, дзе хто як можа,
Рабы і іх гаспадары

Карысці ўсякія варожаць,
Якіх не кінуў ім Стары.

А хто каго ямчэй скатуе,
Ахвотна роюць сны свае,
Той на другіх пятлю рыхтуе,
20 Той сам сабе вяроўку ўе.

Той на таргоўлю выстаўляе
Свае сумленне і душу,
А той па тым звярам спраўляе
За грошы чорную імшу.

За ліхалеццем ліхалецце
Так без канца йшло тут і там;
Гібелі людзі на ўсім свеце,
Гібець прыходзіцца і нам.

І гэты год паходкай смелай
30 Спляце, як той, такі ж ланцуг;
Цябе, народ асірацелы,
Чакае з ім адно із двух:

Або загляне ў нашы хаты
Дабра і радасці паслом,
Святлом апамятуе катаў,
Нам панаванне дасць над злом.

Або з літаннем пут і пугаў,
З брахнёй, з грызнёй у чарадзе,
Ў той самай цьме, ў тым самым кругу,
40 Як шоў Стары, і Новы йдзе.

*1912*

## «ЛІРНІК ВЯСКОВЫ»

*Памяці Ул. Сыракомлі*

Не аб шумна-разгульнай бяседзе-вяселлі,
Не аб славе забытага краю,
Не аб віхрах і бурах, што светы цярпелі,
Гэту песню сягоння складаю.

Выліць думку хачу — хай снуе у бязмеры —
Думку-памяць, што ў сэрцы залегла,
Аб той зорцы, што некалі з добраю верай
Над зямелькай яснела і збегла.

Аб музыцы, што лірай сваёй чарадзейскай
10 Мне ў душы светач выклікаў новы,
Каб жыла, хоць на час, красай кветкаў-пралескаў,
Як жыве вечна Лірнік вясковы.

*

Над Віллёй, дзе сталіца была Гедыміна,
На магілках, што Роса завуцца,
Курганок там убачыш, пакрыты дзярнінай,
Над дзярнінай бярозкі трасуцца.

Сумна шэпчуць галінкі зімою і летам
Аб жыцці, пахаваным пад імі;
Людзі ходзяць маліцца над насыпам гэтым,
20 Пасвянцаці слязамі жывымі.

Пяцьдзесят раз у зелень вясна спавівала
Ніву нашу і насып жвіровы,—
Над курганам тым сэрцаў мільёны шаптала:
Дай Бог рай табе, Лірнік вясковы.

*

На зялёным цвітучым лагу-сенажаці,
Гэт пад лесам, за вёскай бядачай
Песню-музыку сумную здаля чуваці:
Пастушок там на дудцы так плача.

Звоніць коскай касец, толькі водгалас льецца,
30 Сам, як колас, хістаецца ў полі...
На загоне жняя над снапочкамі гнецца;
Сонца іхнай дзівуецца долі.

Пастушок, і касец той, і жнейка-дзяўчына,
Пахіліўшы маркотна галовы,
Тую песню пяюць, што мінуўшай часінай
Ім аставіў іх Лірнік вясковы.

*

Песні гэтай знаём і палац мураваны,
Што ў хмяліных бялее павоях,
На пачэсным кутку засядае жаданай —
40 Мілай госцяй ў багатых пакоях.

І ў засценку шляхоцкім, што з вёскаю блізкай
Тую ж долю-нядолю гадуе,
Гэта песня плыве над ліповай калыскай,—
Гэтак маці над дзіцем бядуе.

З маткай рэчка і вецер па-свойму запелі,
Зашумеў бор зялёны, сасновы,
Як бы тыя напевы яны зразумелі,
Што злажыў чуйны Лірнік вясковы.

*

А калі ты, гаротнік, туляч беззямельны,
50 Будзеш доляй закінут у горад,—
Ты пачуеш і там голас той непаддзельны,
Што спаткаці, пачуць быў даўно рад.

Ці сіроткі, к сцяне прытуліўшысь халоднай,
Ноч праводзяць, усходу чакаюць,
Ці няшчаснага ўбачыш, як гнецца галодны,—
Ты спытай — яны Лірніка знаюць.

Там і сіняя мгла, як настануць марозы,
На муры сее пух брыльянтовы,
Быццам тыя праўдзівыя светлыя слёзы,
60 Што калісь выліў Лірнік вясковы.

*

Ўсюды Лірнік сваёй чарадзейскаю лірай
Думкі-чары, як кветкі рассеяў,
І ці ўмёр, ці жыве між людзьмі далей шчыра —
Адгадаці малая надзея.

Час патрапіць усё пакрышыць, адалеці,
Путы нават змарнеюць у плесні,—
Покі ж будзе душа хоць адна жыць на свеце,
Будуць жыці і лірнікаў песні.

Будзеш жыць! Будуць векі ісці за вякамі,—
70 Не забудуцца дум тваіх словы,
Як і слоў беларускіх, жывучы між намі,
Не забыўся ты, Лірнік вясковы.

[*1912*]

# 1906—1912

## ЧЫМ ХАТА БАГАТА

Усяго пакрысе
Знойдзеце вы гэтта,—
Пры сасе, пры касе
Сабрана за лета.

Шчырым сэрцам, душой
Складана няхітра,
Знама — свой, не з якой
Там «звёздкай» ці мітрай.

Што-нібудзь мо не так —
10 Прашу прабачэння;
Трудна ў рыхт — часу брак,
Мазаліста жменя.

Мо і радасць тут — госць,
Больш нуды праклятай;
Вось бярыце, што ёсць,
Чым хата багата.

Што у думках я меў,
Кепска даць не браўся,
Хоць, як скованы леў,
20 Туды-сюды рваўся...

Людзі мруць, а ўсё ждуць
Багатшай уроды,
Мо і к нам прыбягуць
Шчаснейшыя годы.

О, тады сноп у сноп
Жніва наша будзе...
Сотня коп, мільён коп...
Дзівуйцеся, людзі!

А цяпер, што цяпер? —
30 Бывайце здаровы!
Чэсці дайце прымер
Для радзімых словаў.

[*1906—1912*]

## СВАЯКАМ ПА ГУТАРЦЫ

Шлю вам песняй, братнім словам
  Здароўканне, людзі:
Не гасіце веры, што вам
  Жыцца лепей будзе.

Вы не зломкі, вы не зноскі,
  Вы народ магучы:
Ваша панства — вашы вёскі,
  Пан ваш — труд жывучы;

Ваша слава не ў палацы,
10 Не ў княжацкай мітры,
А на роднай ніве, ў працы
  Карыснай, няхітрай.

Вашы скарбы не ў ядвабнай
  Магнацкай саеце,
А ў сярмязе непавабнай,
  Старшай на ўсім свеце.

Вашы рукі хоць абіты —
  Пясок на іх значан,
Але хлеб, імі здабыты,
20 Для ўсіх бел і смачан.

Слава вашай гэткай сілы
Вочы ўрагам коле,
Сведкай — свежыя магілы,
Што сыпе няволя.

Сведкай — прадзедаў шкілеты,
Курганы з кустамі,
Сведкай — песні воклік гэты,
Сведкай — вы з слязамі.

Дык хай жа вас не асіле
30 Зверства непагоды,
Распусціце сваё крылле,
Як і ўсе народы.

Рухне крыўда, праўда ўстане,
Ворагаў адстраша,
Будзе долі панаванне
На зямлі на нашай.

[*1906—1912*]

## ПАЛЯЦІ, МАЯ МЫСЛЬ...

Паляці, мая мысль,
Лётам сокала
І прагледзь гэты свет
Кругом-вокала.

Лётам светлай зары
Па-над стрэхамі —
Сып надзеяй жывой
І пацехамі.

Пей аб волі людзям
10 Думкі цудныя,
Уміляй іх жыцця
Сцежкі трудныя.

Залатыя сны ім
Няхай рояцца;
Няхай жаль на душы
Супакоіцца.

Гоняць хай ад сябе
Цьмы нядольныя,
І рука у руку
20 Пойдуць вольныя.

Так, ляці, эй, ляці,
Мысль свабодная!
А ты міла спаткай,
Зямля родная.

[*1906—1912*]

## РВІСЯ, ДУМКА!..

Покі старасць неўдалая
Костак з ног не вале,
Рвіся, думка маладая,
Туды, вышай, далей!

К таей праўдзе ненапраснай,
К шчасцю і свабодзе;
Рвіся, покі будзе ясна,
Покі будзе годзе!

Гарапашна, непрасветна
10 І ў душы, і ў хаце,
Стане горай непрыветна,
Калі будзем спаці.

Дык жывуча, скокам-бокам,
Покі сэрца точыш,
Рвіся, думка, ненарокам,—
Знойдзеш, чаго хочаш!

Рвіся! рвіся! дый старайся
Нуду адалеці,
Заглушыцца не давайся
20 Ні за што на свеце.

[*1906—1912*]

## НА ЖАЛЕЙЦЫ

### I

З шумам бораў, ясакораў,
Ой, гаю, ой, гаю,
На жалейцы-дабрадзейцы
Думку дум зайграю.
Ой, зайграю, запытаю,
За што, за якое
Плачуць песні, як не трэсне
Сэрца маладое?
Ці у маці ■ дзіцяцей
10 Не быў, не хаваўся?
Ці замала уздыхала,
Як з ёю прашчаўся?
Ці ніколі не меў долі
У чужой хаціне,
Ці ■ ў полі не меў волі
Пры чужой скаціне?
Ці мо сілы, Божа мілы,
Калі не хапала,
Як з сахою ці з касою
20 Ваюю, бывала?..
Ці ж то гэта, там, праз леты,
Як умру з надзеяй,
Мае косці ў дзікай злосці
Вецер не развее?
Не развее, не рассее,
Каб і след не ўзняўся,
Што гаротны і маркотны
Па свеце бадзяўся?

Эх, жалейка-дабрадзейка,
30 За што, за якое
Плачуць песні, як не трэсне
Сэрца маладое?

## II

Я не пушчаю спяваю
Песні-казкі аб Дунаю,
Хоць-та сэрца з пушчай рвецца,—
А пад грушаю пахілай,
Што над бацькаўскай магілай,
Граю толькі на жалейцы.
Я не звон, што час нам ліча
40 І на веча праўду кліча,
Хоць-та сэрца звонам б'ецца,—
А па шчасці пахаваным,
Над ракою, пад туманам
Граю толькі на жалейцы.
Я не вецер вольны, спраўны,
Што пяе свабодай слаўнай,
Хоць-та сэрца к славе рвецца,—
А ў цянётах павучыных,
На расстайных пуцявінах
50 Граю толькі на жалейцы.
Не на гуслях звонкіх баю
Аб забраным недзе краю,
Хоць-та сэрца к гуслям рвецца,—
А на спасвеным узгорку,
Углядаючыся ў зорку,
Граю толькі на жалейцы.
Я не гром, што светы крыша
І людзям законы піша,
Хоць-та сэрца громам б'ецца,—
60 А паціху, чуць чуваці,
У чужой забыты хаце,
Граю толькі на жалейцы.
Граю, граю і чакаю
Ўсходу сонца з-за Дунаю,
Калі мора ўскалыхнецца,
Калі песню, гімн вясёлы
Нашым нівам, нашым сёлам
Я зайграю на жалейцы.

*[1906—1911]*

## МАЛАДАЯ БЕЛАРУСЬ

Вольны вецер напеў вольных песень табе,
Бор зялёны узняў дружным гоманам,
Сонца полымем вызвала к слаўнай сяўбе,
Зоры веру ўлілі сілам зломаным.

І ў час буры, нягод і вялікіх надзей
Зацвіла, расцвіла даўгажданая,
І крыніцай жывой над айчызнай сваей
Паплыла, пацякла неспыняная.

Паплыла, пацякла з светлай казкай жыцця
10 Полем, лесам, гарой і далінаю...
З свойскіх кветак-пралесак — карона твая,
Ўся сама — ясната лебядзіная.

Зіхаціш і гуслярскаю песняй звініш,
Узнімаеш мінуўшчыну даўную;
Час сягонняшні ўперад ісці не пыніш
І глядзіш смела ў будучнасць тайную.

Смела ў сонцы ідзеш, як жывы агняцвет,
Сееш ласкава сны залацістыя;
Не пужае сумежны дакучны сусед,
20 Не пужае пуціна цярністая.

Ад мяжы да мяжы, ад капца да капца
Абнаўлення павевы расходзяцца,
Абнімае душу без граніц, без канца
Маці-радасць, што лепшы дзень родзіцца.

Ўжо не так тапары у зялёным бары
Хвойкі валяць зімой маразянаю,
Ўжо не так касары ад зары да зары
Летам звоняць касой адкляпанаю.

Значан гарт у руках, чутна песня без слёз,
30 Грудзі славы надзеяй калышуцца,
Ў кнігі новы закон ёмка пёрамі з кос
Наўсяды людзьмі новымі пішацца.

Расцвітай жа, ўзнімай на арліных крылах
Душы, сэрцы і думы заспаныя,

Вызывай, выклікай на вялікі прасцяг
    Сілу, ведзьмай-пятлёй не чапаную.

Высылай, рассылай на край свет пасланцоў,
    Як з гнязда сакалінага сокалаў,
Хай лятуць, далятуць да байцоў-удальцоў,
40    Хай грымяць весткай добраю ўвокала.

Годзе ў полі, ў лясах ты, старонка, і так
    Сіратой начавала забытаю,
Годзе выпіў крыві з сэрца крыўды чарвяк,
    Косці вецер тачыў непакрытыя.

Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
    Над крыжамі бацькоў, над нягодамі;
Занімай, Беларусь маладая мая,
    Свой пачэсны пасад між народамі!..

[*1906—1912*]

## ШЛЯХ МОЙ...

Шлях мой не сцелецца сонцам і кветкамі,
    Гладкай, павабнай не лёг раўнiной,—
Паміж няўдалымі ўецца палеткамі,
    Ўецца зімой і вясной.

Вечар і ночка закрылі мне раніцу,
    Ўхуталі плесняй, сівым туманом,
Даль жа нязбытаю казкай тумaніцца,
    Казкай, нягаданым сном.

Вера ў дзень заўтрашні сілай няведамай
10    Думы гартуе ісці, не чакаць,
Хоць бы там злыдні плот ставілі бедамі,
    Бедамі клікалі спаць.

Зойдзе брат сцежку мне, путамі звонячы,
    Пут гэтых толькі не бачачы сам:

«Дзе ты ідзеш?» — запытаецца, гонячы.
«Далей!» — адказ яму дам.

Далей і далей праз выдмы няплодныя,
Ўсё непакорна, шукаючы ўсё,
Покі не згаснуць прасветачы зводныя,
20 Покі не згасне жыццё!..

[*1906—1912*]

## ДЗЕ ТЫ, ШЧАСЦЕ МАЁ?..

Дзе ты, шчасце маё, дзе ты, светлая доля?
За што сэрца гняце жалю дзікая змора?..
Выйду цёмнай парой гэт за вёску на поле
І падслухаю сціха, што ночка гавора.

Можа, гоман пачую, што жаль і трывогу
Песняй радасці зглуша і ўспіць назаўсёды,
Мо пакажа няшчаснаму к долі дарогу
І разгоне ў душы цемнаты, непагоды.

Га! нічога не чуць, толькі неяк, здаецца,
10 Жудка вые, гудзіць сівер з поўначы зімны,
Толькі шум баравы з цёмнай далі нясецца
І пяе у душы пахавальныя гімны.

[*1906—1912*]

## ХОЛАДНА...

Холадна, холадна ў хатцы маей:
Лёгка навек загавеці;
Сыплюцца слёзы, як іскры, з вачэй;
Божа! як жудка на свеце!

Голасна будзячы сонну глушу,
Віхры зусюль завываюць;
Думка за думкаю лезе ў душу,
Сэрца нудою сціскаюць.

Нейкім туманам усё заплыло;
10 Глуха!.. Ні сілы, ні гарту...
Ўсё пражыванае прахам ішло.
Ўсё, што йдзе, думаць не варта.

З нейкім пракляццем прыходзім на свет,
З нейкім на той свет сыходзім;
Потам, крывёю век сцелецца след,
Песню змучэння заводзім.

Ступіш... і гадзіны ўюцца ля ног,
Крыкнеш... не чуюць камeнні;
Рукі працягнеш ты, повен трывог...
20 Ласкі не знаюць паленні.

[*1906—1912*]

## МАЯ ДОЛЯ

Што дасі заўтра, доля змянлівая,
Спадзяюся пацехі [illegible] мала;
Адно знаю, што ўсё нешчаслівае
Ты мне толькі дагэтуль давала.

Сіратой па чужых кутах кідала
І нудою мне грудзі сушыла;
Не раз так мне была ты абрыдала,
Што ўсміхалася шчасцем магіла.

Ты калі мне ў вачах раз'яснялася,
10 Сэрца білася верай, надзеяй,
Хоць нязванаю знекуль з'яўлялася,
І тады адны слёзы я сеяў.

Ты шумела мне песні магільныя,
   Як мяцеліца дзікая ў полі;
Ты няслa мне усе непрыхільнае...
   Эх, не знаць бы цябе мне ніколі!

Мусіць, доля, ты ў цернях радзілася,
   А зіма і слата гадавалі,
Ад няволі ты мучыць навучылася,
20    А пасля мне багі цябе далі...

[*1906—1912*]

## ЧАЛАВЕКУ

Ці ты чуеш, як стогне віхура,
Як старой хаткі сцены дрыжаць,
Як у коміне вые панура,
Як сукі ў боры цёмным трашчаць?..

Ці ты бачыш, як хмара за хмарай,
Як дым, небам плывуць чарадой,
Як кусты, сенажаці, папары
Заліліся магільнай імглой?..

Ці ты бачыш ноч гэту над намі,
10 Ноч асеннюю, дзікую ноч,
Засцілае што свет цемнатамі
Непраглядна, хоць ў процьму ты скоч?..

Ці паняў, што мрок гэты гавора,
Што аддалены шле яго шум,
Як у гэта бязмежнае мора
Ты глядзіш, гэтых слухаеш дум?..

О, дрыжыш перад шэптамі чараў
Цёмнай ночы, магутны цар дня,
І прыходзіцца ўцяміць няздары,
20 Што мудрэйша ёсць моц, як твая.

Дарма розумам цэлыя годы
Ў жыцця дзівы, як мог, заглядаў:
Чарадзейную кнігу прыроды
Не пытаў, адчытаў, скарыстаў.

Што зямля б на свет жыць не пусціла,
Ты паняў да канца з урада́;
Табе пара каня адмяніла,
Цябе слухае вецер, вада.

Ты і неба ўсе скрыткі падгледзеў:
Злічыў, колькі зор, што ёсць на іх;
І нічому, здаецца, ўжо недзе
Ад вачэй скрыцца зоркіх тваіх.

Ты і ў прышласць рад глянуць зарання,
Змёў бы пыл забыцця з прошлых дней,
Ўсё ж бяссілен твой розум і знанне
Перад голасам духу начэй.

Ты дрыжыш перад нечымсь, як глянеш
Ў гэту цем, падслухаеш яе;
Як дзіцё, як матыль, слабым станеш...
А ноч тайна ў дзівах пяе.

Мае свет неадкрытыя сілы,
Што людское ўсёзнанне прайшлі,
Гэтых сіл не пазнаць да магілы
Табе, думнаму цару зямлі.

[1906—1912]

## ЗГНАННІК

Выгналі з хаты, выгналі людзі,
Выгналі косці жывыя;
Сівер са снегам рынуўся ў грудзі,
Рынуўся зверам на шыю.

Месяц загінуў, выгаслі зоры,
Даль залягла беспрасветам;
Хмары глухія, хмары — як горы,
Ходзяць, сапуць непрыветам.

Смоллю, заломам сцежка-дарога,
10 Ведзьма-мяцеліца стогне,
Жудкія думы шэпча трывога,
Сэрца то змоўкне, то дрогне.

Горбяцца плечы, кволыя плечы,
Як бы цягнулі каменне,
Рукі мароз і сячэ, і калеча,
Корчацца ногі ў каленню.

Годзе змагацца з доляй паганай,
Сонца шукаць сярод ночы,
Блудам блудзіць па мёртвых палянах,
20 Слёзьмі крывавіці вочы.

Сыпся, кружыся, бел-снег, навокал,
Мяккай кладзіся пасцеляй!..
Ляжам, як ляжа ранены сокал,
Знойдзем, нарэшце, прыселле.

Лес мой, жывая пушча-старуха,
Мы не загінем з табою...
Шумам пальеш мне казкі да вуха,
Важна ўкалышаш спакоем.

Дзе-нідзе вогнік глянуў сквапліва,
30 Братняя блізка хаціна:
Гэта з праглядам выбрыў на ніву
Воўк — як і ты — сіраціна.

Голас пачуўся, быццам хто кліча,
Штось у душы затраслося:
Гэта ў галінах вецер скавыча,
Воклік магільны разносе.

З дальняга неба зоркі міргнулі...
Як бы не так ужо цёмна...
Зоркі свяціці ўсім не мінулі,
40 Толькі... мінулі бяздольных.

. . . . . . . . . . . . .

Полаг гатовы белы, пуховы;
Ляж, не глядзі, не ўслухайся!
Сну у магіле яснай, сняговай,
Вечнага сну не пужайся.

Прыйдзе вясна, распусцяцца лозы...
Ты ўжо ў пасцелі зялёнай...
Спі, мой гаротнік, годзе ліць слёзы,
Біці нягодам паклоны...

[*1906—1912*]

## НЕ ДЛЯ НАС...

Не для нас гэта сонейка майскае
Загуляла на небе высокім
Сеяць думкі вясеннія, райскія,
Гэт, па свеце вялікім, шырокім.

Не для нас ніва, намі ўспаханая,
Заірдзелася ўсходам пасеваў,
І ўся ветрам, як дым, калыханая
Б'е паклоны направа, налева.

Не для нас упрыгожыліся кветкамі
10 Сенажаці-лугі над ракою,
Харасвамі няздзіўнымі, рэдкімі
Вабіць вока, шаптацца з душою.

Не для нас, не для нас распускаецца
Гэты сад, гэта вішня, чарэсня,
Не для нас, не для нас разліваецца
Салавейкава звонкая песня...

Сонца паліць нам грудзі збалелыя,
Ніва ласкі над намі не мае,
Пот ліем па лугах мы дні цэлыя,
20 Ці ж тут міла і песня якая?!

З дня на дзень, з году ў год, як пакутнікі,
Б'ёмся, гінем і шчасця не бачым;
Працай жывяцца нашай прыблуднікі,
А мы толькі ўздыхаем і плачам...

[*1906—1912*]

## «ЗАБРАНЫ КРАЙ»

Я ведаю, знаю старонку такую,
Спавітую ў вечны туман,
Пад цёмнымі зорамі днюе, начуе,
Ляжыць на кургане курган.
Хоць сохі, хоць косы гуляюць там ройна,—
Не поймеш, адкуль узяліcь;
Людзей запытаеш,— адкажуць спакойна:
«Забраны край» гэты калісь.

Сыны зямлі роднай чужыя палеткі
10 Ў чужую карысць засяюць,
На родных папарах галодныя дзеткі
Чужую жывёлу пасуць...
Кладуцца заломы... Дабро змей валоча...
Цянюе ля хат ваўкалак...
Нячысцікі, ведзьмы рэй водзяць па ночы,
«Забраны край» тузаюць так.

Сляпы знемагаецца бацька ў цямніцы;
На стражы пастаўлен сынок;
У поўных калісьці ад шчасця святліцах
20 Чужак зневажае дачок.
Дзяцей сваіх маткі кідаюць у здзеку,
За «мамак» к наездцам ідуць,
А тыя за іх малако, за апеку
«Забраны край» болей гнятуць.

Мальбішчам чужым б'е пакора паклоны;
Упадку вялічыцца сцяг;
З балотам змяшаны старыя законы,
Наладжан нявольнічы шлях.

Купляюць, збываюць, гандлююць чужынцы
30 Народным дабром, як сваім...
Заплача ў пагоду канюх па расінцы,—
«Забраны край» жаліцца з ім.

Наведзены струны у скрыпках па-свойску
Чужая зрывае рука;
Жалейка азвецца з вясны пад бярозкай,—
Не ўцешыць яна бедака.
Так камень не ляжа, як змора падання
Лягла ад мяжы да мяжы
З надзеяй, што нават і думку змагання
40 «Забраны край» вырве з душы.

Жыццё год без ліку на шнурык свой ніжа,
Без ліку няволя есць сіл...
Аж прадзедаў косці не ўлежаць пад крыжам,—
Штоночы выходзяць з магіл.
Выходзяць, ідуць ад парогу к парогу,
На стогн жывых грозна глядзяць.
І з ветрамі, з бурамі б'юць на трывогу:
«Забраны край» клічуць устаць.

[*1912*]

## У НОЧНЫМ ЦАРСТВЕ

Скрыпяць трухляцінай асіны,
Над курганамі звяр'ё вые...
Гасцінцам, церневай пуцінай,
У ёрмах, скованы, скацінай
Ідуць нябожчыкі жывыя.

Ідуць, ідуць... Сярод пустыні
Хрусцяць надломаныя косці,
І качанеюць ногі ў ціне,
І чахнуць вочы ў павуціне,
10 А шлях — як тачаныя восці.

Перад вачамі глуш нямая,
І плач, і скрогат за вачамі;
Пракляцце ў жылах кроў сцінае,
Душу бяссілле вынімае,
Гняце змяінымі кляшчамі.

У грудзі, здаўленыя здрадай,
Упіўшысь, рабская трывога
Шыпіць хаўтурнаю загладай;
На небе толькі як прынада,
20 Бялее млечная дарога.

То там, то сям запаланее
Іскра над скованаю шыяй;
Наскоча пошасць трупавея,—
І царства ночнае шалее,
Над курганамі звяр'ё вые.

[*1906—1912*]

## ЦІ Ж НЕ ДОЛЯ МАЯ?!

І нашто ж мне воля вольная,
Залатая, расхахольная? —
Цемняком пайду сляпы я
На дарожкі крыжавыя!
Эх ты, доля мая,
Маю волю ўжо я!

І нашто школа з настаўнікам,—
Добра быць і неахайнікам:
Калі з кніжкі не даўчуся,—
10 У астрозе далаўчуся.
Эх ты, доля мая,
Маю школу ўжо я!

І нашто ж мне поля гонейкі,
З дабром клеці, коні, волікі?

Я магу жыць і «пашырэ»
У шырокай у Сібіры.
Эх ты, доля мая,
Землю маю ўжо я!

І нашто ж мне хата новая,
20 Сталы, лавы ўсё дубовыя?
Злыдні змогуць маю сілу,—
Як пан, лягу у магілу.
Эх ты, доля мая,
Хату маю ўжо я!..

[*1906—1912*]

## СУДЫ

На суды павялі яе звязанай,
Сэрца вырваўшы з белых грудзей,
І судзіці давай — як там сказана
Ў гэтым хітрым законе людзей.

Абіралі суддзёй ночку цёмную,
Ночку-мачыху сумнай зямлі,
Сведкай крыўда была векапомная,
Сон і заламы стражай былі.

Прыгавор прачыталі над беднаю,
10 Не спытаўшыся грэху, віны.
Гэй, хаўтурную песню пабедную
Над ёй спелі праметнай сыны...

З плеч зрывалі уборы злацістыя,
Разрывалі карону-вянок,
Разбівалі пасад ёй нячыстыя
Й пад жалезны хавалі замок.

Накладалі ёй сковы сталёвыя,
Надзявалі жабрачы убор,
У намітку ўбіралі цярновую
20 Яе коску, сатканую з зор.

Вочы вырвалі ёй, сонцу роўныя,
З-пад хмурліва навісшых павек,
Дый пусцілі яе супакойную,
На бадзянне пусцілі, на здзек.

З лета ў лета ідзе, кроўю злітая,
Насустрэчу крыжам і капцам,
Чуць жывая жыве, пазабытая,
Ў сне з'яўляючысь родным сынам.

К волі йдзе з дня на дзень, разглядаецца
30 Па бел-свету калі-нікалі;
Толькі дух-яснасвет пацяшаецца,
Што ўсё ж крыўды яе не змаглі.

Як была, будзе так непакорнаю
Адпраўляць вечнабыту імшу...
Не здалеюць суды цемнатворныя
Ёй спаганіць і вырваць душу.

[*1906—1912*]

## НАД СВІСЛАЧАЙ

*(У Карзюках)*

Плаўна Свіслач-рэчка
Ўдаль плыве, бяжыць;
Над крутым абрывам
Панскі дом стаіць.

Зелянеюць вольхі
Па краях ракі,
Высяцца над імі
Сумна Карзюкі.

Відзен горад здаля,
10 Горад Мінск стары,
Пнуцца важна к небу
Коміны, муры.

Гулка далятае
Дзікі свіст машын
Ды прыпеўкі жабаў
З рэчкі і лагчын.

Між прысад гасцінцам,
Між палёў сялян
Едзе, пераходзе
20 То мужык, то пан.

Ўсю ж гэту мясціну
Неба абняло,
Залацістым сонцам
Хараство ўпляло.

Рэчка, луг, гасцінец,
Горад, Карзюкі
Разрываюць думкі
На усе бакі.

Сам сабой не знаеш,
30 Што рабіць, як жыць:
Ці ляцець у горад,
Ці ў Карзюках сніць?

Ці пайсці гасцінцам
Долі ў свет шукаць?
Ці рацэ, русалкам
Галаву аддаць?..

[*1911—1912*]

## ВЁСКА

За хатай хата у парадак
Сядзіць адна каля адной;
Залегла вуліца сяродкам,
Будынкі з боку чарадой.

Не год, не два зняла з плеч вёска,—
Дзянькоў уцёкшых знак відаць:
Мох у салому паўпіваўся,
Падпора час спяшыць стрымаць.

Жыццё у лапці абувае
10 Сваяк, чужынец-прайдзісвет,
Бяда багацтву б'е паклоны,
Цямнота к знанню зводзіць след.

Вядзе вайну сляза са смехам,
Дзярэцца той, а той дрыжыць,
З грахамі важыцца пакута,
У пары ноч і дзень бяжыць.

Не знаю: шчасце ці няшчасце
Ўе тут спакойнае гняздо...
У вёскі гэтага спытайся,—
20 Маўчыць і вёска пакуль што.

[*1910*]

## ГРУША

Калышацца сталетняя,
Шуміць на ўсе староны,
На ёй галінаў тысячы,
Лісткоў на ёй мільёны.

Шпакі на ёй чырыкаюць,
І белкі часам скачуць,
І сонца дарыць спекамі,
І хмары дажджом плачуць.

Яна, загартаваная
10 Сталетняю пароюю,
Шуміць, заходзе ў гутарку
То з небам, то з зямлёю.

Дый дзіўнай мовы грушынай
Людзям не зразумеці,
Хоць мо аб чым і радасным
Захоча ім шумеці.

Хоць будзе мо расказываць
Аб долі, аб багацці,
З даўнейшага, прайшоўшага
20 Пыл забыцця змятаці...

О груша, о сталетняя,
Наўчы, што мне зрабіці,
Каб мову тваю дзіўную
Людзям пералажыці...

[*1906—1912*]

## ТАЕ СНЕГ...

Тае снег, таюць сковы зімы ледзяністыя,
Сонца з ласкай ажыўчай гуляе ў прыволлі!
Хутка жаўранак песняй сваёй галасістаю
Прывітае аратых на полі.

Узніме чорную скібу саха працавітая,
Ляжа ўсходнае зерне у пахаць сырую,
Закалосіцца поле, слязой, потам злітае,
Зашуміць сваю думу старую.

Гаспадар той суважна свой шнур па-святочнаму
10 Абыходзіці будзе, красой любавацца,
Прыслухоўвацца к шэлесту нівы няўрочнаму
І маліцца к сваёй зямлі-матцы.

Смела гляне на свет і на долю змянлівую
Як дагэтуль, яму не дадуцца ўжо ў знакі
Тыя сілы з усходу і захаду мсцівыя,
Што даймаюць цяпер, як вужакі.

[*1906—1912*]

## НА СКЛОНЕ ЛЕТА

Пусцее поле, моўкне птушка,
Скідае жоўты лісць бяроза,
Нямее песня-весялушка,
Ліюцца з неба каплі-слёзы.

У полі глуха вецер свішча
І ў комін з шумам далятае.
Не то жыццё, не пажарышча,
Не то пагібельнасць якая!

А ў сэрцы, сэрцы неспакойным,
10 Жаль так і ўеўся з пусткай гэтай;
Снуюцца думы роем ройным.
О, як ты страшны мне, склон лета!

Была вясна, і ўсё на свеце
Жыло, цвіло — і вось не стала...
Няма вясны, заплач па леце;
Нуда ва ўсім запанавала.

Такая ж доля наша, людзі:
Жыві ды пекайся ўсёй сілай;
Праходзяць годы, чахнуць грудзі,
20 Бач, і дапекаўся магілы.

[*1906—1912*]

## З АСЕННІХ НАПЕВАЎ

### I

Кончыцца лета гарачае,
Кончыцца воля-раздолле;
Кветкамі лог не харошыцца,
Збожжам не хваліцца поле.

Косы не свішчуць сталёвыя
Ў соннай траве сенажацяў,
Серп на вайну не йдзе з коласам,
Песень, і тых не чуваці.

Сонна адна-адзінокаю
10 Груша стаіць над мяжою,—
Лісце скідае пажоўклае,
Сыпе асенняй нудою.

Неба штодзень пахмурнейшае,
Сонца штодзень на ім меней,
Птушак заціхла чырыканне,
Нейкае ўкруг знемажэнне.

Вецер заводзіць у коміне,
Быццам жыццё сваё ганіць;
Думы старыя, халодныя
20 Сэрца пужаюць, як зданні.

Так і ўцякаў бы ад гэтага
Там гэт! За горы, за рэкі,
Каб чалавек ды мог скрыціся
Ад сваёй долі навекі.

II

Сцелюцца цэлы дзень росы,
Вечны цень спіць на зямлі,
Бледныя сонцавы косы
Выглянуць рэдка калі.

Здаля даносяцца шумы,
30 Ў коміне шумы пяюць;
Цісннуцца буднія думы,
Сноў забыцця не даюць.

Нейкая зводная сіла
З выглядам вечна старым
Вабіць здалёку магілай,
Крыжам міргае сваім.

## III

Змоўклі лісцястыя шэлесты,
Галлі худыя тырчаць,
Мёртвыя дзе-нідзе verасты
40 Зеленяй зводнай блішчаць.

Цягнуцца дрэвы расхутаны
К небу з балотных нізін,—
Корань, у жвіры заплутаны,
Не адпускае галін.

Рогат звярыны пакоціцца
Дзікім жаданнем без слоў,—
Пушча замрэ, закалоціцца,
К воблакам цягнецца зноў.

## IV

З гальных ліп і бяроз
50 Лісты валяцца,
Між павалаў і лоз
Рассыпаюцца.

Шапацяць, шалясцяць
Залацістыя,
Веткі ў неба глядзяць
Пусталістыя.

Дачакаўшы вясны,
Зноў ажыўляцца;
Не паўстануць лісты,
60 Што асыплюцца.

## V

Неба поўна сівых хмараў,
Свет палошча дождж сцюдзёны,
Чорнай кучай на папары
Чахнуць каўкі і вароны.

Сонца ўжо ніхто не бача,
Вецер вые, завывае;

Восень стогне, восень плача,
Думы сумам спавівае.

Ў маёй хаце у пахілай —
70 І няцёпла, і нявідна,
Выглядае, як магіла,
Выглядае неяк крыўдна.

І ў душы, хоць плач, як нудна,
Гэтак цёмна, як і ў хаце;
Ой, як нудна! Сказаць трудна...
Галасіў бы, слаў пракляцці.

Галасіў бы, як галосе
Вецер гэты, восень гэта,
Каб аж рэха разляглося,
80 Гэт, на цэлае паўсвета!

Каб ляцела, не сціхала
Па шырокаму па полю,
І ўсім чыста апявала
Маю горкую нядолю.

VI

Дзе ты схавалася, яснае сонца,
 Ясныя летнія дні дзе падзеліся? —
Сцюжа гуляе па роднай старонцы,
 Зімнія песні распеліся.

Стогнуць мяцеліцы грозныя ў полі,
90 Цiснуцца думы пра шчасце былое,
Сэрца лядзеніцца з жалю, з нядолі —
 Беднае сэрца людское.

Беднае, беднае... Колькі мучэння
 Быт чалавечы табе пасылае!..
Ох, каб не сэрца, было бы слёз меней,—
 Шчасліў, хто сэрца не мае.

## VII

Ў думах нявесела,
Сэрца сціскаецца;
Цёмная, золкая
100 Восень зближаецца.

Неба пакрылася
Мглою, туманамі,
Галкі узносяцца
Па-над курганамі.

Поле шырокае
Пусткай абселася,
Дуброва шумная
З лісцяў раздзелася.

Імжыць сцюдзёністы
110 Дождж над зямелькаю,
Свет пакрываючы
Жаласцю нейкаю.

Людзі у курныя
Хаткі пакрыліся,—
Радасць мінулася,
Песні забыліся.

Бабка старэнькая,
Зможана мукамі,
Казкі даўнейшыя
120 Шэпча з унукамі.

Віхар у коміне
Жудка заносіцца,
То як бы жаліцца,
То ў хату просіцца.

Ў думах нявесела,
Сэрца сціскаецца;
Цёмная, золкая
Восень зближаецца.

[*1906—1912*]

## ВОСЕНЬ

Вось і па леце... Няма яснай гожасці;
Восень запела пагудку сваю;
Нудна, жаль нейкі адцвіўшай прыгожасці,
Гіне ахвота к пацехам, к жыццю.

Вока не пасвіцца зеленяй, коласам,
Сэрцу раздолля, прыволля няма;
Вецер заводзіць нябожчыцкім голасам,
Вые, рагоча, як ведзьма сама.

Лісце струпеўшае з дрэў асыпаецца,
10 Веткі шкілетамі сталі без іх,
Воўчыя зрэнкі між пнёў палыскаюцца,
Птушчын і лопат, і шчэбет заціх.

Неба адзелася цёмнымі хмарамі,
Сыпе сцюдзёнай слатою, дажджом;
Жоравы, гусі лятуць над папарамі...
Цёмна, пагібельна, слёзна кругом.

Штосьці трывожнае, зло-непрыхільнае
Сунецца з гэтай мярцвячай глушы...
Восень панурая, восень магільная!
20 Страшна ты чуткаму сэрцу, душы.

[*1906—1912*]

## ЗІМА

Было цёпла. У аконцы
Заглядала ясна сонца.
Аж, ні села і ні пала,
Зіма з снегам загуляла!

Усю нашую старонку
Спавіла, як у пялёнку,—
Няма траўкі, няма кветак,
Пуста гэтак, мёртва гэтак!

Сціхла рэчка, як забіта,
10 Пад шкляною лёду плітай;
Лес пашумам не гамоніць,
Птушак песнямі не звоніць.

Век халодны без адмены,
Мароз стукае у сцены,
А ад снегу днём і ночай
Іскры сыплюцца у вочы.

Скрыпяць санкі на марозе
Па вyслізганай дарозе...
Эй, каб шчаснай больш часінкі,
20 Вось бы злётаў да дзяўчынкі!..

[*1906—1912*]

* * *

З зорак усходніх, заходніх, з бліскучай
маланкі выткаў бы шаты,
З сонца і кветак-пралесак карону-
вяночак звіў бы табе я.

З пальмаў, з цыпрысаў святліцу ў цвітучай,
цяністай строіў бы кнеі;
Воблачак зняў бы на трон з небасклону,
з-пад сонца пышны, багаты.

Шоў бы ў палац панаваць з каралеўнай,
10 царэўнай яснай тады я,—
Славіць, шчасліціць сваю маладую,
святую песняй няпетай.

Сэрцавы струны звінелі б нязвеўна,
павеўна гімны жывыя;
Казку тварыў бы з табой залатую —
такую, як думка гэта.

[*1906—1912*]

## ПЕСНЯ

Зайшло ўжо сонейка, цень лёг на гонейка,
Уецца туман сенажацяй,
Выйдзі ж, дзяўчынка, выйдзі, галубка,
Ў садзік ка мне пагуляці.

Хвілямі шыбкімі ў цені пад ліпкамі
Час нам праходзіці будзе;
Бачыці будуць зоры і месяц,
Бачыць не будуць нас людзі.

Казкамі дзіўнымі будуць галінамі
10 Ліпкі шумеці, дзівіцца,
Будзе прыветліва пець салавейка,
Буду — слугой, ты — царыцай.

Радасцю, ўцехамі пад ліпак стрэхамі
Будзе нам доля ў ноч гэту,
Сэрцавы струны ўдарым каханнем
На зайздрасць цэламу свету.

Выйдзі ж, дзяўчынка, выйдзі, галубка,
Ў садзік ка мне пагуляці;
Ўжо зайшло сонейка, цень лёг на гонейка,
Уецца туман сенажацяй.

[*1906—1912*]

## ЛЮДКА

Як Людкі не бачу,—
Не міла мне жыць:
І сохну, і плачу,
І сон не бяжыць!

І хатка — не міла,
Ўрагамі — дружкі,
І свет — як магіла,
І ночкай — дзянькі!

Як Людку угледзеў,
10 Забыўся на ўсё! —
І плач уцёк недзе,
І раем — жыццё!

Хоць поўна хмар неба,—
Свет-яснасць адна!
Сам сыты без хлеба,
Вясёлай душа!

Забыты ўсе болькі,
Што ходзяць са мной,—
Ўсё хочацца толькі
20 Быць з Людкай-красой...

К ружовенькім шчочкам
Губамі прыльнуць
І песню аб Людцы
На ўвесь свет грымнуць!

Грымнуць — прытуліцца
Да белых грудзей,
Упіцца-забыцца
На свет, на людзей!

[*1906—1912*]

## Я ХАЦЕЎ БЫ...

*Наследаванне з Асныка*

Я хацеў бы душу адшукаці такую
І такое хацеў бы я сэрца знайсці,
Што са мной праз жыццёвую сцежку блудную
Захацела б супольна і згодна ісці.

Вочак пару хацеў бы я мець прад сабою,—
Як у ясныя зоры, ў якія б глядзеў,
І забыўся б, што ходзіць маркотнасць за мною,
І забыўся б, што крыўды цярплю ад людзей.

Адных губак хацеў бы, што мне б саладзілі
Пацалункамі горкую долю маю,
Што з-пад сэрца, з душы галасок бы здабылі
І ўсяму падцінalі, што ў жальбах пяю.

Я хацеў бы знайсці ручак беленькіх двое,
Што к сабе прыгарнулі б, пясцілі мяне,
Памаглі б мне змагацісяз чорнай нудою,
А па смерці павекі закрылі бы мне.

Я хацеў бы сабе прыгалубіць дзяўчынку,
Маю долю-нядолю дзяліці са мной,
З сэрцам чыстым, якую б усякай часінкай
Я любіў бы, туліў і служыў бы якой.

Аднаго толькі сэрца мне трэба, хачу я,
І адной, што мяне б зразумела, душы...
Хачу мала, так мала, ■ доля не чуе:
Сіратой сам адзін я гібею ў глушы.

*[1906—1912]*

## МАЯ ЖОНКА

Не хачу я жонкі
Не з сваёй старонкі,
Як я — багацейшай,
І як я — мудрэйшай.

Я вазьму такую,
К якой любасць чую,
Што мяне палюбіць,
Як сябе самую.

Будзем з ёю жыці
І долю хваліці,
Весці лад у хаце,
Дзетак гадаваці.

I так жыць па праве
Ў добрай будзем славе,
   Покуль хаўтуроў нам
   Злая смерць не справе.

[*1906—1912*]

## АБНІМІ...

Абнімі ты мяне, маладая,
Абніманнем гарачым, агністым,
Дый памчымся ад краю да краю
Вольнай думкай па свеце цярністым.

Ў дзень вясёлы мы сонцам пякучым
Заіскрымся ў нябесным прасторы,
З ветрам-сокалам душы заручым,
Ў пушчу-лес уплящём загаворы.

Ўночы сумнаю зоркаю глянем
10 На сады, на амшэлыя хаты;
Чары-сон навядзём заклінаннем,
Вышлем росы брыльянтныя ў сваты.

Узалоцімся ў светлыя слёзы,
Ў слёзы-іскры забраных загонаў;
Снегам-пухам зардзімся ў марозы,
Ўлетку кветкай зайграем чырвонай.

Адну песню дзень, ночка хай грае
Нам, сіротам, на свеце цярністым...
Абнімі ты мяне, маладая,
20 Абніманнем гарачым, агністым.

[*1906—1912*]

## ПЕРАД НОЧКАЙ

Змеркла. Цёмнасць агні пале
    Ў зорак грамадзе:
Тайнасць жудкая — гэт, здаля
    Ў свет ідзе, ідзе.

Дагарэла ўжо лучынка,
    Спачываці час!
«Добрай ночы» спей, дзяўчынка,
    Спей хоць раз, хоць раз!

Запей нотай, сэрцу блізкай,
10    Аб долі маей,
Быццам маці над калыскай,
    Ты запей, запей!

Пей пацехай, пей разгульна,
    Душы не скупі;
Мае думкі, жаль няўтульны
    Ты прыспі, прыспі!

Спеўшы песню, ўціхамоўку,
    Без трывог ані —
На плячо мне звесь галоўку
20    І засні, засні!

Цемнатой нас ночка скрые
    Ад злосці людской;
Будзем сніці залатыя
    Сны з табой, з табой!..

[*1906—1910*]

## ЦІ ТЫ ЧУЕШ?..

Ці ты чуеш, дзяўчынка,
Як трасецца хацінка,
Як вятрыска скуголе,
Шум нясе нейкі з поля?

Ці, пачуўшы, пазнала,
Што ўсё гэта нагнала
Табе ў сэрца са свету,—
Ці адчула ўсё гэта?..

Гэта восень заводзе,
10 Слёзы лье ў непагодзе
Над табой, нада мною,
Над няшчаснай зямлёю.

Не пужайся ж ты крыкаў
Непагоды вялікай...
Нас Бог крыўдзіць з людзямі,
Восень плача над намі.

[*1911—1912*]

## ЯСТРАБ

Дзе голуб з галубкай варкуе, сядзіць,
З-пад неба хмурлівага ястраб ляціць,—
І кіпці запусце ў галубку ён смела,
І выгрызе сэрца, і кроў выссе з цела.

Дзе шчыра дзяўчынку дзяцюк палюбіў,—
Прыйшоў стары зводнік, дзяўчынку адбіў;
Як ястраб з галубкай, так цешыцца ўволю,
Паганячы славу — дзявочую долю.

Няма ўжо галубкі, прыўныў галубок,
10 Сядзіць, не варкуе; як мёртвы, замоўк:
Па любай сваёй у вялікай жалобе,
Чакае, аж ястраб і з ім тое зробе.

Няма ўжо дзяўчынкі; сум хлопца гняце,
У сэрцы глухі жаль, як рана, цвіце;
Дзе пойдзе, дзе гляне, стогн рвецца маркотны:
Адзін ты, адзін, небарача гаротны!

Галубкіны косці развеяла бура,
К другой свае вочы стары зводнік жмура,
20 Галуб жа, дзяўчынка і хлопец, як дзеці,
Бядуюць, што ястрабаў так шмат на свеце.

[*1906—1912*]

## ВЁСКА

1

Горы ды каменне,
Вузкія палоскі:
Гэта наша поле,
Поле нашай вёскі.

Курныя аконцы —
Каб святла хоць трошкі:
Гэта нашы хаты,
Хаты нашай вёскі.

Лапці ды сярмягі —
10 Як абраз не боскі:
Гэта нашы людзі,
Людзі нашай вёскі.

Карчмы ды астрогі,
Крыжыкі, бярозкі:
Гэта наша доля,
Доля нашай вёскі.

2

Вёска, о ціхая вёска мая,
Колькі ты зносіш няшчасцяў,
Колькі бед зносіць сямейка твая,
20 Колькі дарэмных напасцяў!

Цёмныя ночы абселі цябе,
Скрылі дарожкі-пуціны.
Марная ўрода па ўсякай сяўбе,
Крывы, убогі хаціны.

Летам труд цяжкі, хваробы ў зіму;
Родзіць магіла магілу;
З свечкай прайдзі, страсяні старану:
Смокча бясхлебіца сілу.

Мучышся, вёска, няпраўдай старой...
30 Рукі працягнеш з надзеяй:
Неба заплача халоднай слатой,
Вецер уздохі развее.

Вецер і моц, знаць, табе прынясе
З песняй магучай, як воля,
Што перастоіш палацы ты ўсе,
Станеш да бою з нядоляй.

3

Там, за лесам-борам,
На апецы боскай,
Як нядолі сведка,
40 Села наша вёска.

Ёй няма спачынку,
Ёй няма пацехі,
Крышыць, ломіць вецер
І платы, і стрэхі.

А хоць і няўдала
Выглядаюць хаты,
Ходзяць к ёй у госці
Бедны і багаты.

І ўсё б чыста з вёскі,
50 Што маглі, забралі,
А што ж далі вёсцы?
Гэй! скажы, што далі?

Далі тую долю,
Што ўсе праклінаюць,
Далі тую волю,
Што ў няволі маюць...

[*1906—1912*]

## АБ МУЖЫЦКАЙ ДОЛІ

1

Дайце скрыпку мне маю.
Дайце мне мой смык!
Я зайграю, запяю,
Як жыве мужык.
Глянь: вялікае сяло —
Ветрам хоць развей,
Завяло ж там, завяло
Бяздолле людзей!
Бачыш, быццам чалавек,
10 Векам малады:
Слёзы лезуць з-пад павек,
Гнецца ад бяды.
Сіла згублена ў палях,
Сышла ні за грош,
Дыхавіца у грудзях,
У каленях дрож.
Колькі слава і рука
За жыццё цярпіць!
Адно доля бедака
20 Сном вячыстым спіць.
За ўсю працу, за ўвесь труд,
Звярнуцца к каму?
Камень голы там і тут
Платаю яму.
Летам выездабе ў пот
Мачыху-зямлю,—

Увосень схопіць недарод
За работу ўсю.
Зімой — холадам з сям'ёй
30 Воўкам завядзе,
На паліцу зуб вясной
З голаду кладзе.
Так ідзе за годам год,
І не паглядзіш —
Ачапіў Мікіту звод,
Лёг пад белы крыж.

2

Кепска жыці! дый што зробіш?
Цярпець мусіш як-нібудзь,
Грош заробіш, два праробіш,
40 Кроў, пот, слёзы век цякуць.

Няма ботаў — лапці носіш,
Абы толькі стала лык;
Штось украдзеш, штось заробіш,
Вось і сыт я, гад, мужык.

Ў тры пагібелі гну спіну
Перад тым, хто ссе мой пот;
Скажаш праўду — як скаціну,
Цябе злаюць на ўвесь род.

Цэлы век без перарыву
50 Гараваў, ракой пот цёк,
І вось — дайцеся ўсе дзіву —
Я ад беднасці не ўцёк.

Голы, босы хадзіў дзіцем,—
Цяпер стар, і ўсё ж не ўскрос:
Паглядзіце, пасудзіце —
Я таксама гол і бос.

Скора з чэрвямі сам-насам
Смерць папрэ жыць бедака,
Вы ж ці глянулі хто часам
60 На магілу мужыка?

Варта глянуць: крыж яловы
Пахіліўся, мохам зрос;
Насып, знаць, калісь дзярновы,
Дажджавы ручай разнёс.

Замест ружаў, геаргіняў —
Крапіва, лаза, палын,
А пад імі ў дамавіне
Ляжу ■ — нядолі сын.

Спачываю, пазабыты
70 І чужымі, і сваймі...
О, цяпер адзет і сыты!
Жыў з зямлі і спі ў зямлі.

Над мной восенню слатлівай
Ды зімоваю парой
Гудзіць вецер жаласліва
Песняй гораснай такой.

Вецер свішча, вецер стогне,
Жальбы шле ў выцці дзіком,—
Можа, сэрца чыё дрогне
80 І ўздыхне над мужыком.

### 3

Сагнуўшы плечы ў крук,
Араў зямлю Паўлюк,
Як чорны вол варочаў,
А з дня ў дзень, з году ў год
За плот шоў ўвесь прыплод,
Сам днём блудзіў, як ночай.

Так выйшла ўся моц з жыл,—
Араць не стала сіл,
Настаў канец дакукі...
90 З касою смерць прыйшла,
З сабой весць прынясла:
Пара складаці рукі!

Ўзяў шлюб з зямлёй Паўлюк,
Не гне ўжо плечы ў крук,

Быдлём не чэзне болей.
Памёр і не спазнаў,
Што на чужых араў
Ўвесь век чужое поле.

4

За сахой, бараной,
100 За сярпом і касой
З дня на дзень, з году ў год
Слёзы, пот лье народ,
А за гэта за ўсё
Што ж здабыў за жыццё?

Гэй, го-го! Гэй, го-го!
Мы жывём і пяём,
Хлеб наш людзі ядуць,
Мы ж мякіну жуём!..

З тапаром і пілой
110 Маразянай зімой
З дня на дзень, з году ў год
Шуркі ставіць народ,
А за гэта за ўсё
Што ж здабыў за жыццё?

Гэй, го-го! Гэй, го-го!
Мы жывём і пяём,
Аграваем другіх,
Самі холад клянём!..

На палац, на пакой
120 На спіне на худой
З дня на дзень, з году ў год
Бэлькі носіць народ,
А за гэта за ўсё
Што здабыў за жыццё?

Гэй, го-го! Гэй, го-го!
Мы жывём і пяём,
Дамы ставім людзям,
Самі мром пад вуглом!..

5

Як выйду за хату
120 На траву-лагі,
А што ж касіць буду,
Божа дарагі?

Ой, лю-лі, лю-лі,
Што ж буду касіць?..

Туды-сюды, сям-там —
Смех казаці людзям:
Сівец, аер, куп'ё —
Вось і ўсё, вось і ўсё!

*

Як выйду за хату,
140 Дзе дабро — шнурок,
А што буду жаць я,
Збіраць, везці ў ток?

Ой, лю-лі, лю-лі,
Што ж буду збіраць?

Туды-сюды, сям-там —
Смех казаці людзям:
Мятлу, гірсу, званец,—
Вось і ўсё, і канец!

*

Як выйду за хату,—
150 Бор шуміць, пяе...
А што ж буду сеч я,
Дзе хвойкі мае?

Ой, лю-лі, лю-лі,
Дзе дровы, бярно?

Туды-сюды, сям-там —
Смех казаці людзям:
Лаза, корчык, гніллё,—
Вось і ўсё, вось і ўсё!

*

Як выйду за хату,—
160 Дарога ідзе,
А куды ж, кудою
Мяне павядзе?

Ой, лю-лі, лю-лі,
Куды ж завядзе?

Туды-сюды, сям-там —
Смех казаці людзям:
У астрог, у карчму,—
Вось і ўсё усяму!..

II

Эх, дзяцюк, хама ўнук,
170 Сын бяды і працы,
Чаго прэш, як сляпы,
Ў панскія палацы?

Ці там сват, ці камрад,
Ці брат, ці сястрычка?
Ці цябе вабіць там
Панна-белалічка?

Ці табе па арбе,
Трудах, потам злітых,
Весялей, шчаслівей
180 Між паноў, між сытых?

А мо дзе на куце
Разам там саджаюць
І віном дарагім
Частуюць, прымаюць?..

Эх, Арцём! не твой дом —
Панскія парогі,
Не твае там дружкі,
Мой ты браце ўбогі.

Бач, стаіш і дрыжыш
190 З шапкаю ў парозе —

Вось якраз, як зімой
    З дрэвам на марозе.

А во, глянь, лепей стань,
    Кланяйся здалёку:
К табе аж пад парог
    Нясе чарку лёкай.

Трэба піць, закусіць
    Недаежай панскай,
У руку цмакануць
200 За прывет, за ласку.

А вунь, дзе панна йдзе,—
    Якія, ах, шаты!
Што глядзіш? — у яе
    Ёсць паніч багаты.

Як там ёсць, ты ўсё ж госць,—
    Думай і аб хаце...
Вось, сабак дворных дзе
    Не спаткай, мой браце.

Ну, пайшоў ты дамоў
210 Нязваны, нясланы,
Са слязой пад брывой,
    Нясыты, няп'яны.

Знаць, не так, небарак,
    Думаў разгасціцца:
За сталом з багачом
    Піці, весяліцца.

Што ж рабіць? трэба жыць...
    Слухай долі-маткі
І панам не хлюсці,
220 Пільнуй сваёй хаткі.

Цемнаце, беднаце
    Палац не стаўляўся:
Не такі ў ім народ,
    Каб на рэчы знаўся.

Вер, не вер, як не мер,
Мой гаротны браце,—
Дзе радзіўся, дзе ўзрос,—
Трэба і ўміраці.

7

Сажань шырынёю
230 Надзельны шнурок...
Пустыня, без гною,
Каменне, пясок...

Пад снегам адпрэла
Жытцо за зіму;
Прыхваціла, з'ела
Спека ярыну.

Бульба — як арэхі,
Як цвек — бурачок...
— Вось скарбы, пацехі
240 Твае, мужычок!

Багаты будзь з нівы,
Ўвесь чынш заплаці;
Будзь весел, шчаслівы,
Не пі, не крадзі!

Жый згодна з усімі
І Бога хвалі,
Не крычы з другімі:
«Свабоды! Зямлі!»

8

Нашто хлеб, нашто багацце,
250 Калі нам мякіны хваце?
Нашто боты, чаравікі,
Калі ёсць лаза і лыкі?
Нашто век зямлі хацеці?
Памром — сажань будзем меці!
Нашто новыя нам хаты?
Казна, двор і так багаты.

Нашто свет навукі шчаснай,
Калі слёзы свецяць ясна?
Нашто лек на гораболькі,
260 Калі маем манапалькі?
Нашто знаці ўсяго многа?
І так трапім да астрога!..

[*1907—1912*]

## ЖНЕЯМ

Красаваў, наліваўся
І даспеў шнур мужычы;
Час вам, жнейкі, на бітву!
Постаць кліча, ой, кліча.

Сонца ўзыдзе і зайдзе,
Не кідае зямелькі,
Правядзе і спаткае
Ў поле, з поля вас, жнейкі.

Выйшлі з хатак за вёску,
10 Гнуцца, бедныя, ў полі,
Толькі песню чуваці
Іхняй долі-нядолі.

Жніце, жніце, галубкі,
Сваю радасць і слёзы!
Трэба многа нажаці —
Прыйдзе зімка, марозы:

К той прытуліцца братка,
К той — маленькі сынулька,
А ўсё хлеба, ой, хлеба
20 Дай, сястрыца, матулька!

Ходзяць хмары па небе
З нейкай дзіўнай трывогай;
Чутна жнейкіна песня,
Нуды ў песні той многа.

Хто злічыў тыя каплі,
Што нам неба прыносіць?
Хто прыслухаўся, людзі,
Аб чым жнейка галосіць?!.

[*1906—1909*]

## ЖНІВО

Годзе, жытцо маё, годзе, наспелае,
З хмарамі, з бурамі знацца, дружыць;
Годзе шумеці, думкі нясмелыя,
Годзе загоны сабой харашыць!

Жнеяў прыйшла во дружына вялікая,
З песняй за дзела ўзялася сваё;
Серп, як маланка, ўскок бегае, сыкае,
Глуха снапамі кладзецца жытцо.

Сталі ў калючым аржонні з павагаю
10 Мэтлікі шнурам адзін за адным;
Сэрца забілась надзеі адвагаю:
Ёсць на што глянуць, пацешыцца чым.

Эх, заплаці ж, дабрыцо, ты аратаму
За яго ў полі ўвесь труд над табой:
Дай ты багацце яму, небагатаму,—
З клеці не зводзься ягонай пустой.

Хай яго збудуцца думкі, адналеча
Гэтулькі вынесе, выцерпе ён,
З году у год аручы, засяваючы,
20 Потам, крывёю абліты загон!..

[*1906—1912*]

# НАД НІВАЮ Ў НЕПАГОДУ

1

Постаць нязжатая слотамі гноіцца,
Птушкай цярэбіцца, ветрам малоціцца.
    Колас сагнуўся, змяшаўся з гразёй;
Зжатыя снопікі ў мэтлях валяюцца,
Віхрам зрываюцца, зерне зрастаецца...
    Як жа ты, шнур наш, глядзіш сіратой!

Столькі і працы, і поту загнанымі
Ўложана ў ніву скупую сялянамі,
    Столькі пайшло уздыхання, мальбы!
10 Гляньце — усё нішчыцца злой непагодаю,
Неба не зжаліцца над зямлі ўродаю,
    Неба не чуе ні скарг, ні кляцьбы.

Сэрца забытых крывёй абліваецца,
Доля няшчаснага ў полі бадзяецца,
    Рады знікуль не відаць і не чуць;
Думы ўзнімаюцца, думы маркотныя:
Што бедакі, хлебаробы гаротныя
    Холадам, голадам зімнім пачнуць?

Белай пялёнкаю снег разлягаецца,
20 З гікам мяцеліца дзіка ўздымаецца,
    Ў сцены бязлітасна валіць мароз...
Дзе тут схавацїся, дзе прытуліціся?
Дзе на кусок хлеба ў сцюжу разжыціся?
    Божа... а слёз тых, о, колькі тых слёз!..

2

І чаго ж, непагода слязлівая,
Непрасветна вісіш над зямлёй?
Што ўрадзіла нам ніва убогая,
І таго не сабраць за табой!

У пракосе, ў капе, дый няскошана
30 І стаіць, і гніе сенажаць;
І ў снапах, і нязжатым бадзяецца
Дабро ў полі, аж слёз не стрымаць.

І не хочаш ты гору мужычаму
Спагадаць, непагода, ані;
Не глядзіш, як ён будзе праводзіці
З дзецьмі, з жонкай зімовыя дні...

Што пачне ён, бядак, як рассцелецца
Белы свет на дварэ, на страсе?
Чым сямейку карміць яму прыйдзецца
40 І трасянкі з чаго натрасе?

Дзіцё плакаці будзе галоднае,
Будзе ў хлеве кароўка рыкаць,
Будзе сам ён стагнаць, а мяцеліца
Будзе выць, будзе ўсім падцінаць.

[*1907—1909*]

## ЗІМА

### I

На марозе, на мяцеліцы
Прынёс сівер зіму срогую;
Людцы песняй не вяселяцца,
Ў хаты крыюцца з трывогаю.

Ўсё замёрзла пад пялёнкаю
Снегу белага, халоднага;
Страх мецъ холад над старонкаю
Для убогага, галоднага!

Не плач, бедны, слязой горкаю!
10 Да вясны трэба памучыцца:
Ўзойдзе доля новай зоркаю,
І няшчасным папець лучыцца.

Мей надзею ў сэрцы ясную,
Што не век зіма паношыцца,
І без жальб, што шлеш напрасныя,
Слёзы высахнуць па крошачцы.

II

Белы стрэхі, бела поле;
Змоўкла птушак сакатанне.
Гайда, Янка! Вось раздолле!
20 Кінь калёсы — выладзь сані!

Заскакаў мароз па сценах,
Віхры ў коміне галосяць;
Дроў у хаце ні палена,
Дзеці, жонка есці просяць...

Не пужайся гэткіх хмураў:
Шмат у горад шурак трэба;
Хай жа дрогне лес пануры,—
Папрасі сякерай хлеба!

Гайда, жыва! Што не ў меру
30 Там трасешся, як у трасцы?
Насталі сваю сякеру,
Хай у пушчы стук раздасца!..

Ты худы, кабылка худа —
Хвойку вывезлі, аж міла!
Даказалі-такі цуду:
Конь, мужык на свеце — сіла!

[*1908, 1911*]

* * *

Праз што плачаш, мужычок?
— Праз людзей і неба.

Чаго хочаш, мужычок?
— Трохі солі, хлеба.

Калі шчасліў, мужычок?
— Як водкі нап'юся.

Калі грозен, мужычок?
— Як з жонкаю б'юся.

Праз каго сыт, мужычок?
10 — Праз свой труд і сілу.

А не ў крыўдзе калі ты?
— Як лягу ў магілу.

*[1906—1912]*

## ПЕСНЯ СІРОТКІ

Трэба мне, сіротцы, доля.
Ой, трэба:
Няма хаткі, няма поля
І хлеба.

На тым свеце бацька, маці
Ў магіле,—
Сама я запрацаваці
Не ў сіле.

Хто ж адзецца, пракарміцца
10 Паможа?
Дзе падзецца, прытуліцца,
Мой Божа?

Пайду к дрэўцу прытулюся,
Заплачу;
К зоркам думкай памалюся
Бядачай.

Пашлю скаргу, хай нясецца
За мора,
Як мне цяжанька жывецца,—
20 Гавора.

Мо не льюць там слёз напрасна
Паводкай,

Маюць літасць над няшчаснай
Сіроткай.

Стогне бор, віхры зрываюць
Плёт з стрэхаў,—
Мае жальбы заміраюць
Без рэха...

[*1906—1912*]

## З ПЕСЕНЬ БЕЗЗЯМЕЛЬНАГА

### 1

Нівaў загоны,
Лес, сенажатка,
Садзік зялёны
І гэта хатка —
Не нашы, братка...

Сёлета гэта
Выарам гладка,
Далей на лета
Чуць-чуць з апраткай
10 Цягнемся, братка.

Потам абліта
Ніва і градка,
Наша рунь жыта
Дый сенажатка —
Панскія, братка.

А хоць нам трэба,
Так, неспагадка,
Мець кусок хлеба,—
Вер, будзе святка
20 І ў нас, мой братка!

Пройдзе, як вейка,
Крыўда і звадка,
Будзе зямелька,
Будзе і хатка
— Ў магілцы, братка!..

2

Як спыніўся я за хатай,
Як пайшоў,—
Ні прыстанішча, ні свята
Не знайшоў.

30 Свецяць зоры дабрадзейна,
Зіхацяць,—
Маёй толькі беззямельнай
Не відаць.

Я з рукамі позна, рана
К сім і тым:
І к сваёму, і да пана,—
Служу ўсім;

І ару, і барануюю,
Засяю,
40 На ўрадлівасць жа гляджу я
Не сваю!

Пастыр стадка ў поле гоніць
І пяе:
Дзе ж кароўкі, валы, коні,
Дзе мае?

Ці на небе хмары тыя,
Ці ў вадзе?
І сюды я, і туды я —
Ой, нідзе!

50 За кусок той хлеба чорны
Ты аддай
Сілу, думкі,— будзь пакорны
І чакай!..

Нямой рыбай аб лёд біся
Век-вяком
І ў магілку паваліся
Бедаком.

Вецер енчыць, свішча ў полі,
Вольна дзьме,
60 Кляне, моліцца ў нядолі
За мяне.

Ходзяць хмары чарадою
Над зямлёй,
Плачуць, плачуць нада мною
Сіратой...

3

Што за шчасце, што за доля,
Мой Божа!
Ані хаткі, ані поля,
Ні збожжа!..

70 Па чужых кутах бадзяцца
Век трэба,
І гавець, і адгаўляцца
Без хлеба.

Гінуць сілы над чужою
Работай.
Заліваешся слязою
З ахвотай.

Ці тут п'яўкі, ці тут людзі —
Хто зведаў? —
80 Адно ўнуку сохнуць грудзі,
Як дзеду.

Жывеш, мучышся без толку,
Без волі,
Хоць жывы лезь у дамоўку
З нядолі.

Пайду к пушчы загукаю
Да зоркаў,

Як мне ў бедным родным краю
Жыць горка...

90 Што за шчасце, што за доля,
Мой Божа!
Ані хаткі, ані поля,
Ні збожжа...

4

Растапіліся гурбы,
Зачарнелі скібы,—
Гайда, беззямельнік!
Пашукай сялібы!

Шмат зямлі на свеце,
Шмат на свеце хатак,—
100 Толькі беззямельных
Мінуў гэты датак...

Скідае куточак,
Азярняціць поле,—
Бач, пагналі далей,
Гоняць без патолі!

Пхнецца беззямельнік,
Стогне, уздыхае,—
Падпякае сонца,
Дождзжык палівае.

110 Вецярок калыша,
Як галінку тую,
Песеньку заводзіць,
Як жыццё, старую...

Не ўздыхай, мой родны!
Знойдзеш,— прыйдзе свята:
Слаўным, роўным станеш
З бедным і багатым!

З чатырох дылёвак
Будзеш мець мясціну,
120 На век вечны поля
Роўна тры аршыны.

Ляжаш там, заляжаш,
Бедачок сярмяжны,
У дзянькі і ночкі
Ціха і паважна...

А цяпер, сягоння,
Па лясах, па скібах,
Гайда, беззямельнік,
Пашукай сялібы!

5

130 Паляці ты лесам, полем,
Голас неразвейны,
Аб той долі ці нядолі,
Долі беззямельнай.

Ці ж не пан я, не вяльможны?
Бойцеся вы Бога!
Нават злодзей, на ўсё сквапны,
Не ўкрадзе нічога.

Маё поле, мае гоні —
Воблакі сівыя,
140 Маё стадка, мае коні —
Хмары вараныя.

Маё поле арэ вецер
І пасе скаціну,
Што бушуе падчас лішне
Ў летнюю часіну.

Мой палац, хто ведаць хоча,—
Неба прастор гэты,
Што ўдзень сонцам, зормі ночай
Свеціцца адзеты.

150 Ніхто не пераарэ мне
Мяжы ў маім полі,
Там падаткаў не плачу я
Нікому, ніколі.

Як узойдзе маё поле,
Высокая ніва,

Туды мчацца мае думкі
Па сваё па жніва.

Мчацца думкі, звіняць песні
Вольна, неразвейна
160 Аб той долі ці нядолі,
Долі беззямельнай.

6

Ой, скажы ты, беззямельнік,
Вашэці,
Скуль ты ўзяўся, бедачына,
На свеце?

Ці скрасілі цябе лёды,
Марозы?
Ці вылілі цябе воды
Са слёзаў?

170 Дзе ўзрастаў ты, беззямельны,
Хаваўся?
Пад якой страхой, мазольнік,
Бадзяўся?

Ці пад плотам-частаколам
Багатых,
Ці на прызбе родных сёлаў,
Пад хатай?

Хто атуліваў малога
Ў пялёнкі?
180 Хто пеў песні пры калысцы
Ў пацёмкі?

Ці то вецер, што без толку
Галосіць
І з бядачых хат саломку
Разносіць?

Чым ты хрышчан, які меў ты
Адзетак?
Чым кармілі цябе людзі
Шмат летак?

190 Ці то потам, знемажэннем
Нязменным,
Ці то крыўдай, паніжэннем
Штодзенным?

Хто вучыў цябе, малога
Дзіцяцю,
Як шукаць на свеце долі,
Багацця?

Ці паводкі, што свет рыюць
Вясною,
200 Ці мяцеліцы, што выюць
Зімою?

Ой, чаго ты спадзяваўся
Ад свету,
Як з'явіўся на зямельку
На гэту?

Ці карчомкі таёй п'янай,
Гуляшчай,
Ці цямнічкі акаванай,
Лядашчай?

210 А як смерць на цябе, мілы,
Надойдзе,
Дзе магілка твая будзе,
Крыж твой дзе?

Ці ў чужым далёкім краі,
Ў няволі,
Ці пад родным лесам, гаем,
У полі?

Ну, дакуль жа ты ўсё будзеш
Марнеці
220 Без прыпынку, без пацехі
На свеце?

З дня на дзень бядак чакае
Ўсё сонца,—
Раса вочы выядае
Бясконца.

## 7

Ох, як гляну, гляну я
На жыццё паганае,
Ціснуць думы знаныя,
Жалем выліваныя.

230 У цябе, саколіка,
Ані свайго полейка,
Ані свайго воліка,
Ані свайго століка.

Ходзіш ты вячорамі
З ціхаю пакораю,
Бачаць неба з зорамі,
Полейка з разорамі.

І клянеш напэўнае
Гора неразвейнае,
240 Долю пустасейную,
Долю беззямельную.

Толькі думы думныя
Чуюць хмары буйныя,
Хвойкі, елкі шумныя
Дый не людзі чуйныя.

Вось, як гляну, гляну я
На жыццё паганае,
Бачу ўсё мне знанае,
Слязьмі паліванае.

## 8

250 Дзе мой дом, дзе ты, хата мая,
Дзе загон хлебадайнай зямлі?
Сам — з бядой, ні жыцця, ні пуцця!
Знай, гаруй ды магілку хвалі.

Дзень і ноч нада мной, сіратой,
Стогне, сцелецца стада хмурын,
Дзень і ноч то слязой, то крывёй
Сцежку росіш адзін, сам адзін!

З году ў год злыдні з кута ў куток
Пруць у свет, свету знаць не даюць;
260 Як вятрышчы сарваны лісток,
Падхапілі, нясуць і нясуць.

Знай, нясуць, вось скруцілі, згнялі,
А ўсё пруць, усё ў свет, на той свет;
Вось і звон, шмат званоў... Загулі...
Бач, труна, пры труне адзін дзед.

Жыў, не жыў, шчасця знаў, не зазнаў,
Палажылі ў дамоўку — ляжы!
Дайце ж камень на грудзь, каб не ўстаў
Беззямельнік, гаротнік сляпы!..

[*1907—1909*]

## ЧУЖЫМ

Мы вас прынялі хлебам і соляй,
Людзі чужыя;
Ўстрэлі вас ласкай нашага поля
Кветкі жывыя.

Нашы сасонкі шумнага бору
Далі вам хаты,
Далі загонаў нашых разоры
Гонар багаты.

Пух і аўчынкі нашага хову
10 Грэлі зімою.
Птушкі вам гралі з нашай дубровы
Гімны вясною.

Ценем тулілі вас у спякоту
Нашы чарэсні,
Нашыя жнейкі ў жніўну работу
Пелі вам песні.

Вашым патомкам нашыя маткі
Казкі складалі:
Ў сэрцах дзіцячых праўдаў пачаткі
20 Сеў засявалі.

Верны славянскім спадкам, браточна
Ў госцях вас мелі,
І шанавалі людска, святочна
Ў будні, ў нядзелі,
. . . . . . . . . . . . .

Сотні лет песцім днямі і ночай
Госця на шыі —
Змея, што з пуняў скарбы валоча,
Скарбы чужыя.

Вы ўжо забылі, людзі здарэння,
30 Дзе ваш прыпынак,—
Вывелі ў гандаль славу, сумленне —
Праўду на рынак.

Слепа зракліся сораму, ўвагі,
Ў хорамы селі,—
Брацціям жа ўздзелі лапці, сярмягі,
Торбы надзелі...

Людзі чужыя! Хтось калісь зліча
Вашу нам шкоду:
Зліча праступкі... к суду пакліча
40 Крыўда народу.

[*1906—1912*]

## НАША ПЕСНЯ

Зазвіні ты, як звон, і удар, як пярун,
Песня наша, як воля, магучая!
Хай крыўдзіцель дрыжыць, як падбіты каршун,
Хай нясуцца ў свет рэхі грымучыя!

Хоць нуды ў табе шмат вылівана слязьмі,
Дума-песня не хітра складаная,
Але нашая ты: недруг, спробуй, вазьмі!..
Ты не можаш быць, песня, скаванаю.

Як на небе зара ці як думка ў душы,
10 Не скуешся няволі ты путамі:
Ты, як той салавей, зазвініш і ў глушы,—
Запяешся людзьмі і закутымі.

Пей жа, песня, дзень, ноч, песня, родная нам,
Апявай жыццё наша праклятае,
І зайграй ты па сэрцу хоць раз бедакам,
Научы, як знайсці шчасце багатае.

Зазвіні ты, як звон, і удар, як пярун,
Песня наша, як воля, магучая!
Хай крыўдзіцель дрыжыць, як падбіты каршун,
20 Хай нясуцца ў свет рэхі грымучыя!..

[*1907—1912*]

* * *

Падсякайце тое дрэва,
Што ў корні ўсыхае;
Не ўважайце таго сэрца,
Што жалю не мае.

Страшце птушку, праз якую
Свойская загіне;
Забывайце песню, што вам
Вораг ваш накіне.

Ой, гадуйце, падлівайце
10 Гай жывы, зялёны:
Сэрцу добраму давайце
Добрыя паклоны.

Паважайце тую птушку,
Што крыўды не робе;
Не цурайцесь роднай песні
Ў шчасці і ў жалобе.

*[1906—1912]*

## У ВУЧЫЛІШЧА

Клумак з кніжкамі пад пахай,
Думак поўна галава,—
Там у школу даўным шляхам
Сыпе сельская дзятва.

Гурмам сыпе да навукі,—
Знаць ахвоту, ўвагу знаць:
Як жа, трэба знання штукі
Сходаць, скеміць, пераняць!

Буквы з памяці той клеце,
10 Той «таблічку» ў нос бурчыць;
Адным словам, яшчэ дзеці,
Адным словам, трэба ўчыць!

*[1906—1912]*

## ДЛЯ ЯНІНКІ

Для Янінкі, для цёзкі,
Шлю паклон шчыры з вёскі:
Жычу весела расці, ўсе навукі перайсці,
І шчаслівa, і ахвотна,
Ды без сумнасці маркотнай
Песні пець
І ляцець

Па-над борам
К сонцу, к зорам,
10 З вольнай думкай па-над гаем,
Па-над нашым бедным краем...

*

Для Янінкі, для цёзкі,
Шлю паклон шчыры з вёскі:
Жычу, после ўсіх навук без прынукі і дакук,
Жыці з мужам, а багатым,
Каб была век доля святам,
Добра жыць
І любіць
Дружку дружка,
20 Як пяюшка —
Птушка птушку, што век звонка
Славіць нашую старонку
І са мною для цёзкі
Шле паклон шчыры з вёскі!..

*[1911]*

# 1913

* * *

Снілася дзяўчыне
Квяцістае поле,
А наяве выйшла —
Палыны, гуголле.

Снілася дзяўчыне
Воля і багацтва,
А наяве выйшла —
Няволя, жабрацтва.

Снілася дзяўчыне
Дома жыць да смерці,
А наяве выйшла —
Ў чужакоў памерці.

*1913*

## «БРАТКА І СЯСТРЫЦА»

*(З народнага)*

Ой, у лузе у зялёным,
Каля быстрай рэчкі,
Маладзенькая дзяўчына
Пасціла авечкі.

Залатое сонца з неба
Грэла, спаць гарнула,
Аж пастушка у цянёчку
Лягла і заснула.

Па гасцінцы жаўнеранька
10 Знекуль заблудзіўся,
Ён к дзяўчыне маладзенькай
З сядла нахіліўся:

«Ўстань, галубка, маё сэрца,
Годзе спачываці,
Кладзі ножкі у страмёна,
Будзем вандраваці!»

Уставала маладзенька,
Ножкі ў стрэмя клала
І з малойчыкам удалым
20 У свет вандравала.

Едуць поле і другое,
Ўз'ехалі на трэцце,
Пад дубочкам пад махнатым
Селі пасядзеці.

Прытуліўся жаўнеранька
Да грудзей дзявочых,
Абдымае і цалуе
Губанькі і вочы.

Гэтак песцячы галубку,
30 Стаў яе пытаці:
«Скуль, дзяўчынка, будзеш родам,
Хто твой бацька, маці?»

А яна яму гаворыць,
Пахіліўшысь нізка:
«Старшыні я дочка буду
З гэтай вёскі блізкай».

Спахмурнелі ясны вочы
Ў хлопца маладога;
Ён адказу ад дзяўчыны
40 Не чакаў такога.

«І я,— кажа жаўнеранька
Да таей дзяўчыны,—
З той жа самай вёскі родам,
Сын таго старшыні!»

. . . . . . . . . . . .

Зацямнілі хмары неба
Чорнымі крыламі,
Пачалася шура-бура
З громам, з перунамі.

І ударыў перуночак
50 У два сэрцы тыя,
Што пасмелі сневаць грэшна
Думкі маладыя.

Пад тым дубам іх абое
Пахавалі людзі,
Насып сыпалі жвіровы
На вочкі і грудзі.

На тым наспе ўзышлі кветкі,
Як вясной снег стаяў,—
Адна жоўценькая кветка,
60 Сіняя — другая.

Хто ў магілцы спіць, успелі
Людзі ўжо забыцца,—
Тыя ж кветкі ахрысцілі:
«Браткай і Сястрыцай».

*1913*

## У БЯССОННУЮ НОЧ

Ах, як страшна мне гэта бяссонная ноч!
Колькі мукі, цярпення прыносіць з сабой!
Я змагаюся з ёй, ад сябе ганю проч,
Дый самлела ўпадаю з сваёй барацьбой.

Разарваў бы, здаецца, я грудзі свае,
Сэрца б вырваў і кінуў на ўцеху ўрагом...
Дайце смерць, хай не чую, што ноч мне пяе!
Дайце сілы!.. О Божа! Нікога кругом!

Ах! што гэта? — Раскрылася неба й зямля,
Рай і пекла змяшаліся ў процьму ў адну,
Здань за зданню паўзе, кожна здань — як змяя,
Тая прэцца уверх, тая ціснецца к дну.

Абняліся з сабой у шалёну гульню,
Вочы прыскам зіяюць, з губ коціцца дым...
Гэй, дружкі, што спіцё? Дайце жыва агню!..
Скуль іх столькі ўзяло, што ім трэба усім?

Путы звонка бразджаць і ўгары, і ўнізу,
Жудка вісельні граюць, слізгоча пятля;
Той аблiўся крывёй, той сцірае слязу...
Што за людзі — звяр'ё?! Ах, якая сям'я!

Мілы братка ты мой, ці ты жыў, ці памёр?
Што так плечы сагнуў, як нявольнік дрыжыш?
Грудзі ўпалі твае, рукі цягнеш да зор,
Над табой, прад табой, ах, які чорны крыж!

Служка польскага пана, твой брат і мой брат,
З бізуном над табою, як кат той стаіць...
Божа праведны, Божа! над братам, брат — кат!..
І за што ж катам той, а той гэтак цярпіць?

А што тут? Разам тут і дзяўчынка-краса...
Я галубіў калісь... Твар чаму твой бляды?
Пакрываўлены грудзі, зблытана каса...
І чаго ж і зашто ты папала сюды?

Брат, паэт! І ты тут — як быдлё, ў ланцугах...
Дзе свабодны твой дух, што не рвеш ты кайдан?
Божа! Золата йскрыцца ў кастлявых руках...
Песняй роднай таргуе, як коньмі цыган.

Адбіваючы тут жа паклоны плашмя,
Нейкі нехрысць крапідлам махае, пяе
Ды шыпіць, як гадзюка, Хрыстова імя,
І за золата гэта імя прадае...

І там здань і тут здань, закружыліся ўкруг,
Кругам труцень у бляшках бліскучых спавіў,
Усіх іх у жалезны ржавелы ланцуг,
Сэрцы рве і грызе, шнурам шыі здавіў.

Цень пры цені, над ценьмі той крыж у крыві,
Чорны крыж, як бы змора лунае ў высі,
Як бы змора вісіць... Стогн адно: не даві!
Не губі, да Хрыста сцежку дай, данясі!..

Разыграліся гурмай за зданяю здань,
50 Як вужакі ў гаршку, мітусяцца яны,
Песню выюць хаўтурна: ты ляж, а ты ўстань!..
Здалі чутна, па-воўчаму выюць званы.

І пачатку няма і канца ім няма!..
Ці тут ява, ці сон?.. Проч, вы здраднікі, проч!
Ах, скарэй бы дзень вечны, ці вечная цьма!
Яна згубіць мяне, бессанлівая ноч!

*1913*

## ЎСЮДЫ ЛЕТА...

Ўсюды лета, лета,
Гулі строіць сонца,
Шалясціць зялёны
Колас на саломцы.

Выйдзі, закрасуйся,
Як зара да ўсходу,
Пакажыся свету,
Свету ды народу!

І з праменняў яркіх,
10 Яркіх, зіхацістых,
Ты сатчы апратку,
Як бы з кос агністых.




Вокладка зборніка «Шляхам жыцця». 1913 г.



Карэктура зборніка «Шляхам жыцця» з аўтарскімі праўкамі



Янка Купала.
Пецярбург.
1912 г.



Уладзіслава
Станкевіч.
1913 г.



Янка Купала
і Вацлаў
Ластоўскі
ў рэдакцыі
газеты
«Наша ніва».
1913 г.



Чарнавы аўтограф
верша
«Забраны край»



Акопы



Валун, ля якога любіў адпачываць
Янка Купала



Уладзіслава Станкевіч *(справа)* з сяброўкай Ядвігай Родзевіч.



Уладзіслава Станкевіч і Чэслаў Родзевіч [?]. 1914 г.



Аляксандр
Уласаў



Яўген
Хлябцэвіч



Антон
Луцкевіч



Вацлаў
Ластоўскі

З васілёчкаў сініх,
З муравы зялёнай
Ты спляці вяночак,
Ты спляці карону.

Ў серабрысты росы,
Бы ў брыльянты тыя,
Ты ўцвяці убор свой,
20 Шаты залатыя.

Заясней, зардзіся
Ў славе неразвеўна,
Нібы дзіва тое —
Ў казцы каралеўна.

Пакажыся свету,
Свету ды народу,
Родная старонка,
Як зара да ўсходу!

*1913*

## НЕ ШУКАЙ...

Не шукай ты шчасця, долі
На чужым, далёкім полі,
Гэт, за шумным лесам-борам,
За шырокім сінім морам
Не шукай ты шчасця, долі!

Ты ўсё знойдзеш гэта блізка,
Там, дзе маці над калыскай
Табе песні напявала,
Як малога калыхала,
10 Толькі ўмей шукаці блізка!

*

Не шукай сабе дружакаў
Між чужынцаў, між піяўкаў,
Ні у месцы, ні ў палацы,
Ні пры лёгкай панскай працы,—
Не шукай ты там дружакаў!

Ты іх знойдзеш вельмі блізка,
Каля хаты, каля нізкай,
Дзе ганяў жывёлу змалку,
Дзе касой махаў на ранку,
20 Толькі ўмей шукаці блізка!

*

Не шукай сабе, мой братку,
З ветрам Бацькаўшчыну-матку
Ні на сушы, ні на моры,
Ні у шчасці, ні у горы,
Не шукай яе там, братку!

Яе знойдзеш вельмі блізка,
Як знаходзіць лес вятрыска,
Толькі ў сэрца глянь сваё ты
І ў душу заглянь з ахвотай,
30 Знойдзеш Бацькаўшчыну блізка!

*1913*

## З ВЯСНОЙ

Як сышла святая
Вясёласць вясны,—
Цэлы свет скідае
Зімавыя сны.

Сэрца шчасцем б'ецца,
Кроў кіпіць агнём,

Песня раздаецца:
Болей не заснём!

Песня ўвысь імчыцца,
10 Як званоў біццё;
Кожны весяліцца,
Блаславіць жыццё.

Гаманяць народы,
Як тэй пушчы шум.
Колькі тэй свабоды!
Колькі светлых дум!

Згінуў сон нягодны,
Дзе ні паглядзіш...
Чаму ж ты, край родны,
20 Як забіты спіш?

*1913*

**ПЕСНЯ**

*(З народных матываў)*

Ах, адкуль жа гэта вестка,
Што удовіна нявестка
Мужа роднага зраклася
І чужому прадалася,
    Як пайшоў муж на вайну
    Ў чужадальню старану?

Спадабала маладога,
Як яшчэ ў жыцці нікога,—
У садочак з ім хадзіла,
10 Зоркі ясныя сачыла.
    Не знаходзіла аднэй,
    Што свяціці мела ей.

А удоўка сыну піша,
Што нявестка ўжо калыша
У калысачцы малое
Не яго, але чужое...
    Прыязджай хутчэй, сынок,
    Бяры жонку пад замок!..

Не бядуй, удоўка-маці,—
Ўсёй бяды не збедаваці — 20
З чужадальняе старонкі
Сын твой вернецца да жонкі,
    Будзе суд над ёй судзіць,
    Як з другімі ў сад хадзіць.

Стаў пісьмо сынок чытаці,
Што пісала ўдоўка-маці;
Каня быстрага сядлае
І дахаты паспяшае,
    Дзе яго чакае ўжо
    Маці, жонка і дзіцё. 30

Як прыехаў ён дадому,
Не йшоў кланяцца нікому,
Толькі жонку сваю ўбачыў,
Як над дзіцем горка плача,—
    Даставаў ён востры меч,
    Галаву знімаў ёй з плеч.

З маткай роднаю страчаўся,
Не вітаўся, не прашчаўся,
Не маліўся Спасу-Богу,
Зноў каня сядлаў ў дарогу,— 40
    З ветрам буйным ехаў жыць,
    Галаву навек злажыць.

*1913*

## БУДЗЬ СМЕЛЫМ!..

Будзь смелым!.. Магутна ярмо друзгачы!
Ідзі сам наперад, другіх ведучы!

Будзь смелым!.. Не вер у людскую брахню,
Вер толькі ў адвагу і сілу сваю!

Будзь смелым, хоць путалі б злыдні ўвакруг,—
Адважным ваякам не страшны ланцуг!

Будзь смелым, як вецер, як воля сама!
Знай, смелых не чэпе ні крыўда, ні цьма!

Будзь смелым, як бура, што крышыць дубы,
10 А будзе твой верх, тваё права ўсягды!

*1913*

## НАВУКА

Знаем мы навуку,
Знаем не адну:
Дзедаў дзед праўнуку
Перадаў сваиму...

Ўстаці рана-рана,
Позна легчы спаць,
Працаваць дап'яна,
Ў поце працаваць.

Што было учора,
10 Мець ва ўсім гаду,
Сеяць зерне-гора,
Жаць жніво-бяду.

Абіваць парогі
Сыценькім людзям,
Кланяцца у ногі
Злыдням і трутням.

Беспрыпыннай зданню
Мерацi зямлю,
Вiць па прыказанню
20 Сам сабе пятлю.

Ў брэдняў верыць кучы,
Ў што не вера той,
Хто нас гэтак вуча
Летам i зiмой.

Ў родным краю, ў хаце
Быцi чужаком,
Праўданькi шукацi
Ў брата кулаком.

I душу, i сэрца
30 Весялiць карчмой,
А як лiха ўпрэцца,
Падружыць з турмой.

З боскага суджэння
Без пары сканаць,
За ўсе тут мучэннi
Ў пекле мук чакаць.

Гэткую навуку
Знаем не адну,
Дзедаў дзед праўнуку
40 Перадаў свайму.

*1913*

## ЛЕТАМ

Выйду, сяду каля саду
У зацiшнай старане
I дзiвiцца буду цуду,
Што цуднее ўкруг мяне.

Як для света грае лета
Песню спеўную быцця;
Праслаўленне небам, хлебам
Шле сам Бог, сама зямля.

Звоніць поле доляй, воляй,
10 Звоніць поле ў каласкі;
Ў буйным лузе ззяюць, граюць
Кветкі, мошкі, матылькі.

Рэчка ўецца і смяецца
Да зялёных лоз і вольх,
А ў вадзіцы шыбка рыбка
Шмыгаціць на паплаўкох.

Лес адвечны бесканечны
Цягне, цягне гоман свой;
Між хвой скачуць птушкі-ўюшкі
20 І пяюць, што моцы той.

А на небе след цярэбе
Сабе сонца залаты,
Свеціць, грэе долы, горы,
Ў сэрцы шле агонь святы.

Так для света грае лета
Песню спеўную быцця...
Чаму ж мне ў ім стала мала
І пацехі, і жыцця?..

*1913*

## З ВЯЧЭРНІХ ДУМ

Як нябеснае згасне за лесам святло,
А ноч крылле распусціць па ўсёй Беларусі,
Штось мне шэпча: ідзі! Я іду за сяло
І на ўзгорку пад крыжам паклонным саджуся.

Счараваны вячэрняй глухой цішынай,
Прыслухаюся шэпту далінаў і гораў;
Недзе-недзе губляюцца нікла са мной
Задуманыя вочы ў нязгледным прасторы.

Тонуць думы ў спакоі трывожна-святым,
10 Над зямлёй расплываюцца з сумнай цямрыцай
Аж да высі, што макам мігціць залатым —
Мільёнамі зор без канца, без граніцы.

Ночна-сонная даль мае мову сваю,
Былі з'яўныя шорахам тайным складае,
Песню з небам снуе — праслаўляе зямлю;
Ў песню лучыцца гэту душа маладая.

Аб кяцістым зямнога жыцця харастве,
Аб праменнях, што долю галубяць людскую,
І аб з сілай благою пабеднай бітве
20 Чую голас прарочы і ў думках мяркую...

Гледзячы, як загон наш калоссямі спеў,
А сявец яго радасна з сонцам сваіўся,
Песню далі і неба таксама я пеў,
А калі?.. Знаць, тады, як яшчэ не радзіўся!..

*1913*

## ТУТЭЙШЫ

На чужы розум я не ўмею браць,
Па-свойму я мяркую аб усім;
Трапляю дровы сеч, касіць, араць
І сеяць — штось сабе, а штось другім.

Я не чыноўнік і не граф, не князь,
Таксама — я не турак і не грэк,
І нават не паляк і не маскаль,
А проста я тутэйшы чалавек!

*

Ў святую веру моц, здароў ці квол,
10 Набожна ў цэркаў і ў касцёл хаджу,
Хаця ў царкве крычаць: не йдзі ў касцёл,
А у касцёле — не хадзі ў царкву.

Калі ж каго бы стрэліла спытаць:
Якой ты веры? ужо ж бы так адсек:
Тутэйшай веры я, каб не салгаць,
Бо я і сам тутэйшы чалавек!

*

Мяне Бог не пакрыўдзіў языком
(У жонкі ж меле ён, як калаўрот),
Мне з прадзедаў застаўся ён з жыццём,
20 З ім ведае мяне чужы народ.

А вось якой я мовай гавару,
Хоць пры, каб сцяміць, к знахару па лек...
Ну што? скажу: тутэйшая яна,
Як я і сам тутэйшы чалавек!

*

Ад прадзедаў і бацькаўшчыну ўзяў —
Вялікая, багатая яна! —
Граніц ніхто йшчэ вокам не абняў,
Як Бог адзін — яна ў мяне адна.

А як завуць край гэты родны мой —
30 Забыўся ўжо праз свой прыгон і здзек;
Мабыць, забраны, ці тутэйшы ён,
Я ж сын яго — тутэйшы чалавек!

*

Вось так не то жыву і не жыву,
Сваім, што бачу, не веру вачам,
Што чую — не бяру у галаву,
І што я знаю — ўжо не знаю сам.

Спаўняючы, што трэба, а што не,
Сяк-так мой цягнецца на свеце век,
А як памру, то буду спаць, як пан,
40 І сніць, што я тутэйшы чалавек!

*1913*

## КОЦІЦЦА КРЫНІЦА...

Коціцца крыніца,
Коціцца далёка,
А над ёй бядуе
Вольха адзінока:

— Ой, плывеш ты, рэчка,
Бурна і прасторна,
А я прыкавана
Да зямелькі чорнай!

Рэчка адказала:
10 — Хоць плыву, не ўстою,
Але берагі мне
Не даюць спакою.

Жалілася вольха
Ветру сваёй доляй:
— Ты — свабодны, вецер,
Я жыву ў няволі.

Зашумеў ёй вецер:
— Хоць гуляю вольна,—
Выдзірае лес мне
20 Вочы беспатольна.

Вольха плача далей,
Плача чалавеку:
— Ты жывеш, як хочаш,—
Я марнею ў здзеку.

Голас чалавечы
Вольсе адазваўся:
— Ты йшчэ хоць бядуеш,—
Я ж — адбедаваўся.

Ты хоць ажыўляеш
30 Выгляд свой вясною,—
Я сплю адналькова
Летам і зімою.

*1913*

## СТАНОГАЕ ЛІХА

Станогае Ліха-Нядоля
Валочыцца з поля на поле;
А вочы ў яго — што ў начніцы,
А рукі ў яго — чараўніцы.

Дзе ступіць — там кроў выступае,
Дзе гляне — там крыўда сляпая
Народы хіне, як калоссе,
Каго ж абымае — смерць косе.

Трымае свет цэлы ў парадку,
10 Не мае канца і пачатку,
Не знае граніцы і меры,
Не гіне ад кос і сякераў.

Так блукае з поля на поле
Станогае Ліха-Нядоля;
Над ім жа сам Бог з перунамі
Дзяржыць страж, спавіты імгламі.

*1913*

## ПЕСНЯЙ ТОЛЬКІ

Песняй толькі на свеце жыву я,
Праз яе тапчу толькі расу;
Пасцігаю, як ёй запаную,
Недасціглую быту красу.

Са святламі бязмежна ўсясвету,
Як святло сам, лунае мой дух;
Аглядаю міры, як у сне тым,
І жыццё абымаю ўвакруг.

Над душамі, што шчасця даўно весць
10 Загубілі з адвечных нягод,
Я тварыў бы нягадану повесць
Вечных радасцей, вечных яснот.

Перуны залатыя хапаў бы,
Што у хмарах бушуюць агнём,
І стралами народны дух слабы
Развагняў, патрасаў бы, як гром.

Млечны Шлях, што нябесны дзядзінец
Засцілае, я б зняў на зямлю
І масціў бы ім новы гасцінец
20 Цераз родную ніву сваю.

Сонца ўзяўшы агністае ў рукі,
Што гарыць над бязмерам палёў,
Я па Млечным тым Шляху без мукі
Чалавека да шчасця бы вёў.

Гэтак песняй мой дух маладзіцца,
І на свеце жыву толькі ёй,
Хоць пішу кроўю гэты страніцы,
З свайго сэрца гарачай крывёй.

*1913*

## ЖАР НЕ ЗГАС

Цяжка, горка мы жылі
З году ў год, ад веку к веку,
Столькі на сваёй зямлі
Церпім, выцерпелі здзеку!

Хто змагаўся, а хто спаў,
Хто ліў слёзы, хто смяяўся,
Ды з нас кожны не прапаў —
Тым, чым быў, далей застаўся.

Хай там віхры стрэхі рвуць,
10 Хай там ёрмы чэшуць злыдні,—
Нашы праўды не памруць,
Ночы царстваваць абрыдне.

Хоць і гоніць небарак
Кат з дамоўкай жыць сам-насам,—
Нашы маткі нам ваяк
Новых выгадуюць з часам.

Ў сэрцах нашых жар не згас —
Бухне ў свет калісь яскрава,
Бо наперадзе йшчэ ў нас
20 Барацьба, жыццё і слава!

*1913*

## БРАТУ-БЕЛАРУСУ

Ляж, прытуліся да зямлі,
Паслухай шчыра, што гавора
Табе, сям'і і ўсёй радні,
Калі запаліць неба зоры.

Пачуеш дзіўную аповесць
Мінуўшай славы і жыцця,
Аб чым згубіў ты ўжо даўно весць,
Блукаючыся без пуцця.

Пачуеш, як шмат лет таму
10 Тваё было тут панаванне;
Паслушна голасу твайму,
Цябе не кратала скаранне.

І запытаецца зямліца
Тваёй душы і тваіх дум:
Чаго ты блукаеш начніцай?
Чаму свой край аддаў на глум?

*

Стань, нахіліся над ракой,
Ў плакучы ўгледзься пералівы:
Ў іх адаб'ецца воклік твой,
20 І ўбачыш незабыты дзівы.

Як там русалкі — твае дзеці —
Днём аддыхаюць у жальбе,
Каб ночкай, блудзячы па свеце,
Шукаці долі для цябе.

Ад хваль, што шэпчуцца так міла,
Ты дойдзеш праўданькі усёй,
Што рэчкі — гэта зямлі жылы,
Вада ў іх — кроў зямлі тваёй.

І запытаецца вадзіца,
30 Як не пытаў ніхто ў жыццю:
Чаму яе п'е чужаніца,
Яе, кроў родную тваю?

*

Ідзі у лес, што стаў кругом
Тваіх нязмерных ніў на стражы,
Што толькі думаў аб адном...
Але паслухай, што лес кажа:

Я бараніў твой дух ад плесні,
Аб думы шчыра твае дбаў,
І паўтараю водклік песняў
40 Што прадзед з ветрамі складаў.

А ты, змарнелы чалавек,
Нікчэмны пасынак былога,
Сваю пушчаеш песню ў здзек,
Чужою славіш нават Бога!

Прывучан кланяцца, ўніжацца,
Паганіш скарб свой дарагі.
І знаеш толькі там смяяцца,
Дзе кроўю плакаў бы другі.

Ідзі на ўзгор, на камень сядзь,
50 Што пашчапаў пярун на часці;
Глядзіся ў зоры, што мігцяць
На небе ў радасці і ў шчасці.

Яны агністымі іскрамі
Ў душы распаляцца, як сталь;
Бо неба сочыць за людзямі,
Зямлі пільнуе яго даль.

Зямлю ў сваёй адвечнай казцы
Трымае без граніц і мер...
Калісь і ты ў яго быў ласцы —
60 Меў з неба долю. А цяпер...

Цяпер яно сваймі слязамі
З табою плача над табой;
Шле буры, громы з перунамі,
Каб сон збудзіць магільны твой!

[*1913*]

## ПЕСНЯ

*(З народнай)*

Каб была я перапёлкай,
Каб я волю мела,—
Дзе б хацела, паляцела,
Дома б не сядзела.

Ці па ягады ў бор шчыры,
Туды, за сялібкі,
Ці ў лес цёмны па арэхі,
Дзе ляшчэўнік гібкі.

Ці ў зялёны луг, дзе рэчка
10 Ўецца і лялее,
Па каліну па чырвону,
Што ў тым лузе спее.

Ой, не быць мне перапёлкай,
Крылейкаў не меці,
Ні ў бор шчыры, ні ў лес цёмны
Мне не даляцеці!

Найгарчэйшыя у лузе
Ягады каліны,
Найцяжэйшая на службе
20 Доля у дзяўчыны.

Як я выйду, маладзенька,
За вароты ў поле,
Паліюцца самі слёзы
З цяжанькай нядолі.

Ой, крывава паліюцца
Мае горкі слёзы,
Бы расіца ў летню ночку
З беленькай бярозы.

Плачуць вочы век да веку
30 Дома і на полі —
Не па добрым чалавеку,
А па добрай волі.

*[1913]*

## ХАЎРУСНІКАМ

“Gazeta Codzienna”
І «Виленский вестник»
Сабраліся хэўрай,
Як свінні на сметнік.

І ну ж гаманіці,
Ўхмыляцца пад вусам,
Як лепш атуманіць
Мазгі беларусам.

“Gazeta” бармоча:
10 «Nех бэндзе ён ляхам»,
А «Вестник» — «Пусть лучше
Московским прёт шляхом».

Спрачаліся доўга,
Як край наш раскрасці,
Дый спеліся ўрэшце:
Парваць на дзве часці.

Адна часць Варшаве
Лізаць ногі будзе,
Маскве хай другая
20 Нясе свае грудзі.

Забыліся толькі,
Хаўруснікі ночы,
Спытаць беларуса,
Чым сам ён быць хоча.

Па-мойму ж не варта,
Панкі, так лезць з жылаў...
Як свінням — не глянуць
Вам дальш свайго рыла.

*1913*

## «ЧЫН», ГЕРБ І ЛАПАЦЬ

Заспрачаліся «чын» з гербам
Раз, як п'яны з п'яным:
Хто з іх лепшы і над кім хто
Быць павінен панам.

Лапаць доўга слухаў, слухаў
Ды буркнуў без жартаў:
«Кіньце спрэчку: вы абодва
Вісельніцы варты!»

*1913*

## ЯНКА І СВАБОДА

Прачытаўшы у газеце
Колькі раз нанова,
Што кладуць свабодны арышт
На свабоду слова,—

Янка Цемрык усміхнуўся,
Стукнуўся у грудзі:
Ну, цяпер мая Настуля
Лаяцца не будзе!

Там-сям з гэтым пахваліўся
10 І сапсуў паперы:
Сам спынуўся у халоднай
За... свабоду веры.

*1913*

## РАСІЙСКІЯ ЧЫГУНКІ

Кожны ведае ў Расіі,
Што, як вол прыплоду,—
Так расійскія чыгункі
Не даюць даходу.

І мазгі «чыны» ўсё сушаць
Над такой праявай,
Ды ніяк не ўцямяць праўды,
Ў чым схавана справа.

А рэч проста: катастрофы
10 Зводзяць гаспадарку;
Бо які ж паедзе дурань
На зламанне карку?!

*1913*

## АСЕННІМ ВЕЧАРАМ

За хатай асеннія шумы,
Чуць свеціцца ў хаце газніца,
А думы, гаротныя думы,
Плывуць і плывуць, як крыніца.

Пяюць аб мінуўшым памінкі —
Бязрадасны гімн пражытому...
Быцця свайго бачыш дажынкі,
Падводзіш рахунак былому.

І лічыш, і лічыш паволі
10 Удачы свае і няўдачы —
Чаго меў на свеце найболей,
Чым сцежку жыцця абазначыў.

І думка адна, злыбядніца,
Назойліва цісне пытанне:
Ці ж варта было і радзіцца,
Каб толькі цярпець безустанне?!

[*1913*]

## А ТЫ, СІРАЦІНА...

...А ты, сіраціна, жыві,
Як ветрам лісток адарваны,—
Ні месца табе на зямлі,
Ні радасці з песень жаданай.

Нясі сваю ношку жыцця
Між наспаў-курганаў магільных,
Без веры ў свой цэль, без пуцця,
Расплаканы ў жальбах бяссільных.

Як цень з таго свету, ідзі,
10 Не знаючы ў долі сірочай
Ні сэрца з дзявочай грудзі,
Ні сонечнай ласкі дзявочай.

Жыві і сні сны аб вясне,
Ды думай адно, сіраціна.
Што нават ніхто не ўздыхне
Калісь над тваёй дамавінай.

*1913*

## ЯСТРАБ, ЛІСІЦА Й ПЕВЕНЬ

Неяк, стрэўшыся няўмысне
Ястраб і лісіца з пеўнем
Пачалі яго прасіці,
Каб быў ласкаў ды што спеў ім.

— Ты,— так кажуць,— як мы чулі,
Маеш голас, бы жалейку;
Дык запей нам — мы заплацім,
Не паскупімся капейкай!

Певень выслухаў, дый кажа,
10 Як прыстала ў яго стане:
— Ўсё гатоў вам спець, паночкі,
Нават... «вечна спачыванне!».

*1913*

## КАЖУХ І ВАТА

Заспрачаўся кажух з ватай,
Адагнаўшы згоду,
Хто з іх лепшы, карыснейшы,
Хто якога роду.

Вата кажа: «Што ты значыш
Мне, кажух касматы?
Я чужыя знаю землі —
Ты ж — сяло ды хату!»

«Праўда, праўда,— тут гаворыць
10 Ёй кажух-маруда,—
Я жыхар зусім тутэйшы,
Ты ж адно — прыблуда!»

*1913*

## ДЭПУТАТЫ І ГРАМАДЗЯНЕ

Селі ў Думу думаць думы
Паны-дэпутаты
І, як шэршні, між сабою
Спор вядуць заўзяты.

Той крычыць: такіх нам трэба
Ладаў і парадкаў!
Той гудзіць: не трэ нічога —
Ўсё ў Русі йдзе гладка!

Хто з іх праў, а хто не правы,—
10 Трудна адгадаці,—
Адно толькі — грамадзяне
Змушаны маўчаці.

*1913*

## ШАРАДА № 1

Гэй, ты, *першая* мая!
Мы адно з табою;
Хоць ты літара ўсяго,
Дый мая ж затое.

Тая *трэцяя*, а з ёй
І *другая* з чыну
Прыгадзіцца мне на стол
І на дамавіну.

А *усё*, як прыйдзе к нам —
10 Важна загуляем:
Пусцім чаравічкі ў ход,
Песню засяваем.

[*1913*]

## ПЧОЛЫ І ТРУТНІ

Стаў даводзіць селяніну
Нехта нейкі ў чорным:
Як павінен быці ўслужным,
Згодлівым, пакорным.

— Бо і пчолцы,— кажа ў чорным,—
Мёд гадуюць кветкі,
Ў згодзе з пчолкамі і трутні
П'юць той мёд, як дзеткі.

А сялянін тут пад тое
10 Буркнуў запытанне:
— Ну, а хто пчала, хто труцень —
Я ці ты, васпане?

*1913*

## КАЗКА АБ ПЕСНІ

Даўно ўжо, даўно з тэй пары адбылой
    Сталецціяў мінула нямала,—
Між небам блакітным і чорнай зямлёй
    Святляная думка лунала.

Яна аглядала бязмежны прастор,
    І пасынкаў бачыла долі,
Што рукі з зямлі працягалі да зор
    І ў цемры канали паволі.

Быў жыць адзінока надзел бедакоў,
10    Нішто іх з сабой не лучыла —
Ні крыллі свабоды, ні скруты акоў...
    Адна толькі маці-магіла.

Не ўмелі змагаць грамадою нягод
    І Бога хваліць грамадою;
Па шчасці нязведаным грэшны народ,
    Як каня, ўздыхаў, за вадою.

І шкода зрабілася думцы людзей,
    Што чахлі, як чэрві у плесні,—
І з высі зышла к ім, як дух-яснавей,
20    І вольнай змянілася песняй.

У тысячы светачаў, сонц залатых
    Яна разлілася між імі,
Развеяла цемры, ўзлячыла сляпых,
    Сваё, іх праславіла імя.

Пры песельным звоне народ акрылеў,
    Зарухаўся шчасцем, свабодай,
У бітвах верх браў і свой боль адалеў,
    Не страх быў змагацца з прыродай.

І многа лет цешыўся, ў радасці цвіў
30    І ў долі, і ў волі без меры,
Аж покуль ён песні сваёй не ўгнявіў
    І светлай не здрадзіў ёй веры.

За ласыя словы, за золата звон
    Чужацкай шукаць стаў апекі;

Чужынцы запрэглі народ у прыгон,
А песню аддалі на здзекі.

Як славай праз песню палаць стаў, так згас,—
Хілеці ізноў стаў памалу;
Папробуе песню — йшчэ звоніць падчас,
40 Толькі не так, як бывала.

Гібелі зноў людзі у спеку, ў мароз
І долі і волі збыліся,
І страшная кара пасцігла іх лёс:
Народ сваёй песні забыўся.

Мінае сталецце, другое ідзе,
Не песняй, а путамі звоне,
І вечную гібель народу вядзе,
Народ жа ўсё стогне і стогне.

З лет бегам патомкі, пасля доўгіх бед,
50 Аднекуль зноў песню дасталі,—
І думалі з ёй, як калісь, дзівіць свет,
Палаць зноў у даўнешняй хвале.

А толькі іх душ ажывіць не магла
І к шчасцю масціці гасцінец...
Бо думка, бо песня... чужая была...
З ярмом даў і песню чужынец!

[*1913*]

## ДЗЕ НІ КІНЬ — ДЫК КЛІН!

— Ну, а як табе на службе:
Ці работы многа? —
Так сусед пытаў, між іншым,
Янку Канцавога.

— Ах, не дай Бог за чужою
Поўзаць гаспадаркай!

Дзень і ноч, як лунь, таўкуся,
Як у пекле Марка!

А сусед яму навучна
10 Ды пабожна клепе:
— Хоць тут трудна жыць,— затое
Будзе ў небе лепей.

— Знаю, знаю! — так суседу
Адчыкрыжыў Янка. —
Бокам вылезе мне ў небе
Гэта абяцанка!

Як паткнуся,— ўраз пагоняць
Да ўсякай работы:
20 То сядлай каня для Юр'і,
То чысць яму боты.

Або ў поўнач ўстань і сонца
Запалі да золка,
Вытры з пылу усе зоры,
Месяц выбель лоўка.

Завядзі машыну з ветрам,
Папраў з дожджам сіта,
Натаўчы у ступе граду,
Ды яшчэ не квіта:

— Папіхай хутчэй, гад, хмары!
30 А пярун дзе кінуў?
Набівай, страляй! Маланкай
Сцёбай, каб ты згінуў!

Янка тутка, Янка тамка,
Хоць ты ў пекла прыся!
А прыдзірак ад святых ўсіх
Колькі нацярпішся!..

[*1913*]

## СЕЛЯНІН І КОНЬ

Пад гарою ў селяніна
   Конь пристаў дарэшты:
Бедны змучыўся, ні з месца,
   Хоць яго зарэж ты!

Селянін ужо і ласкай:
   «Но! Цягні, вашэця!
Бо інакш напішуць брыдка
   Аб табе ў газеце...»

А яму конь: «Няхай пішуць,
10   Раз такой натуры,
Адно ты пакінь пісаці
   На маёй жа скуры!»

*1913*

* * *

Жыў музыка Налім,
Крэпкі быў, як тапор,
Полькі граў ён людзям,
А сам з голаду ўмёр.

Гэткі самы цяпер
Атрымоўвае дар
За заслугі свае
Не адзін наш песняр...

[*1913*]

* * *

Цемната і слата,
Вецер б'ецца ў акно,
Як бы нанач у хату
Ён просіцца,
Як бы стужай яму
Надаела даўно
У чыстым полі бязвольна
Разносіцца.

Я ў хаце адзін
10 І мінуты лічу,
Ці ўжо скора ноч гэтая
Скончыцца?
Адзіноцтва ж, як здань,
Мігаціць уваччу,
Ля пасцелі вужакаю
Корчыцца!

*1913*

## ЭПІГРАМЫ

Ён і работнік грамадзянскі,
Мужыцкі пан і служка панскі,
І антыквар, і археолаг,
І бібліёлаг, і філолаг,
І быў бы слаўным ён зусім,
Каб быў чым-колечы адным.

*

То беларус, то палячок,
А чым папраўдзе — не згадаць.
Паслухай, гладкі панічок:
Пашто так скурай гандляваць?

*

Ў кавярні водзіць рэй і лад,
Бывач яе заўсёдны, шчыры,
Сатыры піша там на ўсіх,
А сам — смяшнейшы ад сатыры.

*

Варшаўскіх брукаў марны франт,
Пусты на словах, хлюст, педант,
На дзеле — невук, дылетант,
А як паэта — ў прэйскурант
Гадзішся толькі, мой ты франт.

*1913*

## НА НОВЫ (1914) ГОД

Новы год у народ
Зважна йдзе,
І з сабой думак рой
Ён вядзе.

Дзе ні глянь — моц жадань
Людзі шлюць;
Тыя ўцех, тыя мех
Грошы ждуць.

Ну, а я і сям'я
10 Родных мне
Йдзем з такою мальбой
Да цябе:

Дай свабод, Новы год,
Долю дай,
І ўскрасі, прасвяці
Родны край.

[*1913*]

# 1914

## ГРУГАН І САЛАВЕЙ

Груган, сустрэўшы салаўя,
З сваяцтвам лезці стаў к таму:
«Ты родны мне, як бачу я,—
Хадзі ж, як брата абыму!

У нас з табой адзін фасон —
Як глюгі, крыллі і насы,
Птушына ў нас быццё і сон,
Птушыны маем галасы.

Дык што ж нам жыць так па сабе?
10 Пры том табою не гарджу,
Хоць я шмат большы ад цябе
І ў чорнай вопратцы хаджу».

«О, вельмі дзякую за чэсць! —
Адпеў салоўка з-над палян,—
Мо ў нас і адналькова шэрсць,
А ўсё ж такі ты, брат,— груган!»

*1914*

## ШАРАДА № 2

Эх, памыйся, мой дружок,
Мылам ды вадою,
А так складна, як у нас
*Першае-другое.*

А калі ты ўжо *другі*
І *чацвёрты* ўдаўся,
Вось чаго замест бліна
Ты дапамінайся.

Гамані: давайце мне
10 *Чацвёртае* з раду
І *трэцяга* побач з ім,
Бо не будзе складу.

Ну, а *ўсё* — кругом цябе,
І ты з імі разам,
Ажно цешыцца душа
Адным гэтым сказам.

[*1914*]

## МОЛАДЗІ

На цябе, наша моладзь, надзея
Нашай сумнай забранай зямлі;
Твой арліны палёт цьмы развее
І запаліць веквечны агні.

Ты разбудзіш прыспаныя сілы
І на вольны паклічаш прастор
З забыцця беспрасветнай магілы
Да бліскучага сонца, да зор.

Ты на бацькаўскім, моладзь, кургане
10 Узнясеш нездабыты пасад,

Што расточыць сваё панаванне
На ўвесь край, дзе сягне твой пагляд.

Табе будуць не страшны заломы,
Злыя ворагі, іх варажба:
Долю, праўду з маланак і громаў
Твае выкрасяць гарт, барацьба.

Схамянайся ж ты, моладзь арліна!
Ў бок другі віхры веяць прымусь,
Бяры светач, ідзі за судзьбінай,
20 Ідзі з словам святым: Беларусь!

*1914*

## СТРАШНЫ ВІР

Ёсць месца, дзе ў поўнач над рэчкай,
Пакуль йшчэ пявун не пяе,
Выходзе здань дзіўная з віру
І творыць варожбы свае.

Таемныя знакі рукамі
На ўсход і на захад кладзе,
Як быццам каго заклінае
Ці песню на мігі вядзе.

Сцюдзёная льецца вадзіца
10 Па целе з распушчаных кос,
А вочы блішчаць, як дзве зоры,
А вочы глядзяць да нябёс.

І рыцар у тую часіну
На белым агністым кані
Над вірам з'яўляецца знекуль
Ці проста выходзіць з зямлі.

З каня свайго злазіць і к здані
Падходзіць, галубіць яе,

У мокрыя косы цалуе,
20 Яна ж толькі нема пяе.

Хто ў час той заблудзіць тудою,—
Спужаецца сам, задрыжыць,
І здань ад яго уцякае,
У віравы сховы бяжыць.

А рыцар маланкай садзіцца
На быстрага свога каня
І нікне у цемры паўночнай,
А з ім — і трывога уся.

Шмат чутак аб віры і зданнях
30 Чуваць у народзе здаўна;
Што праўда, няпраўда — не знаю...
Мне ўспомнілась чутка адна.

Былі сабе ў бацькі тры дочкі,
Як кветкі, прыгожы былі,
А меншая ўсіх прыгажэйша,
Другой не знайсці на зямлі.

Жылі і нядолі не зналі —
Свабодна, як рыбкі ў вадзе,
А толькі малодшай паціху
40 Зайздросцілі старшыя дзве.

Раз нeяк тудою князь ехаў,
Што бітвамі славу прыдбаў;
Заехаў да іх на папаску,
Заехаў — і іх спадабаў.

Адну з трох за жонку ўзяць хоча,
Катору — не знае і сам,
І князя яны спадабалі...
Ручыць, як то кажуць, князям.

Вось ён ім і кажа загадку,
50 Работу такую дае:
Вазьму я з вас тую за жонку,
Каторая лепей спяе.

Запелі дзве старшыя князю,
Запелі, як той салавей;

Запела малодшая князю,
Запела ад тых прыгажэй.

І меншую выбраў за жонку,
Чакаці ёй кажа сватоў;
Сам ладзіцца едзе к вяселлю,
60 Склікаці гасцей і дружкоў.

А старшыя думаюць сёстры,
Як звесці малодшу сястру,—
Атрутай няшчасную пояць
І кідаюць цела ў віру.

Як страшнае скончылі дзела,
Напаў і на іх саміх страх:
Адна паляцела на захад,
Другая на ўсход знайшла шлях.

Князь едзе з дружынай у сваты
70 І з скарбамі княства свайго...
Находзіць маркотнага бацьку,—
Дачок не знаходзіць яго.

Дружыну сваю князь кідае,
Пушчаецца ў свет сам адзін
Шукаці сваёй наймілейшай,
Шукаць да апошніх часін.

За годамі годы плятуцца...
Што далей, не знаю, было,
Адну толькі чутку аб віры
80 Сказаць вам на памяць прыйшло.

*1914*

## НА ПОЛІ ТАЕ

На полі стаяў бледны снег,
Вясна абходзіць поле...
Пакінь у хаце свой начлег,
Устань са сну, саколе!

Паводка б'ецца ў берагі
І ў шляхі б'е нямыя,
Яшчэ разгон адзін, другі —
І ложа тваё змые.

Плакуча шумам стогне бор,
10 Праклящцем бор заводзе,
На тых нясе свой прыгавор,
Што спяць назло прыродзе.

Па небе сонейка дугой
Заносіць круг паволі...
Пакінь начлег у хаце свой,
Устань са сну, саколе!

*1914*

## ПА ШЛЯХУ

Ляжыць, уецца ў бел-свет, як вужака,
Стары, утоптаны вякамі шлях,
Снючы былыя сказы, небарака,
Што перачуў на змучаных грудзях.

Бярозы — плачкі сумныя — павіслі
Абапал, як нямая варта-страж,
Не дбаючы, чаго стаяць, скуль выйшлі,
Адно ківаючы на шлях — ты наш!

А вецер ім бязбожныя напевы
10 То ціха шэпча, то гудзіць, як звер,
Галубячы, цалуе іх, як дзеваў,
І кліча іх на радасны бязмер.

Паміж бярозаў-плачак гэтым шляхам
Іду я з ношкаю разбітых дум,
Адзін іду, а падганяе тайным жахам
Прыяцель верны мой — бяссмертны сум.

Я — шлях, якому век няма спакою
Ні ў чорны дзень, ні ў месячную ноч,
Пасвечаны нядбалаю рукою
20 Жалобнае жыццё вясці апроч.

Я — тая плачка сумная — бяроза,
Увосень абгалечана з лістоў,
Дрыжачая зімою ад марозаў
І ад бушуючых раз'юшаных віхроў.

Я — вецер той, што слёзна ў сонным полі
І ў буйным лесе вые сіратой,
Начлегу не знаходзячы ніколі
З сваёю горка-жаласнай журбой.

Іду па шляху і пазіраю,
30 Як сфінкс, у сфінксаву нямую даль,
І не знаходжу мукам сваім краю,
І сіл не маю вырваць з сэрца жаль...

Закалыхаўся ястраб быстравокі,
Між небам і зямлёй, як лунь, завіс —
Мяне і дзень мой сочыць адзінокі,
З насмешкай мерачы вачамі ніз.

О, каб ён вылушчыў душу мне з цела
І затрымаў на хвілю у высях,
Каб раз, адзін раз толькі паглядзела
40 Адтуль, з-пад сонца, на зямны свой шлях!

*1914*

## Б'ЮЦЬ НА ТРЫВОГУ ЗВАНЫ...

Б'юць на трывогу званы,
Клічуць да новай вясны,
К новаму Богу завуць,
Б'юць на трывогу званы,
Б'юць, б'юць!..

Час ужо браць тапары,
Косы кляпаць да зары,
Покі ў грудзях жар не згас,
Час ужо браць тапары,
10 Час, час!..

Рэж на дарозе дзярно,
Што ногі раніць даўно,
Ўглыб запускай свой лямеш,
Рэж на дарозе дзярно,
Рэж, рэж!..

Крыж прад вачамі стаіць,
Крыж абвіла помсты ніць,
Процьма удоўжкі і ўзвыш,
Крыж прад вачамі стаіць,
20 Крыж, крыж!..

Рвуць твае жылы кругом,
Родны раскідалі дом,
Гібель табе скрозь равуць,
Рвуць твае жылы кругом,
Рвуць, рвуць!..

А на трывогу званы
Б'юць на парозе вясны,
К новаму Богу завуць,
Б'юць на трывогу званы,
30 Б'юць, б'юць!..

*1914*

## АСЁЛ І ЯГО ЦЕНЬ

Асёл, убачыўшы ў вадзе
Ў крынічнай свой асліны цень,
Здзівіўся, стаў, далей не йдзе,
Глядзіць ды думае, як пень.

Які тут чорт намаляваў
Мяне інакшым, як я ёсць?
Такія вушы падаваў,
Так пакрывіў на спіне косць!

І, каб сябе не аглядаць
10 Ды разагнаць сваю нуду,
Ён капытом давай мяшаць
З гразёю чыстую ваду.

*1914*

## СВІНАПАС І СТРЫНАТКА

Свінапас, злавіўшы здрадна
У сіло стрынатку,
Стаў чытаці ёй маралы
(Меў таку ўжо ўхватку).

«Ты пяюшка,— так ён кажа,—
Сорам мей і ўвагу:
Шмат не пей, не пей і мала,
Не дай з клеткі цягу!

Аб маім пастырскім чыне
10 На'т не думай брыдка,
А тым болей — мей шацунак
Над маёю світкай».

А стрынатка: «Ягамосцю!
Чым ты — знаю болей,
Дык пакінь сабе маралы,
Мне дай толькі волю!»

*1914*

## АДСТУПНІК

Дажывае стара маці
Сірацінаю у хаце,
Ў соннай волі, ў чорнай долі,
Як та груша сярод поля,

Мела сына, але сыну
Захацелася ў чужыну:
Ён пайшоў шукаць там шчасця
Або згінуць, запрапасці.

Мела дочак, але дочкі
10 Пабрылі таксама ўпрочкі:
Тая замуж, тая ў службу
На нядолю, на нядружбу.

Дажывае веку маці,—
Ўжо не можа з ложка ўстаці,
Кліча дочак, кліча сына,—
Але пуста ўсё хаціна.

Сабраліся добры людзі,
Гаманілі: што то́ будзе?
Са старою мала ладу —
20 Трэба даць якую раду.

І да сына лісты пішуць:
— Прыязджай, бо ўжо чуць дышыць
Маці стара і маячыць:
Цябе хоча ўсё пабачыць.

Сын варочаўся з чужыны
Да матулі, да хаціны
Не то князем, не то панам,
Не то трэзвым, не то п'яным.

Падышоў да ложка бліжай:
30 Маці спіць, як знята з крыжа;
Пахіліўся над ёй нізка,
Як яна здаўн над калыскай.

І старую разбуджае,
Нейкім словам пацяшае,—

Штось гаворыць і гаворыць,—
Тая слухае, як зморы.

Прыглядаецца матуля,
Што зрабілася з сынуляй;
Ён ці не — стаіць у хаце,
40 Усё сіліцца згадаці.

І згадала, ой, згадала!
Енкнуць голасу сабрала,
Бы та каня над крыніцай:
— Чужаніца, чужаніца!

Легла маці ў дамавіну;
Сын зноў ехаў у чужыну,
А за ім шумелі людзі:
Што то далей з яго будзе?

*1914*

## ПРАЯВЫ

— Што за плач такі здаецца
Там на лузе, там на рэчцы,
Бы хто слёзы ліў паводкай?..
Ці то маці, ці сіротка?

— Гэта маці, маці плача
Над сынамі, не іначай,
Што яе ў зямлю схавалі,
А сябе ў палон аддалі...

*

— Што за звон бразджыць, скрыгоча,
10 Як бы свет зніштожыць хоча
І звясці ў канец астатні?
Ці то Божы, ці то братні?..

— Гэта путы-сковы звоняць
І дух вольны к нетрам клоняць,
Скрыгацяць свае літанні,
На пагібель, на скананне.

*

— Што за голас ходзіць, бродзіць,
Сказы дзіўныя заводзіць,
Ажно йдзе па целе шорах?
20 Ці то друг наш, ці то вораг?

— Гэта ходзіць кліч па полі
З прыкліканнем к новай долі,
Пад акнамі станавіцца
І заве, заве збудзіцца.

*

— Што за віхар закруціўся —
Ў зямлю ўрыўся, ў неба ўзвіўся,
Бухнуў іскрамі пажару
На сялібы, на папары?

— Гэта бітва йдзе сусветна
30 Між святлом і апраметнай.
А хто ўскрэсне, а хто ляжа...
Глянь на сонца — сонца скажа!

*1914*

## ШАРАДА № 3

Калі возьмеш *першае*
І *другое* следам: —
Што калісьці бегала,
Цяпер — за абедам.

*Першае — чацвёртае*
Жывіць свет сабою,
Хоць — гультайка шчырая
Зімавой парою.

Дзе *другога — трэцяга*
10 Не стае, не любяць,—
Там жыццё няважнае,
Людзі шчасце губяць.

А *уся* — знаёмая:
Мае панаванне,
Ў посце прад Вялікаднем
У сялянскім стане.

[*1914*]

## ВАЛАЧОБНІКІ

Штогод, вясной, у дзень, вялікім званы,
Збіраюцца яны, як буслы ў вырай,
І йдуць пад вокны гурмай абарванай
Набожную жальбу заводзіць шчыра.
Паны атласныя і зрэбныя сяляны
Вітаюць іх, як послаў з тога міру:
Той кіне свенчана яйцо, а той — мядзяк:
Як жабракоў іх дарыць свой брат і чужак.

Журбой ноч іхні блаславіць напевы,
10 Бо ходзяць валачобнікі па ночы,
Шыпяць над імі галінамі дрэвы,
Глядзяць на іх начніц сляпыя вочы,
А ўсё, як быццам сіверу павевы,
Як валачобнікі, цямрыцу славіць хоча.
О ноч! о бесканечны твой над намі ход!
Калі ж пакінеш ты туманіць наш народ!

Ні там, дзе дзікія зімуюць гусі,
Ні там, дзе дрэмле поўначы краіна,

Ні з добрай сваёй волі, ні ў прымусе,
20 Ніхто, нідзе не чэз такой жывінай,
Як чэзнеш ты, няшчасны беларусе,
У валачобнікі запісаны судзьбінай...
Штогод ты ходзіш дабравольным жабраком
І рабства вечнае ўсхваляеш пад акном.

Ці ж нас такое зроду ўжо праклянцце
Зачаравала чарамі сваімі,
Што мусім мы пад вокнамі стагнаці,
Губляці пад крыжамі сваё імя,
Й не знаючы век бацькаўшчыны-маці,
30 У ёрмах валачыцца між чужымі?..
Ці ж нам ніколі ўжо прасветласці не знаць —
Гібець, гнісці й, не жывучы, канаць?

Вялікі дзень з вялікаю надзеяй
Лет тысячы са дзве таму ўжо будзе,
Як між людзьмі то гасне, то яснее,
І толькі ж торг вядуць, б'ючыся ў грудзі,
Прадажны кніжнікі і фарысеі
Свяшчэнным іменем Яго... А людзі?..
Гудзяць званы, гул медны прэцца да нябёс,
40 Ды валачобнікаў прыпеў: — «Хрыстос васкрос!»

*1914*

### ШАРАДА № 4

*Першы* — муж вучоны, важны;
Носіць чын такі не кажны,
Хоць папросту на наш лік
Ён не больш, як чараўнік.

Наша *трэцяя-другая*
Будзе нейкая такая:
Знала рэчкі берагі
І паганскія багі.

Ну, а *трэцяя з чацвёртай*
10 Рэчка ў дальню даль запёрта,
Слаўна золатам для нас
І крывёй ў вапошні час.

А *уся* — жаноча імя,
Кожны знойдзе між святымі.
Далей буду ўжо маўчаць,
Бо й так можна адгадаць.

[*1914*]

## ЗАПЕЛА ВЯСНА СВАЮ ПЕСНЮ

І шумам задумнага лесу,
І шчэбетам птушак шчаслівых
Запела вясна сваю песню,
Запела на збуджаных нівах.

Выходзіць сялянін на поле,
Зямлю уздымае сахою...
О, колькі тэй веры, надзеі!
О, колькі святога спакою!

Вачыма расістымі водзіць
10 Па скропленым потам надзеле;
За думкаю думка снуецца,
Як нітка за ніткай з кудзелі.

Хоць буры і сцюжы гулялі,
Хоць мор сабіраў свае жніва,—
Жыве ён, як жыў тут спрадвеку,
Жыве яго хатка і ніва.

Вось дрэмле курган на узмежку,
Ігруша шуміць на кургане,—
Расказвае былі былыя,
20 Мінуўшаму шэпча літанне.

А жаўранак звоніць над грушай,
Свой кліч селяніну свяргоча:
— Смялей, беларусе-араты!
Смялей уздымай к сонцу вочы!

*1914*

## ШАРАДА № 5

Вазьмі два склады,
Каб добры былі да яды,—
Прыбаў да іх склад трэці,
Будзе птушка, ўмее пеці.

[*1914*]

## СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ УЛАДЗІСЛАВА ЭПІМАХ-ШЫПІЛЫ

Здалёк ад роднай стараны,
Ад беларускіх ніў і хат,
Ён жыў, як кветка на мяжы,
Якую хвошча дождж і град.

Ён жыў і бацькаўшчыне ўсцяж
Не пакідаў — як мог — служыць,
Душу і сэрца аддаваў,
Пакуль не стлела жыцця ніць.

Да самай страшнае пары,
10 Што нам яго ўзяла на век,
Ён быў заўсёды і для ўсіх
Грамадзянін і чалавек.

Для Беларусі, як умеў
І сколькі сілы меў, служыў,
І не чакаў сабе наград,
Адно радзімым словам жыў.

Любіў яго, пацеху ў ім
І веру крэпкую ў ім меў,
На службу верную яму
20 Астатак сілаў не жалеў.

Артыстам будучы душой,
Красу ён родну праслаўляў:
Са сцэны родную зямлю
І слова роднае ўсхваляў.

А сам... Не рваўся к славе ён,
Пахвальных гімнаў не жадаў;
Паціху між братоў ішоў,
Аб долю лепшую іх дбаў.

Не зачыняў сваіх дзвярэй
30 Для сваяка і чужака;
Пацеху сумнаму ўмеў даць
І надарыці бедака.

Сягоння тут, у чужыне,
Яго анельская душа,
У жальбе кідаючы ўсіх,
У край нязнаны адышла.

Спі, грамадзянін добры наш,
Хай будзе кветкамі зямля,
Як кветкай мілаю для нас
40 Ты быў, гаротнік за жыцця.

Хай над магілкаю тваёй
Вандроўна птушка запяе,
А сонца яснае з нябёс
Сваё праменне вечна лье.

Хай вольны вецер данясе
Сумную вестку ў родны край,
Што сын яго адзін яшчэ
Ў чужыне выбыў ў лепшы рай.

Спі, грамадзянін добры наш,
50 І сны шчаслівейшыя сні,
Чым тыя, што меў у жыцці,
Ад роднай вырваны зямлі.

*1914*

## ШАРАДА [№ 6]

*Другая — першая*
Горад у нас,
Губерні Віленскай,—
Чуў мо не раз.

*Другая — трэцяя*
Ўецца, як змей,
Часам здараецца
Ходзяць па ей.

*Ўся* ўсюдых знойдзецца,
10 Дзе готы ёсць,
Нават над рэчкаю
Ёсць, як на злосць.

[*1914*]

## [ШАРАДА № 7]

Як *другая* прыйдзе з *першай,*
Мусіш торбачкі патрэсці:
Асабліва хто падаткі
У пару не ўспеў аднесці.
А *другая* побач з *трэцяй* —
Важны чын у селяніна,

Хоць папы і паглядаюць
На яго з крывавай мінай.

Гора таму пакаленню,
10 Як *чацвёртая з другою*
На людзей спадзе, як змора,
Прынясе бяду з сабою.

*Ўся* ні сані ні калёсы —
На адно ж з іх ёсць падобна.
І з гары скаціцца можа,
І раскідацца спасобна.

[*1914*]

## [ШАРАДА № 8]

Як *другая з першай*
Сядзе аж на плечы,
Будзеш выглядаці
Трохі недарэчы.

*Трэцяя* ёсць літара —
Не скажу якая.
Той яе тут знойдзе,
Хто як след шукае.

А *уся* ў рабоце
10 Спор дае заўсёды:
Асабліва ўлетку
Жаркаю пагодай.

[*1914*]

## СЯРОД РАЗ'ЮШАНЫХ САТРАПАЎ...

Сярод раз'юшаных сатрапаў,
Паганы зладзіўшы хаўрус,
Свае таргуюць і чужыя
Табой, няшчасны беларус.

Дыхнуць свабоднымі грудзямі
Й зірнуць арліна не дадуць,—
На ўзлёты дум кладуць аковы,
Як на рабоў сляпых кладуць.

Здушылі, збэсцілі ўсё чыста
10 У чорнай яве, ў зводных снах,
Што ад прыроды шлях свой мела,
Што к сонцу мела вольны шлях.

На здзек прадажныя пракрокі
І на гніццё у царстве цьмы
Вядуць аплучаныя тоўпы
Пад стогны вечныя турмы.

Над пакаленнем неакрэпшым,
Над бедным краем-сіратой
Груган з начніцаю сляпою
20 Банкет спраўляюць чорны свой.

Таўкуцца душы скамянелы,
Крывавы пот цячэ са шчок,
А ўслед над імі і за імі
Імчацца гібелі наўскок.

Нідзе ні ладу, ані праўды,
Званы хаўтурныя звіняць...
О Божа! Ты хоць заступіся
Й не дай дарэшты нам сканаць!

*1914*

## ЎСПОМНІ!..

*Ул. Станкевічанцы*

Ўспомні, як згубіш крыллі арліны,
Што моц у высях даюць лунаць,
І сіл не хопіць табе, дзяўчына,
Свет і самую сябе змагаць!

Ўспомні, як сетку з пут павуціных
Мачыха-доля спляце ў жыцці,—
Як на расстайных станеш пуцінах
І не згадаеш, кудой пайсці!

Ўспомні, як згубіш ворага й друга,—
10 Жыць пачнеш ценем з-пад курганоў
Без веры ў шчасце, без верных слугаў —
Думак дзявочых, дзіцячых сноў!

Ўспомні, як ночка ляжа навокал,
Вецер засвішча ў хаўтурны тон,
А сэрца дрогне, бы ў клетцы сокал,
І ў душы ўскрэсне здань быўшых дзён!

Ўспомні, не ў хвілю радасці дзіўнай,—
З іншым раздзеліш радасць сваю,—
І не мяне ты ўспомні, дзяўчына,—
20 Ўспомні, от... гэту думку маю!

*1914*

* * *

*Ул. Станкевічанцы*

Гэй ты, дзяўчына, кветка-лілея,
Вольная птушка сумнай зямліцы!
Сееш ты слёзы, думак уроду,
Слёзы-брыльянты яснай крыніцы.

Буйнай расіцай сыплюцца, льюцца,
Ніву багацяць... а што за жніва?!
Крыўда іх топча, гора марозіць,
Ведзьма-насмешка п'е іх лапчыва.

Суд негадзівы жаласць-гадзюка
10 Судзіць над шчырай слёзаў малітвай,—
Розум бязбожны над сэрцам слёзаў
Поўніць чын ката точанай брытвай.

Зорка, што бітвы й згоды варожыць
З неба нямога гэтаму свету,
Толькі яна йшчэ іх не пакрыўдзіць,
Слёзы атуліць у промень прывету.

Ды што планеты гэтай аковы
Скінуў і воляй вечнай маяча,
Дух такі вольны вольнага духа
20 Пойме і так жа ўкрадкам заплача.

*1914*

## ПЕСНІ ВАЙНЫ

> Вазьмі, маці, пяску жменю,
> Пасей, маці, на каменю.
> Як прыжджэшся з пяску ўсходу,
> Тады верне сын з паходу.
>
> *З народнай песні*

### I. Варожбы

На ўзбярэжжы, над ракою
Шэпчуць вербы з асакою:
— Што то будзе, што то будзе?
Штось трывожны свет і людзі!

Па зямлі пайшлі пажары —
Неба дымяць дыму хмары,

Там і тутака агнішча,
Над агнішчам вецер свішча.

Па сялібах — пошасць хваляй...
10 Гэты хвор, таго схавалі,
Тому чэшуць дамавіну...
Жыці, мерці няма ўпыну.

А па небе ў гэта лета
Ходзіць ходырам камета,—
Хвост яе — не дай Ты Божа...
На дабро нам не варожа.

Далей вокал — як магіла...
Сонца круг свой зацямніла,
Ночай глянула ў дзень белы
20 На жыццё ўсё, на свет цэлы.

І груган аднекуль выплыў,
Штосьці гыркнуў дзюбай хрыпла,
Як заклён праклённы кінуў,
Дый дзесь згінуў ці не згінуў.

За варожбамі варожбы,
Як нячысцікавы божбы,
Ад варотаў да варотаў
Ходзяць, стукаюць ля плоту.

Засяюць трывогі, страхі
30 На ўсе сцежкі, на ўсе шляхі,
Дзе начніцы косым вокам
Пазіраюць ненарокам.

Ой, нездарма над ракою
Шэпчуць вербы з асакою:
— Што то будзе, што то будзе?
Штось трывожны свет і людзі!

### II. Перад бурай

Грамадзяцца цёмны хмары,
Грозяць свету страшнай карай,
Не супыняць ужо бітваў
40 Ні ўздыханні, ні малітвы.

Сталі ўсюды ўсімі трэсці
Неспакойства поўны весці,
Што, забыўшы людзі ўвагі,
Пад крывавы пойдуць сцягі.

Меч уздыме брат на брата,
Стане брату брат горш ката...
Зуб — за зуб, за вока — вока...
Як і сказана ў прарокаў.

Ўсё свой к гэтаму шлях знача,
50 Што так будзе — не іначай,
Бо шукаць ўжо праўды нечым,
Толькі порахам ды мечам.

Бо ёсць сіла і на сілу,
Што магілай за магілу
Водкуп дасць, як след, з паклонам
Ды прымкне крыжом свянцоным.

Бо ёсць воля і на волю,
Што сваю з тэй возьме долю,
Не загубіць, не ўваскрэсіць,—
60 За ланцуг — ланцуг павесіць.

Так ўсё горшы ад граніцаў
Ад далёкіх слух імчыцца;
Штораз болей — менш надзеі,
Што віхор гразу развее.

Чуткі йдуць, плывуць журбою,
Родны краю, над табою;
Ты ж не гніся ў завіруху:
Вокам бач і вухам слухай.

Хто за славу выйдзе з славай —
70 Тых не зломіць бой крывавы;
Хто за праўду праўдай стане —
Тых сустрэне змілаванне.

### III. Склік

Напрарачыў, наваражыў
Бяды сабе квол чалавек,—
Крывавых бур не збыў, не зжыў,
Заломаў не прарваў, не ссек.

Ад самагубнасцей дзікіх,
Ад трупам значаных дарог
Не пастрымалі сэрц людскіх
80 Ні права іхняе, ні Бог.

Ударыў гром, завыў пажар,
Склікаюць трубы на паход;
Йдзе край на край, на цара — цар,
Народ падняўся на народ.

Скрозь свету йдзе аружны склік
Паставіць сілу проці сіл;
Жадае свет, як свет вялік,
Даўно варожаных магіл.

Устань, хто жыў, устань, хто дуж,
90 Нясці аружжа, ў бітвы йсці!
Кінь матку сын, кінь жонку муж
І хату кінь у забыцці!

Устань, устань тачыць штыхі,
Знамёны шоўкавы свянціць!
Яшчэ жыве закон такі —
За смерці — смерцямі плаціць.

Адважна ў бой рыхтуйся, брат,
Баяцца нечага крыві,—
Твой продак выліў яе шмат,
100 Ты памяць продкаў аджыві!

Каня буланага сядлай,
У стрэльбу крэпка ўбі набой
І, блаславіўшы бацькаў край,
Едзь па загаду ў грозны бой!

Як дасягнеш чужацкіх гонь,
Патопчаш ворагаву рунь,—

Ты Матку-Бацькаўшчыну ўспомнь
І ўбок кінь вокам сваіх пунь.

А чалавечае на цэль
110 Жыццё узяўшы на прасцяг,
У грудзі свенчаныя стрэль,
Адно не цэль ў крыж на грудзях!

Адважна ў бой!.. Вайна вайну
Спладзіла — хай жа бітва йдзе
За шчасця лепшага вясну,
За волю вольнай грамадзе!

Аб долі роднай стараны
Нам сведчыць не адзін курган,
Дзе дрэмлюць слаўныя сыны;
120 А страж дзяржыць ноч ды туман.

## IV. Разлука

Вецер завыў па сялібах,—
Звоніць дый звоніць па шыбах;
Лыска на прызбе якоча;
Ў хаце ўдзень сумна, як ночай.

Над сталом бацька журбуе,
Галаву звесіў сівую,
Маці у кубле штось шнырыць,
Жонка дзіцё ціхамірыць.

Янка збіраецца ўпрочкі...
130 Ой, не на радасць дні, ночкі
Сына старая пясціла,
Каб рос у розум і сілу!

Ой, не на помач ў бядноце
Даў стары склад у рабоце,
Дый не на ўцехі вялікі
Згралі вяселле музыкі.

Цераз палеткі, палоскі
Склік дакаціўся да вёскі,—
Кліча на збор «запаснога»,
140 Бо на ўсім свеце трывога.

Новыя лапці, аборы,
Новыя шаты-уборы
Стаў на сябе напінаці,
Кланяцца родным у хаце.

Кланяўся нізка татулю,
А яшчэ ніжай матулі,
Прашчаўся з жонкай, з дзіцяткам,
Слёзы ўціраючы ўкрадкам.

Ціха, маркотна ў святліцы,
150 Кожны азваецца баіцца,
Як бы над імі ў спакою...
Смерць калыхала касою...

А як ён з хаты выходзіў:
«На, хай бароне ў прыгодзе!» —
Гэтак матуля сказала
Ды штось на шыю ўвязала.

Матчына гэта ахвяра —
З нашых прыдбана папараў:
З роднай вузельчык кудзелькі,
160 Ў ім — жменька роднай зямелькі.

І выйшаў з хаты ваяка,
Не уздыхнуў, не заплакаў,
Выйшаў, зацiснуўшы зубы,
На тыя бітвы, на згубы.

Вецер адно не ўнімаўся,
Як бы варожбай займаўся:
Верне дамоў Янка болей
Ці ўжо не верне ніколі.

### V. Засталіся нівы, сёлы

Выйшлі роднай вёскі дзеці
170 Паміраць на белым свеце,
Рассяваць па свеце косці
Праз кагосьці, за кагосьці.

Засталіся нівы, сёлы
На той сум-жаль невясёлы,

Засталіся, ой, сіроты,
З горкім горам, з адзінотай.

Не палыне сошка ў полі
З добрай долі, з добрай волі;
Не пачуюць кос пакосы,—
180 Ржа паесць сталёвы косы.

Ночкай, вечарам, зарання
Маці-ўдоўка выйдзе, гляне,
Выйдзе, гляне — стане досіць...
Просіць Бога... не дапросіць:

«На каго ж Ты нас пакінуў?
Чаму ж лепей дамавіну
За калыску, за ліпову,
Ты не даў нам дзеля хову?

Для каго ж Твае законы
190 Развялі на ўсе староны,
Што брат братам ад прадвеку
Чалавек для чалавека?

Як авечак, як ягнятаў,
І ў хаце, і за хатай
Ты мальбу людскую любіш,
Нашто ж Бацькаўшчыну губіш!»

Так лунае ўдзень і ўночы
Той за жалем жаль сірочы
І мальба да ласкі боскай
200 Каля вёскі і над вёскай.

А за вёскай, дзе магілы,
Дзе ляглі, заснулі сілы,
Пахіліўся крыж да крыжа —
Гэты вышай, гэты ніжай.

На крыжах сава якотам
Гаманіць адказ сіротам
Ды пытаннем страшным страша:
«Га! дзе ж Бацькаўшчына ваша?»

## VI. Пабоішча

Ноч не спаўшы, дзень не еўшы,
210 Прымадзеўшы, прыкалеўшы,
Меціць куляй, прэцца з штыхам,
Косіць шабляй, мчыцца ліхам;
Вокам, сэрцам не дрыгне...
Смерць яму або смерць мне!

Стрэлы свішчуць, дыміць порах,
Збіўся ў кучу свой і вораг,
Юшка брызгае у вочы,
Гэты стогне, той рагоча,
Той зваліўся, топча той,—
220 Не глядзіць — свой ці не свой.

Ад крыві зямля чырвона,
Неба чорная заслона
Засланіла, як магіла,
А пад ёю сілу сіла,
Ўсполку з смерцяй, смерцяй тне,—
Верх таго, хто не засне.

. . . . . . . . . . . . . . .

Гу-га-га! як бой удаўся!
Вораг дрогнуў, вораг здаўся,
Не прамог, злажыў аружжа;
230 Як быў дужы — стаў нядужы:
Той уцёк, той у палон
Здаў сябе, як у прыгон.

І вось жніва, што за жніва!
Бокам, сторчам, проста, крыва —
Труп ля трупа, як калоды...
Што за сон, што за выгоды!
Не на смехі, не на жарт,
Ката — брат, кат брата варт!

. . . . . . . . . . . . . .

Ціха дрэмле поле бітвы,
240 Шэпча блізкі лес малітвы;
Выбрыў воўк з сваёй бярлогі,
Выць пачаў на ўсе разлогі.
Выць пачаў ў хаўтурны тон,
Зубы скалячы на плён.

А разняўшы кіпці-клешчы,
Ў высі ўсплыў груган злавешчы
І закракаў, як бы ведаў:
— Кра-кра, кра-кра! то ж пабеда!..
Кра-кра-кра! рыхтуй набой,—
250 Па пабедзе — зноў у бой!..

*1914*

## 1914-ты

Сыходзіш ты туды, скуль не прыходзяць,
Але сваіх не забярэш слядоў...
О год! такіх, як ты, час рэдка родзіць,
О год! ты першы гэткі з між гадоў.

Прыйшоў не з згоды і свабоды весцяй
І — не ўзвялічыць праўду між людзьмі,—
Жыццё мільёнаў ты прыйшоў затрэсці,
Шлях вымасціць свой трупамі, касцьмі.

Кастлявай зморай з гібелі сталецця
10 Ты, як пракляцце, будзеш вызіраць,
І будзе маці страшыць табой дзеці,
Ды клікаць той — хто ўздумае ўміраць.

«Не забіваці» — ты стрывожыў права,
На сэрца і душу наклікаў цьму;
Людзей на звераў пошасцяй крывавай
Ператварыў і здаў наследніку свайму.

Га! Хай жа льецца кроў, дымяць пажары,
Няхай пад крыжам плача сірата!
Крывавы бог крывавыя ахвяры
20 Сабраць павінен з свету дачыста.

Аж прыйдзе іншы год з рукою лёгкай
Агледзіны рабіці новых дзён,
Дзе меч нявідзімага Бога-рока
Напіша бескрывавы свой закон.

*1914*

## КРЫЎДА

З'ядае крыўда нас ад векаў,
Няма ні праўды, ні парадку,
Стаў чалавек звер чалавеку,
Труюць адзін аднога звадкай.

Развёўся злосці змей паганы,
На брата брата падбівае;
Расой чырвонаю паляны
Блішчаць, як тая кроў жывая.

Снуюцца людзі, як жывёла,
10 У ёрмы шыі нагібаюць,
А цьма — і тут, і там, наўкола,
Астатні дух трутні выймаюць.

Не ўскалыхне жыцця віхура,
Не завагніць святла над цьмою,
Усё маўчыць, як ноч, панура,
Як пушча дзікая зімою.

Ані канца таму пракляццю,
Ані яснотаў тых пачатку...
Калі ж ты, Бацькаўшчына-маці,
20 Устанеш к новаму парадку?!.

*1914*

## СВАЯКІ

Раз абселі Беларуса
Маскалі ды Ляхі,
І давай яму сваяцтва
Тыкаці з-пад пахі:

— Ты мой ісціны браточак! —
Маскалёк бармоча;
— Ты мой хрэснік, мой сыночак! —
Юда-Лях сакоча.

Беларус жа ім на тое:
10 — Сваячкі мае вы:
Смачны жолудзь вам на каву,
Дый высока дрэва!

*1914*

* * *

Я мець ад кагосьці
І штосьці прывык:
Ад рускага чына —
Нагайку і штык,

Ад польскага пана —
Прыгон і бізун,
Ад роднай зямелькі —
Няўрод і каўтун...

*1914*

## ГРУГАНЫ

Адзін з захаду груган,
А другі з усходу
Прыляцелі на сяло,
На чужую шкоду.

І давай паміж сабой
Гутарыць, хваліцца:
— Круму! Круму! Што за рай!
Ёсць чым пажывіцца!

Дасюль елі мерцвякоў,
10 А цяпер затое
Будзем піць мы кроў жывых,
Мяса есць жывое!

[*1914*]

## ПАНІ ТВАРДОЎСКАЯ

*(Балада)*

*З польскай — А. Міцкевіча*

П'юць, ядуць і люлькі смаляць,
Гульням, скокам даюць волю,
Ледзь карчмы тэй не разваляць,
Хі-хі! Ха-ха! Гэй жа! Го-ля!

У канцы стала Твардоўскі
Выпнуў бруха, ўсіх марочa,
П'е, крычыць на чым свет боскі,
Туманы пускае ў вочы.

Ён жаўнеру, што йграў зуха,
10 Ўсіх піргае, лезе драцца,—
Свіснуў шабляй каля вуха
І з жаўнера мае зайца.

Адвакату з трыбуналу,
Абгрызаў што костку ўпарта,
Пазваніў машной памалу,
Адвакат зрабіўся хартам.

Шаўца пстрыкнуў ў нос кароткі,
Да ілба прыткнуў тры дудкі,
Цмокнуў: «Цмок!» і бочку водкі
20 Са лба вытачыў ў мінутку.

Тут, як водку піў з кяліха,
У кяліху свіст зрабіўся;

Зірк на дно: «Гэ, што за ліха!
Ты чаго тут, куме, ўбіўся?»

На дне ў чарцы — чорцік чорны:
Істы немец, круціць вочы;
Капялюх зняў, б'е паклоны
І на дол з кяліха скочыў.

Скочыў, вырас на два локці,
30 Нос, як гачык, крывіць міну,
Груганowыя пазногці —
На яго нагах курыных.

— А! Твардоўскі! Як дуж, браце?! —
Так сказаўшы, вакол кружа:
— Што? не хочаш і пазнаці?
Мефістофель я, мой дружа!

То ж са мной на Гары Лысай,
Там на скуры на валоўей
Аб душы рабіў запісы
40 І свой подпіс даў крывёю.

Чэрцям добра ў знакі ўеўся:
Бо, як два гады пяройдзе,
Ты у Рым прыехаць меўся,
Скуль да нас ты ўжо і пойдзеш.

А ўжо сем год, як свет чмуціш,—
Больш кантракт служыць не можа,
Пекла чарамі ты мучыш
І забыў аб падарожжы.

Але хоць чакаў я леты,
50 Помста ўрэшце даканана:
«Рым» завецца шынок гэты,
Кладу арышт на васпана!

Даць хацеў Твардоўскі цягу
На сказ гэтакі чартовы,
Але той злавіў за дзягу:
— А дзе, кажа, гонар слова?

Што рабіць? чарга наспела,
Схопе ў пекла тут, і годзе,

Дый Твардоўскі знае дзела:
60 Так мазгі таму заводзе.

— Мефістофель, глянь ты толькі
У кантракт, дзе пункт увідзіш:
Пасля год во столькі й столькі,
Па маю душу як прыйдзеш,—

Буду права мець тры разы
Запрагчы цябе ў работу,—
Ты ж найгоршыя прыказы
Мусіш споўніць што да ёты.

Глянь над карчмай маляванне:
70 Конь грывясты, хвост, як вехаць,
Тут жывым няхай ён стане,
Я хачу на ім праехаць.

Біч з пяску скруці мне, бесе,
Каб каня меў чым пагнаці,
Хорам вымуруй у лесе,
Каб было дзе папасаці.

Гмах з арэхавых зярняткаў
Выстрай аж пад шчыт Кранпаку,
Ў ім з барадаў кладзі латы,
80 Крый страху насеннем маку.

Глянь, цвічок такі прымерне:
Ў цаль — таўсты, даўгі ў тры цалі,
Гані ў кожна маку зерне
Па тры гэткія гантали!

Мефістофель скочыў жыва,
Каня чысціць, корміць, пое,
Суча доўгі біч са жвіру,
І ўжо конь напагатоўі.

Сеў Твардоўскі, выпнуў жылы,
90 Ўзяў за повад, конь здаровы,
Знай, трымайся, што ёсць сілы,
Аж тут, глянь,— палац гатовы.

— Так, так! выйграў прайдзісвета,
Дый работа жджэ другая:

Во, скупайся ў місе гэтай,
А вада ў ёй, знай, святая.

Чорт спужаўся, ўвесь сагнуўся,
Пот яго сцюдзёны крые:
— Што пан кажа, слуга мусіць,—
100 Чорт скупаўся аж па шыю.

Потым выскачыў, як з жару,
І Твардоўскага зноў страша:
— Я цяжкую вынес кару,
Але й ты у моцы нашай.

Раз яшчэ, і квіта будзе!
(Будзе чорту тут нагонка!)
Глянь, вунь баба, як печ грудзі,
Гэта, чорце, мая жонка.

Я на год у Бельзабуба
110 За цябе жыць застануся,
А праз той час мая люба
Жыць з табой, як з мужам, мусіць.

Прысягні ты ёй каханне,
Паслухмянасць і пашану;
Зломіш хоць адно заданне,
Будзе ўмова скасавана.

Ловіць гэта чорт паўвухам,
А паўвокам сочыць самку.
Быццам бачыў, быццам слухаў,
120 І зближаецца пад клямку.

А Твардоўскі пры ім суча,
Нібы выпусціць баіцца.
Скочыў дзюркай чорт ад ключа
І дагэтуль скача гіцаль.

## ВАЯВОДА

*(Украінская балада)*

*З польскай — А. Міцкевіча*

З-пад прысад агарода
Бледны ўбег ваявода
У палац свой са злосцю й трывогай,
Перад спальняю стануў,
У пасцель жонкі глянуў,
Глянуў там — і не ўбачыў нікога.

Ў дол патупіўшы вочы,
Ўвесь дрыжыць, штось мармоча,
Вусы тузае, думае дзіка.
Адышоў ад пасцелі,
Жудка зрэнкамі стрэліў,
Казака туж Навума паклікаў.

— Гэй, казача, ты, хаме,
Чаму ў садзе пры браме
Ні сабакі няма, ані стражы?!
Браць мне торбу барсучу
І янчарку гайдучу,
Цягні стрэльбу-гвінтоўку мне ўраз жа!
Ўзялі зброю — і ходу!..
20 Падцякліся к гароду,
Дзе альтана хавалася ў зеллі.
На дзярновым сядзенні
Штось бялеецца ў цені:
Там сядзела кабеціна ў белі.

Вочкі ручкай адною,
Закрывала касою,
Грудзі крыла рубком кашуліны,
А другою — памалу
Ад грудзей адпіхала,
30 Што ў калень яе кленчыў, мужчыну.

Той прыпаўшы к каленям,
Ей казаў ў знемажэнні:
— Дык усё, што было, ўжо далёка!
І тваё уздыханне,
І тваё прывітанне
Заплаціў ваявода гатоўкай!

Хоць цябе столькі летак
Я любіў палка гэтак,
І любіць, і цярпець буду здаля,—
40 Не любіў ён нікольκі,
Бразнуў золатам толькі,
Ты яму прадался без жалю.

Ён штовечара будзе
Песціць белыя грудзі,
З табой цешыцца ў пуху лябяжым,
Твае — мне на загубу —
Цалаваць шчочкі, губы
Будзе ён пацалункам уражым.
Я на коніку верным
50 Гэтым полем бязмерным
Сюды мкнуўся праз холад і слоты,
Каб вітаці ўздыханнем —
І ад'ехаць з жаданнем:
Добрай ночкі і доўгай пяшчоты!

Яна ўсё йшчэ як глуха;
Ён ёй шэпча на вуха
Тыя жальбы ці новы закляцці,
Аж прымлеўшы, без сілы,
Ручкай грудкі адкрыла
60 І ў яго патанула абняцці.

З казаком ваявода
Прыкуцнулі ля ўхода
І з-за пояса бралі набоі,—
Адсякалі зубамі,
Прыбівалі штамплямі
Жменю пораху й шроту удвое.

— Пане! — тут казак кліча,—
Нейкі чорт мною смыча,
Не магу той застрэліць дзяўчыны:
70 Як свой курак адводзіў,
Я ўздрыгнуў, як на лёдзе,
І сплылі на падпал дзве слязіны.

— Ціха!.. Кінь, хаме, кракаць!
Я наўчу цябе плакаць!
На! тут з порахам свежым машонку;

Падсып жыва падпалу,
Ногцем счысці красала
Ды ў свой лоб стрэль ці ў гэтую жонку.
— Управа... вышэй... цэль дбайна!..
80 Жджы, пакуль я не пальну,—
Жаніха змяту перш назаўсёды.
Ўзвёў казак курак, сцэліў,
Не чакаючы, стрэліў,
І ўгадзіў ў самы лоб ваяводы.

## ТРЫ ПАРЫ ДНЯ

*З польскай — М. Канапніцкай*

Прыйдзе світанне да маёй хаткі
І разбуджаць мяне стане:
«Гэй! бяры коску: глянь! там на ўсходзе
Сонейка скора прагляне».

Дзе ты, сярмяга? Пот яшчэ значан:
Ночкай не высах Пятровай.
Дзе мая коска? дзе ваяўніца?
Час нам на луг за дуброву.

Прыйдзе палудне да маёй хаткі,
10 Ка мне падсядзе на лаву,
І так глядзіць там, як мае дзеткі
Жывяцца поснаю стравай.

І лусту хлеба чорнага ломіць,
Рукі чагосьці трасуцца,
А што кусочак возьме, адкусіць —
Слёзы цурком паліюцца.

А прыйдзе ночка да маёй хаткі,
Стане ў куток, падапрэцца —
І ў думах-думках, стоячы гэтак,
20 Песняй глухой адазвецца.

А ў грудзях сэрца птушкай заскача,
Хадыром хатка заходзіць,
Як ноч аб долі цяжкай мужычай
Нудна галосіць, заводзіць.

## КАРАЛІ

*(Пацеркі)*

*З польскай — У. Сыракомлі*

Як ішоў я ў бой кіпячы,
Як прашчаўся з хаткай,
Тут Гануля мая з плачам:
«Пойдзеш гінуць, братка!
Але буду я маліцца
Па табе з трывогі,
Ты ж прынось за то гасцінца —
Шнур караляў доўгі».

З ласкай Божай паручыла
10 Грамадзе радзімай:
Палі ворагавы сілы,
Горад здабылі мы.
Як прыціхнулі гарматы,
Як браму зламалі,
Хто саетаў, хто дукатаў —
Я шукаў караляў.

Хоць і ў шчасці не радзіўся,
А шукаю смела...
Шнур караляў замігціўся,
20 Як бы вішань спелых.
Тут здабычыну схапіўшы,
Не чакаю далей.
Чым хутчэй спяшу к наймільшай —
Даць ёй шнур караляў.

Па гасцінцы, па дарожцы
Кульгаю дадому...
Загудзелі званы ў вёсцы,
Як па нежывому.
Прыбліжаюся к хаціне,
30 Аж тут людзі здаля:
«Твая Ганна ў дамавіне,—
Не трэба караляў!»

Ой, заплакаў, ой, заенчыў,
Цяжэй цяжкай хмары,
Перад цэркаўкай укленчыў,
Дый спяшу к алтару;
Да свяцейшай да Марыі
Зближаюся ў жалі,
І завесіў ёй на шыі
40 Тых я шнур караляў.

## НЯЗЖАТЫЯ ГОНІ

*З рускай — М. Някрасава*

Позная восень. Буслы адляцелі,
Лес абгаліўся, палі апусцелі,
Толькі нязжатыя гоні адны,
Смутную думку наводзяць яны.

Шэпча, здаецца, там з коласам колас:
Нудна нам слухаці восені голас,
Нудна хіліцца да самай зямлі,
Спелае зерне купаць у раллі.

Кожную ночку ў нас толькі начуюць
10 Дзікія птушкі і злосна руйнуюць,
Заяц нас топча, віхура нас б'е...
Дзе ж гэта сейбіт? Чаму жаць не йдзе?

Вецер даносіць адказ неўпапад:
Вашаму сейбіту моцы не хват!

# Іншыя рэдакцыі і варыянты

## ВЕРШЫ

### 1911

*Ігнату Буйніцкаму*

*Газ. «Наша ніва», 1911, № 8, 24 лют.:*

11—12 Усё ў яго зыходзе гладка,
Не умыліць ні трошка
18 Покі сілы зваце,

*Сад*

*Газ. «Наша ніва», 1911, № 18—19, 12 мая:*

1 Панадна веткі разлапушыў

*Сёмуха*

*Газ. «Наша ніва», 1911, № 20—21, 26 мая і зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923:*

8 Паймі колькі ў рэчцы жыцця.

*Зб. «Шляхам жыцця», 1923 і Зб. тв., 1929, т. II:*

11 Я знаю, як доля іх страшна.

*Гэй, наперад!*

*Белавы аўтограф:*

2а Б'ецца, рвецца напярод,
6 *Як у асноўным тэксце*
15—17 Словы, рук ніхто не звяжа,
Жыць, любіць не будзе страх!
Ўжо не стане больш пакуса

*Над Нёманам*

*Аўтограф № 1:*

3а Толькі у часе благой непагоды
6 *Як у асноўным тэксце*
12 Пошусць уелася ў родну зямлю
20 Доля цвіла у ём, як макавы цвет.

[23] Вораг баяўся падбліжыцца смела,
[41—42] Га! А сягоння аб чым гаварыці?!
Усе мае скарбы загубай ідуць...
[46] Цёмным парадкам, прыгонным жыццём,
[52] Тых заганяе пагібель к Неве.
[59] Слава ж бацькоў палыном парастае,
[65] Што-ж? Ты не слухаеш, бачу, ўжо болей.
[66] Ой, чалавеча скаваны у сне!..
[68а] Доўга не пойме нявольнік няволі
[б] *Як у асноўным тэксце*
[70] Гэтакі ў часе благой непагоды.

*Аўтограф № 2:*

[38а] Не называўся забраным мой край;
[б] *Як у асноўным тэксце*
[41] Га, и сягоння, што тут гаварыці?
[52а] Тыя прынукаю пруцца к Неве
[б] *Як у асноўным тэксце*
[57—59] *Закрэслены аўтарам*
[60а] Слава бацькоў палыном зарастае
[б] *Як у асноўным тэксце*
[66] Ой, чалавеча, скаваны ў сне!..

*Як у лесе зацвіталі...*

*Белавы аўтограф і газ. «Наша ніва», 1911, № 24, 16 чэрв.:*

[2] Верас ды каліна,—

*Рукапісны зборнік «Шляхам жыцця» (выразка з газеты) і «Шляхам жыцця», 1913, 1923:*

[2] Ліпа ды каліна,—
[13] Мігацелі, зіхацелі

*Белавы аўтограф:*

[6] Белыя бярозы,

*Белавы аўтограф, газ. «Наша ніва» і зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923:*

[19] Увакруг глянулі нясмела

*З недацветаў*

*Белавы аўтограф і газ. «Наша ніва», 1911, № 45, 10(23) лістап.:*

[13] Па цвяцістым пуці,

*Дуб*

*Белавы аўтограф і газ. «Наша ніва», 1911, № 23, 9(22) чэрв.:*

[1] Распусціўшы веткі

*Карэктура зб. «Шляхам жыцця»:*

[1] Распусціўшы галлё

*Белавы аўтограф:*

[2а] У бязбрэжным прыволлі

[б] *Як у асноўным тэксце*

### *Хохлік*

*Белавы аўтограф, № 1:*

[2] Абмірае песень воклік;

[6] Чахнуць кветкі на папары,

[18] Ноч смяецца, сонца скача,

[20] На пяшчанай сенажаці,

### *За касой*

*Белавы аўтограф, № 1:*

[2] Лета высцеле лог, сенажаць,—

[7] Песні з ветрам шумяць, вецер водклік нясе,—

### *Вярба*

*Белавы аўтограф, № 1:*

[11] І матылёк, і мушка

[15] Крыклівыя вароны

[29] Гавоpуць часта людзі

*Аўтограф № 2:*

[10а] Не сядзе, не пяе

[б] *Як у асноўным тэксце*

[11] І матылёк, і мушка

[12а] Чураюцца яе

[б] *Як у асноўным тэксце*

[17а] Ды восеняй, у ночай.

[б] *Як у асноўным тэксце*

[26а] Выгукіны жуды,

[б] *Як у асноўным тэксце*

[29а] У той час гавоpуць людзі

[б] У той час так кажуць людзі

[29—30, 31—32а] *Перастаўлены месцамі*

[б] *Як у асноўным тэксце*

### *З табою...*

*Белавы аўтограф, № 1:*

[10] Крывавым бяльмом заплывала,

[11] Пасад абручаны магілай

### *За чаркай*

*Белавы аўтограф, № 1:*

[18] Праз дзяўчыну пайшло, і нялёгка пайшло.

31 З ней часіна уцякла удваіх не адна
52 Бацька радзіць пасля бо мо' здарыцца ўсяк
53а Што рабіці ў такім тут жыцці
б *Як у асноўным тэксце*
64 Хоць магілкі яе судзіў павідаць.
86 Дзе шчаслівы той смех, дзе той бойкі паглёд?
88 Ды я ў поле скарэй, а яна — у агарод.
100 За няўлад праўды у нас, за паглёд мілы той.

*Аўтограф, № 2:*

74а Маёй службе прышоў — адпусцілі дамоў,
б *Як у асноўным тэксце*

*Аўтограф, № 2 і зб. «Шляхам жыцця», 1913:*

88 Ды я ў поле скарэй, а яна ў агарод.

### *У купальскую ноч*

*Белавы аўтограф:*

[illegible]1 І бармоча, як спрасоння,
39 Звод хахоча ў цёмнай хаці,
62 Што ёй дадзены да сховы,
69 Бачыш ночачка, як сажа,
78 То рукою водзіць пуста,
112 Я ў жальбе снуюся хмурнай.
120 І так з кветкай вязну ўперад.
136 Галаву над пнём абгнілым.
198 Дзікі хохат пайшоў рэхам,
202 Як калода пры сасонцы,

*Газ. «Наша ніва», 1911, № 25—26, 1(14) ліп.:*

120 Вязнем я і кветка ў нерад.
156 Выць так будзеш паміж вядзем.

### *Песня мая*

*Аўтограф № 1:*

7 Сонца і росы вясною купалі,
20 Қ зорам і сонцу, прастор дзе вялік,
42 Гэткіх не нойдзе ў ёй будучнасць плям,—
45 І хоць калі будзь здалёку з-пад зораў
47—48 Қаб у шчаслівым шырокім, як мора,
Усю Беларусь аглядаці святле.

*Аўтограф, № 2, зб. «Шляхам жыцця», 1913 і 1923:*

43 Жыць хоча толькі ў радзімай старонцы,

### *Не праспі*

*Аўтографы:*

1 Спі, дзяўчына, покі сонца
3 А як сонца на пагонцы
8 Небу дай гуляць з касою!

*Грайце, песні*

*Аўтограф № 2:*

[9] Непагодай і пагодай
[17—20] І ўсіх клікаць, клікаць смела,
На прыволле на прастор
Хай зазвоняць косы ўмела.
У лесе грукне хай тапор.
[24] Ляжа чысты гладкі след.

*Жняя*

*Белавы аўтограф, № 1:*

[5] З васількоў вяночак
[7—9] Ўся сама як зорка
Як у музе кветка
На грудзях панадных
[12] Точаны, сталёвы
[19—20] Шапаціць ігруша
Галінкай зялёнай,
[25а] Так ідзе ў сонцы
[б] *Як у асноўным тэксце*

*Аўтограф № 2:*

[5] З васількоў вяночак
[б] *Як у асноўным тэксце*
[25а] Так ідзе ў сонцы
[б] *Як у асноўным тэксце*

*З летніх малюнкаў*

*Белавы аўтограф, № 1:*

[3] Усё далей плыве і плюскоча.

*Аўтограф № 2:*

[3] Усё далей плыве і плюскоча
[б] *Як у асноўным тэксце*

*Газ. «Наша ніва», 1911, № 28—29, 21(3) ліп. і зб. «Шляхам жыцця», 1913 і 1923:*

[7] Вольха ліасткамі ёй шыю шчакоча,

*Як у повесці*

*Аўтограф № 1:*

[20а] Жыта жаць потым хадзіла
[б] *Як у асноўным тэксце*
[22] Ці біў лучыну з сосен;
[26а] Часта хадзіў у лес з пілою;
[б] *Як у асноўным тэксце*
[39а] Чуў ад людзей бытцам Янка
[б] *Як у асноўным тэксце*

*Аўтограф № 2:*

[1а] Шлях каля шляху магілкі,
[б] *Як у асноўным тэксце*
[22] Ці біў лучыну з сосен;

*Мінуты шчасця*

*Аўтограф:*

[8а] Цяклі няведамаю сілай.
[б] *Як у асноўным тэксце*
[14] Як сонца блеск на вод крышталі,

*Чатыры крыжы*

*Газ. «Наша ніва», 1911, № 37—38, 22(5) верас.:*
*Радкі 17—24 і 25—32. Перастаўлены месцамі*

*Дзе?..*

*Аўтограф:*

[7] Што дала б мне нацешацца
[17] Дзе ты, любая дзяўчына
[28а] Смехам крыўдзюць людзі.
[б] *Як у асноўным тэксце*

*Аўтограф і зб. «Шляхам жыцця», 1913:*

[19] Што закрыла бы мне вочы
[27] Доля сумам аплятае.

*Блізкім і далёкім*

*Чарнавы аўтограф, № 1:*

[6] Хай будзе сліўням, піяўкам завідна,
[8] Вам толькі працы гэткай нястыдна.
[22—23] Выйсці сумее к яснасці божай,
Не зачапаным выйдзе з балота
[26а] Птушкай сягнуці часу не мела,
[б] *Як у асноўным тэксце*
[35] Сам я суддзей, і прышлых лет сотні
[40а] Крылля дало мне сонца на ўсходзе
[б] Крылля даў новы світ на ўсходзе
[42] Выкапаць гроб мне, косці скрышыці,—
[43а] Я ж не памру ўвесь, як не мруць ветры,
[б] *Як у асноўным тэксце*

*Зб. «Спадчына», 1922:*

[45] Цень з таго свету ўстане мо' ноччу,

*За свабоду сваю...*

*Аўтограф № 1:*

[2] Я гарой пастаю

*Каб я князем быў...*

*Аўтограф № 1:*
20 Ўночы, як удзень,
22 Поле і лагі;
44 К богу бы панёс.

*Аўтограф № 2 і зб. «Шляхам жыцця», 1913:*
44 К богу бы панёс.

*Вячэрняя малітва*

*Аўтограф:*
2а А кветкі нябесны зайграюць нясмела,—
б *Як у асноўным тэксце*
10а Вяртаецца з песняй і просіцца ў сэрца,
б *Як у асноўным тэксце*
11а Дзе ласкай світае, як байка святая,
б *Як у асноўным тэксце*

*Заручыны*

*Аўтограф:*
23а Над намі сукамі змей — бор хахатаў,
б *Як у асноўным тэксце*

*Аўтограф і зб. «Шляхам жыцця», 1913:*
16 І ціха суліхай сціскалася цень,

*Я казак — не казак...*

*Аўтограф № 1:*
12 К сабе вольных людзей

*На ўсе рукі*

*Аўтограф № 1:*
9—10 Адным словам без прынукі
Як ёсць майстар на ўсе рукі — *адсутнічаюць.*

*Эпіграма на самога сябе*

*Аўтограф № 1:*
3а Пазнаў людзей свету ці мала.
б *Як у асноўным тэксце*
4 Вот дзе нарадзіўся не знаю

*Дзве таполі*

*Аўтограф:*
5а Аб Усходзе на полі ўсё шумелі таполі,
б *Як у асноўным тэксце*

*Як спытаюцца нас*

*Аўтограф № 1:*
11а Мусіць старым звычаем
б Мусіць нашым звычаем

[12a] Збегла ўпрочкі ад нас.
[б] *Як у асноўным тэксце*

### *Ты прыйдзі...*

*Аўтограф:*
[9—12; 13—16] *Перастаўлены месцамі*
[11a] Вечнай казкай залатою
[б] *Як у асноўным тэксце*
[12] Ў думцы абыйдзі
[16] Думку павядзі;

### *Над ракою ў спакою*

*Аўтограф:*
[20] Што дачушка ўсыхала
[21] Па рацэ гналі фалі

### *Спека*

*Аўтограф:*
[13a] Саванам бледна-чырвоным
[б] Саванам бледна-зялёным
[в] *Як у асноўным тэксце*
[19a] Сонца міргае загубай,
[б] *Як у асноўным тэксце*

### *Летняя раса*

*Газ. «Наша ніва», 1911, № 35, 1(14) верас.:*
[6] Блескі сонца загуляюць,—

### *Ваякі*

*Чарнавы аўтограф:*
[1a] Сышліся два светы памежду сцежцы адной.
[б] *Як у асноўным тэксце*
[2] І гэй жа ўдарылі ў спор між сабой
[3a] Маё ўжо тут права мой дружа
[б] *Як у асноўным тэксце*
[4] Стары яму ўслед: ⟨нрб⟩
[5a] Іх тут даглядзела неяк жыццё
[б] Даглядзела трэцяе тут іх неяк жыццё
[6—8] І кажа: не ваша, а ўсё маё тут
Чацвёрты ім вецер ўсім кіўнуў галавой
Сышліся байцы тры — на сцежцы адной.

### *Хрыстос васкрос!..*

*Аўтограф:*
[22] І я дзень гэты думку шлю:
[24] Уваскрэсне к лепшаму жыццю!

*Зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923 і Зб. тв., 1926 і 1929, т. II:*

[19] Што ўціхамоўку ладзяць сеткі

### *Слугам алтарным*

*Чарнавы аўтограф:*

[3] А прасвятляю ліш душу
[5а] Судзілі песень маіх сказ
[6] *Як у асноўным тэксце*
[8] На вас пятно налепіць здрайцы!
[11] Жывых па трупаў із магіл
[13] Лет сходзе тысячы ўжо дзве,
[14] Як вы таргуеце Ісусам,

*Пасля радка 12 закрэслены два варыянты страфы:*

Не ваш, аўтарныя служакі
На свеце ўсходзе новы час,
[а] І падкалодныя вужакі
Не запужаюць вольных нас!
Но, ваш аўтарныя служакі
Мінуў час несці ўсё на глум
[б] І падкалодныя вужакі
Не перамогуць вольных дум.
[15] І ўсё, ўсё на аўтодафэ
[22—23] Жыццё пазвала вас на службу,—
Вы ж сатане, мамоне, злу

*Белавы аўтограф:*

[3] А аддаю сваю душу
[13—14] Лет сходзіць тысячы ўжо дзве
Як вы таргуеце Ісусам,
[15а] І усё, усё на аўтодафэ
[б] *Як у асноўным тэксце*
[22а] Жыццё пазвала вас на службу
[б] *Як у асноўным тэксце*
[23а] Вы ж сатане, мамоне, злу
[б] *Як у асноўным тэксце*

## 1912

### *Чараўнік*

*Машынапісны тэкст:*

[9] А як пойдзе хто першай,— ён скажа ім, гэтак,—
[47а] Дзе ня ступе — згібаюцца кветкі і травы

[6] *Як у асноўным тэксце*
[53] Не сыходзе са шляху свайго і другі сын —
[61] Загубіў сваю скуру, чужая ж не цешэ
[109] Весці толькі ішлі, як туманы, і вялі
[123—124] Ім саветы далі назаўсёды ў Судзьбіны,
Як трымацца саветаў, сказалі.
[152] Не сумеў навучыць брата-звера,
[157] Схову новую строй, больш тваё скуль прыпасы б
[185a] Прыпадаў к мертвым кветкам грудзьмі і душою,
[6] *Як у асноўным тэксце*
[205] У фалях мутных шукае, к каму дзе падсесці,
[208] На яго месцы пошусці сеюць.
[216] Ведзьмы шэпчуць салодкія рэчы
[237] Шапацяць тые лісці заснуўшым палянам —

### *На рынку*

*Газ. «Наша ніва», 1912, № 4 26(8) студз.:*
[28] Сустрэчаўся я з сонейкам так.
[42] Па сканaнні мне зраніцы,

### *Папросту*

*Машынапісныя тэксты:*
[6] Хоць патаптана мудрым чужынцам;
[22] Нашым хацінам, нашым палянам,
[24] Брацям-славянам.

### *У чужой старане*

*Машынапісны тэкст:*
[20a] Дзе пацехі хоць цень — бледны цень?
[6] *Як у асноўным тэксце*
[22a] Не звінеў над калыскай маёй;
[6] *Як у асноўным тэксце*
[39a] Ён цябе як і нашай мяжы,
[6] *Як у асноўным тэксце*
[42] Па сканaнні зраніцы мае,
*Машынапісны тэкст і зб. «Шляхам жыцця», 1913:*
[28] Сустрэчаўся я з сонейкам так.
*Зб. «Шляхам жыцця», 1923:*
[28] Сустрачаўся я з сонейкам так.

### *Прыстаў я жыць...*

*Машынапісны тэкст і зб. «Шляхам жыцця», 1913:*
[53—54] З чужынцам-катам нельга жыці,
Чужынцу-кату служа брат...

*Хмарка і маладзік*

*Машынапісны тэкст і зб. «Шляхам жыцця», 1913:*

[9] Шопат-рэч павяла
[18] Мёртва-спячну зямлю,
[44—45] Нам завідаваць тут
Будзе з века ў век.

*Злажыўшы рукі...*

*Белавы аўтограф:*

[1] Злажыўшы рукі на прымус,
[6а] У вечнай сходзюць далі.
[6] *Як у асноўным тэксце*

*Машынапісны тэкст:*
*Пасля радка 8 закрэслена:*

На гэтае пытанне
Я раду б даў такую:
Хай кожны з нас адкажа,
Як сэрца надыхтуе...

*Па захадзе...*

*Машынапісны тэкст і зб. «Шляхам жыцця, 1913 і 1923:*

[16] І шчакаталі шыю

*Машынапісны тэкст і зб. «Шляхам жыцця», 1913:*

[29] А ночка пела з блескам зор

*Грай жа, музыка...*

*Машынапісны тэкст:*

[5а] Грай жа, музыка, рві сэрцам струны...
[6] Як у асноўным тэксце

*Машынапісны тэкст і зб. «Шляхам жыцця», 1913:*

[26] Стой!!! Блеск чырвоны шыбае з акон.

*Выйдзі...*

*Газ. «Наша ніва», 1912, № 19—20, 10 /23/ мая і зб. «Шляхам жыцця», 1913:*

[11] Вырылі сцюжы ўюгамі, снегам

*Я люблю*

*Машынапісны тэкст:*

[9а] Я люблю ясны вочы і белыя грудзі
[6] *Як у асноўным тэксце*

*На вялікім свеце...*

*Машынапісны тэкст:*

[4а] Асвяціць народы лепшы быт масціцца.
[6] Як у асноўным тэксце

*Для зямлі прадзедаў маіх...*

*Машынапісны тэкст:*

[13a] І за гэта малю, прашу цябе:
[6] *Як у асноўным тэксце*
[14a] Не адганяй ты мяне ад свайго парога.
[6] *Як у асноўным тэксце*

*Калі пачнуць...*

*Аўтограф:*

[4] І віхрам мчуцца над зямлёй.
[14] А дудароў магучы хор

*Прарок*

*Аўтограф:*

[1a] Сярод няпраўд, сярод насмешкаў,
[6] *Як у асноўным тэксце*
[2] Знак нейкі ціснучы к грудзям,
[6a] Ці плачам пеў, як дзіцянё,
[6] *Як у асноўным тэксце*
[11a] Агонь яснеў з яго зраніцаў,
[6] *Як у асноўным тэксце*
[21] Аж так дасціг — аквечан хвалай —
[24a] Дзе царства меў над катам хат,
[6] *Як у асноўным тэксце*
[37—40] Паўстаньце, рабскія натуры,
Ужо рабства свой адпело век;
Закалышыцесь віхрам, бурай,
Зметайце з плеч і гнёт, і здзек!

*Газ. «Наша ніва», 1912, № 51—52, 21 снеж. і зб. «Шляхам жыцця», 1913:*

[71] Паскольні ж нам дасі чырвонцаў,

*Цару неба й зямлі*

*Тэкст, напісаны лацінкай:*

[4] На стогн, што ідзе к табе з году ў год?
[10—11] І пушчам гібелі шле твой пажар,
А нашых бед скрышыць, спаліць і хвалай
[17] Вачамі сонейка агністых
[19] І толькі сцежак камяністых
[24—25] І рукі ўвысь пранёс к табе з мальбой
Ты ў славы цвет нялічаных народаў
[25—32, 33—40] *Перастаўлены месцамі*
[31—32] За тую веру, што лет сотні бацькі і дзеці
У моц тваю вучыліся мець
[38] Усё, што ёсць для нас і ў нас святым

[41a] І ты глядзіш на гэта ўсё
[б] І ты глядзіш на гэта ўсё з патоляй
[42—43] І неба твае маўчыць, як падзямелля мур;
Мальбы няшчасных: праўды, шчасця, волі!

*Газ. «Беларусь», 1920, № 6, 11 студз.:*

[2] Караеш так няшчасны твой народ?
[5] Чаму над намі даў перамаганне
[8] Сынам і іхняй маці-старане?
[10—11] І пушчам гібелі шле твой пажар,
А нашых бед скрышыць, спаліць і хвалай
[23] Скуль цені прадзедаў гурбой выходзяць
[25] Ты ў славы цвет нязлічаных народаў
[25—32, 33—40] *Перастаўлены месцамі*
[32] У моц тваю вучыліся век мецъ.
[41—43] І ты глядзіш на гэта ўсё з патоляй,
Глядзіш, маўчыш, як падзямелля мур;
Мальбы няшчасных: праўды, шчасця, долі!
[47] Вярні нам нашу Бацькаўшчыну, Божа,

*«Лірнік вясковы»*

*Аўтограф:*

[23a] Над курганам тым сэрцаў мільёны ўздыхала:
[б] *Як у асноўным тэксце*

*Аўтограф, часоп. «Zitwa i Rus» і зб. «Шляхам жыцця», 1913:*

[49] А калі ты, гаротнік, тулач беззямельны

## 1906—1912

*Сваякам па гутарцы*

*Аўтограф:*

[4] Жыццё, лепш будзе.
[10] Ні ў князёўскай мітры,
[19] Але хлеб, імі дабыты,
[25] Сведкай — прадзедаў скілеты,

*Паляці, мая мысль...*

*Аўтограф:*

[14] Няхай родзюцца;

*Рвіся, думка!..*

*Чарнавы аўтограф:*

[1—2] Покуль старасць неўдалая
Касцей з ног не вале

[7a] Рвіся, пакуль будзе годзе,
[6] *Як у асноўным тэксце*
[17a] Рвіся, рвіся, дый забывайся
[6] *Як у асноўным тэксце*
[18a] На матку, на дзеці
[6] *Як у асноўным тэксце*
*Белавы аўтограф:*
[17—20] *Адсутнічаюць*

### *На жалейцы*

*Аўтограф:*
[18] Калі не хватала,
[60] Я паціху, чуць чуваці,

### *Маладая Беларусь*
(«Вольны вецер напеў вольных песень табе...»)

*Чарнавы аўтограф:*
[11a] З дзіўных кветак-пралесак — карона твая,
[6] *Як у асноўным тэксце*
[15a] І сягоняшні дзень без віны не
вініш,
[6] *Як у асноўным тэксце*
*Белавы аўтограф і зб. «Шляхам жыцця», 1913:*
[46] Над крыжамі бацькоў, над курганамі,
[48] Свой пачэсны пасад між славянамі!..

### *Шлях мой...*

*Аўтограф:*
[1a] Мой шлях не спелецца сонцам і кветкамі,
[6] *Як у асноўным тэксце*

### *Дзе ты, шчасце маё?..*

*Аўтограф:*
[7] Можа ўскажа няшчаснаму к долі дарогу
[12] І пяе у душы пахаронныя гімны.

### *Холадна...*

*Аўтограф:*
[8] Сэрца нудою зжымаюць.
[19] Рукі працягнеш, повен трывог...

### *Мая доля*

*Аўтограф:*
[11] Хоць нязванаю знекуль яўлялася,
[15] Ты несла мне усё непрыхільнае...

## *Чалавеку*

*Аўтограф:*

[8] Заліліся магільнаю мглой?..
[14а] Што аддалены шум яго шле,
[б] *Як у асноўным тэксце*
[15] Як у гэта бязбрэжнае мора
[18] Цёмнай ночы, магучы цар дня,
[19] І прыходзіцца ўняці нездары,
[41] Мае мір неадкрытыя сілы,

## *Зганнік*

*Аўтограф:*

[6] Даль залягла непрыветам;
[11а] Жудкія думы шэпча дарога,
[б] *Як у асноўным тэксце*
[13а] Горбяцца плечы, вутлыя плечы,
[б] Горбяцца плечы, збалелыя плечы,
[48] Біці паклоны нягодам...

## *Не для нас...*

*Аўтограф:*

[16] Салаўіная звонкая песня...

## *«Забраны край»*

*Чарнавы накід, № 1:*

[1а] Я ведаю знаю старонку адну
[б] Ці знаеш ці знаеш старонку адну
[illegible] Спавітую ў вечны туман
[3а] Не зможэны сівер заводзе да сну
[б] С канца ў канец сівер заводзе да сну
[illegible] Дзе сівер не зможаны вые
[4а] Ляжыць на кургане курган
[б] Залёг дзе курган на кургане.
[4а] Зямлі назву гэтай знаць хоча хто з вас
[б] Зямлі назву гэтай пытай кожны раз
З сыноў яе ніў не дзівісь
[6а] Пачуецца толькі патайны адказ
[illegible] Толькі пачуецца як адзін тайны адказ
[8] «Забраны край» гэты калісь
«Забраны край» гэты цярпіць

*Чарнавы накід, № 2:*

[1] Я ведаю знаю старонку адну
[2а] Няўдалае поле і палены гай
[б] *Як у асноўным тэксце*
[3а] Спытаеш аб гэтым

[б] Нязможаны сівер калыша да сну
[в] Нязможаны сівер заводзе да сну
[4] Ляжыць на кургане курган
[5а] Там сівер зняможаны свішча
[б] Заўсёды пачуеш: забраны край.
[6] Заўсёды пачуеш: забраны каліcь край.

*Закрэсленыя радкі:*

Забраны край табе адкажуць
Хто хоча знаць назву зям⟨лі⟩
А кожны адкажа патайна табе
[а] Забраны край нейкім калісь
[б] Забраны край гэта калісь
[а] Пачуеш мой дружа патайны адказ
[б] Пачуецца толькі патайны адказ
Зямлі гэтай назву знаць хоча хто з вас
З сыноў яе ніў не дзівісь.

*Белавы накід:*

[1—4] Я ведаю знаю старонку адну
Спавітую ў вечны туман
Дзе сівер нязможаны вые да сну
Залёг дзе курган на курган
[5—8] Зямлі назву гэтай знаць хоча хто з вас
З сыноў яе ніў не дзівісь
Пачуўшы адзін толькі тайны адказ
Забраны край гэты калісь.

*Зб. «Шляхам жыцця», 1913:*

[41] Жыццё лет без ліку на шнурык свой ніжа,

## *У ночным царстве*

*Аўтограф:*

[3а] Гасцінцам, скованы скацінай,
[б] *Як у асноўным тэксце*

## *Суды*

*Аўтограф:*

[31] Толькі дух — яснасвет нацяшаецца,

## *Над Свіслачай*

*Аўтограф:*

[6а] Па баках ракі,
[б] *Як у асноўным тэксце*
[22а] Сонца абняло,
[б] *Як у асноўным тэксце*
[32] Ці ў Карзюках спіць?
[33] Ці пайсці гасцінцам

### *Груша*

*Машынапісны тэкст:*

[1а] Стаіць груша сталетняя,
[б] *Як ў асноўным тэксце*
[13а] Но дзіўнай мовы грушынай
[б] *Як у асноўным тэксце*

### *Тае снег...*

*Аўтограф, № 1:*

[3] Скора жаўранак песняй сваёй галасістаю

*Аўтографы:*

[4] Прывітае араты на волі.
[6] Ляжа ўсходнае зерне ў пахань сырую,
[7] Закалосіцца поле слязою і потам аблітае,

### *З асенніх напеваў*

*Аўтографы:*

[38] Галля худыя тарчаць,
[58а] Зноў асыплюцца;
[б] *Як у асноўным тэксце*
[86] Летнія дні дзе падзеліся? —
[87] Стужа гуляе па роднай старонцы,
[90] Гора паўстала з магілаў старое,
[91] Сэрца зжымаецца з жалю з нядолі,
[93] Беднае сэрцайка, колькі мучэння
[95] Будзь мы без сэрца — слёз мелі бы меней.
[98, 126] Сэрца зжымаецца;
[112] Жаласцей нейкаю.
[116] Песень забыліся.

### *«З зорак усходніх, заходніх, з бліскучай...»*

*Аўтограф:*

[15а] Казку тварыў бы з табой маладую —
[б] *Як у асноўным тэксце*
[16а] Такую, як песня гэта.
[б] *Як у асноўным тэксце*

### *Людка*

*Машынапісны тэкст:*

[21а] К беленькай ручцэ
[б] К ружовенькай губке (лацінкай)
[в] *Як у асноўным тэксце*

### *Я хацеў бы...*

*Аўтограф:*

[11] Што з-пад сэрца, з душы галасок бы дабылі
[15] Маглі бы змагаціся з чорнай нудою,

*Абнімі...*

*Аўтограф:*

[1—2] Абымі ты мяне, маладая,
Абыманнем гарачым, агністым,
[10] На сады, на амшалыя хаты;

*Ці ты чуеш?..*

*Машынапісны тэкст:*

[3а] Як вятрыска скаголе,
[б] *Як у асноўным тэксце*

*Ястраб*

*Аўтограф:*

[3] І косці запусце ў галубку ён смела,

*Аўтограф і зб. «Шляхам жыцця», 1913:*

[15—16] Дзе пойдзе, дзе гляне, стогн рвецца напрасны:
Адзін ты, адзін: небарача няшчасны!

*Вёска (цыкл)*

*Аўтографы і «Шляхам жыцця», 1913:*

*Частка 1*

[1] Свету каб хоць трошкі:

*Частка 2*

[4] Колькі дарэмных напасцяў!
[12] Смокча бясхлебіца сілы.

*Частка 3*

[7] Крыша, ломе вецер
[11] Ходзяць к ней у госці
[20] Што ў вастрогах маюць...

*Аб мужыцкай долі*

*Аўтограф першай часткі:*

[11а] Сляза лезе з-пад павек,
[б] *Як у асноўным тэксце*
[29а] Узімку холадам з сям'ёй
[б] *Як у асноўным тэксце*

*Машынапісны тэкст другой часткі:*

[58а] Смерць папрэ жыць бедняка
[б] *Як у асноўным тэксце*
[62] Пахіліўся, мхом аброс;
[66а] Расце крапіва, палынь,
[б] *Як у асноўным тэксце*
[67а] А над імі ў дамавіне
[б] *Як у асноўным тэксце*
[68а] Хто спіць гэй нядолі сын

[б] *Як у асноўным тэксце*

[73а] Над нім восенню слатлівай

[б] *Як у асноўным тэксце*

[78а] Скаргі шле ў выцці дзікам,—

[б] *Як у асноўным тэксце*

*Газ. «Наша ніва», 1908, № 10 9(22) мая і зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923 (4 частка):*

[104,114,124] Што ж дабыў за жыццё?

### *Жнеям*

*Асобны аўтограф:*

[3] Пара, жнейка, на бітву!

[5] Сонца ўзойдзе і зойдзе,

[23] Чутна жней песня

*Аўтограф рукапіснага зборніка:*

[а] Пара, жнейка, на бітву!

[б] *Як у асноўным тэксце*

### *Над нівою ў непагоду*

*Аўтограф рукапіснага зборніка:*

[5] Віхрам скрываюцца, зерне зрастаецца

*Пасля радка 18 пастаўлены кропкі.*

[23—24] Дзе на кусок хлеба ў стужу разжыціся?
Божа!.. а слёз тых, о сколькі тых слёз!..

[36] З дзяцьмі, з жонкай зімовыя дні...

*Газ. «Наша ніва», 1907, № 26, 3(16) жн.:*

[39] Чым сямейку жывіць яму прыдзецца,

[44] Будзе выць, будзе ўсім падцінаць...

### *Зіма*

*Газ. «Наша ніва», 1911, № 6, 10 лют. (лацінкай):*

[5] Усё замёрла пад пялёнкаю

*Газ. «Наша ніва», 1908, № 25, 4 (17) снеж. і зб. «Шляхам жыцця», 1913:*

[20] Кінь калёсы — выстрай сані!

### *«Праз што плачаш, мужычок?..»*

*Аўтограф, машынапісны тэкст і зб. «Шляхам жыцця», 1913:*

[11] А не крыўдзяць калі ця?

### *З песень беззямельнага*

*Газ. «Наша ніва», 1907, № 25, 20 ліп. Частка 1:*

[11] Потам аблітая

*Газ. «Наша ніва», 1908, № 24, 20(3) лістап. Частка 2:*

[12] Гаджу ўсім;

[17] Пастыр стада ў поле гоніць

*Газ. «Наша ніва», 1909, № 17, 23(6) крас.:*

*Частка 4*

[19] Песеньку заводзе,
[22] Нойдзеш,— прыйдзе свята:

*Зб. «Шляхам жыцця», 1913:*

*Частка 1*

[6] Сёлета гэтта

*Частка 2*

[17] Пастыр стада ў поле гоніць
[33] Вецер енча, свішча ў полі,

*Частка 4*

[19] Песеньку заводзе,
[22] Нойдзеш,— прыйдзе свята:

*Частка 6*

[2] Раз прэце,
[22] Галосе
[24] Разносе?
[33] Хто учыў цябе, малога

*Аўтографы:*

*Частка 6*

[2] Раз прэце,
[22] Галосе
[24] Разносе?
[33] Хто учыў цябе, малога

*У вучылішча*

*Аўтограф № 1:*

*Пасля радка 12:*

Гэй, вучыся, сын мужычы,
Усёй душой дабру ўсяму.
Цемен бацьᐸкаᐳ трох не зліча,
І ці ж лёгка жыць яму

. . . . . . . . . . . . .

*Радок 17 адсутнічае*

Выбівацца з цемнаты
Зато ж после пойдзеш быццам,
Калі ў людзі выйдзеш ᐸтыᐳ.

Дык глядзі, хоць узаперці,
К святлу рвіся, не драмі
Вёску родную да смерці
Слова роднае цані

Любі родныя паляны —
К праўдзе сам ідзі, вядзі
Край свой родны, край загнаны
Абагаць, асвабадзі.

Ужо сын вольны зямлі вольнай
Светлы сын — грамадзянін
Дажывеш долі раздольнай
Як ніколі ні адзін.

*Аўтограф № 2 і зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923:*

[7] Знамо трэба знання штукі
[9] Буквы з памяці той клеціць,

## 1913

### *«Братка і Сястрыца»*

*Аўтограф:*

[26] Да грудзі дзявочай
[39] Ён адвету ад дзяўчыны
[54а] Людзі пахавалі
[6] *Як у асноўным тэксце*

### *У бяссонную ноч*

*«Беларусь», 1920, 1 студз., № 1:*

[29] А што тут? Разам тут і дзяўчына-краса...
[36] Песняй роднай таргуе, як праўдай цыган!

### *Ўсюды лета...*

*Аўтограф:*

[18] Што ў брыльянты тыя

### *Песня*

(«Ах, адкуль жа гэта вестка...»)

*«Наша ніва», 1914, № 5, 31 студз.:*

[4] І чужому аддалася

### *Навука*

*Аўтограф:*

[17—20] *Адсутнічаюць*
[23] Што нас гэтак вуча
[25—40] *Адсутнічаюць*

*«Наша ніва», 1913, № 28, 12 ліп.:*

[21] Хто нас верыць вуча
[22] Летам і зімой

23 Ў брэдняў верыць кучы,
24 У што не вера той

*Летам*

*«Наша ніва», 1914, № 27, 10 ліп.; зб. «Спадчына», 1922:*

18 Цягне, цягне разгавор
20 І пяюць, пяюць на ўмор.

*Тутэйшы*

*Аўтограф:*

20 Па ім мяне ўзнае чужы народ

*Коціцца крыніца...*

*Аўтограф, № 1:*

3а Над ракой бядуе
б *Як у асноўным тэксце*
6а Вольна і прасторна
б *Як у асноўным тэксце*
25а Тут людскі ўжо голас
б А людскі ўжо голас
26а К вольсе адазваўся
27а Ты бядуеш толькі
б *Як у асноўным тэксце*
30 Свой пагляд вясною
31 Я сплю адзінака

*Аўтограф, № 2:*

31а Я сплю аднакова
б *Як у асноўным тэксце*

*Станогае Ліха*

*Аўтограф:*

а А вочы ў яго бы ў начніцы
б *Як у асноўным тэксце*
13а Валочыцца з поля на поле
б *Як у асноўным тэксце*
16а Паношыцца за воблакамі
б Пануе спавіты імгламі

*Песняй толькі*

*Аўтограф, № 1, аўтограф, № 2:*

17 Млечны пуць, што нябесны дзядзінец

*Аўтограф, № 1:*

2а Праз яе йшчэ тапчу я расу
б *Як у асноўным тэксце*

4а Недасціглую света красу
б *Як у асноўным тэксце*
5а Над мірамі, што ўюцца ў бязмеры
б *Як у асноўным тэксце*
6а Дух вітае, як брат іх — святло,
б Як сам светач лунае мой дух
7 Аглядае міры як у сне тым
8 І зямлю абымае ўвакруг
9 Над людзьмі, што аб шчасці даўно весць
10 Загубілі у сэрцах сваіх
11а Я тварыў бы ім дзіўную казку
б Я тварыў бы ім дзіўную повесць
12 Ясных радасцей песень жывых
15а Каб збудзіць дух закованы слабы
б Перунамі народны дух спячы
в *Як у асноўным тэксце*
16а У народа ў душы грымеў бы, як гром
б У душы сваіх брацціяў грымеў бы, як гром
в І на зямлі грымеў бы, як гром
г Патрасаў і грымеў бы, як гром
д Развагняў і грымеў бы, як гром
18а Прабягае, я б зняў на зямлю
б *Як у асноўным тэксце*
19а Збудаваў бы ім новы гасцінец
б *Як у асноўным тэксце*
20а Каб вёў к новаму свету, жыццю
б Праз зямлю, радзіму усю
в Цераз ніву, радзіму усю
21а Сонца ўзяў бы агністае ў рукі
б *Як у асноўным тэксце*
22а Як паходню я сонца б узяў
б Божы светач нябесных агнёў —
23а З ім па млечным пуці тым без мукі
б *Як у асноўным тэксце*
25а Песняй толькі мой дух маладзіцца
б Гэтак песняй толькі мой дух маладзіцца
26 І жаданнем лунаць над зямлёй —
27а Як пішу гэты кроўю страніцы
б *Як у асноўным тэксце*
28 Свайго сэрца гарачай крывёй.

*Аўтограф, № 2:*

6а Як сам светач лунае мой дух
б *Як у асноўным тэксце*
8а І зямлю абымаю ўвакруг

[б] *Як у асноўным тэксце*
[9а] Над людзьмі, што аб шчасці даўно весць
[б] *Як у асноўным тэксце*
[10а] Загубілі у сэрцах сваіх
[б] *Як у асноўным тэксце*
[11а] Я тварыў бы засеўную повесць
[б] *Як у асноўным тэксце*
[20] Цераз ніву, радзіму сваю
[б] *Як у асноўным тэксце*
[22а] Вечны светач з нябесных агнёў
[б] *Як у асноўным тэксце*
[23] Я на Млечным Пуці тым без мукі

*Аўтограф, № 3:*
[17а] Млечны Пуць, што нябесны дзядзінец
[б] *Як у асноўным тэксце*
[23а] Я на Млечным Пуці тым без мукі
[б] *Як у асноўным тэксце*

### *Жар не згас*

*«Наша ніва», 1913, № 30, 26 ліп.:*
[18] Бухне ў свет калісь іскрава

### *Брату-беларусу*

*«Наша ніва», 1913, № 39, 28 верас.*
[19] Ў іх адаб'ецца воблік твой
[34] Тваіх нязмерных ніў на старажы
[39] І паўтарая ў вотклік песняй

### *Песня*
(«Каб была я перапёлкай...»)

*«Наша ніва», 1913, № 42, 17 кастр.:*
[4] Дома не сядзела
[5] Ці на ягады ў бор шчыры

### *Хаўруснікам*

*Аўтограф № 1:*
[3] Сабраліся разам
[14а] Як край наш абкрасці
[б] *Як у асноўным тэксце*
[25а] Скажу вам прыблуды
[б] Не варта паночкі
[в] Па-мойму не варта
[26а] Не лезце так з жылаў
[б] *Як у асноўным тэксце*

*Аўтограф № 1, аўтограф № 2:*
[10] «Gazetka» бармоча

*«Чын», герб і лапаць*

*Аўтограф № 1:*

[1] Герб і чын пайшлі у спрэчку
[2] Прост, як п'яны з п'яным,
[5а] Тут мазоль іх слухаў, слухаў
[б] Лапаць тут іх слухаў, слухаў
[7] Кіньце спрэчку бо абодва
[8а] *Як у асноўным тэксце*
[б] Лапця вы не варты
[в] Гроша вы не варты
[г] Вы мяне не варты

*Аўтографы № 1, 2 і № 3:*

[6] Дый буркнуў без жартаў

*Зб. «Спадчына», 1922:*

[6] Дык буркнуў без жартаў

*А ты, сіраціна...*

*Аўтограф:*

[7а] Без веры ў жыццё, без пуцця
[б] *Як у асноўным тэксце*

*Альбом М. Карынфскай:*

[7] Расплаканы ў жальбах прыхільных
[11] Ні сэрца дзявочай грудзі

*Ястраб, лісіца й певень*

*Аўтограф, «Наша ніва», 1913, № 45, 7 лістап.; зб. «Спадчына», 1922:*

[6] Маеш голас, бы жалейку

*Кажух і вата*

*Аўтограф, «Наша ніва», 1913, № 47, 21 лістап.:*

[11] Я жыхар саўсім тутэйшы

*Шарада № 1*

*Аўтограф:*

[3а] Як цябе люблю я
[б] Хоць адно ты ёсць
[в] *Як у асноўным тэксце*
[6а] І тая, другая
[б] *Як у асноўным тэксце*
[10а] Важна прывітаем
[б] *Як у асноўным тэксце*

*Пчолы і трутні*

*«Наша ніва», 1913, № 51—52, 21 снеж.:*

[7] Ў згодзе ж з пчолкамі і трутні

*Казка аб песні*

*Аўтограф:*

[1] Даўно ўжо, даўно з тэй пары залатой
[9—12] *Адсутнічаюць*
[21] У тысячы вогнікаў, зор залатых
[25] Пры песельным звоне народ акрылеў
[36] А песні аддалі на здзекі
[49a] І з часам патомкі, пасля доўгіх бед
▪ *Як у асноўным тэксце*
[51] Ўжо думалі з ёю дзівіці зноў свет

*Аўтограф, «Калядная пісанка», 1913:*

[27] У бітвах верх браў, боль сваю адалеў
[40] Але ўжо не так, як бывала

*«Калядная пісанка», 1913:*

[1] Даўно ўжо, даўно ўжо з пары тэй былой
[3] Між небам лазурным і чорнай зямлёй
[4] Прывольная думка лунала
[5] Яна аглядала бязмерны прастор
[7] Як рукі з зямлі працягалі да зор
[12] Адна толькі матка-магіла
[12] Не зналі змагаць грамадою прашкод
[16] Ўздыхаў, як канюх за вадою
[18] Спусцілася з высі нябеснай
[19] І ў душах пакорных зямелькі дзяцей
[20] Змянілася вольнаю песняй
[23] Рассеяла цемру, ўзлячыла сляпых
[26] Глядзеў, калыхаўся свабодай
[29—36] *Адсутнічаюць (замест іх — шматкроп'*е)
[37] Як сільным, магучым праз песню стаў ён
[38] Зноў пошасць есць стала памалу
[39] Папробуе песню — йшчэ звоне, як звон
[42] Як чэрві сляпыя у плесні,—
[43] Аж страшная кара дасцігла з нябёс
[44] Забыўся народ сваей песні
[47] Веквечную гібель народу вядзе
[49] Урэшце патомкі, пасля усіх бед
[51] І думалі ёй, як калісь, дзівіць свет
[52] Сягаці ў нязведаны далі
[54] І ў сэрцах агонь распаліці,
[56] *Адсутнічае*

*Дзе ні кінь — дык клін!*

*Аўтограф:*

[3a] Так пытаў сусед між іншым

[б] *Як у асноўным тэксце*
[6] Лазіць гаспадаркай
[7] Дзень і ноч, як вол, таўкуся
[9а] А сусед яму набожна
[б] А сусед ураз набожна
[10] І навучна клепе
[11а] Хоць жыць трудна, а затое ж
[б] Хоць жыць трудна тут, затое ж
[12а] А у небе лепей
[б] *Як у асноўным тэксце*
[13а] Знаю, знаю,— спыніў Янка
[б] Знаю, знаю,— так гаворку
[14а] Янка збіў суседу
[б] Гутарку суседу
[в] Янка адчыкрыжыў
[15] Як і тут далёка вельмі
[16] У небе не заеду
[18а] Да работы ўсякай
[б] *Як у асноўным тэксце*
[19а] Асядлай каня для Юр'і
[б] *Як у асноўным тэксце*
[20] Вычысць тройцы боты
[21а] *Або:* Янка ўстань зарання ўстань зарання
[б] То зарання ўстань і сонца
[в] *Як у асноўным тэксце*
[22] Запалі да ўсходу
[24] Строй вясёлцы сходы
[26] Трасі з дажджом сіта
[29] Папіхай, гадзюка, хмары
[34а] Хоць ты падарвіся
[б] *Як у асноўным тэксце*

*На Новы (1914) год*

*Аўтограф, «Беларускі каляндар» на 1914 год»:*
[11] Йдзем з такой ліш мальбой

**1914**

*Груган і салавей*

*Аўтограф № 1:*
[1а] Асёл, спаткаўшы салаўя
[б] Груган, спаткаўшы салаўя
[2а] *Як у асноўным тэксце*

[б] З сваяцтвам лезці стаў сваім
[3а] Ты родны мне, адна сям'я
[б] *Як у асноўным тэксце*
[5] Падумай сам: у пер'ях ты
[6а] І ў пер'ях я, як мае быць
[б] І ў пер'ях я з вачэй да пят
[7] Ты, я сесць можам на кусты
[8а] І ты пяеш, і ■ пяю
[б] Ну й, ты пяеш і я пець рад

*Аўтограф № 2:*

[1] Груган, спаткаўшы салаўя
[5а] Падумай сам: у пер'ях — ты,
[б] *Як у асноўным тэксце*
[6а] І ў пер'ях я з вачэй да пят,
[б] *Як у асноўным тэксце*
[7а] Ты, я сесць можам на кусты,
[б] І пер'я маем з давен дзён
[в] Птушыны ў нас жыццё і сон
[8а] І ты пяеш, і я пець рад
[б] І ты пяеш, і ■ не хвор...
[в] *Як у асноўным тэксце*
[9а] Ты брат мне, а я брат табе
[б] *Як у асноўным тэксце*
[10а] І тваей ласкай не гарджу
[б] Табой нічуць я не гарджу
[в] Нічуць табою не гарджу
[г] К таму, табой я не гарджу
[д] К таму табою не гарджу
[14а] Адпеў салоўка на ўвесь ...
[б] *Як у асноўным тэксце*
[16] І па-сваяцку даў адказ:
— А ўсё ж-такі ты, брат,— груган!..

*«Наша ніва», 1914, № 3, 17 студз.; Аўтограф, № 2:*

[15] Мо ў нас і аднакова шэрсць

## *Моладзі*

*Аўтограф:*

[1а] На цябе, моладзь, наша надзея (л. 2, с. 1)
[б] *Як у асноўным тэксце (л. 1)*
[2а] Нашай светлай забранай зямлі (л. 1)
[б] *Як у асноўным тэксце (л. 1)*
[3а] Твой арліны палёт цьму развее (л. 2, с. 1).
[б] *Як у асноўным тэксце (л. 1)*
[4а] І запаліць адвечны агонь (л. 2, с. 1).

[б] I распаліць веквечны (л. 1).
[в] *Як у асноўным тэксце (л. 1)*
[5а] Ты разбудзіш заснуўшыя сілы
[б] Ты разбудзіш драмлючыя сілы
[в] *Як у асноўным тэксце*
[6] Іх на вольны паклічаш прастор
[7а] З беспрасветнай бадзяння магілы
[б] *Як у асноўным тэксце*
[8а] Да агністага сонца, да зор
[б] *Як у асноўным тэксце*
[10а] Узнясеш не здабыты курган
[б] *Як у асноўным тэксце*
[13] Табе будуць не страшны віхуры
[15а] Ты сатчэш з бліскавіцы і буры
[б] Долю, праўду з маланак і буры
[16а] Смела выкрасіць гарт, барацьба
[б] Твае выкрасіць гарт, барацьба
[17] Схамяніся ж ты, моладзь, арліна
[19] I з паходняй ідзі за судзьбінай
[20] З адным словам святым: Беларусь

*На полі тае*

*Аўтограф:*
[1а] На полі тае бледны снег
[б] На полі стаяў бледны снег
[в] *Як у асноўным тэксце*

*Па шляху*

*«Наша ніва», 1914, № 9, 27 лют.:*
[17] Я — шлях, катораму няма спакою
[19] Пасвечаны нядбалаю рукою
[22] Увосень абгалочана з лістоў
[23] Дрыжачая зімою ад мароза

*Б'юць на трывогу званы...*

*«Наша ніва», 1914, № 16, 25 крас.:*
[6—10] *Адсутнічаюць*
*Замест тэксту пастаўлены кропкі*

*Асёл і яго цень*

[9а] Сказаўшы гэта, каб сагнаць
[б] *Як у асноўным тэксце*
[10а] Сваю аслінаю нуду
[б] *Як у асноўным тэксце*
*Аўтограф, «Наша ніва», 1914, № 5, 31 студз.:*
[2] Сваю аслінаю ўсю цень

*Свінапас і стрынатка*

*Аўтограф:*

[6а] Меў такую ўхватку

[б] *Як у асноўным тэксце*

[5] Ты пяюшка,— так ей кажа,—

[7а] Позна ўстань і ўстань заране

[б] *Як у асноўным тэксце*

*Аўтограф, «Наша ніва», 1914, № 7, 13 лют.:*

[15] Дык астаў сабе маралы

*Адступнік*

*«Наша ніва», 1914, № 18, 8 мая:*

[21] І да сына пісьмы пішуць

*Праявы*

*«Наша ніва», 1914, № 10, 7 сак.; зб. «Спадчына», 1922:*

[26] Ў зямлю ўрыўся, ў неба ўзбіўся

*«Беларускае жыццё», 1919, № 1, 5 чэрв.:*

[3, 4, 7, 8] *Адсутнічаюць*

[13] Гэта ходзіць КЛІЧ па полі

*Шарада № 3*

*Аўтограф:*

*Першая і другая страфа перастаўлены месцамі.*

[6а] Свет сабою корміць

[б] Корміць свет сабою

[7а] Ходзе ды калышацца

[б] Нічога не робячы

[в] З дня у дзень калышацца

[г] *Як у асноўным тэксце*

[8а] То кладзе, то горніць

[б] *Як у асноўным тэксце*

*Шарада № 4*

*Аўтограф:*

[3а] Хоць папросту на наш від

[б] *Як у асноўным тэксце*

[4а] Ён не больш, як варажбіт

[б] *Як у асноўным тэксце*

*Шарада [№ 6]*

*Аўтограф:*

[2а] Горад малы

[б] Горад ці места

[в] *Як у асноўным тэксце*

4а Праўда — якраз
б Або другой
в Выдумай рэшта; —
г *Як у асноўным тэксце*
6а Ўецца вужакай
б *Як у асноўным тэксце*
11а Далей задумайся
б *Як у асноўным тэксце*

*Песні вайны*

*«Наша ніва», № 39, 2 кастр.; № 40, 9 кастр.; № 44, 6 лістап.; № 51—52, 25 снеж.:*

5 На зямлі пайшлі пажары
22 Штосьці гыркнуў дзёўбам хрыпла
44 На крывавы пойдуць сцягі
76 Заломаў не парваў, не ссек
78 Ад трупа-значаных дарог
105 Як дасцігнеш чужацкіх гонь
112 Адно не сцэль ў крыж на грудзях.
144 Кланяцца родным і хаце
178 Ў добрай долі, з добрай волі
204 Гэты ніжай, гэны вышай
225 Ў сполку з смерцяй тне
245 А разняўшы когці-клешчы

*Крыўда*

*Аўтограф, «Чырвоны шлях», 1918, № 7—8, 30 лістап.:*

4 Труюць адзін другога звадкай
14а Не завагніцца свет над цьмою;
б *Як у асноўным тэксце (толькі аўтограф)*
18 Ані святла таго пачатку

*«Чырвоны шлях», 1918, № 7—8, 30 лістап.:*

17 Ані канца таму пракляцці,

*Груганы*

*Чарнавы аўтограф:*

9а Елі мяса мерцвякоў
б *Як у асноўным тэксце*
11а Будзем кроў піці з жывых
б *Як у асноўным тэксце*
12а Цела есць жывое
б *Як у асноўным тэксце*

## ПЕРАКЛАДЫ

*Пані Твардоўская*

*Чарнавы аўтограф:*

37а Ты ж са мной рабіў запісы
б Ты ж са мной на гары Лысай
в *Як у асноўным тэксце*
38а Аб душы тваей па смерці
б Ды на скуры на валоўяй
39а І там на гары на Лысай
б *Як у асноўным тэксце*
40а Падпісаўся ты і чэрці
б І даў подпіс ты і чэрці
в І даў подпіс свой крывёю
41а Чэрці ўмовы пільнавалі:
б *Як у асноўным тэксце*
42а Ты як два гады мінуцца
б *Як у асноўным тэксце*
43а Меўся ў Рым прыехаць здаля
б *Як у асноўным тэксце*
44а Як свайго, каб цябе ўзяці
б Як свой з намі ў пекла пойдзеш
45а Ўмова больш чакаць не можа
б Больш кантракт служыць не можа
46 Пекла чарамі ты мучыш
47 І забыў на падарожжа.
48а Сем прайшло год з таго часу
б Сем прайшло год, як свет чмуціш
77а Гмах з зярнят арэху будзе
б Гмах з арэхавых зярнятаў
79 На дом з пейсаў кладзі латы
80 Крый страху насеннем з маку

*3б. «Шляхам жыцця», 1913:*

ПАНІ ТВАРДОЎСКАЯ

П'юць, ядуць і люлькі смаляць,
Таўкатня ўкруг і сваволя,
Ледзь карчмы тэй не разваляць...
Хі-хі; ха-ха, гэй жа, го-ля!

На канцы стала Твардоўскі
Сеў, падпёрся, выпнуў бруха,
І крычыць на чым свет Боскі,
І усяк туманіць юха.

Салдату, ўдаваў што зуха,
10 Усіх ён лае, разганяе,—
Свіснуў шабляй каля вуха,
Ужо з салдата зайца мае.

Старшыні, што місу з мясам
Паражніў з вялікім смакам,
Пырснуў квасам — і тым часам
Старшыню зрабіў сабакам.

Пстрык! шаўца у нос кароткі,
Тры да лба прыткнуў краночкі,
Цмокнуў цмок, і гданьскай водкі
20 Са лба вытачыў паўбочкі.

Тут, як водку піў з кяліха,
У кяліху свіст зрабіўся;
Глядзь на дно: — Гэй, што за ліха!
Ты чаго, кум, сюды ўбіўся?

На дне ў чарцы бачыць — чорцік:
Чысты немец, знае ўвагу;
Пакланіўся і, як хорцік,
На падлогу дае цягу.

Скочыў, вырас на два локці,
30 Нос, як гачык — знаць, што нелюдзь,
І савіныя пазногці
На худых нагах віднеюць.

— А! Твардоўскі... як дуж, браце?! —
Так гаворыць і падходзе:
Ці ж не хочаш на'т пазнаці
Мефістофеля, добрадзей?

Там пад Лысаю Гарою,
Што душу нам адступаеш,
Падпісаўся ты крывёю,
40 А цяпер і ані дбаеш!

Надало ж табе забыцца,
Што, як два мінуць гадочкі,
Меўся ў «Рыме» ты з'явіцца,
Каб цябе ўзяць за грахочкі.

Ўжо сыходзе год і сёмы,
І кантракт далей не служа,
А за чары, ой, даўно мы
Жджэм цябе у пекле, дружа.

Але хоць чакаў я леты,
50 Помста ўрэшце даканана:
«Рым» завецца шынок гэты...
Кладу арышт на васпана.—

Даць хацеў Твардоўскі цягу
На сказ гэтакі чартовы,
Але той злавіў за дзягу:
— А дзе, кажа, гонар слова? —

Што рабіць? Чарта наспела
Схопе ў пекла тут, і годзе.
Дый Твардоўскі знае дзела
60 І таму мазгі заводзе.

— Гэй ты, чорце! Глянуць зволь-ка
У кантракт, дзе пункты, ўвідзіш,
Што як лет мінецца столька
Па маю душу як прыйдзеш,—

Буду права мець тры разы
Запрагчы цябе ў работу,—
Ты ж найгоршыя прыказы
Мусіш споўніць што да ёты.

Глянь, над карчмай маляванне:
Конь грывясты, хвост, як вехаць;
Тут жывым няхай ён стане,
Мушу я на ім праехаць.

Біч з пяску скруці мне, бесе,
Каб каня меў чым пагнаці;
Хорам выбудуй у лесе,
Каб было дзе папасаці.

Зруб стаўляй з зярнят арэху,
Прыкажы знасіць іх раку,
Жыда пейсамі лаць стрэху,
80 Места гонт — крый зернем маку.

Глянь, цвічок такі прымерне:
Ў цаль — таўсты, даўгі — тры цалі;
Бі у кожна маку зерне
Па тры гэткія ганталі.—

Мефістофель духам скоча,
Каня корме, пое, чысце,
Біч даўгі са жвіру точыць,
А ўсё жыва і агнісце.

Сеў Твардоўскі, выпнуў жылы,
90 Ўзяў за повад, конь здаровы,
Знай, трымайся што ёсць сілы,
Аж тут зірк — палац гатовы.

Так, так! выйграў, пане бісе;
Ды работа жджэ другая:
Ты скупайся ў гэтай місе —
Толькі ў ёй вада святая.

Чорт спужаўся, ўвесь сагнуўся,
Пот яго сцюдзёны крые;
Усё ж, пан кажа — слуга мусе,—
100 Чорт скупаўся аж па шыю.

Потым выскачыў, як з жару,
І Твардоўскага зноў страша:
— Я цяжкую вынес кару,
Але й ты у моцы нашай.

Раз яшчэ — і будзе квіта —
Па кантракту ёсць нагонка...
Глянь, вунь баба каля сіта,
Гэта, чорце, мая жонка.

Я на год у Бельзабуба
110 За цябе жыць застануся,
А праз той час мая люба
Жыць з табой, як з мужам, мусе.

Службу, любасць, шанаванне
Хай ёй вашаць прысягае,
Зломіш хоць адно заданне —
Ўся умова прападае.—

Што той кажа, чорт пільнуе,
Вокам кідае на самку,
Быццам бачыць, быццам чуе,
120 І збліжаецца пад клямку.

А Твардоўскі пры ім суча,
Быццам гнецца, а ўсё бача;
Скочыў дзюркай чорт ад ключа
І дагэтуль недзе скача.

*Ваявода*
*Зб. «Шляхам жыцця», 1913:*

УДАГОНКУ
*(Czaty)*

З-пад прысад агароду бледны ўбег ваявода
У палац свой са злосцю й трывогай;
Дзе ў бакоўку дзвер — стануў, у пасцель жонкі глянуў,
Глянуў там — і не ўбачыў нікога.

Ў дол патупіўшы вочы, ўвесь дрыжыць, штось мармоча,
Вусы тузае, думае дзіка;
Адышоў ад пасцелі, жудка зрэнкамі стрэліў,
Казака ту ж Навума паклікаў.

«Гэй, казача, ты, хаме! Што у садзе пры браме
10 Ні сабакі няма, а ні стражы?!
Брацьць мне торбу барсучу і янчурку гайдучу,
З цвека стрэльбу цягні мне ураз жа!»

Ўзялі броню — і ходу!.. Падцякліся к гароду,
Дзе шпалеры альтану абселі...
На дзярновым пасадзе штось бялее у садзе:
Там сядзела кабеціна ў белі.

Броўкі ручкай адною закрывала касою,
Грудзі крыла рубком кашуліны,
А другою — памалу ад сябе адпіхала,
20 Што ў калень яе кленчыў, мужчыну.

Той, прыпаўшы к каленям, гаварыў ёй з цярпеннем:
«Дык усё, што было, ўжо далёка...
І твае уздыханне, і твае прывітанне
Адкупіў ваявода гатоўкай.

Я, хоць верным быў гэтак табе столькі ўжо летак,
    І любіць, і цярпець мушу здаля,
А ён з сэрцам каменным бразнуў золатам зменным,—
    Ты яму прадалася без жалю.

Ён штовечара будзе песціць белыя грудзі,
30 З табою цешыцца ў пуху лябяжым;
На маю на загубу цалаваць шчочкі, губы
    Твае будзе цалункам уражым.

Я на коніку верным гэтым полем бязмерным
    Мкну сюды, за мной — холад і слоты,
Мкну вітаці ўздыханнем — і ад'ехаць з жаданнем:
    Добрай ночкі і доўгай пяшчоты».

Усё яна йшчэ глуха; ён ёй шэпча на вуха
    Тыя жальбы ці новы закляцці;
Аж прымлеўшы, без сілы ручкай грудзі адкрыла
40 І ў яго патанула абняцці.

Ваявода з слугою сталі ту ж пад вярбою,
    І з-за поясу бралі набоі,—
Адсякалі зубамі, прыбівалі штамплямі
    Жмені пораху й шроту удвое.

— Пане,— так казак кліча,— нейкі чорт мною смыча,
    Не магу я застрэліць той дзеўкі:
Як свой курак адводзіў, я ўдрыгнуў, бы на лёдзе,
    І зляцела сляза да панеўкі.

— Ціха!.. Кінь, хаме, кракаць, я наўчу цябе плакаць...
50 На, тут з порахам гданьскім сакеўку;
Ўсып падпалу — а жыва, ногцем счысці красіва,
    Дый ў свой лоб стрэль ці ў гэтую дзеўку.

Ўправа... вышай... памалу... жджы майго самапалу:
    Жаніха перш зняту назаўсёды!..—
Ўзвёў казак курак, сцэліў, не чакаючы, стрэліў
    І ўгадзіў ў самы лоб ваяводы.

*Тры пары дня*

*Аўтограф № 1:*

[6] Не высах ночкай Пятровай
[7] Дзе мая коска, дзе баяўніца

[21] А ў грудзі сэрца птушкай заскача
[23] Як ноч аб долі горкай мужыцкай
[24] Нудную песню заводзе

*Каралі*

*Зб. «Шляхам жыцця», 1913; Аўтограф № 1. Аўтограф № 2:*

[6] Каб ця Бог ацаліў
[8] Шнур даўгі караляў
[23] Чым скарэй спяшу к наймільшай
[37] Да Найсьвентшай да Марыі

*Зб. «Шляхам жыцця», 1913; Аўтограф № 2:*

[40] Я тых шнур караляў

*Аўтограф № 1:*

[4] Ідзеш гінуць братка
[14] Як брамы зламалі
[40] Я шнур тых караляў

*Аўтограф № 2:*

[2а] Як жагнаўся з хаткай
[б] *Як у асноўным тэксце*
[4а] Ідзеш гінуць братка
[б] *Як у асноўным тэксце*
[14а] Як горад зламалі
[б] *Як у асноўным тэксце*

*Нязжатыя гоні*

*Аўтограф:*

[5] Шэпчуць, здаецца, ўсё з коласам колас
[9а] Кожную ночку нас абрываюць
[б] *Як у асноўным тэксце*
[10а] Дзікія птушкі, што пралятаюць
[б] Дзікія птушкі і злосна скубуць
[в] *Як у асноўным тэксце*
[11] Заяц нас топча, а бура нас б'е
[12а] Дзе ж наш араты, чаму жаць не йдзе
[б] Дзе ж той наш сейбіт, чаму жаць не йдзе
[13а] Вецер даносіць маркотны адказ
[б] Вецер даносіць жалобны адказ
[в] *Як у асноўным тэксце*
[14а] З сілай сваею ваш сейбіт загас
[б] Вашаму сейбіту сілы няхват
[в] *Як у асноўным тэксце*

# КАМЕНТАРЫ[1]

У трэці том уваходзяць арыгінальныя вершы і пераклады, што датуюцца 1911—1914 гг. Упершыню ў пасмяротнае выданне ўключаны творы, якія, акрамя прыжыццёвых Збораў твораў, не друкаваліся ў іншых выданнях: «Над Нёманам», «Папросту», «Чужым», «У чужой старане», «На рынку», «Годзе», «Забраны край», «Чараўнік» і інш., а таксама «Шарады № 1—6», якія пасля першай публікацыі не ўваходзілі ні ў прыжыццёвыя, ні ў пасмяротныя выданні. А «Загадка», «Шарада № 7» і «Шарада № 8» наогул друкуюцца ўпершыню.

Для вызначэння дакладнага аўтарскага тэксту і датавання былі выкарыстаны наступныя крыніцы:

1. Архіўныя матэрыялы і рукапісны фонд Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы: *а)* асобныя аўтографы (адзінка захавання ўказана ў каментарыях), *б)* рукапісны зборнік «Шляхам жыцця», падрыхтаваны аўтарам для выдання 1913 г. (ф. А, воп. 1, адз. зах. 118), *в)* прачытаныя аўтарам карэктуры (ф. А, воп. 1, адз. зах. 356), зборнік «Шляхам жыцця», 1913 з аўтарскімі праўкамі, унесенымі ў тэкст пры падрыхтоўцы другога, віленскага выдання, 1923 (ф. А, воп. 1, адз. зах. 357).

2. Перыядычныя выданні, у якіх упершыню былі апублікаваны творы дадзенага тома (газ. «Наша ніва», 1911—1914, «Беларусь», 1920 і газ. «Літаратура і мастацтва», 1940, «Беларускія календары», часоп. «Калядная пісанка», 1913, «Лучынка», 1914, «Велікодная пісанка», 1914, літаратурны альманах «Зажынкі», М., 1918, «Беларускае жыццё», 1919 і 1920, «Чырвоны шлях», 1918, «Рунь», 1920, «Полымя», 1929 і 1930, «Полымя рэвалюцыі», 1940).

3. Усе прыжыццёвыя выданні Збораў твораў і зборнікаў Я. Купалы, дзе змешчаны яго арыгінальныя творы і пераклады з іншых моў 1911—1914: *а)* «Шляхам жыцця», выд. «Загляне сонца і ў наша ваконца». Пецярбург, 1913; «Шляхам жыцця». Вільня, 1923 і 1935; «Спадчына», Беларускае кааперацыйна-выдавецкае таварыства «Адраджэнне». Мн., 1922; «Безназоўнае». Мн., 1925 і 1928; «Адцвітанне». Мн., 1930; «Песня-байка». Мн., 1930; «Спадчына». Нью-Йорк—Мюнхен, 1955; Зборы твораў, 1925—1932 і 1928—1940; «Выбраныя творы», 1935.

Творы 1911—1912 гг. друкуюцца па Зборы твораў, 1926, т. II, творы 1913—1914 гг.— па Зборы твораў, 1928, т. V. Выключэнні агаворваюцца ў каментарыях.

---

[1] Падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі:
Вершы 1911—1912, раздзел 1906—1912 — *Э. А. Золава*, вершы 1913—1914 і пераклады — *Л. М. Мазанік.*

Тэкст твораў падаецца ў адпаведнасці з сучасным правапісам, але з улікам некаторых асаблівасцей аўтарскай мовы і пунктуацыі.

Паколькі дадзены Збор твораў кампазіцыйна пабудаваны не па зборніках, а па жанрава-храналагічным прынцыпе, у каментарыях указваецца раздзел зборніка «Шляхам жыцця», у які твор уваходзіў.

Вывучэнне рукапіснага фонду і іншых архіўных матэрыялаў, а таксама ўсіх прыжыццёвых выданняў дало магчымасць выправіць памылкі друку, удакладніць некаторыя даты напісання твораў, звузіўшы храналагічныя рамкі для тых вершаў, якія не мелі дакладных дат і датаваліся ўмоўна ці прыблізна.

Паколькі амаль увесь архіў паэта захоўваецца ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы, спасылка на яго фонд даецца ў каментарыях пры першым згадванні, у далейшым указваецца толькі адзінка захавання. Нумарацыя аўтографаў умоўная.

## ВЕРШЫ

### 1911

*Вайкалак* (с. 7)

Упершыню — «Наша ніва», 1911, № 1, 6 студз.

Датуецца годам апублікавання.

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935 у раздзеле «Па межах родных», а таксама ў Зб. тв., 1929, т. II і ў Зб. тв.,1940, т. IV.

Выразка з газеты — у рукапісным зборніку (с. 101).

Твор пераклалі: на рускую мову — М. Галодны, на польскую — Ф. Няўважны.

Тэкст верша ўключаны ў араторыю-паэму С. Картэса «Памяці паэта», створаную на творы Я. Купалы ў 1972 г.

*Ігнату Буйніцкаму* (с. 8)

Упершыню — «Наша ніва», 1911, № 8, 24 лют., без назвы ў карэспандэнцыі Я. Купалы аб беларускай вечарынцы, якая адбылася ў Пецярбурзе 15 лютага 1911 г. у клубе «Пальма». Пад карэспандэнцыяй: Янук Купала. СПб. 17.11.1911 г. Паэт пісаў: «Не будзе лішнім сказаць шчырае дзякуй п. Ігнату Буйніцкаму і яго дачцэ, каторыя з далёку прыехалі сюды, каб даць можнасць (мажлівасць) тутэйшым беларусам пацешыцца роднай гульнёй.

Гледзячы на танцы п. Буйніцкага, мае ўражанне самі сабой вылі-ліся ў гэтым вершы».

На вечарынцы паэт пазнаёміўся з І. Буйніцкім, трупа якога прыехала ў Пецярбург на гастролі па запрашэнню Гуртка беларускай студэнцкай моладзі.

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935 у раздзеле «Сваім і чужым», а таксама ў Зб. тв., 1929, т. II.

Выразка з газеты — у рукапісным зборніку (л. 211), дзе ўпершыню з'явілася назва «І. Буйніцкаму».

*Буйніцкі Ігнат Цярэнцевіч* (1861—1917), беларускі акцёр, рэжысёр, тэатральны дзеяч. Стваральнік першага нацыянальнага тэатра.

Твор пераклалі: на рускую мову — М. Камісарава, на польскую — Я. Гушча.

*Рэчка* (с. 9)

Упершыню — «Наша ніва», 1911, № 9—10, 10 сак.

Датуецца годам апублікавання. Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935 у раздзеле «Па межах родных», а таксама ў Зб. тв., 1929, т. II і Выбр. тв., 1935, т. I. Уваходзіў у зборнік «Для дзяцей», 1940.

Выразка з газеты — у рукапісным зборніку (л. 94).

Радок 8 настойліва перапрацоўваўся паэтам. Першапачатковы варыянт («Наша ніва»): *Па верху ветачку нясеш;* другі варыянт (карэктура): *Па верху галінку нясеш,* апошні варыянт з'явіўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1913.

Твор пераклалі: на рускую мову — Л. Гінзбург, М. Камісарава, Н. Кіслік, М. Сідарэнка; на асецінскую — А. Пухаеў, на ўзбекскую — Тулкун, на албанскую — В. Д'эч, на балгарскую — Я. Дзімаў.

*Сад* (с. 9)

Упершыню — «Наша ніва», 1911, № 18—19, 12 мая. Пад тэкстам:

Пецярбург. Купала прыехаў у Пецярбург у студзені 1911 г., аб чым сведчыць адзнака аб прапісцы ў пашпарце: 13.1—1911 г.

Датуецца годам апублікавання.

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935 у раздзеле «Па межах родных», а таксама ў Зб. тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV.

Выразка з газеты — у рукапісным зборніку (л. 94).

Варыянт «Нашай нівы» радка 8 *Панадна веткі разлапушыў* паэт перапрацаваў у карэктуры зборніка «Шляхам жыцця» (1913).

Твор пераклалі: на рускую мову М. Камісарава, на ўкраінскую — П. Дарошка, на балгарскую — Я. Дзімаў.

*Сёмуха* (с. 10)

Упершыню — «Наша ніва», 1911, № 20—21, 26 мая. Пад тэкстам: Вільня. Перад прыездам у Акопы Я. Купала, зыходзячы з паметы пад тэкстам, заязджаў у Вільню.

Апублікаваны напярэдадні рэлігійнага свята Сёмуха, якое адзначалася на 7-мы тыдзень пасля Вялікадня і знаменавала сабой заканчэнне вясенніх палявых работ.

Датуецца годам апублікавання.

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935 у раздзеле «Па межах родных», а таксама ў Зб. тв., 1929, т. II і Выбр. тв., 1935, т. I.

Выразка з газеты — у рукапісным зборніку (л. 110).

Пераклала на рускую мову М. Камісарава.

*Гэй, наперад!* (с. 11)

Упершыню — «Наша ніва», 1911, № 24, 14 чэрв.

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935 у раздзеле «Бацькаўшчыне» і «Беларускім календары «Нашай нівы» на 1917 год», а таксама ў Зб. тв., 1929, т. II; Зб. тв., 1935, т. I.

Захоўваецца белавы аўтограф (ДзЛМЯнК, ф. А, воп. 1, адз. зах. 47, л. 1) на адным здвоеным лісце з вершамі «З думак мімаходам» (4.VI.— 1911), «Царства хохліка» (8.VI.— 1911) і «За касой». Пад тэкстам верша «Гэй, наперад!»: Акопы. 2.IV.1911 г.

Выразка з газеты — у рукапісным зборніку (л. 30).

У пачатку чэрвеня Я. Купала прыехаў на канікулы да маці на сядзібу Акопы. У той час паэт вучыўся на вячэрніх агульнаадукацыйных курсах А. С. Чарняева ў Пецярбурзе. Верш «Гэй, наперад!» быў першы твор, пад тэкстам якога з'явілася памета: Акопы.

А. Лойка пісаў: «...у першае лета 1911 г. толькі з дакладна датаваных вершаў таго года трыццаць тры вершы Купалы прыпадае якраз на два месяцы яго жыцця ў Акопах. (Як агонь, як вада..., Мн., 1984. С. 164).

Апошнім творам 1911 г. з паметай: Акопы быў верш «Летняя раса», надрукаваны ў газ. «Наша ніва», 1911, 1 верас.

*Над Нёманам* (с. 12)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II, акрамя радка 8, які даецца па зб. «Шляхам жыцця», 1913. Было: *Здаецца, там гэтакі голас чуваць*[1].

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Па межах родных».

---

[1] У тэксце рукапіснага зборніка радок 8 быў у такім варыянце: «Здасца, там гэтакі голас чуваць». Але ў карэктуры набралі з памылкай у першым слове: «Здаецца». Купала выпраўляе памылку. Так і было апублікавана ў «Шляхам жыцця», 1913, 1923. На жаль, у Зб. тв., 1926, т. II і 1929, т. II яна ўзнікла ізноў.

Друкаваўся ў «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II.

У пасмяротнае выданне ўключаецца ўпершыню.

Друкаваўся ў газ. «Літ. і мастацтва», 1988, 7 кастр., а таксама ў замежным друку: у зб. «Спадчына» (Нью-Йорк — Мюнхен, 1955) у раздзеле «Забраны край»[1].

Захоўваецца асобны аўтограф (№ 1) (адз. зах. 58). Пад тэкстам: Акопы. 3.VI.1911 г.

Другі аўтограф (№ 2) — у рукапісным зборніку (л. 87—90). Подпіс: Янка Купала.

У Беларускім дзяржаўным архіве (ф. 370, воп. 6, адз. зах. 13) захоўваецца машынапісны тэкст без аўтарскіх правак. Тэкст ідэнтычны асноўнаму. Знаходзіцца ён у папцы разам з творамі М. Багдановіча, З. Бядулі і А. Гаруна. На папцы дата: (1941—1944). Можна меркаваць, што сабраныя вершы рыхтаваліся да друку.

Твор належыць да тых вершаў зборніка, якія найбольш пацярпеў ад царскай цэнзуры. Але і ў савецкі час верш быў забаронены для публікацыі. Параўноўваючы першапачатковы тэкст (аўтограф № 1) з наборным (аўтограф № 2), няцяжка заўважыць, што купюры былі зроблены паэтам не па творчых меркаваннях. Так, Купала закрэсліў радкі 57—59 і зняў цалкам адну страфу (радкі 61—64). У карэктуры паэт пакінуў наступны запіс: «Кропкі набраць, а закрэсленае не трэба». Зняты тэкст быў узноўлены пры падрыхтоўцы да друку другога выдання зборніка «Шляхам жыцця», 1923.

Трэба адзначыць, што першапачатковы тэкст наогул зазнаў даволі значныя змены, аб чым сведчаць радкі 23, 41—42, 46, 52, 67, якія былі істотна перапрацаваны ў аўтографе рукапіснага зборніка. Пэўныя папраўкі ўнёс паэт і ў карэктуры (рад. 8, 41).

У 1982 г., у 100-ю гадавіну з дня нараджэння Я. Купалы, вядомы даследчык творчасці паэта С. Станкевіч пісаў: «...верш «Над Нёманам» мае характар праграмнага для беларускай літаратуры нашаніўскае пары й змяшчае ў сабе адзін з галоўных момантаў ейнае ідэйнае скіраванасці» (Станкевіч С. Янка Купала: На 100-я ўгодкі ад нараджэння.— Нью-Йорк. 1982. С. 58).

Твор пераклалі: на рускую мову — А. Андрэеў, С. Спаскі, на украінскую — І. Ганчарэнка, на асецінскую — А. Пухаеў, на англійскую — В. Рыч, на венгерскую — А. Грабар.

На словы верша музыку напісалі А. Грыневіч, А. Туранкоў і М. Чуркін.

*Як у лесе зацвіталі...* (с. 14)

Упершыню — «Наша ніва», 1911, № 24, 16 чэрв.

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935 у раздзеле «Для яе», а таксама ў Зб. тв., 1929, т. II; зб. «Адцвітанне», 1930 і Выбр. тв., 1935, т. I.

Захоўваецца белавы аўтограф (адз. зах. 54, л. 1). Пад тэкстам: Янка Купала. Акопы. 3.VI.1911 г.

Выразка з газеты — у рукапісным зборніку (л. 126).

Твор пераклалі: на рускую мову — В. Брусаў («Веч. газ»., 1914, 22 жн.), А. Карынфскі («Педагогический листок», 1915, кн. 5, с. 343), І. Белавусаў (пад назваю «Песня» — «Избранные стихотворения в переводах русских поэтов», 1919); Б. Бенедзікт («Красная ніва», 1929, № 41, с. 3), М. Камісарава і Н. Кіслік; на украінскую — П. Тычына, на асецінскую — А. Пухаеў, на грузінскую — А. Чыладзе, на ўзбек-

[1] У далейшым «Спадчына», 1955.

скую — Тулкун, на чувашскую — С. Паўлаў, М. Яўстаф'еў, на англійскую — У. Мэй, В. Рыч, на іспанскую — К. Шэрман, на кітайскую — Чжу Цзі, на польскую — Я. Гушча, на румынскую — М. Бануш, на чэшскую — К. Беднарж, на французскую — у анталогіі беларускай паэзіі «У краіне паэтаў» (Парыж, 1982, перакладчык не названы).

На музыку паклалі Н. Андрыеўская, К. Галкоўскі, Дз. Лукас, С. Палонскі, Р. Пукст, І. Троска, М. Чуркін.

Пераклад верша В. Брусаў зрабіў у Вільні, дзе ў жніўні 1914 г. сустрэўся з Я. Купалам, які падараваў рускаму паэту зборнік «Шляхам жыцця» з дарчым надпісам: «Валерыю Якаўлевічу Брусаву на добрую памятку першага спаткання ў Вільні ад учэніка і паклонніка. Я. Купала. Вільня 18 VIII — 1914 г.». Гэты экземпляр зборніка, як і аўтографы перакладаў вершаў «Як у лесе зацвіталі...», «У ночным царстве», «На Купалле» і «Адцвітанне», перадала ў ДзЛМЯнК жонка В. Брусава.

### *З недацветаў* (с. 15)

Упершыню — «Наша ніва», 1911, № 45, 10(23) лістап. з прысвячэннем К.С. Л-э. Пад тэкстам: Акопы. Асоба, якой прысвечаны верш, не ўстаноўлена.

Верш друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935 у раздзеле «Для яе», а таксама ў Зб. тв., 1929, т. II, у зб. «Адцвітанне» і Зб. тв., 1940, т. IV. У апошнім выданні радок 18 друкаваўся з памылкай: *Пад сівым курганам.*

Захоўваецца белавы аўтограф з прысвячэннем К.С. Л-э. (адз. зах. 54, л.1). Пад тэкстам: Янка Купала. Акопы. 4.VI.1911 г.

Выразка з газеты — у рукапісным зборніку (л.141). Прысвячэнне, дата і месца напісання закрэслены.

Радок 13 *Па цвяцістым пуці* перапрацаваны ў карэктуры зборніка «Шляхам жыцця».

Твор пераклалі: на рускую мову — М. Галодны, М. Камісарава, на ўкраінскую — Дз. Білавус, на латышскую — Ю. Ванаг.

Музыку на словы верша напісалі М. Аладаў і А. Багатыроў.

### *З думак мімаходам* (с. 16)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI, дзе ўпершыню апублікаваны.

У пазнейшыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

Захоўваецца белавы аўтограф на адным лісце разам з вершамі «Гэй, наперад!», «За касой» і «Царства хохліка» (адз. зах. 47, л.1). Пад тэкстам: 4.VI.1911 г.

Твор пераклаў на польскую мову М. Ваўжкевіч.

### *Дуб* (с. 16)

Упершыню — «Наша ніва», 1911, № 23, 9(22) чэрв.

Датуецца годам апублікавання.

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935 у раздзеле «Па межах родных», а таксама ў Зб. тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV.

Захоўваецца белавы аўтограф № 1 (адз. зах. 51, л. 1). Злева зроблена чырвоным алоўкам памета: «Перап».

Аўтограф № 2 і выразка з газеты, закрэсленая чырвоным алоўкам,— у рукапісным зборніку (л.9, 94).

Радок 1 паэт перапрацоўваў двойчы: *Распусціўшы веткі, Распусціўшы галлё.* Апошні варыянт з'явіўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1913.

Твор пераклалі: на рускую мову — І. Белавусаў, М. Камісарава, А.练Пракоф'еў, на ўкраінскую — Я. Дарошка, В. Чабаненка, на армянскую — В. Аванесян, на ўзбекскую — Тулкун, на англійскую — А. Пракоф'ева, на балгарскую — Я. Дзімаў.

*Хохлік* (с. 17)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913, у раздзеле «Па межах родных».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV.

Захоўваецца белавы аўтограф № 1 пад назваю «Царства хохліка» разам з вершамі «Гэй, наперад!», «З думак мімаходам» і «За касой» (адз. зах. 47, л.1). Пад тэкстам верша «Хохлік»: Янка Купала. 8.VI.1911 г.

Аўтограф № 2 — у рукапісным зборніку (л. 103).

Твор пераклалі: на польскую мову — М. Ваўжкевіч і Я. Гушча.

*За касой* (с. 18)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Наша вёска».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV.

Захоўваецца белавы аўтограф (№ 1) на здвоеным лісце паперы з вершамі «Гэй, наперад!», «З думак мімаходам», «Царства хохліка» (адз. зах. 47, л.1). Пад тэкстам апошняга верша стаіць дата: 8.VI.1911 г., якую можна аднесці і да верша «За касой», паколькі абодва творы напісаны на адным лісце.

Але не выключана верагоднасць таго, што дата 1908 г., пастаўленая аўтарам у Зб. тв., 1926, т. II, адпавядае сапраўднасці, бо аўтограф чатырох твораў белавы і верш «За касой» мог быць перапісаны з іншага рукапісу. Магчыма, Купала рыхтаваў названыя творы да друку, але яны так і не былі апублікаваны да выхаду ў свет зборніка. Наяўнасць іншых аўтографаў прыгаданых вершаў у рукапісным зборніку пацвярджае выкладзенае меркаванне.

Аўтограф № 2 — у рукапісным зборніку (л. 103).

Твор пераклалі: на рускую мову — С. Гарадзецкі, Н. Кіслік, А. Пракоф'еў, на кітайскую — Чжу Цзі.

*Вярба* (с. 18)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Па межах родных».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV.

Захоўваецца белавы аўтограф № 1 на адным лісце з вершамі «Песня мая» і «З табою...» (адз. зах. 56, л. 1—2). Пад тэкстам: Янка Купала. Акопы 12.VI.1911 г.

Аўтограф (№ 2) — у рукапісным зборніку (л. 97). Пад тэкстам: 12.VI. На адвароце ліста верш «Ці то позна, ці то рана» з датай: 16.VI.1911 г. Тэкст яго закрэслены.

Радок 11 *І матылёк і мушка* перапрацаваны ў карэктуры зборніка «Шляхам жыцця».

Твор пераклалі: на рускую мову — А. Хаўстаў, на балгарскую — Я. Дзімаў.

*З табою...* (с. 20)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Для яе».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV.

Захоўваецца белавы аўтограф на здвоеным лісце разам з вершамі «Вярба» і «Песня мая» (адз. зах. 56, л. 1—2). Пад тэкстам: 12.VI.1911 г.

Аўтограф № 2 — у рукапісным зборніку (л. 143).

Твор пераклалі: на рускую мову — Б. Турганаў, на польскую — А. Навумаў.

*За чаркай* (с. 20)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Байкі і аповесці».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV.

Захоўваецца белавы аўтограф № 1 (адз. зах. 55, л. 1—2). Пад тэкстам: Янка Купала. Акопы. 13.VI.1911 г.

Аўтограф (№ 2) — у рукапісным зборніку (л. 252—256). Пад тэкстам: Янка Купала. Пецярбург. Месца і дата напісання, якімі пазначаны аўтограф № 1, гавораць пра тое, што Купала напісаў твор у Акопах. Узнікае пытанне, чаму на аўтографе № 2 стаіць памета: Пецярбург. Адказ на пытанне дае параўнальны аналіз аўтографаў, які высвятляе, што паэт, рыхтуючы зборнік да друку ў Пецярбурзе, значна перапрацаваў першапачатковы тэкст, аб чым сведчаць шматлікія моўна-стылёвыя змены.

Радок 88 *Ды я ў поле скарэй, а яна ў агарод* паэт паправіў пры падрыхтоўцы другога выдання зб. «Шляхам жыцця», 1923.

Верш пераклаў на рускую мову У. Раждзественскі.

*У купальскую ноч* (с. 23)

Упершыню — «Наша ніва», 1911, № 25—26, 1(14) ліп. Пад тэкстам: Акопы. 15.VI.1911 г.

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935 у раздзеле «Байкі і аповесці», у зб. «Апавяданні вершам», 1926 (Кніга першая), а таксама ў Зб. тв., 1940, т. IV.

Захоўваецца белавы аўтограф (адз. зах. 57, л. 1—2). Пад тэкстам: Янка Купала. Акопы. 15.VI.1911 г.

Выразка з газеты — у рукапісным зборніку (л. 241).

Радкі 120, 156 *Вязнем я і кветка ў нерад* і *Выць так будзеш паміж вядзем* перапрацаваны пры падрыхтоўцы рукапіснага зборніка «Шляхам жыцця».

*У купальскую ноч* (з 23 на 24 чэрвеня) адзначалася старажытнае язычніцкае земляробчае свята Купалле.

*...бярэцца плазам—крыжам* — распластваецца на зямлі.

*Жальма жаліла на сквары...*— Сквар — гарачыня, спёка.

*Заглада* — знішчэнне, пагібель.

Твор пераклалі: на рускую мову — Н. Кіслік, на іспанскую — К. Шэрман.

*Песня мая* (с. 29)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II за выключэннем радка 43, які даецца па аўтографе і зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923. У асноўным тэксце было: *Жыць толькі хоча ў радзімай старонцы.*

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Бацькаўшчыне».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II; Зб. тв., 1940, т. IV.

Захоўваецца белавы аўтограф № 1 на здвоеным лісце разам з вершамі «З табою...» і «Вярба» (адз. зах. 56, л. 1—2). Пад тэкстам: 15 чэрвеня 1911 г.

Аўтограф № 2 — у рукапісным зборніку (л. 7—8).

Твор пераклалі: на рускую мову — Н. Кіслік, У. Раждзественскі, М. Сідарэнка, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі, на армянскую — Р. Аванесян, на асецінскую — А. Пухаеў, на англійскую — В. Рыч, на балгарскую — І. Давыдкаў, на румынскую — С. Дэлчу, на французскую —

у анталогіі беларускай паэзіі «У краіне паэтаў» (Парыж, 1982, перакладчык невядомы).

*Не праспі* (с. 31)

Упершыню — «Наша ніва», 1911, № 49, 8(21) снеж.

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935 у раздзеле «Для яе»; Зб. тв., 1929, т. II; зб. «Адцвітанне», 1930 і Выбр. тв., 1935, т. IV.

Захоўваецца белавы аўтограф № 1 пад назвай «З песень аб вясне» на адным лісце разам з вершамі «Жняя», «З летніх малюнкаў» і «Ці то позна, ці то рана» («Грайце песні»), (адз. зах. 59, л. 1—2). Пад тэкстам: Акопы. 16.VI.1911 г.

Закрэслены аўтограф № 2 з першапачатковай назвай «З песень аб Ёй» і выразка з газеты — у рукапісным зборніку (л. 9, 126). Пад тэкстам аўтографа: Я. Купала. 16.VI. Акопы.

У архіве А. Карынфскага, які захоўваецца ў ДзЛМЯнК (адз. зах. 91, л. 1—2), ёсць ліст паперы, на якім рукою паэта напісана першая страфа верша. Пад тэкстам: 1.XII.1913. СПб. Гэта памета ўдакладняе час знаходжання Я. Купалы ў Пецярбурзе. Менавіта тады і адбылося яго знаёмства з рускім паэтам і перакладчыкам А. А. Карынфскім.

Твор пераклалі: на рускую мову — А. Пракоф'еў, на чувашскую — М. Уйп, С. Эльвер, на балгарскую — Я. Дзімаў.

Музыку на словы верша напісаў А. Багатыроў.

*Грайце, песні* (с. 31)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Бацькаўшчыне».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II; Выбр. тв., 1935, т. I.

Захоўваецца белавы аўтограф № 1 пад назвай «Ці то позна, ці то рана», на адным лісце з вершамі «Жняя», «Не праспі» і «З летніх малюнкаў» (адз. зах. 59, л. 1—2). Пад тэкстам: Акопы. 16.VI.1911 г.

Два другія аўтографы — у рукапісным зборніку (л. 97, 9). Адзін з іх (№ 2) пад назвай «Ці то позна, ці то рана» закрэслены. Пад тэкстам: 16.VI.1911 г.

Аўтограф № 3 пад назвай «Грайце, песні». Першапачатковая назва «Ці то позна, ці то рана» і дата: 16.VI. 1911 г. закрэслены.

Апошні варыянт радка 24 *Ляжа чысты роўны след* з'явіўся ў аўтографе № 3.

Твор пераклалі: на рускую мову — М. Камісарава, А. Пракоф'еў, Б. Турганаў, на асецінскую — Ф. Гаглойці, на таджыкскую — М. Фархат.

Музыку на словы верша напісаў С. Палонскі.

*Жняя* (с. 32)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Для яе» з прысвячэннем М. Шышко — сваячцы Ядвігіна Ш.

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II; Выбр. тв., 1935, т. I і Зб. тв., 1940, т. IV.

Захоўваецца белавы аўтограф № 1 на адным лісце з вершамі «З летніх малюнкаў», «Ці то позна, ці то рана» («Грайце, песні») і «Не праспі» (адз. зах. 59, л. 1—2). Пад тэкстам: Янка Купала. Акопы. 21.VI.1911 г.

Другі аўтограф № 2 з прысвячэннем М. Шышко — у рукапісным зборніку (л. 132). Пад тэкстам закрэсленая памета: Акопы, 22.VI.1911 г.

Рыхтуючы да друку рукапісны зборнік, Я. Купала ўнёс у тэкст

верша некаторыя змены. Ідучы ўслед традыцыі нашаніўскай паэзіі, паэт прысвяціў некаторыя вершы пэўным асобам («Дудар» і «Песня званара» — В. і М. Ластоўскім, «Мая думка» — К. Буйло, паэма «Курган» — С. Палуяну і інш.). У сувязі з гэтым Купала ў радку 9 змяняе слова інтымнага характару на больш нейтральнае, паколькі верш быў прысвечаны канкрэтнай асобе.

| Варыянт аўтографа № 1: | Варыянт аўтографа № 2: |
|---|---|
| *На грудзях панадных* | *На грудзях шчаслівых* |

Трэба адзначыць, што аўтограф № 1 датуецца 21.VI.1911 г., а другі з прысвячэннем — 22.VI.1911 г. Відаць, у наступны дзень адбывалася сустрэча з М. Шышко і паэт прысвяціў ёй напярэдадні напісаны верш, зрабіўшы некаторыя папраўкі ў тэксце.

*М. Шышко* — сваячка Ядвігіна Ш., з якой Купала часта сустракаўся, калі прыязджаў у Акопы.

У далейшым пры падрыхтоўцы другога выдання зборніка (1923) Купала зняў усе прысвячэнні. Гэта было выклікана не асабістымі адносінамі да канкрэтных асоб, ■ хутчэй па эстэтычных і іншых меркаваннях.

Здымаючы прысвячэнні, паэт, відаць, імкнуўся да больш шырокіх мастацкіх абагульненняў, не звязваючы змест твора толькі з пэўнай рэальнай асобай. Але Купала па невядомых прычынах, на жаль, не ўзнавіў першапачатковы тэкст.

Верш пераклалі: на рускую мову — В. Колычаў, У. Мікушкевіч, Л. Палонская, на ўкраінскую — Н. Лісавенка, А. Малышка, на армянскую — Ахаўні, на латышскую — Ю. Ванаг, на ўзбекскую — Тулкун, на англійскую — У. Мэй, А. Пракоф'ева, на балгарскую — А. Германаў, на польскую — Э. Карпук, на кітайскую — Чжу Цзі.

На словы верша напісалі музыку А. Багатыроў, С. Палонскі, В. Салманаў, М. Сірата, А. Туранкоў. Ілюстраваў Я. Чарняцін.

### *З летніх малюнкаў* (с. 33)

Упершыню — «Наша ніва», 1911, № 28—29, 21(3) ліп.

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935, у раздзеле «Па межах родных»; у Зб. тв., 1929, т. II; Зб. «Адцвітанне», 1930 і Зб. тв., 1940, т. IV.

Захоўваецца белавы аўтограф № 1 на адным лісце з вершамі «Ці то позна, ці то рана» («Грайце, песні»), «Не праспі» і «Жняя» (адз. зах. 59, л. 1—2).

Закрэслены аўтограф № 2 і выразка з газеты — у рукапісным зборніку (л. 110, 132). Пад тэкстам аўтографа: Янка Купала. Акопы. 25.VI.1911 г.

Твор пераклалі: на рускую мову — М. Камісарава, на асецінскую — А. Пухаеў, на латышскую — Ю. Веян, на англійскую — А. Пракоф'ева.

### *Як у повесці* (с. 34)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II, акрамя рад. 18, які даецца па аўтографе № 2. У асноўным тэксце было: *Шоў луг касіць за вёску.*

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Для яе».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II; зб. «Адцвітанне», 1930 і Зб. тв., 1940, т. IV.

Два аўтографы — у рукапісным зборніку (л. 35, 147—148). Адзін з іх (№ 1) закрэслены, на адным лісце з вершам «Мінуты шчасця». Пад тэкстам: 4 ліпеня 1911 г. Другі (№ 2) — папярэднічаў асноўнаму тэксту, за выключэннем радка 18.

Радок 22 *Ці біў лучыну з сосен* перапрацаваны пры падрыхтоўцы другога выдання зб. «Шляхам жыцця», 1923.

Твор пераклалі: на рускую мову — Д. Бродскі, А. Пракоф'еў, на ўзбекскую — Тулкун, на чувашскую — М. Яўстаф'еў.

*Мінуты шчасця* (с. 35)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Бацькаўшчыне».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935 і ў Зб. тв., 1929, т. II.

Аўтограф на адным лісце з вершам «Як у повесці» — у рукапісным зборніку (л. 35). Пад тэкстам закрэсленая дата: 5 ліпеня 1911 г.

Папраўка ў радок 14 *Як сонца блеск на вод крышталі* ўнесена пры падрыхтоўцы другога выдання зборніка «Шляхам жыцця», 1923.

*На ўсёй будзённасці завілай.* Завілая — заблытаная, складаная.

*Чатыры крыжы* (с. 36)

Упершыню — «Наша ніва», 1911, № 37—38, 22(5) верас. Пад тэкстам: Акопы. 10.VII.1911 г.

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935 у раздзеле «Байкі і аповесці», а таксама ў «Беларускім календары «Нашай нівы» на 1913» (Вільня, 1913, с. 90), у Зб. тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV.

Выразка з газеты (кірыліца) — у рукапісным зборніку (л. 251). Але тэкст не супадае з асноўным: радкі 17—24; 25—32 перастаўлены месцамі. Існуе газета «Наша ніва», набраная лацінскім шрыфтам. Пад тэкстам: Акопы. 1911 г.

У карэктуры зборніка тэкст верша набраны па гэтай газеце.

*Кнея* — лясная пушча, нетры, гушчар.

*Дзе?..* (с. 37)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Бацькаўшчыне».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Выбр. тв., 1935, т. I.

Аўтограф на адным лісце з вершам «За свабоду сваю» — у рукапісным зборніку (л. 49). Пад тэкстам: Янка Купала. Акопы. 12.VI.1911 г.

Радок 17 *Дзе ты, любая дзяўчына* перапрацаваны ў карэктуры зборніка «Шляхам жыцця».

Лексічныя папраўкі ўнесены паэтам у радках 19, 27 *Што закрыла бы мне вочы, Доля сумам аплятае* пры падрыхтоўцы другога выдання зборніка «Шляхам жыцця», 1923.

Твор пераклалі: на рускую мову — І. Белавусаў, А. Пракоф'еў, на латышскую — Ю. Ванаг.

*Блізкім і далёкім* (с. 38)

Друкуецца па Зб. тв., 1928 г., т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922, з датай: 12.VII. 11 г.

Акрамя вышэйназваных крыніц верш не друкаваўся ў пазнейшых прыжыццёвых выданнях. Ён належыць да тых твораў 1911 г., якія не ўвайшлі ў зб. «Шляхам жыцця». Паэт сам не ўключыў гэты твор у рукапісны зборнік «Шляхам жыцця», мяркуючы, што цэнзура яго не прапусціць.

Захоўваюцца два аўтографы: чарнавы (№ 1) і белавы (№ 2) (адз. зах. 48, л. 1—2 і 49, л. 1). Пад тэкстам першага: Акопы. 12.VI.1911 г., другога: Я. Купала. Акопы. 12.VII.1911 г.

Радок 40 *Крылля даў новы свет на ўсходзе* перапрацаваны паэтам пры падрыхтоўцы зб. «Спадчына», 1922.

Твор пераклалі: на рускую мову — Н. Кіслік і С. Спаскі.

*За свабоду сваю...* (с. 40)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Бацькаўшчыне».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II; Выбр. тв., 1935, т. I і Зб. тв., 1940, т. IV.

Два аўтографы — у рукапісным зборніку (л. 49, 14). Адзін з іх (№ 1) закрэслены, на адным лісце з вершам «Дзе?..». Пад тэкстам: Акопы. 13.VII.1911 г.

Твор пераклалі: на рускую мову — Б. Лейцін, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі, А. Шчарбак, на кіргізскую — Ц. Уметаліеў, на літоўскую — І. Грайчунас, на малдаўскую — П. Дарые, на чувашскую — А. Алга, на англійскую — У. Мэй.

Музыку на словы верша напісалі М. Аладаў, А. Багатыроў, К. Галкоўскі.

*Каб я князем быў...* (с. 40)

Упершыню — «Наша ніва», 1912, № 1, 5 (18) студз. пад назваю «Каб я князем быў уладарным...».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935 у раздзеле «Бацькаўшчыне», а таксама ў Зб. тв., 1929, т. II і Выбр. тв., 1935, т. I.

Два аўтографы і закрэсленая выразка з газеты — у рукапісным зборніку (л. 144, 18—19, 63). Закрэслены аўтограф (№ 1) пад назваю «Каб я князем быў уладарным» на адным лісце з вершам «Заручыны». Пад тэкстам: Акопы. 14.VII 1911 г.

Радок 44 *К богу бы панёс* перапрацаваны пры падрыхтоўцы другога выдання зб. «Шляхам жыцця», 1923.

Твор пераклалі: на рускую мову — Б. Ірынін, А. Карынфскі і Н. Кіслік.

Верш — адзін з 16 твораў, якія пераклаў А. Карынфскі на рускую мову. Я. Купала высока ацэньваў гэтыя пераклады. У лісце да А. Карынфскага ад 16.III.14 г. паэт пісаў: «Читал я и перечитывал по нескольку раз Ваши переводы. Замечательно точны и красивы» (ДзЛМЯнК, ф. I, воп. 2, адз. зах. 32, л. 1—3).

*Вячэрняя малітва* (с. 42)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Бацькаўшчыне».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV.

Аўтограф — на адным лісце з вершам «Зоркі» — у рукапісным зборніку (л. 36). Пад тэкстам закрэсленая памета: Акопы. 14.VII.1911 г.

Твор пераклала на рускую мову М. Камісарава.

*Заручыны* (с. 42)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Для яе».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця, 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV.

Аўтограф на адным лісце з вершам «Каб я князем быў уладарным» — у рукапісным зборніку (л. 144). Пад тэкстам закрэсленая памета: Акопы 14.VII.1911 г.

Радок 16 *І ціха сухілай сціскалася цень* перапрацаваны пры падрыхтоўцы другога выдання зб. «Шляхам жыцця», 1923.

Твор пераклалі: на рускую мову — Л. Васільева, М. Камісарава, Н. Кіслік, на англійскую — У. Мэй, на іспанскую — К. Шэрман.

### *Зоркі* (с. 43)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Бацькаўшчыне».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV.

Чарнавы (№ 1) і белавы (№ 2) аўтографы — у рукапісным зборніку (л. 36, 37). Чарнавы аўтограф закрэслены чырвоным алоўкам. Пад тэкстам: 15 ліпеня 1911 г. Белавы аўтограф перапісаны з чарнавога, але дата адсутнічае.

Твор пераклалі: на рускую мову — І. Аўраменка, Н. Кіслік, на англійскую — У. Мэй, А. Пракоф'ева, на іспанскую — К. Шэрман.

### *Я казак — не казак...* (с. 44)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922 з датай: 7.VII-11 г.

У пазнейшыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

Захоўваюцца два аўтографы (адз. зах. 46, 45, л. 1). Закрэслены аўтограф (№ 1) пад агульнай назвай «З думак мімаходам» на адным лісце з вершамі «Ён з начальствам знае дзела...» і «Днём і ночкай працаваў ён...». Пад тэкстам: Акопы. 17.VII. 1911 г. «Друк», «Папр». Ёсць яшчэ адна памета: VI 9. Магчыма, Купала меркаваў гэты твор уключыць у VI раздзел зборніка («Байкі і аповесці») пад парадкавым № 9.

Датуецца твор па аўтографе № 1, мяркуючы, што пры перапісцы паэт, відаць, зрабіў памылку. У зб. «Спадчына» тэкст верша быў перадрукаваны з аўтографа № 2 з недакладнай датай 7/VII-11 г.

*У вольнай Сечы* — Маецца на ўвазе Запарожская Сеч, арганізацыя ўкраінскага казацтва, якая была створана беглымі прыгоннымі за Дняпроўскімі парогамі ў першай палове XVI ст. Запарожская Сеч доўга захоўвала сваю незалежнасць і адыграла значную ролю ў барацьбе з феадальна-прыгонным прыгнётам.

Белавы аўтограф № 2 з паметай: Я. Купала. Акопы. 7.VII 1911 г. Уверсе над тэкстам: «Не пойдзе». Гэта азначае, што цэнзура не прапусціла верш, і ён не ўвайшоў у зб. «Шляхам жыцця».

Твор пераклалі: на рускую мову — Д. Бродскі, Н. Кіслік, А. Пракоф'еў, на ўкраінскую — М. Нагнібеда, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, на латышскую — Ю. Ванаг, на эстонскую — Х. Юрысан.

### *«Днём і ночкай працаваў ён...»* (с. 44)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922.

Пасля 1928 г. у прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

Захоўваюцца два аўтографы (адз. зах. 46, л. 1 і адз. зах. 127, л. 1).

Чарнавы аўтограф № 1 пад агульнай назвай «З думак мімаходам» разам з вершамі «Ён з начальствам знае дзела...» і «Я казак — не казак...». Пад тэкстам апошняга верша: Акопы. 17.VII. 1911 г.

Белавы аўтограф № 2 на адным лісце з «Эпіграмай на самога сябе» і «На ўсе рукі» («Ён з начальствам знае дзела...»). Пад тэкстам: Я. Купала.

*На ўсе рукі* (с. 45)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922.

У пазнейшыя прыжыццёвыя выданні не ўваходзіў. Друкаваўся ў часоп. «Маланка», 1927, № 7.

У пасмяротнае выданне ўключаецца ўпершыню.

Захоўваюцца два аўтографы (адз. зах. 45, 127).

Аўтограф № 1 пад агульнай назвай «З думак мімаходам» разам з вершамі «Днём і ночкай працаваў ён...» і «Я казак — не казак». Пад тэкстам: Акопы. 17.VII.1911 г. Справа памета: «Папр»., злева «Друк».

Белавы аўтограф № 2 на адным лісце з «Днём і ночкай працаваў ён...» і з «Эпіграмай на самога сябе». Пад тэкстам: Я. Купала.

*Эпіграма на самога сябе* (с. 45)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922.

Захоўваюцца два аўтографы (адз. зах. 126, 127). На першым — справа памета, зробленая простым алоўкам: «Друк». і чарнілам: «Папр». Тэкст напісаны лацінскім шрыфтам. Гэта дае падставы меркаваць, што Я. Купала рыхтаваў эпіграму для публікацыі ў зб. «Гусляр» ці ў газ. «Наша ніва», частка тыража якой да 18 кастрычніка 1912 г. выходзіла на лацінцы, а другая — кірыліцай.

Другі аўтограф, белавы, знаходзіцца на адной старонцы з творамі «Днём і ночкай працаваў ён...» і «На ўсе рукі» («Ён ■ начальствам знае дзела...»). Паколькі гэтыя творы датуюцца 17 чэрвенем 1911 г., верагодна, што і эпіграма напісана не пазней 1911 г.

*Дзве таполі* (с. 45)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Па межах родных».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II, зб. «Адцвітанне», 1930 і Зб. тв., 1940, т. IV.

Аўтограф на адным лісце з вершамі «Ты прыйдзі...», «Як спытаюцца нас...» — у рукапісным зборніку (л. 99). Пад тэкстам закрэсленая памета: Янка Купала Акопы 17.VII 1911 г.

Твор пераклалі: на рускую мову — Э. Багрыцкі (пад назвай «Две берёзы»), на ўкраінскую — П. Дарошка, А. Малышка, на армянскую — Н. Зар'ян, на грузінскую — Г. Хухашвілі, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, на карачаеўскую — Х. Байрамукава, на туркменскую — А. Ніязаў, на англійскую — У. Мэй, на балгарскую — А. Германаў, на польскую — Я. Гушча, на сербскахарвацкую — С. Раічкавіч, на французскую — Ж. Гаш.

*Як спытаюцца нас* (с. 46)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Бацькаўшчыне».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV.

Два аўтографы — у рукапісным зборніку (л. 99, 73). Адзін з іх закрэслены (№ 1) на адным лісце з вершамі «Дзве таполі» і «Ты прыйдзі...». Пад тэкстам: Акопы 17/VII 1911 г.

Твор пераклалі: на рускую мову — Н. Кіслік, на польскую — Т. Хрусцялеўскі.

*Ты прыйдзі...* (с. 47)

Упершыню — «Наша ніва», 1911, № 39, 29 (12) верас.

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935 у раздзеле «Для яе», а таксама ў Зб. тв., 1929, т. II і Выбр. тв., 1935, т. I.

Закрэслены аўтограф і выразка з газеты — у рукапісным зборніку (л. 99, 146). Аўтограф на адным лісце з вершамі «Дзве таполі», «Як спытаюцца нас». Пад тэкстам: Я. Купала, Акопы 28/VII. 1911 г.

Закрэслены аўтограф адрозніваецца ад асноўнага тэксту парадкам строф: 3-я страфа (радкі 9—12) ідзе пад № 4, 4-я (13—16) — пад № 3. На першы погляд, такі варыянт больш адпавядае паслядоўнасці пораў года. Але пры дэталёвым аналізе тэксту высветлілася правамернасць аўтарскай папраўкі, выкліканая сэнсавым зместам. Апошні варыянт з'явіўся ў газ. «Наша ніва», і гэты тэкст быў набраны ў зборніку «Шляхам жыцця», 1913.

Твор пераклалі: на рускую мову — М. Галодны, М. Камісарава, Я. Нячаеў, І. Шклярэўскі, на ўкраінскую — С. Крыжаніўскі, на азербайджанскую — Т. Эюбаў, на асецінскую — Ф. Гаглойці, А. Пухаеў, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, на латышскую — Ю. Ванаг, на літоўскую — К. Кублінскас, Э. Матузявічус, на ўзбекскую — Тулкун, на чувашскую — А. Арцем'еў, на эстонскую — М. Вээтам, на англійскую — У. Мэй, А. Пракоф'ева, на балгарскую — Н. Вылчаў, Я. Дзімаў, на іспанскую — К. Шэрман, на кітайскую — Чжу Цзі, на польскую — А. Маліняк.

На словы верша напісалі музыку У. Алоўнікаў, С. Палонскі, А. Туранкоў, М. Чуркін.

*Над ракою ў спакою* (с. 47)

Упершыню — «Наша ніва», 1911, № 31—32, 11(24) жн.

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935 у раздзеле «Для яе», а таксама ў Зб. тв., 1929, т. II; зб. «Адцвітанне», 1930 і Выбр. тв., 1935, т. I.

Закрэслены аўтограф і выразка з газеты — у рукапісным зборніку (л. 113, 146). Пад тэкстам аўтографа: Я. Купала. Акопы 30.VII. 1911 г.

Як адзначана ў Энцыклапедычным даведніку, тэкст верша яшчэ да рэвалюцыі (1912—1916) стаў антываеннай лірычнай песняй. Шырока распаўсюджана яна была і на тэрыторыі Заходняй Беларусі да 1939 г. У перыяд Вялікай Айчыннай вайны ў перапрацаваным выглядзе была вельмі папулярнай сярод беларускіх партызан (Янка Купала. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1986. С. 426)[1].

Твор пераклалі: на рускую мову — М. Ісакоўскі, на ўкраінскую — П. Дарошка, А. Малышка, Т. Масэнка, П. Тычына, М. Цярэшчанка, на асецінскую — А. Пухаеў, на кіргізскую — Ц. Уметаліеў, на ўзбекскую — Тулкун, на эстонскую — М. Вээтам, на англійскую — У. Мэй, на польскую — Т. Хрусцялеўскі.

На словы верша музыку напісаў В. Салманаў.

*Спека* (с. 48)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Па межах родных».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II; зб. «Адцвітанне», 1930 і Выбр. тв., 1935, т. I.

Аўтограф на адным лісце з вершам «Над ракою ў спакою» — у ру-

---

[1] У далейшым — ЭД.

капісным зборніку (л. 113). Пад тэкстам закрэсленая памета: Янка Купала Акопы 30.VII. 1911 г.

Твор пераклалі: на рускую мову — Б. Турганаў, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі, на балгарскую — Я. Дзімаў, на кітайскую — Чжу Цзі.

*Летняя раса* (с. 49)

Упершыню — «Наша ніва», 1911, № 36, 1(14) верас. Пад тэкстам: Акопы, 1911 г.

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935 у раздзеле «Па межах родных», а таксама ў Зб. тв., 1929, т. II; зб. «Хлопчык і лётчык», 1937; Зб. тв., 1940, т. IV і «Для дзяцей», 1940.

Выразка з газеты — у рукапісным зборніку (л. 110).

Радок 6 *Блескі сонца загуляюць* перапрацаваны пры падрыхтоўцы другога выдання зборніка.

Твор пераклалі: на рускую мову — А. Пракоф'еў, Б. Туранкоў, на ўкраінскую — М. Сом, на асецінскую — А. Пухаеў, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, на балгарскую — Я. Дзімаў, на кітайскую — Чжу Цзі.

На словы верша музыку напісаў М. Мацісон.

*Ваякі* (с. 50)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1930, № 5—6. Пад тэкстам: 22 верасня 1911 г.

Пасля 1932 г. у прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

Захоўваецца чарнавы аўтограф з двума назвамі: «Спрэчка» і «Падарожныя» (адз. зах. 50, л. 1). Першапачатковая назва «Спрэчка» закрэслена. Пад тэкстам: 22.IX.

*«Нашай ніве»* (с. 50)

Упершыню — «Наша ніва», 1911, № 47—48, 1(14) снеж. без назвы з прысвячэннем: «Нашай ніве» са шчырым прыветам яе пяцілетняй ідэёвай працы для многамільённага беларускага народа». Пад тэкстам: Пецярбург. Янка Купала. Верш «Нашай ніве» — першы твор з паметай: «Пецярбург» пасля вяртання паэта з канікул.

Датуецца годам апублікавання.

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1925, 1935 у раздзеле «Сваім і чужым», а таксама ў Зб. тв., 1929, т. II. Пасля 1929 г. верш у прыжыццёвыя выданні не ўключаўся, паколькі газета «Наша ніва» доўгі час лічылася буржуазна-нацыяналістычным органам.

Выразка з газеты — у рукапісным зборніку (л. 205).

Яшчэ да выхаду ў свет зб. «Шляхам жыцця», 1913 верш без першай і апошняй строф друкаваўся ў «Известиях общества славянской культуры», т. I, кн. 1 (М., 1912) у артыкуле М. Янчука «Некалькі слоў аб навейшай літаратуры» (Пераклад верша М. Янчука).

Твор пераклалі: на рускую мову — М. Янчук, на чэшскую — Ф. Ціхі.

На словы верша музыку напісаў М. Янчук. Для хору пераклаў Б. Падгарэцкі.

*Хрыстос васкрос!..* (с. 51)

Друкуецца па машынапісе (адз. зах. 1-д, л. 1). Пад тэкстам: Пецярбург, 1911. Напісаны напярэдадні рэлігійнага свята — Вялікадня.

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Бацькаўшчыне».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II, дзе недакладна датаваўся 1908 г.

Пасля 1929 г. быў апублікаваны ўжо толькі ў Зб. тв., 1972—1978.

Аўтограф — у рукапісным зборніку (л. 75).

Нягледзячы на тое, што ў машынапісе адсутнічаюць аўтарскія праўкі[1], ёсць падставы сцвярджаць, што Купала меў дачыненне да гэтага тэксту. Вывучэнне аўтографаў рукапіснага зборніка дазваляе зрабіць наступны вывад: дадзены тэкст надрукаваны на аднолькавай паперы з аўтографамі вершаў, напісаных у 1911 г. у Акопах («Песня мая», «З табою», «Вярба»). Магчыма, Купала меў намер змясціць твор у перыядычным друку.

Тэкст аўтографа адрозніваецца ад машынапіснага тэксту толькі 22 і 24 радкамі, дзе аўтар быў вымушаны ўнесці праўкі па цэнзурных меркаваннях: *І я ў дзень гэты думку шлю, Уваскрэсне к лепшаму жыццю.* Акрамя названых радкоў ужо ў карэктуры зборніка рэдактар закрэсліў 19 радок, і Купала даў яго ў іншай рэдакцыі: *Што ў ціхамойку ладзіць сеткі*, ахвяраваўшы рыфмай (Гульман Р. Тэксталогія твораў Янкі Купалы. Мн., 1971. С. 79).

Параўнальны аналіз аўтографа і машынапісу пацвярджае меркаванне аб тым, што машынапісны тэкст папярэднічаў аўтографу рукапіснага зборніка і быў перадрукаваны з іншага аўтографа.

У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь знойдзены дакумент, у якім калегія Галоўліта БССР ад 21 лістапада 1925 г. вынесла пастанову: друкаваць зборнік «Шляхам жыцця» (Зб. тв., 1926, т. II) пры ўмове «да ніжэйпамянёных вершаў дадаць даты, калі гэтыя вершы напісаны». Спіс складаецца з 22 твораў, сярод іх творы на рэлігійную тэму: «Вялікдзень», «Мая малітва», «Хрыстос васкрос», «Чорны Бог» і інш. Вершы «Вялікдзень» і «Хрыстос васкрос» змешчаны побач у раздзеле «Бацькаўшчыне». Абодва датуюцца 1908 г.

Паколькі ў сапраўднасці верш «Вялікдзень» напісаны 23 сакавіка 1909 г. (дата аўтографа), а «Хрыстос васкрос» — у 1911 г. (калі прыняць дату ў машынапісе), можна меркаваць, што дата 1908 г. недакладная. Відавочна, што паэт быў вымушаны паставіць больш раннюю дату, каб пацвердзіць, што творы, напісаныя да рэлігійных свят, маглі быць створаны толькі на пачатку творчага шляху. Немагчымым здаецца і тое, што паэт напісаў адначасова два верша да адной падзеі. Такім чынам, дату ў машынапісе трэба лічыць больш верагоднай.

### *Слугам алтарным* (с. 52)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 2 з датай: 1911 г.

Друкаваўся ў Выбр. тв., 1935, т. II.

Захоўваюцца два аўтографы (адз. зах. 53, 52, л. 1). Першы — чарнавы. Пад тэкстам: Янка Купала, 1911. Другі — белавы.

Верш напісаны ў 1911 г., але Купала не ўключыў яго ў рукапісны зборнік «Шляхам жыцця», 1913. Відаць, паэт не быў упэўнены ў тым, што цэнзура яго прапусціць. Верш быў апублікаваны толькі ў 1929 г. разам з вершамі з сшытка Б. Эпімах-Шыпілы, якія не ўвайшлі ў зборнікі «Жалейка», «Гусляр» і «Шляхам жыцця».

---

[1] Акрамя паправак пры ўжыванні літары «ў», якая адсутнічае ў рускамоўным шрыфце машынкі.

*У вечным боры...* (с. 54)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Па межах родных».

Друкаваўся ў кн. «Зажынкі» (М., 1918), зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935, а таксама ў Зб. тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV.

Машынапісны тэкст — у рукапісным зборніку (л. 102). Пад тэкстам закрэсленая памета: Янка Купала. Пецярбург. 14.1.1912 г.

Твор пераклалі: на рускую мову — Д. Бродскі, В. Наседкін, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі, на балгарскую — Я. Дзімаў, на польскую — С. Поляк.

*Ты, зялёная дубрава...* (с. 55)

Упершыню — «Наша ніва», 1912, № 18, 3 (16) мая. Пад тэкстам: Пецярбург, 15.1.1912 г.

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935 у раздзеле «Бацькаўшчыне», а таксама ў Зб. тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV.

Выразка з газеты — у рукапісным зборніку (л. 26).

Твор пераклалі: на рускую мову — М. Браўн, М. Сідарэнка, на ўкраінскую — Н. Лісавенка, Р. Лубкіўскі, на літоўскую — В. Бложа, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, на латышскую — А. Веян, на ўзбекскую — Тулкун, на балгарскую — Я. Дзімаў.

На словы верша музыку напісаў А. Стаповіч.

*Чараўнік* (с. 56)
(Забытая казка)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Байкі і аповесці».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935 і Зб. тв., 1929, т. II.

У пазнейшыя прыжыццёвыя і пасмяротныя выданні не ўваходзіў.

Пасля 1929 г. у Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Машынапісны тэкст з аўтарскімі праўкамі — у рукапісным зборніку (л. 265—267). Пад тэкстам закрэсленая памета: Пецярбург, 17/I-1912 г.

У карэктуры зборніка на адной са старонак тэксту ёсць аўтарская памета: «По исправлении — прислать еще раз корректуру. Не исправленные «марашки» заменить буквою «ў». Ёсць дата: 4.III-13 г.

У радках 9 *А як пойдзе хто першай,— ён скажа ім гэтак,* 152 *Не сумей навучыць брата-звера,* 205 *У фалях мутных шукае, к каму дзе падсесці,* 208 *На яго месцы пошусці сеюць,* 237 *Шапацяць тые лісці заснуўшым палянам* паэт унёс папраўкі пры падрыхтоўцы другога выдання зборніка.

*На рынку* (с. 63)

Упершыню — «Наша ніва», 1912, № 4, 26 (8) студз. Пад тэкстам: Пецярбург, 19/I 1912 г.

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935 у раздзеле «Сваім і чужым», а таксама ў Зб. тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV.

У пасмяротны Збор твораў уключаецца ўпершыню. Быў апублікаваны ў зб. «Спадчына», 1955 і ў газ. «Літ. і мастацтва», 1988, 7 кастр.

Выразка з газеты — у рукапісным зборніку (л. 206).

Пераклаў на рускую мову С. Гарадзецкі.

*Папросту* (с. 64)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Сваім і чужым».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV.

У пасмяротны Збор твораў уключаецца ўпершыню. Быў апублікаваны ў зб. «Спадчына», 1955 і часоп. «Полымя», 1988, № 10[1] сярод іншых твораў, якія таксама ў пасляваенныя Зборы твораў не ўваходзілі.

Захоўваецца машынапісны тэкст з аўтарскімі праўкамі (адз. зах. 64, л. 1—2). Пад тэкстам: Пецярбург. 10.II.1912 г.

Другі машынапісны тэкст з аўтарскімі праўкамі — у рукапісным зборніку (л. 218—219).

У карэктуры зборніка на палях ёсць аўтарская памета: «Вставить шпоны. По исправлении прислать еще раз корректуру». Пад тэкстам пазначана дата, калі паэт чытаў атрыманыя карэктурныя лісты. Унізе: II-1913. Відаць, па прапанове рэдактара, Я. Купала быў вымушаны выкрэсліць радкі 6, 10, 27, 28.

Пры падрыхтоўцы да друку другога выдання паэт узнаўляе радкі 6, 27, 28 і адначасова перапрацоўвае радкі 5, 22, 24. Было: *Хоць патаптана мудрым чужынцам, Нашым хацінам, нашым палянам, Брацям — Славянам.*

С. Станкевіч, разважаючы над ідэяй твора, слушна заўважыў: «...агульна ведамае, што Купала ніколі не быў супраць ні польскага, ні расейскага народу, як гэткіх. Пад словамі «ляхі» й «маскалі» разумеў ён адно: нацыяналістычныя польскія й чарнасоценскія расейскія колы, што праводзілі шавіністычную палітыку ў дачыненні да беларусаў і не вызнавілі іх за апрычоную нацыю». Асабліва падкрэслівае С. Станкевіч той факт, што «...царская цэнзура, дазволіўшы прыведзеныя вершы, была ў дачыненні да Купалы й тым самым да беларускага нацыянальнага руху куды ліберальнейшая, чымся сянняшняя цэнзура савецкая, што іх забараніла» (Станкевіч С. Янка Купала: На 100-я ўгодкі ад нараджэння. Нью-Йорк. 1982. С. 55).

*Бледныя буднія дні...* (с. 65)

Упершыню — «Наша ніва», 1912, № 14, 5 (18) крас. без назвы. Пад тэкстам: Пецярбург. 12.II.1912 г.

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935 у раздзеле «Бацькаўшчыне», ■ таксама ў Зб. тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV.

Назву вершу Я. Купала даў пры падрыхтоўцы другога выдання зборніка «Шляхам жыцця».

Выразка з газеты — у рукапісным зборніку (л. 64).

Твор пераклалі: на рускую мову — Н. Кіслік, У. Раждзественскі, А. Чумачэнка, на ўкраінскую — І. Ганчарэнка, на польскую — Я. Гушча, А. Яворскі.

*У чужой старане* (с. 65)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Бацькаўшчыне».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV.

У пасмяротны Збор твораў уключаецца ўпершыню. Быў апублікаваны ў зб. «Спадчына», 1955 і газ. «Літ. і мастацтва», 1988, 7 кастр.

Машынапісны тэкст з аўтарскімі праўкамі — у рукапісным зборніку (л. 40—42). Пад тэкстам: Пецярбург, 26 II-1912 г.

---

[1] Пад тэкстам дакладная дата, але па невядомых меркаваннях узята ў дужкі.

Радок 42 *Па скананні зраніцы мае* перапрацаваны аўтарам у карэктуры зборніка.

*Прыстаў я жыць...* (с. 67)

Друкуецца па машынапісным тэксце за выключэннем радкоў 53—54, якія даюцца па Зб. тв., 1926, т. II, паколькі яны былі перапрацаваны паэтам пры падрыхтоўцы другога выдання зборніка «Шляхам жыцця», 1923.

Было: *З чужынцам-катам нельга жыці, // Чужынцу-кату служа брат...*

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Бацькаўшчыне».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Выбр. тв., 1935, т. I. У апошнім выданні памылкова датаваўся 1914 годам.

Машынапісны тэкст — у рукапісным зборніку (л. 45). Пад тэкстам закрэсленая памета: СПб 5.III.1912 г.

Карэктуры зборніка даюць магчымасць прасачыць за вымушанымі тэкстуальнымі зменамі, якія насілі цэнзурны характар. Спачатку Я. Купала закрэслівае тры страфы (радкі 37—44 і 53—56) і ставіць шматкроп'е. У наступнай карэктуры паэт узнаўляе радкі 55—56. Пры падрыхтоўцы другога выдання зборніка аўтар здымае шматкроп'е, але знятыя радкі не ўзнаўляе, відаць, па прычыне адсутнасці ў яго першапачатковага тэксту.

Твор на рускую мову пераклалі У. Мікушэвіч і С. Яўсеева.

*Вясна за вясною...* (с. 69)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Бацькаўшчыне».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв. 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV.

Машынапісны тэкст — у рукапісным зборніку (л. 58). Пад тэкстам закрэсленая памета: Янка Купала СПб. 5.III.1912 г.

Твор пераклалі: на ўкраінскую мову — М. Рыльскі, на балгарскую — Я. Дзімаў.

*Русалка* (с. 70)

Упершыню — «Наша ніва», 1912, № 82, 9 (22) жн. Пад тэкстам: СПб 6.III.1912 г.

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935 у раздзеле «Для яе», таксама ў Зб. тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV.

Выразка з газеты — у рукапісным зборніку (л. 154).

Твор пераклала на рускую мову М. Камісарава.

*Хмарка і маладзік* (с. 71)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Для яе».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II; зб. «Песня-байка», 1930 і Зб. тв., 1940, т. IV.

Машынапісны тэкст — у рукапісным зборніку (л. 151—153). Пад тэкстам закрэсленая памета: СПб. 6.III.1912 г.

Радок 9 *Шопат-рэч павяла* быў перапрацаваны аўтарам пры падрыхтоўцы другога выдання зб. «Шляхам жыцця», 1923.

У карэктуры зборніка ў радку 44 *Нам завідаваць тут* насупраць слова «завідаваць» стаіць пытальнік. У далейшым паэт вызваляецца ад русізма: *Нам зайздросціць жа тут.*

Твор пераклалі: на рускую мову — В. Шэфнер, на англійскую — А. Пракоф'ева.

### *Злажыўшы рукі...* (с. 73)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 2. Пад тэкстам: 6 сакавіка 1912 г.

У прыжыццёвыя выданні пасля 1932 г. не ўключаўся.

Захоўваецца белавы аўтограф пад назваю «Злажыўшы рукі накрыж» (адз. зах. 60, л. 1). На аўтографе памета аўтара: «Перап. не друк».

Ёсць і машынапісны тэкст з аўтарскімі праўкамі (адз. зах. 61, л. 1). Верш складаецца з 12 радкоў. Апошняя страфа закрэслена. Справа памета: «Папр.» Пад тэкстам: Янка Купала. СПб., 6.III.1912 г. Усё закрэслена. Адноўлена толькі дата.

Творы пераклалі: на рускую мову — Н. Кіслік, У. Раждзественскі, на эстонскую — Х. Юрысан.

### *Па захадзе...* (с. 73)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Для яе».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II; зб. «Адцвітанне», 1930 і Зб. тв., 1940, т. IV.

Машынапісны тэкст з часткова закрэсленай першапачатковай назвай «Па захадзе ўжо сонца» — у рукапісным зборніку (л. 139—140). Пад тэкстам закрэсленая памета: Янка Купала. СПб 8.III 1912 г.

Радок 29 *А ночка пела з блескам зор* перапрацаваны паэтам пры падрыхтоўцы другога выдання зб. «Шляхам жыцця», 1923.

Твор пераклалі: на рускую мову — М. Галодны, М. Камісарава, на ўзбекскую — Тулкун.

### *Грай жа, музыка...* (с. 74)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Бацькаўшчыне».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV.

Машынапісны тэкст — у рукапісным зборніку (л. 70—71). Пад тэкстам закрэсленая памета: Янка Купала. СПб. 9.III.1912 г.

Радок 26 *Стой!!! Блеск чырвоны шыбае з акон* перапрацаваны пры падрыхтоўцы другога выдання зборніка.

Твор пераклала на рускую мову М. Камісарава.

### *Выйдзі...* (с. 75)

Упершыню — «Наша ніва», 1912, № 19—20, 10 (23) мая. Пад тэкстам: Пецярбург. 10.III.1912 г.

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1913; 1923, 1935 у раздзеле «Бацькаўшчыне», а таксама ў Зб. тв., 1929, т. II і Выбр. тв., 1935, т. I.

У Зб. тв., 1926, т. II недакладна датуецца 1911 г.

Дата, пастаўленая Купалам па патрабаванні Галоўліта, адлюстравала негатыўныя праявы цэнзуры і прымусіла паэта, які не меў у той час большасць з рукапісных тэкстаў, ставіць даты па памяці, прыгадваючы прыблізна пэўны творчы перыяд. Гэта датычыцца і наступнага верша «Мая малітва» (Гл. каментарый да верша «Хрыстос васкрос!..», с. 285).

Выразка з газеты — у рукапісным зборніку (л. 25).

Радок 11 *Вырылі сцюжы ўюгамі, снегам* перапрацаваны пры падрыхтоўцы другога выдання зб. «Шляхам жыцця», 1923.

Твор пераклалі: на рускую мову — У. Раждзественскі, на ўкраінскую — П. Дарошка, на армянскую — Р. Аванесян, на грузінскую — І. Каландадзе, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, С. Асанаў, на туркмен-

скую — А. Ніязаў, на англійскую — У. Мэй, на балгарскую — Я. Дзімаў, на кітайскую — Чжу Цзі.

На словы верша музыку напісалі К. Галкоўскі і К. Цесакоў.

*Мая малітва* (с. 76)

(«Ва ўсяку мінуту, ва ўсякай патрэбе...»)

Упершыню — «Наша ніва», 1912, № 38, 20(3) верас. Пад тэкстам: Карукі. 1.VIII.1912 г.

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923 у раздзеле «Бацькаўшчыне», а таксама ў Зб. тв., 1929, т. II.

У Зб. тв., 1926, т. II памылкова датуецца 1910 г. (Гл. каментарый да верша «Хрыстос васкрос!..», с. 285).

У лісце да Б. Эпімах-Шыпілы ад 26.VII.1912 г. (ДзЛМЯнК, ф. 1, воп. 2, адз. зах. 3, лл. 1, 2) Я. Купала пісаў: «У суботу еду ў Стоўбцы да Коласа, а стуль да кс. Астрамовіча і дамоў»[1]. Верагодна, што сустрэча з ксяндзом, а магчыма, і дыскусія з ім паўплывала на паэта і вынікам яе з'явіўся верш «Мая малітва». На жаль, пакуль не ўстаноўлена дакладна, калі Купала быў у Каруках, ці па дарозе ў Мікалаеўшчыну, ці вяртаючыся ў Акопы.

Твор пераклалі: на рускую мову — А. Пракоф'еў, на армянскую — Р. Аванесян, на ўзбекскую — Тулкун, на балгарскую — Я. Дзімаў, на польскую — А. Баршчэўскі.

*Пад крыжам* (с. 77)

Упершыню — «Наша ніва», 1912, № 43—44, 2 (15) лістап. з падзагалоўкам: «З цыкла «Казкі Бацькаўшчыны». Пад тэкстам: Пецярбург. 18. X⟨19⟩12.

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935 у раздзеле «Бацькаўшчыне», а таксама ў Зб. тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV.

Аўтограф з падзагалоўкам «З цыкла «Казкі Бацькаўшчыны» і выразка з газеты — у рукапісным зборніку (л. 78, 4). Пад тэкстам аўтографа: Янка Купала. Пецярбург. 18.X.1912 г.

У рукапісным зборніку верш спачатку быў змешчаны асобна ад іншых твораў і з'яўляўся як бы запевам да ўсёй кнігі. Але ў далейшым аўтар перанёс яго ў канец раздзела «Бацькаўшчыне». Магчыма, двухсэнсоўнасць назвы насцярожыла рэдактара ці сам аўтар палічыў за лепшае пазбегнуць спрошчанага ўспрымання твора.

Твор пераклалі: на рускую мову — М. Камісарава, Н. Кіслік, на польскую — Р. Гажэльскі.

*З кутка жаданняў* (с. 78)

Упершыню — «Наша ніва», 1913, № 7, 15 лют.

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935 у раздзеле «Бацькаўшчыне», а таксама ў Зб. тв., 1929, т. II і ў Зб. тв., 1940, т. IV.

Машынапісны тэкст з аўтарскімі праўкамі — у рукапісным зборніку (л. 81). Пад тэкстам закрэсленая памета: СПб. 25.X.1912 г.

У 1982 г. да 100-годдзя з дня нараджэння паэта ў Акопах на валуне, на якім Купала любіў адпачываць, устаўлены мемарыяльны знак з радкамі верша:

Песню стварыці ясну, як неба,
Ў кожнай з ёй хаце быць мілым гасцём —
Гэтакіх толькі скарбаў мне трэба,
Гэткім я толькі жыву пачуццём. (ЭД. С. 35)

---

[1] У ЭД, с. 288 называецца канкрэтная дата: 28 ліпеня. Але не прыводзяцца матэрыялы, якія б пацвердзілі яе.

Твор пераклалі: на рускую мову — В. Карчагін, А. Рывіна, Б. Турганаў, на азербайджанскую — І. Сафарлі, на асецінскую — А. Пухаеў, на малдаўскую — П. Дарые, на таджыкскую — М. Фархат, на татарскую — Н. Арсланаў, на туркменскую — А. Курбанняпесаў, М. Сеідаеў, на ўзбекскую — Тулкун, на чувашскую — А. Эсхель, на англійскую — У. Мэй, А. Пракоф'ева, на балгарскую — І. Давыдкаў, на іспанскую — К. Шэрман.

*Я люблю* (с. 79)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Бацькаўшчыне».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. ІІ і Зб. тв., 1940, т. IV.

Машынапісны тэкст — у рукапісным зборніку (л. 84). Пад тэкстам закрэсленая памета: Янка Купала. СПб. 1.XI.1912 г.

Твор пераклалі: на рускую мову — І. Белавусаў, У. Раждзественскі, на ўкраінскую — В. Струцінскі, на казахскую — С. Асанаў, на чувашскую — М. Уйп, на таджыкскую — М. Фархат, на эстонскую — Х. Юрысан, на англійскую — А. Пракоф'ева, на французскую — Ж. Гэш, на чэшскую — Э. Аўгусцін.

*На вялікім свеце...* (с. 80)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Бацькаўшчыне». Верш з'явіўся водгукам паэта на падзеі Першай Балканскай вайны, якая пачалася 9 кастр. 1912 г. Вайна ішла паміж Балканскім саюзам (Балгарыя, Сербія, Грэцыя, Чарнагорыя) і Турцыяй.

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. І і Зб. тв., 1940, т. IV.

Машынапісны тэкст — у рукапісным зборніку (л. 83). Пад тэкстам закрэсленая памета: Янка Купала. СПб. 1.XI.1912 г.

У Зб. тв., 1926, т. ІІ датуецца 1912 г. Верш знаходзіўся ў памянёным спісе Галоўліта. Але дата адпавядала сапраўднай, паколькі падзея, аб якой ішла размова ў творы, датычылася Балканскай вайны 1912 г.

Твор пераклалі: на ўкраінскую мову — Дз. Паўлычка, на польскую — Ф. Няўважны.

*Для зямлі прадзедаў маіх...* (с. 80)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Бацькаўшчыне».

Друкаваўся ў газ. «Наша ніва», 1913, № 15, 12 крас., у зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. ІІ і Зб. тв., 1940, т. IV.

Машынапісны тэкст — у рукапісным зборніку (л. 82). Пад тэкстам закрэсленая памета: Янка Купала. СПб. 1.XI.1912 г.

Паміж напісанымі ў адзін дзень вершамі «На вялікім свеце...» і «Для зямлі прадзедаў маіх...» існуе лагічная сувязь. Барацьба балканскіх народаў супраць турэцкага прыгнёту выклікала ў паэта роздум над тагачасным становішчам роднай Беларусі, што паслужыла імпульсам для стварэння твора.

Твор пераклалі: на рускую мову — М. Багдановіч («Для тебя, отчизна предков моих»), на балгарскую — Я. Дзімаў.

Па форме верш набліжаецца да санета. Гэтая акалічнасць, магчыма, і прывабіла М. Багдановіча зрабіць пераклад гэтага твора, паколькі сам ён плённа засвойваў формы класічнай паэтыкі на нацыянальнай глебе.

*Калі пачнуць...* (с. 81)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Наша ніва», 1913, № 11, 15 сак.

Друкаваўся ў зб. «Спадчына», 1922.

У пазнейшыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

Захоўваецца белавы аўтограф без назвы (адз. зах. 62, л. 1). Пад тэкстам: Янка Купала СПб. 26.XI.1912 г.

Верш быў напісаны ў той час, калі Я. Купала ўжо атрымаў першыя карэктурныя лісты зборніка «Шляхам жыцця», аб чым сведчыць першая аўтарская памета ў карэктуры: 5 лістапада 1912 г. Можна меркаваць, што па гэтай прычыне твор не ўвайшоў у зборнік і быў пасланы ў газ. «Наша ніва» для публікацыі.

Твор пераклалі: на рускую мову — М. Камісарава, Н. Кіслік, на асецінскую — А. Пухаеў.

*Годзе...* (с. 81)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — газ. «Беларусь», 1919. № 27, 20 лістап.

У пасмяротнае выданне ўключаецца ўпершыню.

Друкаваўся ў зб. «Спадчына», 1922 з датай: 26.XI.1912 г. Напісаны ў адзін дзень з вершам «Калі пачнуць...» і звязаны з ім адной ідэяй. Магчыма, другім быў створаны верш «Годзе...», дзе ідэя больш канкрэтызуецца, узмацняючы ідэйны пафас і накіраванасць твора.

Быў апублікаваны ў зб. «Спадчына», 1955; часоп. «Полымя», 1988, № 10 з недакладнай датай: 20.XI.1912 г.

У Беларускім дзяржаўным архіве (ф. 370, воп. 6, адз. 15) захоўваецца машынапісны тэкст без аўтарскіх правак, які ідэнтычны асноўнаму (гл. каментарый да верша «Над Нёманам», с. 273).

*Прарок* (с. 83)

Упершыню — «Наша ніва», 1912, № 51—52, 21 снеж.

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935 у раздзеле «Сваім і чужым», а таксама ў Зб. тв., 1929, т. II.

Верш быў надрукаваны і ў справаздачы Беларускага навукова-літаратурнага гуртка студэнтаў Пецярбургскага універсітэта, якая ўвайшла ў агульную справаздачу аб становішчы і дзейнасці універсітэта за 1912 г. (СПб, друкарня Б. М. Вольфа, 1913, с. 22—23). У публікацыі адсутнічалі радкі 37—44 і апошняя страфа.

Захоўваецца аўтограф (адз. зах. 65, л. 1—2). Пад тэкстам: Янка Купала. СПб. 7.XII.1912 г.

Радкі 37—40 закрэслены і заменены кропкамі. Гэты тэкст быў пеадноўлены і разам з радком 71 *Паскольні ж нам дасі чырвонцаў* перапрацаваны пры падрыхтоўцы другога выдання зборніка «Шляхам жыцця», 1923.

Выразка з газеты — у рукапісным зборніку (л. 208).

Верш напісаны ў той час, калі паэт ужо вычытваў карэктурныя лісты першага раздзела зборніка. Але Купала паспеў уключыць яго ў адзін з апошніх раздзелаў.

Твор пераклалі: на рускую мову — Л. Хаўстаў, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі, на балгарскую — Я. Дзімаў, на польскую — Ч. Сэнюх.

*Цару неба й зямлі* (с. 85)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V. Радок 29 даецца па аўтографе. У асноўным тэксце было: *Бадзяцца кінуў на нязмерным свеце.*

Упершыню — «Беларусь», 1920, № 6, 11 студз.

Друкаваўся ў зб. «Спадчына», 1922, дзе датуецца 24 снеж. 1912 г. У пазнейшыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся. Уваходзіў у зб. «Спадчына», 1955 у раздзел «Забраны край».

Захоўваецца тэкст верша напісаны лацінкай (адз. зах. 2, л. 1). Ёсць аўтарская праўка ў рад. 41.

У лісце з Мінска да Б. Эпімах-Шыпілы ад 13 красавіка ⟨19⟩19 г. Я. Купала пісаў: «Цяпер яшчэ просьба да Вас, паночку, ці не знойдзеце ў сваіх паперах майго верша «Цару неба й зямлі». Калі б знайшлі, то прышліце з сваёй ласкі» (ІРЛІ, ф. 586, адз. зах. 247, л. 11—13).

Той факт, што ў наступным годзе верш быў апублікаваны, з'яўляецца бясспрэчным доказам таго, што Купала атрымаў яго тэкст. Параўнальны аналіз дазваляе адзначыць, што газетная публікацыя адрозніваецца ад тэксту напісанага лацінкай. Перапрацоўкі не насілі цэнзурны характар (Гульман Р. Тэксталогія твораў Янкі Купалы. Мн., 1971. С. 87). Паэт рыхтаваў верш для першай публікацыі ўжо пасля рэвалюцыі, у 1919 г., калі змест верша не мог выклікаць пярэчанняў з боку афіцыйных улад. І таму перапрацоўкі былі выкліканы хутчэй за ўсё імкненнем Купалы да мастацкага ўдасканалення твора. Але праца над вершам на гэтым не была завершана. Пры падрыхтоўцы да выдання зб. «Спадчына», 1922 паэт ізноў вярнуўся да тэксту верша. Менавіта гэта публікацыя з'явілася апошнім варыянтам, які і быў перадрукаваны ў Зб. тв., 1928, т. V.

У рукапісным архіве Купалы захаваліся тэксты толькі чатырох вершаў, напісаных лацінкай: «У зялёным садочку» («Ой, не раз удваёчку...»), «Захад сонца», «Эпіграма на самога сябе», «Брату ў чужыне». Усе названыя творы напісаны да 1910 г. Вядома, што Б. Эпімах-Шыпіла, рыхтуючы зборнік «Гусляр» да друку і засцерагаючыся цэнзуры, выдаў яго лацінскім шрыфтам. Магчыма, і гэтыя вершы, як і верш «Цару неба й зямлі», павінны былі ўвайсці ў «Гусляр», але па розных прычынах не трапілі ў зборнік і пабачылі свет значна пазней («У зялёным садочку», «Эпіграма на самога сябе» — у зб. «Спадчына», 1922; «Захад сонца» — у Зб. тв., 1925, т. І). І толькі верш «Брату ў чужыне» быў апублікаваны ў газ. «Наша ніва», 1910, 5 (18) жніўня. Што датычыцца верша «Цару неба й зямлі», то ён не ўвайшоў нават у рукапісны варыянт зборніка «Шляхам жыцця» з-за адсутнасці ў аўтара яго тэксту. Застаецца нявырашаным пытанне: чаму ў падрыхтаваным для друку самім аўтарам зборніку «Спадчына», 1922 Купала датуе верш 24 снежня 1912 г.? Тую ж дату мае і аўтограф верша «Новы год». Відаць, пры складанні зборніка «Спадчына» паэт мог механічна перанесці гэту дату і на верш «Цару неба й зямлі» ці паставіць яе па памяці. У 1912 г. Купала напісаў вершы «Мая малітва» і «Прарок», вельмі блізкія па праблематыцы да названага твора. У Зб. тв., 1926, т. II верш «Мая малітва» датуецца 1910 г., што з'яўляецца відавочнай памылкай, паколькі пад газетнай публікацыяй ёсць дакладная дата: 1.VIII.1912 г. Ці ёсць падставы аднесці 1910 г. да верша «Цару неба й зямлі»? Наяўнасць напісанага лацінкай тэксту дазваляе лічыць, што першапачатковы варыянт твора быў створаны не пазней 1910 г., а значная перапрацоўка яго адбылася перад публікацыяй у газ. «Беларусь», 1920 і зб. «Спадчына», 1922.

Вядома, што Я. Купала ў 1916 г. даў П. Мядзёлцы некалькі сваіх вершаў, перадрукаваных на машынцы. Сярод іх быў і верш «Цару неба й зямлі». Як прыгадвае П. Мядзёлка, у 1920 г. пры спатканні яна вярнула Купалу гэтыя вершы (П. Мядзёлка. Сцежкамі жыцця.— Мн., 1974. С. 93).

Названыя машынапісы не захаваліся, таму цяжка сказаць, ці выкарыстаў паэт гэтыя тэксты пры падрыхтоўцы да друку зборніка «Спадчына», 1922.

Што датычыцца газетнай публікацыі, то яна з'явілася 11 студз. 1920 г. і хутчэй за ўсё да сустрэчы П. Мядзёлкі з Купалам.

Твор пераклаў на чэшскую мову Ю. Рубін (А. Чэрны).

*Новы год* (с. 87)

(«Са звонам пут, са свістам пугаў...»)

Друкуецца па аўтографе (адз. зах. 63, л. 1—2), пад тэкстам якога: Янка Купала. Спб. 24.XII.1912 г.

Упершыню — «Спадчына», 1922, дзе адсутнічалі дзве страфы (радкі 29—36).

Друкаваўся ў Зб. тв., 1928, т. V; «Творах», 1930 і Выбр. тв., 1935, т. I у такім жа варыянце. Гэтая купюра, відаць, насіла цэнзурны характар.

У пасмяротных выданнях друкаваўся ў скарочаным варыянце. І толькі ў Зб. тв., 1972—1976 быў узноўлены поўны аўтарскі тэкст.

Твор пераклаў на рускую мову У. Раждзественскі.

*«Лірнік вясковы»* (с. 89)

Упершыню — часоп. «Litva i Ruś», Вільня, 1912, т. III, кн. 2. С. 81—83. Напісаны да 50-годдзя з дня смерці польскага і беларускага паэта-дэмакрата У. Сыракомлі (сапр. Кандратовіч Людвік, 1823—1862).

Датуецца годам апублікавання.

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923, 1935 у раздзеле «Сваім і чужым», а таксама ў Зб. тв., 1929, т. II.

Аўтограф пад назваю «Памяці Вл. Сыракомлі» — у рукапісным зборніку (л. 212—214).

Пры падрыхтоўцы другога выдання зборніка паэт унёс папраўку ў радок 49. Было: *А калі ты, гаротнік, тулач беззямельны.*

«Лірнік вясковы» («Lirnik wioskowy») — так называецца верш У. Сыракомлі, у якім паэт выказаў сваё паэтычнае крэда. У. Сыракомля належыў да тых паэтаў, якія аказалі найбольшы ўплыў на Я. Купалу. У лісце да Л. М. Клейнбарта ад 1910 г., адказваючы на пастаўленыя пытанні, Купала пісаў: «Из отдельных авторов более всего нравились мне: польские — В. Сырокомля и Г. Сенкевич, русские — М. Лермонтов и М. Горький» (Я. Купала. Зб. твораў у 7-мі т. Т. 7. С. 409). У 1928 г. Я. Купала выказаў тое ж меркаванне, назваўшы аўтара верша «Лірнік вясковы» яго сапраўдным імем: «...такие авторы, как Кондратович, Конопницкая, Ожешко (польские) и Некрасов, Кольцов (русские), меня больше всего интересовали» (Тамсама. С. 422).

15 верасня 1912 г. Я. Купала разам з прафесарам Медыцынскай акадэміі ў Беластоку В. Славінскім наведаў Барэйкаўшчыну, дзе У. Сыракомля жыў у 1852—1856 гг. В. Славінскі пазней успамінаў: «Ніколі не забуду нашай экскурсіі на Барэйкаўшчыну, дзе пражыў Уладыслаў Сыракомля. Памятаю, як Янка Купала аплятаў любімы стол паэта. Стол быў з млынавага камення. Гэта было летам 1912 года. Тады мы спраўлялі пяцідзесятую гадавіну з дня смерці Сыракомлі» («Ніва», 1962, № 16, 23 верас.).

*Гедымін* (1316—1341) — вялікі князь літоўскі.

*Могілкі Роса* — могілкі ў Вільні, дзе пахаваны У. Сыракомля.

Твор пераклалі: на рускую мову — Г. Сямёнаў, на польскую — Т. Хрусцялеўскі.

У дадзены раздзел уваходзяць творы, якія не маюць дакладных дат. Умоўна яны датаваліся 1911—1912 гг., г. зн. перыядам падрыхтоўкі да выдання зборніка «Шляхам жыцця», 1913, дзе ўпершыню апублікаваны. Але не выключана верагоднасць таго, што напісаны гэтыя творы раней і па пэўных прычынах не трапілі ў папярэднія зборнікі «Жалейка», 1908 і «Гусляр», 1910. Да такіх твораў адносяцца вершы «Шлях мой...», «Суды», «Ці ж доля мая?!», «Паляці, мая мысль...», «Праз што плачаш, мужычок?», «Песня», «Сваякам па гутарцы», «Перад ночкай» і «Наша песня». Не пазней 1909 г. напісаны вершы «Рвіся, думка» і «У вучылішча»[1].

Акрамя асобных вершаў у раздзел уключаны і цыклы, якія былі створаны Купалам спецыяльна для зборніка. Амаль усе тэксты дадзенага раздзела ў рукапісным зборніку ўяўляюць сабой белавыя аўтографы. Гэта значыць, што існавалі першапачатковыя аўтографы, якія паэт, магчыма, дасылаў у перыядычныя выданні, але апублікаваны яны былі толькі ў зборніку «Шляхам жыцця», 1913. Відаць, па гэтай прычыне асобныя аўтографы не захаваліся.

Калі лічыць, што большасць твораў дадзенага раздзела створана задоўга да перыяду падрыхтоўкі зборніка «Шляхам жыцця», становіцца зразумелым, чаму паэт не ставіў даты ў названых аўтографах.

Вывучэнне і тэксталагічны аналіз падрыхтаванага паэтам рукапіснага варыянта зборніка дазволілі ўдакладніць час напісання некаторых вершаў і выказаць наконт датавання пэўныя меркаванні, аб чым падрабязна выкладзена ў каментарыях.

Кампазіцыйна раздзел пабудаваны адпаведна зборніку «Шляхам жыцця».

*Чым хата багата* (с. 92)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 без назвы як уступ да раздзела «Бацькаўшчыне».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935 (без назвы); Зб. тв., 1929, т. II і Выбр. тв., 1935, т. I.

Назва верша была дадзена Купалам пры падрыхтоўцы першага Зб. тв., 1925—1932.

Аўтограф — у рукапісным зборніку (л. 6).

*Гэтта* — ужываецца ў значэнні тут.

*Сваякам па гутарцы* (с. 93)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Бацькаўшчыне».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; «Беларускім календары на 1917 год» (Вільня, 1916); Зб. тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV.

Аўтограф — у рукапісным зборніку (л. 10).

Радок 10 *Ні ў князеўскай мітры* перапрацаваны ў карэктуры зборніка. Гэты верш адзін з тых твораў, якія даследчыкі слушна адносяць да ранняга перыяду, калі Купала знаходзіўся пад уплывам Ф. Багушэвіча. Да іх адносяцца вершы «Паляці, мая мысль...», «Ці ж не доля мая?», «Песня», «Перад ночкай», «Праз што плачаш, мужычок?», «Песня сіроткі» і інш., якім уласціва песенна-рытмічная форма, характэрная фальклорнай стыхіі.

---

[1] Пад тэкстамі апошніх вершаў стаяў подпіс «Янук Купала», якім паэт карыстаўся да 1910 г.

Твор пераклалі: на рускую мову — А. Карынфскі пад назваю «Землякам» («Педагогический листок», 1914, кн. 3) і В. Шэфнер, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, на ўзбекскую — Тулкун.

*Паляці, мая мысль...* (с. 94)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Бацькаўшчыне».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II; зб. «Адцвітанне», 1930 і Выбр. тв., 1935, т. I.

Аўтограф — у рукапісным зборніку (л. 12).

Радок 14 *Няхай родзюцца* перапрацаваны пры падрыхтоўцы другога выдання «Шляхам жыцця», 1923.

Твор пераклалі: на рускую мову — I. Белавусаў, Н. Кіслік, А. Пракоф'еў, на асецінскую — А. Пухаеў, на латышскую — Ю. Ванаг, на эстонскую — Х. Юрысан, на англійскую — А. Пракоф'ева.

На словы верша музыку напісалі А. Багатыроў і Т. Шнітман.

*Рвіся, думка!..* (с. 95)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Бацькаўшчыне».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II; Зб. тв., 1940, т. IV.

Пад назваю «Думка» друкаваўся ў зб. «Спадчына», 1922 і Зб. тв., 1928, т. V. У гэтых выданнях адсутнічае апошняя страфа (радкі 17—20). Паколькі верш меў дзве назвы, твор двойчы друкаваўся ў першым Зборы твораў (1926, т. II і 1928, т. V).

Захоўваюцца два аўтографы пад назваю «Думка» (адз. зах. 67, л. 1 і адз. зах. 68, л. 1). Чарнавы — з подпісам «Янук Купала», белавы — з подпісам: Я. Купала. У апошнім адсутнічае апошняя страфа (рад. 17—20).

Прымаючы пад увагу подпіс пад чарнавым аўтографам: «Янук Купала», можна меркаваць, што верш быў напісаны не пазней 1909 г., калі свае творы Купала ўжо падпісваў псеўданімам «Янка Купала» ці «Я. Купала».

Трэці аўтограф — у рукапісным зборніку (л. 13). Першапачатковая назва «Думка» закрэслена.

Твор пераклалі: на рускую мову — Л. Хаўстаў, на армянскую — Р. Пагасян.

На словы верша музыку напісаў А. Багатыроў.

*На жалейцы* (с. 96)

Упершыню як цыкл — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Бацькаўшчыне».

Складаецца з дзвюх частак. Першая («З шумам бораў, ясакораў...») упершыню — «Шляхам жыцця». Другая пад назваю «На жалейцы» («Я не пушчаю спяваю...») упершыню — «Наша ніва», 1912, № 12—13, 22 лют. (4 сак.). Пад тэкстам: Акопы. Можна меркаваць, што верш быў напісаны летам 1911 г., калі Я. Купала знаходзіўся на канікулах у Акопах, куды паэт прыязджаў летам.

Цыкл друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929. т. II і Выбр. тв., 1935, т. I.

Аўтограф першай часткі і выразка з газеты другой — у рукапісным зборніку (л. 15—17).

Радкі 18, 60 *Калі не хватала. Я паціху, чуць чуваці* перапрацаваны пры падрыхтоўцы да друку другога выдання зборніка «Шляхам жыцця», 1923.

Твор пераклалі: на рускую мову — Б. Кежун, на асецінскую — Г. Плієў, на ўзбекскую — Тулкун, на польскую — С. Поляк (ч. 2).

*Маладая Беларусь* (с. 98)
(«Вольны вецер напеў вольных песень табе...»)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Бацькаўшчыне».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Выбр. тв., 1935, т. I.

Чарнавы (20 першых радкоў) і белавы аўтографы — у рукапісным зборніку (л. 23, 22—24). Закрэслены чарнавы аўтограф з прысвячэннем, якое, на жаль, не ўдалося расчытаць.

Працуючы над другім выданнем зборніка, паэт унёс змены ў радкі 46, 48 *Над крыжамі бацькоў, над курганамі, Свой пачэсны пасад між славянамі,* каб пашырыць сэнс першапачатковага варыянта.

У газ. «Літ. і мастацтва» ад 15 кастр. 1994 г. апублікавана паведамленне журы конкурсу на Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь. У ім гаворыцца, што паколькі ні адзін з прапанаваных грамадскасці твораў для абмеркавання не атрымаў падтрымкі, журы конкурсу рашыла прыняць за тэкстуальную аснову гімна «Маладая Беларусь» (1, 5, 6 строфы). У якасці прыпева прапанавалі 12-ю страфу. Грамадскасць рэспублікі працягвае абмяркоўваць дадзеную прапанову.

Твор пераклалі: на рускую мову — М. Камісарава, Н. Кіслік, Л. Лаўроў, на англійскую — У. Мэй, В. Рыч, на іспанскую — К. Шэрман, на чэшскую — Ф. Ціхі.

На музыку паклаў А. Багатыроў.

*Шлях мой...* (с. 99)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Бацькаўшчыне».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV.

Аўтограф — у рукапісным зборніку (л. 38). На адвароце закрэслены тэкст верша «Тае снег». Першапачатковая назва «Мой шлях» таксама закрэслена. У артыкуле «Міфалагічныя вобразы, сюжэты і матывы ў творчасці Янкі Купалы» В. Каваленка выказаў думку аб тым, што такія вершы, як «Шлях мой...», «Суды» і «Ці ж доля мая?!», па тэматыцы і вобразнай форме належаць да ранняга этапу літаратурнай дзейнасці паэта (ЭД. С. 401). Такім чынам, можна меркаваць, што напісаны яны задоўга да перыяду падрыхтоўкі да друку зборніка «Шляхам жыцця».

Твор пераклалі: на рускую мову — В. Шэфнер, на татарскую — Н. Арсланаў, А. Ісхак, на ўзбекскую — Тулкун, на чувашскую — А. Алга, на балгарскую — Я. Дзімаў.

*Дзе ты, шчасце маё?..* (с. 100)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Бацькаўшчыне».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV.

Аўтограф без назвы — у рукапісным зборніку (л. 39). Верш атрымаў назву пры падрыхтоўцы другога выдання зборніка «Шляхам жыцця», 1923.

Радок 12 *І пяе у душы пахаронныя гімны* перапрацаваны паэтам у першым Зборы твораў, 1925—1932.

Верш пераклалі на рускую мову І. Белавусаў і П. Кустоў.

*Холадна...* (с. 100)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Бацькаўшчыне».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV.

Аўтограф — у рукапісным зборніку (л. 43).

Радкі 8, 19 *Сэрца нудою зжымаюць. Рукі працягнеш, повен трывог...* перапрацаваны ў перыяд вычыткі карэктурных лістоў.

Твор пераклалі: на рускую мову — П. Кустоў, на балгарскую — Я. Дзімаў.

*Мая доля* (с. 101)

(«Што дасі заўтра, доля змянлівая...»)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Бацькаўшчыне».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Выбр. тв., 1935, т. I.

Аўтограф — у рукапісным зборніку (л. 44).

Радкі 11, 15 *Хоць названаю знекуль яўлялася, Ты несла мне усё непрыхільнае* перапрацаваны пры падрыхтоўцы другога выдання зб. «Шляхам жыцця», 1923.

Твор пераклаў на рускую мову У. Раждзественскі.

*Чалавеку* (с. 102)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II за выключэннем радка 28, які даецца па аўтографе і зб. «Шляхам жыцця», 1913, мяркуючы, што ў варыянце асноўнага тэксту *Цяпер слухае вецер, вада* звычайная механічная памылка, якая была выпраўлена ў другім пасмяротным Зборы твораў 1961—1963 (Гульман Р. Тэксталогія твораў Янкі Купалы. С. 150—151).

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Бацькаўшчыне».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Выбр. тв., 1935, т. I.

Пры падрыхтоўцы другога выдання зборніка «Шляхам жыцця», 1923 радкі 8, 15, 18, 19, 41 *Заліліся магільнаю мглой?, Як у гэта бязбрэжнае мора, Цёмнай ночы, магучы цар дня, І прыходзіцца ўняці нсздару, Мае мір неадкрытыя сілы* былі перапрацаваны. Адзначаныя перапрацоўкі былі выкліканы пэўнай тэндэнцыяй: паэт вызваляўся ад русізмаў. Нельга пагадзіцца з думкай даследчыцы Гульман Р. І., якая выказала сумненне ў аўтарстве правак, палічыўшы іх рэдактарскімі.

Твор пераклаў на ўкраінскую мову Р. Кочур.

*Зганнік* (с. 103)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Бацькаўшчыне».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Выб. тв., 1935, т. I. У апошнім выданні адсутнічаюць апошнія 8 радкоў[1].

Аўтограф — у рукапісным зборніку (л. 54).

Радок 13 меў у аўтографе два варыянты: *Горбяцца плечы, вутлыя плечы, Горбяцца плечы, збалелыя плечы.* Апошні — *Горбяцца плечы, кволыя плечы* — з'явіўся ў карэктурных лістах.

Радок 48 *Біці паклоны нягодам...* перапрацаваны паэтам таксама ў карэктуры.

Твор на рускую мову пераклаў Н. Кіслік.

---

[1] У кн. «Тэксталогія твораў Янкі Купалы», с. 35 недакладна ўказана на адсутнасць 16 радкоў.

*Не для нас...* (с. 105)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Бацькаўшчыне».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. т., 1929, т. II і Выбр. тв., 1940, т. IV.

Аўтограф — у рукапісным зборніку (л. 61).

Пры вычытцы карэктуры радок 16 *Салаўінвя звонкая песня* быў перапрацаваны.

Твор пераклаў на балгарскую мову Я. Дзімаў.

*«Забраны край»* (с. 106)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Бацькаўшчыне» з падзагалоўкам «Балканскім славянам».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935 і ў Зб. тв., 1929, т. II.

У пасмяротнае выданне ўключаецца ўпершыню. Быў апублікаваны ў зб. «Спадчына», 1955 у раздзеле «Забраны край» і ў газ. «Літ. і мастацтва», 1988, 7 кастр.

Захоўваюцца тры накіды дзвюх першых строф (адз. зах. 87—88). Два з іх — чарнавыя, трэці белавы.

Аўтограф — у рукапісным зборніку (л. 65—66).

Падзагаловак-прысвячэнне «Балканскім славянам» быў дадзены Купалам у першай карэктуры, каб такім чынам абысці цэнзуру. У сапраўднасці ідэйны пафас твора быў скіраваны да Беларусі. Падзагаловак захаваўся толькі ў першым выданні зборніка. Пры падрыхтоўцы другога выдання зборніка Я. Купала зняў прысвячэнне[1].

Падзагаловак «Балканскім славянам» дае падставы меркаваць, што верш напісаны ў перыяд Першай Балканскай вайны, якая пачалася 9 кастр. 1912 г.

Радок 41 *Жыццё лет без ліку на шнурык свой ніжа* перапрацаваны пры падрыхтоўцы другога выдання зборніка «Шляхам жыцця», 1923.

*У ночным царстве* (с. 107)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Бацькаўшчыне».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV.

Аўтограф — у рукапісным зборніку (л. 67). На адвароце ліста закрэслена апошняя страфа, якую паэт перапісаў на першую старонку без змен.

Твор пераклалі: на рускую мову — В. Брусаў, Н. Кіслік, на туркменскую — А. Ніязаў.

Пераклад В. Брусава быў апублікаваны ў «Веч[ерней] газ[ете]» 25 жніўня 1914 г. (Гл. каментарый да верша «Як у лесе зацвіталі», с. 274).

*Ці ж не доля мая?!* (с. 108)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Бацькаўшчыне».

Адносна датавання гл. каментарый да верша «Шлях мой...», с. 298.

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Зб. тв. 1940, т. IV.

Аўтограф — у рукапісным зборніку (л. 69).

Твор пераклаў на рускую мову В. Цімафееў.

---

[1] У кн. «Тэксталогія твораў Я. Купалы», с. 100 недакладна адзначана, што падзагаловак быў зняты Купалам у першым савецкім выданні.

*Суды* (с. 109)

Упершыню «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Бацькаўшчыне».

Адносна датавання гл. каментарый да верша «Шлях мой...», с. 298.

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II.

Аўтограф — у рукапісным зборніку (л. 70).

Пры вычытцы карэктуры зборніка радок 31 *Толькі дух — яснасвет нацяшаецца* быў перапрацаваны паэтам.

Твор пераклаў на рускую мову У. Раждзественскі.

*Над Свіслачай* (с. 110)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Па межах родных». Напісаны ў вёсцы Карзюкі, дзе паэт адпачываў летам 1911 ці 1912 г. (ЭД. С. 286).

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV.

Аўтограф з падзагалоўкам «У Карзюках» — у рукапісным зборніку (л. 91).

Папраўкі ў радкі 32, 33 *Ці ў Карзюках спіць, Ці пайсці гасцінцам* паэт унёс ў карэктуру зборніка «Шляхам жыцця».

Твор пераклалі: на рускую мову — Н. Кіслік, на асецінскую — А. Пухаеў.

*Вёска* (с. 111)

(«За хатай хата у парадак...»)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Па межах родных».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV.

Машынапісны тэкст з нязначнымі праўкамі — у рукапісным зборніку (л. 93). На адвароце — машынапісны тэкст верша «Сельскія могілкі», які датуецца годам апублікавання: 1910 г., што дае падставы датаваць твор перыядам не пазней 1910 г.

У Зб. тв., 1972—1976 верш як чацвёртая частка быў уключаны ў цыкл «Вёска», які храналагічна ўвайшоў у II том. Такое размеркаванне было зроблена на падставе публікацыі ў Зб. тв., 1940, т. IV. Але ўжо неаднойчы даследчыкі творчасці Я. Купалы пераканаўча даказалі, што паэт не прымаў удзел у падрыхтоўцы названага выдання і таму не трэба прымаць пад увагу беспадстаўна ўнесеныя змены ў Зб. тв., 1940, т. IV.

Твор пераклаў на рускую мову У. Раждзественскі.

*Груша* (с. 112)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Па межах родных».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV.

Машынапісны тэкст з аўтарскімі праўкамі — у рукапісным зборніку (л. 98).

Твор пераклалі: на рускую мову — М. Камісарава, Н. Кіслік, В. Колычаў, на ўкраінскую — Р. Кочур, на асецінскую — А. Пухаеў.

*Тае снег...* (с. 113)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Па межах родных».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV.

У пасмяротнае выданне ўключаецца ўпершыню. Быў апублікаваны ў зб. «Спадчына», 1955 у раздзеле «Наша вёска» і ў газ. «Літ. і мастацтва», 1988, 7 кастр.

Захоўваюцца два аўтографы ў рукапісным зборніку (л. 38, 109). Адзін з іх (№ 1) закрэслены, на адвароце тэкст верша «Мой шлях» («Шлях мой...»)

Радок 7 *закалосіцца поле слязою і потам аблітае* паэт перапрацаваў двойчы ў карэктуры.

*На склоне лета* (с. 114)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Па межах родных».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Выбр. тв., 1935, т. I.

Аўтограф — у рукапісным зборніку (л. 116).

Твор пераклалі: на рускую мову — У. Раждзественскі, на балгарскую — Я. Дзімаў.

*З асенніх напеваў* (с. 114)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II, акрамя часткі VI, якая падаецца па Зб. тв., 1932, т. VI. Радок 43 друкуецца па аўтографе і зб. «Шляхам жыцця», 1913, 1923. У асноўным тэксце было: *Корань, у жвіры заблытаны.*

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Па межах родных» без часткі VI, якая была знята, відаць, паводле рэдактарскай рэкамендацыі. Але Купала пакідае на старонках карэктуры наступную заўвагу: «Выбросить, но набор пока оставить». На жаль, у надрукаваным зборніку частка VI адсутнічае. Упершыню гэты тэкст быў апублікаваны як самастойны твор толькі ў 1929 г. у часоп. «Полымя», № 2. Пад вершам стаяла дата: 6 снежня 1906 г.

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Выбр. тв., 1935, т. I.

Аўтографы 7-мі частак цыкла — у рукапісным зборніку (л. 117—123).

Аўтографы II—IV частак на адным лісце з закрэсленымі тэкстамі вершаў «Курганы», «Знямога» (4 радкі) і «Паліліся мае слёзы». Пад тэкстам верша: Вільня 25.IX(19)09 г.

Можна меркаваць, што II і IV часткі цыкла напісаны не пазней 1909 г.

Частка IV у аўтографе мела назву «З жыцця восені».

Твор пераклалі: на рускую мову — А. Пракоф'еў, У. Раждзественскі (ч. IV), на ўкраінскую — У. Мордань (ч. IV), на літоўскую — Э. Матузявічус (ч. VI), на кітайскую — Чжу Цзі.

На музыку пакладзена частка IV: раманс М. Аладава «З гальных ліп і бяроз» і аднайменная песня М. Мацісона.

*Восень* (с. 119)

(«Вось і па леце... Няма яснай гожасці...»)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Па межах родных».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Выбр. тв., 1935, т. I.

Аўтограф — у рукапісным зборніку (л. 124).

Твор пераклалі: на рускую мову — У. Раждзественскі, на балгарскую — Я. Дзімаў.

### *Зіма* (с. 119)

(«Было цёпла. У аконцы...»)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Па межах родных».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Выб. тв., 1935, т. I.

Машынапісны тэкст з аўтарскімі праўкамі — у рукапісным зборніку (л. 125).

Твор пераклалі: на рускую мову — Я. Мазалькоў, А. Пракоф'еў, на асецінскую — А. Пухаеў, на мардоўскую-эрзя — А. Мартынаў, на ўзбекскую — Тулкун.

### *«З зорак усходніх, заходніх, з бліскучай...»* (с. 120)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Для яе».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935 і Зб. тв., 1929, т. II.

Аўтограф — у рукапісным зборніку (л. 128). Над тэкстам пазначана: Ш. Для яе. Гэтым вершам пачынаецца раздзел.

Твор пераклаў на рускую мову Г. Сямёнаў.

### *Песня* (с. 121)

(«Зайшло ўжо сонейка, цень лёг на гонейка...»)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Для яе».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II; Зб. тв., 1940, т. IV.

Аўтограф — у рукапісным зборніку (л. 129).

Твор пераклалі: на рускую мову — А. Андрэеў, М. Галодны, на ўкраінскую — Дз. Білавус, на асецінскую — А. Пухаеў, на грузінскую — Г. Хухашвілі, на англійскую — У. Мэй.

На словы верша музыку напісалі: М. Аладаў, В. Салманаў, Я. Цікоцкі, М. Чуркін.

### *Людка* (с. 121)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Для яе». Паводле сведчання жонкі паэта У. Ф. Луцэвіч, твор, як і верш «Ці ты чуеш?..», прысвечаны Людвізе Сівіцкай, настаўніцы, сваячцы Я. Купалы.

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV.

Машынапісны тэкст з аўтарскімі праўкамі — у рукапісным зборніку (л. 131). Апошнія два радкі дапісаны аўтарскай рукою.

Праўкі зроблены чырвоным чарнілам, што характэрна і для тых машынапісаў у рукапісным зборніку, якія адносяцца да ранняга перыяду.

На адвароце ліста ёсць іншы машынапісны тэкст. Гэта ўрывак з верша «Падарожны» (радкі 12—38). Тэкст закрэслены, справа памета: «Не уничтожать». Відаць, верш «Падарожны» быў падрыхтаваны для публікацыі ў зборніку «Жалейка» ці «Гусляр», але па невядомай прычыне не быў апублікаваны і пабачыў свет толькі ў першым томе Збору твораў 1925—1932 у складзе менавіта зборніка «Жалейка».

Ёсць яшчэ адно сведчанне таго, што абодва вершы належаць да часу стварэння першых паэтычных зборнікаў. Адзін з варыянтаў радка

21 *К ружовенькай губке* напісаны лацінскім шрыфтам, што дае падставы звузіць рамкі перыяду стварэння названых твораў і абмежаваць яго 1910 г.

Паклалі на музыку А. Багатыроў і У. Мулявін.

*Я хацеў бы...* (с. 122)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Для яе». Напісаны пад уплывам санета польскага паэта А. Асныка «Аднаго сэрца...».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV.

Аўтограф з падзагалоўкам «Наследаванне з Асныка» — у рукапісным зборніку (л. 133—134).

У радок 15 аўтографа *Маглі бы змагаціся з чорнай нудою* паэт уносіць папраўку ў карэктуры зборніка: *Памаглі бы змагаціся з чорнай нудою.*

У далейшым пры падрыхтоўцы другога выдання зборніка «Шляхам жыцця», 1923 Купала яшчэ раз вяртаецца да гэтага радка, ізноў перапрацоўваючы яго: *Памаглі б мне змагаціся з чорнай нудою.*

Твор пераклалі: на рускую мову — І. Васілеўскі, на таджыкскую — М. Фархат, на польскую — Т. Хрусцялоўскі.

На словы верша музыку напісаў А. Багатыроў.

*Аснык Адам* (1838—1897) — польскі паэт, удзельнік паўстання 1863 г.

*Мая жонка* (с. 123)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Для яе».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV.

Машынапісны тэкст з аўтарскімі праўкамі — у рукапісным зборніку (л. 136).

Твор пераклаў на рускую мову А. Пракоф'еў.

На словы верша музыку напісаў Т. Шнітман.

Верш стаў народнай песняй (апублікаваны ў зборніку з нотамі А. Стаповіча «За бацькаўшчыну». Вільня, 1935).

*Абнімі...* (с. 124)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Для яе» без назвы («Абнімі ты мяне, маладая...»). Назву вершу Я. Купала даў пры падрыхтоўцы другога выдання зборніка «Шляхам жыцця», 1923.

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1935, т. I.

Аўтограф без назвы — у рукапісным зборніку (л. 137).

Твор пераклалі: на рускую мову — І. Васілеўскі, І. Сямёнаў, на ўкраінскую — Д. Білавус, на англійскую — У. Мэй, А. Пракоф'ева, на польскую — Р. Гажэльскі.

На словы верша музыку напісалі А. Багатыроў і К. Галкоўскі.

*Перад ночкай* (с. 125)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Для яе».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II; зб. «Адцвітанне», 1930 і Выбр. тв., 1935, т. I.

Машынапісны тэкст на адным лісце з вершам «Лес» — у рукапісным зборніку (л. 138). Гэта дае падставы меркаваць, што верш напі-

саны не пазней 1910 года (Гл. каментарый да верша «Лес»)[1]. У тэксце ёсць нязначныя сінтаксічныя папраўкі.

Твор пераклалі: на рускую мову — А. Карынфскі, А. Пракоф'еў, на ўкраінскую — Б. Чалы, на кіргізскую — Ц. Уміталіеў.

### *Ці ты чуеш?..* (с. 125)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Для яе».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV.

Машынапісны тэкст з аўтарскімі праўкамі і закрэсленым прысвячэннем «Пасвячаю Ганне Людвіцы С.» — у рукапісным зборніку (л. 142). Першапачатковая назва «З асенніх напеваў» закрэслена. Уверсе злева закрэслена памета: «purepis».

Твор пераклалі: на рускую мову — В. Колычаў, А. Пракоф'еў, на кітайскую — Чжу Цзі.

### *Ястраб* (с. 126)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Для яе».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II; Выбр. тв., 1935, т. I і Зб. тв., 1940, т. IV.

Аўтограф — у рукапісным зборніку (л. 150).

Радок 3 *I косці запусце ў галубку ён смела* Купала перапрацаваў у карэктурных лістах зборніка.

Твор пераклала на рускую мову М. Камісарава.

### *Вёска* (с. 127)
#### («Горы ды каменне...»)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 без назвы, як уступ да раздзела «Наша вёска». Цыкл складаецца з трох частак.

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV. У апошнім выданні да трох частак была далучана чацвёртая — «За хатай хата ў парадак...», якая пад назвай «Вёска» друкавалася ў зборніку асобна. У папярэднім Зборы твораў, 1972—1978 цыкл беспадстаўна друкаваўся па Зб. тв., 1940, т. IV. Рэдкалегія дадзенага выдання палічыла такое рашэнне ў выбары асноўнага тэксту памылковым, паколькі адсутнічаюць матэрыялы, якія пацвердзілі б удзел Купалы ў падрыхтоўцы да друку названага выдання.

Аўтограф усяго цыкла — у рукапісным зборніку (л. 155—157).

Захоўваецца і закрэслены аўтограф першай часткі (л. 189). Пад тэкстам: Я. Купала. Вільня. 5.II.1909 г.

Паколькі дзве другія часткі цыкла не маюць дакладных дат, яны, як і ўвесь цыкл, умоўна датуюцца перыядам падрыхтоўкі да друку зборніка «Шляхам жыцця».

У аўтографе трэцяй часткі радок 20 быў у наступнай рэдакцыі: *Што ў астрогах маюць.* У карэктуры рэдактар звярнуў увагу аўтара на гэты радок, зрабіўшы памету на палях: NB. Купала замяніў слова «ў астрогах» на «ў няволі». Як слушна заўважыла Р. Гульман, «...верш у пэўнай ступені страціў сваю палітычную завостранасць» (Гульман Р. Тэксталогія твораў Янкі Купалы. С. 80—81).

Твор пераклалі: на рускую мову — А. Андрэеў, І. Белавусаў (т. I),

---

[1] Дадзенае выд., т. II. С. 314.

на грузінскую — Н. Кіласонія, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, на латышскую — Ю. Ванаг, на польскую — Ю. Бояр, Ю. Бурсевіч, Я. Гушча (ч. I).

*Аб мужыцкай долі* (с. 129)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Наша вёска».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II; Выбр. тв., 1935, т. I і ў кн. «Паэмы», 1940. Трэцяя частка цыкла пад назваю «Паўлюк» была апублікавана ў зб. «Зажынкі» (М.,1918).

Цыкл складаецца з 8-мі частак. Яго першапачатковая назва «З песень аб мужыцкай долі» была зменена ў рукапісным зборніку.

Першая частка «Дайце скрыпку мне маю...» упершыню — «Шляхам жыцця». Аўтограф без даты на адным лісце з закрэсленымі тэкстамі вершаў «Зазімак» і «Лес» — у рукапісным зборніку (л. 160). Першы твор напісаны да 1910 г., паколькі ўпершыню апублікаваны ў зб. «Гусляр». Тэкст верша «Лес» няпоўны, у аўтографе адсутнічаюць радкі 7—8 і 15—20. У рукапісным зборніку ёсць яшчэ два тэксты гэтага верша: рукапісны і машынапісны. Такім чынам, закрэслены рукапіс з'яўляецца першапачатковым варыянтам твора[1]. Усё сказанае вышэй дазваляе меркаваць, што і першая частка таксама напісана не пазней 1910 г.

Другая частка «Кепска жыці! дый што зробіш?..» упершыню — «Шляхам жыцця». Машынапісны тэкст з аўтарскімі праўкамі і без даты — у рукапісным зборніку (л. 161—162).

Радок 62 *Пахіліўся, мхом аброс* перапрацаваны пры падрыхтоўцы другога выдання зборніка «Шляхам жыцця», 1923.

Трэцяя частка «Сагнуўшы плечы ў крук...» упершыню — «Шляхам жыцця».

Машынапісны тэкст — у рукапісным зборніку (л. 163). Першапачатковая назва «Паўлюк» закрэслена. Пад тэкстам закрэсленая памета: Янка Купала. СПб, 6.III.1912 г.

У радок 91 *З сабой весць прынесла...* паэт унёс папраўку пры падрыхтоўцы другога выдання зборніка «Шляхам жыцця», 1923.

Чацвёртая частка «За сахой, бараной...» упершыню — «Наша ніва», 1908, № 10, 9(22) мая пад назвай «Песня». Пад тэкстам: Янук Купала. Датуецца годам апублікавання. Выразка з газеты з закрэсленай назвай — у рукапісным зборніку (л. 164).

Пятая частка «Як выйду за хату...» упершыню — «Наша ніва», 1908, № 17, 15(28) жн. з назвай па першаму радку. Пад тэкстам: Янук Купала. Датуецца годам апублікавання. Выразка з газеты з закрэсленай назвай — у рукапісным зборніку (л. 164).

Шостая частка «Эх, дзяцюк, хама ўнук...» упершыню — «Шляхам жыцця».

Аўтограф — у рукапісным зборніку (л. 165).

Сёмая частка «Сажань шырынёю...» упершыню — «Наша ніва», 1907, № 28, 31 жн. пад назвай «З песень аб мужыцкай долі». Пад тэкстам: Янук Купала. Датуецца годам апублікавання. Выразка з газеты з закрэсленай назвай — у рукапісным зборніку (л. 168).

Восьмая частка «Нашто хлеб, нашто багацце...» упершыню — «Наша ніва», 1907, № 30, 28 верас. пад назвай «Нашто?» з прысвячэннем

---

[1] Падрабязна аб аўтографах верша «Лес» гл. каментарый у II томе дадзенага выдання. С. 314.

Якубу Коласу. Пад тэкстам: Янук Купала. Датуецца годам апублікавання.

У Зб. тв., 1926, т. II цыкл недакладна датуецца 1910 г.

Твор пераклалі: на рускую мову — М. Ісакоўскі, на грузінскую — І. Хухашвілі, на казахскую — Ж. Абдзірашаў.

*Жнеям* (с. 137)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Наша вёска».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Выбр. тв., 1935, т. I.

Захоўваецца асобны аўтограф пад назваю «Жнеи» — (адз. зах. 69, л. 1). Пад тэкстам подпіс: Янук (Янка) Купала.

Аўтограф — у рукапісным зборніку (л. 175—176).

Подпіс пад тэкстам асобнага аўтографа дае падставы меркаваць, што верш напісаны не пазней 1909 г.

Радок 5 *Сонца ўзойдзе і зойдзе* перапрацаваны пры падрыхтоўцы другога выдання зборніка.

Радок 23 *Чутна жнейкава песня* быў зменены ў час працы над карэктурай.

*Жніво* (с. 138)
(«Годзе, жытцо маё, годзе, наспелае...»)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Наша вёска».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Выбр. тв., 1935, т. I.

Аўтограф — у рукапісным зборніку (л. 177).

Твор пераклалі: на рускую мову — А. Пракоф'еў, на польскую — В. Дамброўскі.

*Над нівою ў непагоду* (с. 139)

Упершыню як цыкл — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Наша вёска».

Складаецца з дзвюх частак. Першая — «Постаць нязжатая слотамі гноіцца...» упершыню — «Шляхам жыцця». Другая «І чаго ж, непагода слязлівая...» пад назваю «Непагода» ўпершыню — «Наша ніва», 1907, № 26, 3(16) жн. Пад тэкстам: Янка Купала.

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II, Выбр. тв., 1935, т. I і Зб. тв., 1940, т. IV.

Аўтограф усяго цыкла і закрэсленая выразка з газеты другой часткі (лацінка) — у рукапісным зборніку (л. 180—182 на адв.).

Аўтограф першай часткі складаецца з двух кавалкаў паперы, на адвароце першага — закрэслены няпоўны тэкст верша «У вучылішча» (адсут. пачатак), другога — верш «З надзеяй гаротнай». Першы з подпісам: Янук Купала, другі — датуецца 1908 г. Ёсць падставы і першую частку цыкла датаваць перыядам не пазней 1909 г.

Твор пераклалі: на рускую мову — В. Шэфнер, на ўкраінскую — Дз. Паўлычка.

*Зіма* (с. 140)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Наша вёска».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV.

Верш складаецца з дзвюх частак. Першая «На марозе, на мяцеліцы...» упершыню — «Наша ніва», 1911, № 6, 10 лют. без назвы.

Другая «Белы стрэхі, бела поле...» упершыню — «Наша ніва», 1908, № 25, 4(17) снеж. пад назваю «Зіма». Пад тэкстам: Вільня.

Датуюцца ўмоўна па частках годам апублікавання.

Выразкі з газет — у рукапісным зборніку (л. 184—185).

У другой частцы аўтографа радок 20 *Кінь калёсы — выстрай сані* перапрацаваны пры падрыхтоўцы другога выдання зборніка «Шляхам жыцця», 1923.

Аб'яднанне двух вершаў у адзіны твор не было для паэта механічным злучэннем. Па слушнаму меркаванню даследчыка М. Грынчыка[1], гэта ўзбагаціла жанравыя абрысы твора. Нягледзячы на тое, што другая частка была напісана раней, Купала яе радкамі завяршае верш, што надае яму сімвалічны сэнс і аптымістычнае гучанне.

Твор пераклалі на рускую мову І. Белавусаў (ч. 2) і М. Камісарава.

### *«Праз што плачаш, мужычок?..* (с. 141)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Наша вёска».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб . тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV.

Захоўваецца аўтограф (адз. зах. 70, л. 1).

Машынапісны тэкст з аўтарскімі праўкамі — у рукапісным зборніку (л. 187). Праўкі зроблены чырвоным чарнілам, што характэрна для твораў ранняга перыяду.

Радок 11 *А не крыўдзяць калі ця?* перапрацаваны пры падрыхтоўцы другога выдання зборніка «Шляхам жыцця», 1923.

Твор пераклалі: на рускую мову — Г. Сямёнаў, на латышскую — А. Веян, на польскую — Б. Жыранік, М. Ю. Кананові.

### *Песня сіроткі* (с. 142)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Наша вёска».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Выбр. тв., 1935, т. I.

Аўтограф — у рукапісным зборніку (л. 188—189).

Твор пераклалі: на рускую мову — І. Белавусаў, на ўкраінскую — У. Лефцый.

### *З песень беззямельнага* (с. 143)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II (часткі 1—6, 8) і па Зб. тв., 1925, т. I (частка 7).

Упершыню — як цыкл без 7 часткі — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Наша вёска».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Выбр. тв., 1935, т. I.

Сёмая частка цыкла «Ох, як гляну я...» як асобны твор друкавалася ў Зб. тв., 1928, т. I і ў Выбр. тв., 1935 (школьная серыя).

У рукапісным зборніку сёмая частка пад назвай «З песень беззямельнага» ўваходзіла ў цыкл. Але ўжо ў карэктуры была знята рэдактарам, які пакінуў на палях наступны запіс: «Выпусціце, не крыўдзячы ні свае славы, ні беларускай літаратуры»[2]. Рэдкалегія дадзенага выдання палічыла мэтазгодным узнавіць увесь тэкст цыкла паводле аўтарскай волі.

Цыкл складаецца з васьмі частак. Першыя чатыры як асобныя творы былі ўпершыню надрукаваны ў перыядычным друку і датуюцца годам апублікавання.

Першая частка «Ніваў загоны...» — «Наша ніва», 1907, № 25,

---

[1] ЭД. С. 250.

[2] ДзЛМЯнК, ф. А, воп. 1, адз. зах. 356, л. 144.

20 ліп. пад назвай «З песень беззямельнага». Пад тэкстам: Янук Купала. Выразка з газеты з закрэсленым подпісам — у рукапісным зборніку (л. 191).

Другая частка «Як спыніўся я за хатай...» — «Наша ніва», 1908, № 24, 20(3) лістап. пад назвай «З песень беззямельнага» з прысвячэннем: Вл. Ів. С-о. Пад тэкстам: Янук Купала, Вільня. Выразка з газеты з закрэсленай назвай у рукапісным зборніку (л. 191).

Твор прысвечаны Уладзіміру Іванавічу Самойлу, беларускаму публіцысту і крытыку (1878—1941), які ў газ. «Минский курьер» ад 23 жн. 1908 г. змясціў станоўчую рэцэнзію на зб. «Жалейка». Відаць, Я. Купала гэтым прысвячэннем выказаў крытыку і сябру сваю ўдзячнасць.

Трэцяя частка «Што за шчасце, што за доля...» — «Наша ніва», 1908, № 6, 14(27) сак. пад назвай «З песень беззямельнага». Подпіс: Янук Купала. Выразка з газеты з закрэсленай назвай — у рукапісным зборніку (л. 192).

Чацвёртая «Растапіліс гурбы...» — «Наша ніва», 1909, № 17, 23(6) крас. пад назвай «З песень беззямельнага» з падзагалоўкам «З вясной». Пад тэкстам: Янук Купала. Вільня, 17.III.1909. Выразка з газеты з закрэсленай назвай — у рукапісным зборніку (л. 192).

Агульная назва «З песень беззямельнага», пад якой на працягу двух гадоў Я. Купала друкаваў названыя вершы, сведчыць аб тым, што задума стварыць паэтычны цыкл зарадзілася ў паэта задоўга да падрыхтоўкі да выдання зборніка «Шляхам жыцця». Астатнія чатыры часткі цыкла маглі быць таксама напісаны раней, але апублікаваны ўпершыню яны былі толькі ў зборніку «Шляхам жыцця». Таму часткі 5—8 умоўна датуюцца 1907—1912 гг.

У рукапісным зборніку яны прадстаўлены аўтографамі (л. 193—200). У папярэднім Зб. тв., 1972—1976 рукапісны тэкст 5-й часткі цыкла быў вызначаны як тэкст, напісаны невядомаю рукою. Далейшае вывучэнне рукапіснага зборніка «Шляхам жыцця», параўнальны аналіз аўтографаў дазволіў выправіць недакладнасць. Дадзены рукапісны тэкст належыць Купалу, як і іншыя аўтографы вершаў «Араты», «Жнеям», «Жняя» і «Зімовая ноч», напісаныя рукою Купалы мелкім почыркам. Трэба адзначыць, што аўтографы больш ранняга перыяду значна адрозніваюцца ад белавых аўтографаў 1912 г., перапісаных для рукапіснага зборніка. Менавіта гэта акалічнасць з'явілася прычынай недакладнага вызначэння аўтарства названых вышэй аўтографаў.

Аўтограф шостай часткі складаецца з склееных лісткоў паперы, на адвароце аднаго з іх закрэслены няпоўны тэкст верша «За чужую ёлку», з паметай: 1.III.1909 г. (л. 195—198).

На адвароце л. 198 ёсць рукапісны тэкст першай страфы 6-й часткі.

У аўтографе 6-й часткі пасля радка 36 памета: Вільня 23 IV 09 г. (л. 197). Другая страфа верша закрэслена.

Радок 12 (ч. 2) і 58 (ч. 6) — *Гаджу ўсім і Без прыпынку, без пацехі* перапрацаваны ў карэктуры зборніка.

Магчыма, тэксты гэтых белавых аўтографаў аўтар меркаваў надрукаваць яшчэ задоўга да часу падрыхтоўкі да выдання зборніка «Шляхам жыцця», паколькі вершы «Араты» і «Зімовая ноч» датуюцца адпаведна 1908 і 1909 гг.

Твор пераклалі: на рускую мову — *М.* Ісакоўскі, Н. Кіслік, на грузінскую — *М.* Мачаварыяні, на таджыкскую — *М.* Фархат, на туркменскую — Б. Кербабаеў, на чувашскую — *М.* Сандроў, на эстонскую — *М.* Вээтам.

*Чужым* (с. 151)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Сваім і чужым».

Друкаваўся ў «Беларускім календары на 1914»; зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II.

Выразка з календара — у рукапісным зборніку (л. 207).

У пасмяротнае выданне ўключаецца ўпершыню. Быў апублікаваны ў зб. «Спадчына», 1955 у раздзеле «Сваім і чужым» і ў газ. «Літ. і мастацтва», 1988, 7 кастр.

Перакладзены на рускую мову С. Гарадзецкім.

*Наша песня* (с. 152)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Сваім і чужым».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Выбр. тв., 1935, т. I.

Аўтограф — у рукапісным зборніку (л. 216).

Твор пераклалі: на рускую мову — А. Пракоф'еў, І. Усцінаў, на ўкраінскую — У. Лефцый, на літоўскую — І. Грайчунас.

*«Падсякайце тое дрэва...»* (с. 153)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Сваім і чужым».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Зб. тв., 1940, т. IV.

Аўтограф — у рукапісным зборніку (л. 217).

Твор пераклалі: на рускую мову — Г. Сямёнаў, на ўкраінскую — А. Малышка, П. Сліпчук, на армянскую — Х. Рачан, на калмыцкую — М. Ханінаў, на кіргізскую — П. Уметаліеў, на англійскую — У. Мэй.

Тэкст верша разам з нотамі змешчаны ў зб. А. Стаповіча «За бацькаўшчыну» (Вільня, 1935).

*У вучылішча* (с. 154)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Сваім і чужым».

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II.

Два аўтографы — у рукапісным зборніку (л. 180, 222). Першы — закрэслены. Пад тэкстам подпіс: Янук Купала. У аўтографе адсутнічае пачатак верша, але у ім ёсць 5 строф, якія Купала не перапісаў у другі аўтограф і ніколі не друкаваў гэты тэкст. У другой страфе адсутнічае першы радок. Закрэслены аўтограф напісаны на адным лісце з верша «Над ніваю ў непагоду», другая частка якога была апублікавана ў 1907 г. Подпіс «Янук Купала» і наяўнасць закрэсленага аўтографа даюць падставы меркаваць, што верш быў створаны не пазней 1907 г.

*Для Янінкі* (с. 154)

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Сваім і чужым» пад назваю «Янінцы Паўловіч». Верш-зычанне малодшай дачцэ беларускага пісьменніка А.Паўловіча.

Паўловіч-Каспярская Яніна Альбертаўна (1908 — ?).

У час першай сустрэчы з паэтам Яніна Паўловіч была яшчэ маленькай дзяўчынкай. На ўсё жыццё Купала захаваў да яе сардэчныя цёплыя адносіны.

Друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1923, 1935; Зб. тв., 1929, т. II і Зб. т., 1940, т. IV. У Зб. тв., 1926, т. II верш уключаны ў раздзел «Для яе».

Такая кампазіцыйная перастаноўка тлумачыцца зменай у назве, якая ў сваю чаргу была выклікана не аўтарскімі адносінамі да канк-

рэтнай асобы, а эстэтычнымі меркаваннямі, што дазволіла злучыць твор з лірычнымі вершамі.

Ёсць яшчэ адна акалічнасць, якая магла паўплываць на змену назвы. Гэта адносіны афіцыйных савецкіх улад да газ. «Наша ніва», супрацоўнікам якой быў А. Паўловіч.

Пераклаў на рускую мову І. Бурсаў.

## 1913

### *«Снілася дзяўчыне...»* (с. 156)

Друкуецца па аўтографе (адз. зах. 75, л. 1).

У Збор твораў уключаецца з 1961 г.

Верш прысвечаны Паўліне Мядзёлцы, якая была адной з першых выканаўцаў ролі Паўлінкі ў аднайменнай п'есе Я. Купалы.

Напісаны ў сувязі з пастаноўкай п'есы ў Пецярбургу, што адбылася 9 лютага 1913 г. і на якой прысутнічаў сам аўтар.

Існуе і іншая думка наконт датавання верша. У сваіх успамінах П. Мядзёлка прыгадвае 1930 г., калі яна была пасля арышту выслана ў Казань. «...Я. Купала пераслаў мне праз брата Зыгмуся, які наведаў мяне ў 1931 годзе, рукапісны верш» (Полымя, 1993. № 5. С. 207—208). І прыводзіць яго тэкст, які за выключэннем апошняга радка, цалкам супадае з вядомым вершам.

Радок 12 *У чужыне памерці.* Асноўны тэкст: *У чужакоў памерці.*

Твор на рускую мову пераклаў Г. Сямёнаў.

### *«Братка і Сястрыца»* (с. 156)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V, дзе недакладна датуецца 23. I.13 г.

Упершыню — «Рунь», 1920, № 9—10 пад назвай «Брат і Сястра» і з падзагалоўкам: (З народнай песні). Пад тэкстам: Янка Купала. Акопы. 23/V-13 г.

Друкаваўся ў зб. «Спадчына», 1922 з той жа датай.

Аўтограф (адз. зах. 84) пад назвай «Песня» і з падзагалоўкам «(З народнай)» мае памету: Янка Купала. Акопы. 23/V-13 г.

Пераклалі: на рускую мову — М. Камісарава, на эстонскую — М. Вээтам, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, на ўзбекскую — Тулкун.

### *У бяссонную ноч* (с. 158)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V

Упершыню — «Беларусь», 1920, № 1, 1 студз. Пад тэкстам: Пецярбург. 20/II-13 г. Янка Купала.

Друкаваўся ў зб. «Спадчына», 1922 з той жа датай.

У 1989 г. быў надрукаваны разам з вершамі «Хаўруснікам», «Груганы», «Казка аб песні» і іншымі ў зб. «Дзень паэзіі» (публікацыя Я. Саламевіча).

У пасмяротны Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Пераклалі: на рускую мову — Н. Кіслік, Б. Турганаў, на ўкраінскую — М. Нагнібеда.

### *Ўсюды лета...* (с. 160)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922 з датай: 19/VI-13 г.

Аўтограф (адз. зах. 74) мае пад тэкстам памету: Янка Купала. Акопы. 19/VI-13 г.

Пераклалі: на рускую мову — *М.* Ісакоўскі, на латышскую — Ю. Ванаг, на літоўскую — Э. Матузявічус, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, на асецінскую — Ф. Гаглойці.

*Не шукай...* (с. 161)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Наша ніва», 1913, № 26—27, 5 ліп. Пад тэкстам памета: Акопы. 21/VI-13 г.

Друкаваўся ў зб. «Спадчына», 1922 з той жа датай.

Пераклалі: на рускую мову — М. Браўн, С. Гарадзецкі, на армянскую — Ахаўні, на грузінскую — М. Мачаварыяні, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, на літоўскую — П. Кейдошус, на таджыкскую — М. Фархат, на ўзбекскую — Тулкун, на чувашскую — А. Арцем'еў.

Верш атрымаў высокую ацэнку Я. Коласа, які ў лісце да Л. Клейнбарта ад 7/X-1928 г. пісаў: «З яго лірычных вершаў асабліва падабаюцца мне «Не шукай ты шчасця-долі на чужым далёкім полі...», «Жніво».

*З вясной* (с. 162)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Лучынка», 1914, № 4, дзе пад тэкстам памета: Янка Купала. Акопы. 21/VI-13 г.

Друкаваўся ў зб. «Спадчына», 1922.

Аўтограф (адз. зах. 83) мае пад тэкстам памету: Янка Купала. Акопы. 21/VI-13 г. З боку ад тэксту алоўкам рукой аўтара пазначана: «Аддам у «Лучынку».

Пераклалі: на рускую мову — М. Камісарава, на татарскую — А. Ісхак, на ўзбекскую — Тулкун.

*Песня* (с. 163)

(«Ах, адкуль жа гэта вестка...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Наша ніва», 1914, № 5, 31 студз. Пад тэкстам: Акопы. 2/VII-13 г.

Друкаваўся ў зб. «Спадчына», 1922 з той жа датай.

Пераклалі: на рускую мову — А. Андрэеў, М. Камісарава, на латышскую — Ю. Ванаг.

*Будзь смелым!..* (с. 165)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Беларусь», 1919, № 53, 25 снеж.

Друкаваўся ў зб. «Спадчына», 1922 з датай 3/VII-13 г.

Пераклалі: на рускую мову — Л. Палонская і М. Святлоў, на ўкраінскую — М. Прыгара, на армянскую — А. Лусенц, Ц. Шагенц, на асецінскую — А. Пухаеў, на латышскую — А. Веян, на літоўскую — П. Кейдошус, на малдаўскую — П. Дарые, П. Старасцін, на таджыкскую — М. Фархат, на туркменскую — А. Ніязаў, на ўзбекскую — Тулкун, на чувашскую — А. Арцем'еў, на англійскую — У. Мэй, на кітайскую — Чжу Цзі.

*Навука* (с. 165)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V за выключэннем радкоў 22—23, якія даюцца паводле ліста Я. Купалы ў «Нашу ніву» ад 17 ліпеня 1913 г. У асноўным тэксце было: *У што не верыць той, хто нас верыць вуча.*

Упершыню — «Наша ніва», 1913, № 28, 12 ліп. Пад тэкстам: Янка Купала. Акопы. 4/VII-13 г.

У названым лісце Янка Купала пісаў:

«Паважаная рэдакцыя! Прашу, калі ласка, памясціць у чарговым нумары «Н. н.» вось што:

П а п р а ў к а.

У № 28 «Н. н.» за гэты год памылкова надрукавана шостая (лічачы з гары) чатырохрадковая зваротка верша Я. Купалы — «Навука». Папраўдзе гэта зваротка павінна чытацца вось як:

У брэдняў верыць кучы,
У што не вера той,
Хто нас гэтак вуча
Летам і зімой».

Друкаваўся ў зб. «Спадчына», 1922 з той жа датай, а таксама ў Выбр. тв., 1935, т. II.

Аўтограф (адз. зах. 86) — скарочаны варыянт верша (адсутнічаюць 5, 7—10 строфы).

Пераклалі: на рускую мову — У. Раждзественскі, на кіргізскую — Ц. Уметаліеў.

*Летам* (с. 166)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Наша ніва», 1914, № 27, 10 ліп. Пад тэкстам: Янка Купала. Акопы. 4/VII-13 г.

Друкаваўся ў зб. «Спадчына», 1922 з той жа датай.

Пераклалі: на рускую мову — М. Камісарава, В. Ясенеў, М. Ісакоўскі, на ўкраінскую — К. Дрок, на кіргізскую — Ц. Уметаліеў, на таджыкскую — М. Фархат, на англійскую — А. Пракоф'ева, на балгарскую — Я. Дзімаў, на кітайскую — Чжу Цзі, на польскую — М. Кавальскі.

Двойчы пакладзены на музыку — М. Аладавым і С. Палонскім.

*З вячэрніх дум* (с. 167)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Наша ніва», 1914, № 14, 3 крас. Пад тэкстам: Янка Купала. Акопы. 6/VII-13 г.

Друкаваўся ў зб. «Спадчына», 1922 з той жа датай.

Пераклалі: на рускую мову — М. Галодны. М. Камісарава, Н. Кіслік, на ўкраінскую — М. Зераў.

*Тутэйшы* (с. 168)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922 з датай: 6/VII-13 г.

Захоўваецца аўтограф (адз. зах. 79). Пад тэкстам: Янка Купала. Акопы. 6/VII-13 г.

Пераклалі: на рускую мову — М. Камісарава, Н. Кіслік, на іспанскую — К. Шэрман.

*Коціцца крыніца...* (с. 170)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922 з датай: 19/VII-13 г.

Захоўваюцца два аўтографы: чарнавы № 1 (адз. зах. 81, л. 2) і белавы № 2 (адз. зах. 82). Пад тэкстам першага аўтографа: 19/VII; ніжэй алоўкам пазначана: 1913 г. На гэтай жа старонцы зверху, збоку ад верша, ураскід, запісаны рукой аўтара вершаваныя радкі, якія,

відаць, адлюстроўваюць творчы працэс першапачатковага ўвасаблення задумы твора:

«Цэлы свет астрогам,
Людзі — стража ў ім».
«Ой вяліку сілу маеш».
а «Божа ты мой правы
б Мой ты правы Божа»
«Сатварыў зямлю і неба».
а «І жыццё размножыў
б І хараство ўпрыгожыў»
«А чаму ж я век гібею
Пад чужой страхою».
«Над ракой-крыніцай
Плачуць вольхі сумна
Вецер»
«Над ракой бядуе
Вольха адзінока»

Другі аўтограф мае памету пад тэкстам: Янка Купала. Акопы. 19/VII-13 г.

Пераклалі: на рускую мову — М. Камісарава і Н. Кіслік, на асецінскую — А. Пухаеў, на ўзбекскую — Тулкун, на эстонскую — Х. Юрысан.

Верш напісаны ў традыцыі песеннага фальклору.

*Станогае Ліха* (с. 171)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Наша ніва», 1913, № 50, 12 снеж.

Друкаваўся ў зб. «Спадчына», 1922.

Захоўваецца аўтограф (адз. зах. 71, л. 1. с. 2). Пад тэкстам: 20/VII-13 г.

На рускую мову пераклала М. Камісарава.

*Песняй толькі* (с. 172)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922. Пад тэкстам: 20/VII-13 г.

Захаваліся тры аўтографы. Чарнавы, № 1 (адз. зах. 71) са шматлікімі папраўкамі; другі чарнавы, № 2 (адз. зах. 81) з датай: 20/VII—13 і перабелены тэкст (адз. зах. 80) з нязначнымі папраўкамі, дзе пазначана: Акопы. 20/VII-13 г.

Чарнавы аўтограф № 1 знаходзіцца на адным лісце з аўтографам верша «Станогае Ліха».

Відаць, гэтым творам Я. Купала выказаў свае адносіны да нашаніўскага артыкула Ю. Верашчакі «Сплачывайце доўг» («Наша ніва», 1913, 5 ліп. ), у якім беларуская літаратура абвяшчалася прыземленай, пазбаўленай увагі да этычных праблем прыгожага. А. Лойка падкрэслівае, што «ад зліцця сацыяльнай ідэі і глыбокаасабістага перажывання верш стаў адным з самых пафасных і драматычна-напружаных твораў Купалы», ■ «па сіле мастацкай выявы ён стаіць поруч ■ вяршыняй рамантычнай творчасці А. Міцкевіча — драматычнай паэмай «Дзяды»...» (ЭД. С. 483).

Пераклалі: на рускую мову — Г. Бубнаў, В. Карчагін, В. Шэфнер, на чувашскую — С. Шаўлы, на англійскую — У. Мэй.

*Жар не згас* (с. 173)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Наша ніва», 1913, № 30, 26 ліп.

Друкаваўся ў зб. «Спадчына», 1922.

Датуецца годам апублікавання.

Пераклалі: на рускую мову — Н. Кіслік, на чувашскую — Ю. Скварцоў.

*Брату-беларусу* (с. 173)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Наша ніва», 1913, № 39, 28 верас.

Друкаваўся ў зб. «Спадчына», 1922.

Датуецца годам апублікавання.

Першая пасляваенная яго публікацыя адбылася ў 1988 г. у «Полымі», № 10.

У пасмяротны Збор твораў уключаецца ўпершыню.

У пражскім часоп. «Slovanský přehled» за 1926, № 3—4 змешчаны біяграфія Я. Купалы, яго фотаздымак і вершы «Брату-беларусу», «Цару неба й зямлі», «Мая вера», «Не шукай...» у перакладзе на чэшскую мову А. Чорнага.

*Песня* (с. 175)

(«Каб была я перапёлкай...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Наша ніва», 1913, № 42, 17 кастр.

Друкаваўся ў зб. «Спадчына», 1922; «Адцвітанне», 1930.

Датуецца годам апублікавання.

Пераклалі: на рускую мову — М. Ісакоўскі, на ўкраінскую — І. Ганчарэнка, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, на латышскую — Ю. Ванаг, на малдаўскую — А. Чакану, на таджыкскую — М. Фархат, на ўзбекскую — Тулкун, на эстонскую — М. Вээтам, на яўрэйскую — З. Аксельрод.

На музыку паклалі С. Палонскі і А. Туранкоў.

*Хаўруснікам* (с. 177)

Друкуецца па часоп. «Полымя», 1929, № 3, дзе ўпершыню апублікаваны. Падпісаны псеўданімам Цімох Каруза, датуецца 19/Х-1913 г.

Пад публікацыяй верша Я. Купала надрукаваў наступнае патлумачэнне: «Увага... У той час — калі не памыляюся — «Gazeta Codzienna» была органам віленскіх «эндэкаў», і «Виленский Вестник» — афіцыёз віленскага генерал-губернатара. Абедзве газеты, як маглі, змагаліся з «Нашай нівай» і наогул з беларускім рухам. Мушу ўспомніць тагочасную адну пашыраную чутку, паводле якой польскія «эндэкі» і расійскія «кадэты» ўжо тады падзялілі Беларусь на дзве часткі: заходняя — палякам, усходняя — расійцам».

Захаваліся два аўтографы: чарнавы (№ 1) (адз. зах. 72), і белавы (№ 2) (адз. зах. 73). Разам з апошнім аўтографам захоўваецца друкаваны тэкст верша на старонцы фарматам 1/4 стандартнага ліста. Нагадвае лістоўку. Пад тэкстам: Я. Купала. 1913 г. і ў зносцы: «Рукапіс найдзены сп. Куніцкім у Менскім архіве». У радку 5 замест: *І ну ж гаманіці // Ды ну ж гаманіці.* Магчыма, што праўка не аўтарская, паколькі такі варыянт не сустракаецца ў аўтографах.

У 1989 г. змешчаны ў зб. «Дзень паэзіі» (публікацыя Я. Саламевіча). У Зборы твораў друкуецца ўпершыню.

«Gazeta Codzienna» («Штодзённая газета») — адлюстроўвала погляды эндэкаў, заснаваныя на ідэалогіі польскага шавінізму. Выступленні яе ідэолагаў былі адкрыта зневажальныя да беларусаў, падтрымлівала прапаганду тоеснасці каталіцызму, польскасці.

*«Виленский Вестник»* — палітычная і літаратурная газета (1841—1916). З 1903 г. паўафіцыйнае прыватнае выданне рускага вялікадзяржаўнага кірунку. Да 1915 г. выдавалася ў Вільні, затым у Гомелі на рускай мове. Адмаўляла права беларускага народа на нацыянальную самасвядомасць, і беларускую мову лічыла дыялектам рускай мовы. У рэдактарскім артыкуле «З краёвага жыцця і друку» (1914, 15 чэрв.) прагучала выступленне супраць Я. Купалы як публіцыста і рэдактара газ. «Наша ніва» ў сувязі з яго артыкулам «А ўсё ж такі мы жывём!..» («Наша ніва», 1914, 6 чэрв.)[1].

Тэма верша знайшла свой працяг і больш глыбокае асэнсаванне ў іншых творах, асабліва ў трагікамедыі «Тутэйшыя».

### *«Чын», герб і лапаць* (с. 178)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922 з датай: 21/X-13 г.

Друкаваўся ў Выбр. тв., 1935, т. II.

Захоўваюцца тры аўтографы: чарнавы № 1 (адз. зах. 76) і белавы № 2 (адз. зах. 77) пад назваю «Ў мутным віры» (некаторы час пад такой назвай у «Нашай ніве» існаваў сатырычны раздзел, у якім друкаваліся не толькі Купалавы вершы).

Пад тэкстам аўтографаў пазначана: К-а. 21/X-13 г.

Трэці аўтограф, белавы № 3 (адз. зах. 78) мае памету: Я. Купала. 21/X-13 г.

Пераклалі: на рускую мову — Б. Кежун, на ўкраінскую — П. Сліпчук, на польскую — І. Сікірыцкі.

### *Янка і свабода* (с. 178)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI, дзе датуецца 1913 г. Радок 5 даецца паводле «Нашай нівы». У асноўным тэксце было: *Янка цемрык усміхнуўся.*

Упершыню — «Наша ніва», 1913, № 43, 24 кастр. у рубрыцы пад назвай «У мутным віры» з подпісам: К-а.

Друкаваўся ў Выбр. тв., 1935, т. II.

Пераклалі: на ўкраінскую мову — І. Сварнык, на польскую — Ю. Ленарт.

### *Расійскія чыгункі* (с. 179)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V, дзе недакладна датуецца 1914 г. Такая ж дата і ў зб. «Спадчына», 1922.

Упершыню — «Наша ніва», 1913, № 44, 31 кастр. у рубрыцы пад назвай «У мутным віры» з подпісам К-а.

Датуецца паводле аўтографа (адз. зах. 34), дзе дата: «13 г» дапісана алоўкам. На гэтай жа старонцы знаходзіцца аўтограф верша «Дэпутаты і грамадзяне», які быў напісаны ў 1913 г.

Матэрыялам для верша паслужыла шматлікая газетная інфармацыя пра аварыі і катастрофы на расійскіх чыгунках. Такія паведамленні часта друкаваліся ў «Нашай ніве». Пра гэта, напрыклад, пісала газета 28 верасня 1913 г.: «16 чысла гэтага месяца разбіўся поезд, што ішоў з Баку..., а 22 перад Дзвінскам гэтаксама поезд наляцеў на паравоз і паравоз урэзаўся ў поезд...» У нумары за 10 кастрычніка, у нататцы «Паязды разбіваюцца», зазначалася, што «цяпер бадай бяспечней ездзіць на аэрапланах па паветры, як па чыгунках».

Верш змешчаны ў «Нашай ніве» побач з нататкай «Катастрофы на чыгунках».

---

[1] ЭД. С. 113.

*Асеннім вечарам* (с. 179)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Наша ніва», 1913, № 44, 31 кастр.

Датуецца годам апублікавання.

Друкаваўся ў зб. «Спадчына», 1922.

Пераклалі: на рускую мову — Б. Турганаў, на ўкраінскую — М. Нагнібеда і Т. Масэнка.

*А ты, сіраціна...* (с. 180)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Беларускае жыццё», 1920, № 5, 29 лют. Пад тэкстам: 6/XI-13 г.

Друкаваўся ў зб. «Спадчына», 1922 з той жа датай.

Аўтограф (адз. зах. 85) напісаны на бланку: «Беларускае выдавецкае таварыства», Вільня, Казанская, д. № 5, кв. 4». У гэты час Я. Купала там працаваў сакратаром. Аўтограф датуецца 6/XI-13 г.

Другі аўтограф (адз. зах. 16) змешчаны ў асабістым альбоме Марыяны Восіпаўны Карынфскай (1879—1960), жонкі перакладчыка і Купалавага сябра Апалона Карынфскага (1868—1937). Сярод аўтараў гэтага альбома — граф В. Сальнікаў, Ф. Салагуб, А. Осіпаў, К. Фафанаў, В. Неміровіч-Данчанка, святар А. Ввядзенскі, С. Дрожжын, Л. Афанасьеў, К. Баранцэвіч і іншыя.

Відаць, верш, запісаны ў альбоме, Я. Купала ўзнаўляў па памяці, таму ёсць адрозненні ад асноўнага тэксту: радок 8 замест *Расплаканы ў жальбах бяссільных // Расплаканы ў жальбах прыхільных*, радок 11 замест *Ні сэрца з дзявочай грудзі // Ні сэрца дзявочай грудзі.*

Пад тэкстам аўтографа: Спб 1/XII-13 г. Янка Купала.

Першую страфу верша Я. Купала двойчы выкарыстоўваў у якасці дарчага надпісу (на сваёй фотакартцы і на кнізе «Шляхам жыцця», 1913) Антону Іванавічу Гагалінскаму (? — 1943), пецярбургскаму сябру, з якім кватараваў некаторы час у яго дзядзькі Б. І. Эпімах-Шыпілы.

«Даражэнькаму і міленькаму А. Гагалінскаму на добры ўспамін міла і браточна праведзеных у Піцеры чатырох год супольнага жыцця і супольных нягод. Ад гаротнага аўтара Я. Купалы. Спб., 2/XII-13 г.» — на тытульным лісце зборніка запісаў Я. Купала і на адваротнай старонцы яго — першую страфу з верша «А ты, сіраціна...».

Пераклалі: на рускую мову — М. Ісакоўскі, на ўкраінскую — П. Сліпчук, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, на літоўскую — С. Нагінскас, на малдаўскую — П. Дарые.

Паводле матываў верша П. Сергіевіч напісаў карціну «А ты, сіраціна, жыві!».

*Ястраб, лісіца й певень* (с. 180)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Наша ніва», 1913, № 45, 7 лістап. у рубрыцы пад назвай «У мутным віры» з подпісам: К-а.

Друкаваўся ў зб. «Спадчына», 1922 з датай: 1913 г., а таксама ў Выбр. тв., 1935, т. II.

Захоўваецца аўтограф (адз. зах. 95). Пад тэкстам: К-а і алоўкам пазначаная дата: 13 г. На гэтай жа старонцы змешчаны аўтограф верша «Кажух і вата».

Пераклалі: на рускую мову — Б. Кежун, на ўкраінскую — І. Сварнык, на латышскую — Ю. Ванаг.

*Кажух і вата* (с. 181)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Наша ніва», 1913, № 47, 21 лістап. у рубрыцы пад назвай «У мутным віры» з подпісам: К-а.

Друкаваўся ў зб. «Спадчына», 1922 з датай: 1913 г.

Пад аўтографам (адз. зах. 95) гэтакі ж подпіс і алоўкам дапісана: 13 г.

На ўкраінскую мову пераклаў І. Сварнык.

*Дэпутаты і грамадзяне* (с. 181)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Наша ніва», 1913, № 50, 12 снеж. у рубрыцы пад назвай «У мутным віры» з подпісам: К-а.

Друкаваўся ў зб. «Спадчына», 1922 з датай: 1913 г., а таксама ў Выбр. тв., 1935, т. II.

Захоўваецца аўтограф (адз. зах. 94), які мае гэтакі ж подпіс. Дата: 13 дапісана алоўкам. На гэтай жа старонцы змешчаны аўтограф верша «Расійскія чыгункі».

*«Селі ў Думу думаць думы...»* — Маецца на ўвазе IV Дзяржаўная дума, якая, як і папярэднія, не апраўдала надзей і спадзяванняў беларускага народа. Амаль уся першая старонка гэтага нумара «Нашай нівы» прысвечана дэпутацкім справам. У прыватнасці, аўтар артыкула «На адпачынак» крытык А. Луцкевіч (псеўданім «а-н-а») зазначае, што быў час, калі ў Думу выбіраліся людзі, «што жыцця свайго не пашкадавалі б для свайго народа і роднай старонкі. Гэты час далёка адышоў ад нас...».

Пераклалі: на рускую мову — Б. Цімафееў, на ўкраінскую — П. Сліпчук, на латышскую — Ю. Ванаг, на літоўскую — К. Кубілінскас, на чувашскую — А. Эсхель.

*Шарада № 1* (с. 182)

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1913, № 51—52, 21 снеж., дзе ўпершыню апублікаваны. Подпіс: К-а.

Пад загалоўкам пазначана: «(З нагрsucc)» і пасля верша даецца гэтаму патлумачэнне: «Хто прышле вершам найлепшую адгадку, той атрымае кніжку «Шляхам жыцця» Я. Купалы. А каторыя прышлюць так разгадкі, між тымі будуць разыграны тры кніжкі: «Гісторыя Беларусі» Власта. Адгадкі будуць прынятыя пад увагу прысланыя не пазней 15 студзеня 1914 году».

У «Нашай ніве» за 17 студз. 1914 г. друкуецца разгадка шарады: «Ка-ля-ды», а таксама наступная інфармацыя: «Акуратную разгадку вершам прыслаў толькі п. А. Каласун-Тышынскі з Пецярбурга, катораму і выслана награда — «Шляхам жыцця». Ніжэй яго вершаваная разгадка:

«Тое першае — гэта ты, пясняр,  
А другое — пекны Божы дар:  
Ў лесе як расло,  
Дрэвам звалася,  
Згабляванае ж  
Дыляй сталася.

А людцы ўсё разам Каляды завуць,  
Цэлы год кругом як бы шчасця ждуць:  
Калі ж яно прыйдзе,  
Песню заспяваюць  
Часам — то бывае!  
Чаркі ў ход пушчаюць».

Разгадка даецца і перад тэкстам аўтографа (адз. зах. 95).

Датуецца годам апублікавання.

У прыжыццёвыя і пасмяротныя выданні верш не ўваходзіў, як таксама і ўсе іншыя шарады. Пасля нашаніўскай публікацыі твор упершыню быў надрукаваны разам з шарадамі пад № 2—6 у арт. В. Рагойшы «У вольную і думную хвіліну» (Маладосць, 1969, № 7. С. 130—132).

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Шарада* — від літаратурнай гульні-загадкі, звычайна вершаванай, у якой слова адгадваецца па апісанню яго асобных складоў ці літар.

*Пчолы і трутні* (с. 182)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Наша ніва», 1913, № 51—52, 21 снеж. у рубрыцы пад загалоўкам «У мутным віры» і з подпісам: К-а.

Друкаваўся ў зб. «Спадчына», 1922 з датай: 1913 г., ■ таксама ў Выбр. тв., 1935, т. II.

Пераклалі: на рускую мову — Б. Кежун і Г. Сямёнаў, на украінскую — М. Білецкі і П. Сліпчук, на латышскую — Ю. Ванаг.

*Казка аб песні* (с. 183)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Калядная пісанка», 1913 пад назвай «Песня і народ» і з падзагалоўкам «(Трохі казка)».

Датуецца годам апублікавання.

Друкаваўся ў зб. «Спадчына», 1922 і замежным выданні — «Спадчына», 1955 у раздзеле «Забраны край», а таксама ў 1989 г. у зб. «Дзень паэзіі» (публікацыя Я. Саламевіча).

У пасмяротны Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*Дзе ні кінь — дык клін!* (с. 184)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V, дзе недакладна датуецца 1914 г.

Упершыню — «Калядная пісанка», Вільня, 1913 г. з подпісам: К-а.

Датуецца годам апублікавання.

Друкаваўся ў зб. «Спадчына» 1922 з той жа недакладнай датай, а таксама ў Выбр. тв., 1935, т. II.

Захоўваецца аўтограф (адз. зах. 93) без назвы, які змешчаны побач з аўтографам «Шарады № 1», якая датуецца 1913 г.

У «Беларускім календары» на 1915 год» (Вільня, 1914) друкаваўся пад назвай «Дзе не кінь — ўсё клін».

Пераклалі: на рускую мову — У. Раждзественскі, на ўкраінскую — С. Крыжаніўскі.

*Селянін і конь* (с. 186)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Наша ніва», 1914, № 1, 4 студз. у рубрыцы пад назвай «У мутным віры» з подпісам: К-а.

Друкаваўся ў зб. «Спадчына», 1922 пад назваю «Селянін і конь» і з датай: 1913 г.

Пераклалі: на рускую мову — Б. Кежун, на ўкраінскую — П. Глазавы і П. Сліпчук, на латышскую — Ю. Ванаг, на польскую — Я. Гушча.

*«Жыў музыка Налім...»* (с. 186)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922.

Захоўваецца аўтограф (адз. зах. 89) з датай: 13 г., якая дапісана алоўкам, а затым закрэслена.

Паводле почырку, чарніла, паперы, аўтограф належыць да 1913 г. Нельга не браць пад увагу і наступны факт. Пабуджальным матывам да напісання гэтага верша, дзе асуджаецца абыякавасць людзей да майстроў сваёй справы, відаць, былі безуважлівыя адносіны рэдакцыі «Нашай нівы» да зборніка «Шляхам жыцця», 1913. Пра гэта сведчыць Купалаў ліст ад 18.IV.1913 г. да супрацоўнікаў рэдакцыі газеты, дзе паэт пісаў: «Мне здаецца, што за 5 год майго супрацоўніцтва ■ не заслужыў на тое, каб так беззасценчыва ігнарыраваць маю новавыйшаўшую кнігу, як гэта Вы зрабілі ў пашт. скрынцы сваёй газеты».

Пераклалі: на латышскую мову — Ю. Ванаг, на польскую — Я. Гушча.

*«Цемната і слата...»* (с. 187)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1930, № 5—6 з датай: 1913 г.

На рускую мову пераклалі Н. Кіслік і Г. Сямёнаў.

*Эпіграмы* (с. 187)

Друкуюцца па Зб. тв., 1932, т. VI, дзе «Ён і работнік грамадзянскі...» і «То беларус, то палячок...» датуюцца 1913 г.; «Ў кавярні водзіць рэй і лад...» — 18.X.1913 г.; «Варшаўскіх брукаў марны франт...» — 18.X.1915 г. У годзе напісання апошняй эпіграмы зроблена памылка. Бо, як і папярэдняя эпіграма «Ў кавярні водзіць рэй і лад...», яна напісана 18 кастрычніка. Не толькі супадзенне чысла і месяца ў дадзеным выпадку сведчыць пра памылку ў годзе напісання, але і той факт, што ў 1915 г. Я. Купала не звяртаўся да жанру эпіграмы. Такім чынам, эпіграма «Варшаўскіх брукаў марны франт...» была напісана 18.X. 1913 г.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 3, дзе пад агульным загалоўкам «Эпіграмы» сабраны творы гэтага жанру розных гадоў. Тут эпіграмы «Ён і работнік грамадзянскі...», «То беларус, то палячок...» і «Варшаўскіх брукаў марны франт...» маюць загаловак «На...»; «Ў кавярні водзіць рэй і лад...» друкуецца пад назвай «На Д...». І тут эпіграма «Варшаўскіх брукаў марны франт...» датуецца 18 кастр. 1915 г. Магчыма, адсюль памылка ў даце і была механічна перанесена ў Зб. тв., 1932, т. VI.

Даследчык А. Пяткевіч лічыць, што «Эпіграмы» прысвечаны паэту Г. Леўчыку, які карыстаўся псеўданімам «Dalbo», а апошні верш звязаны з выхадам у свет невялікага зборніка вершаў Гальяша Леўчыка (Ільі Ляўковіча) «Чыжык беларускі» (1912). На думку А. Лойкі, «Эпіграмы» маглі быць прысвечаны В. Ластоўскаму (ЭД. С. 675). Іншай думкі прытрымліваецца А. Адамовіч, які пераканальна і аргументавана даказаў, што Янка Купала меў на ўвазе Івана Луцкевіча (Адамовіч А. Як дух змагання Беларусі: Да 100-х угодкаў нараджэння Івана Луцкевіча.— Выд. газ. «Беларусь».— Нью-Йорк. 1983. С. 8).

На ўкраінскую мову пераклаў Р. Лубкіўскі.

*На Новы (1914) год* (с. 188)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Беларускі каляндар «Нашай нівы» на 1914 год» (Вільня, 1914) лацінскім шрыфтам пад назвай «На Новы год».

Аўтограф (адз. зах. 92) мае назву «Пад Новы год».

Датуецца паводле першай публікацыі, улічваючы той факт, што верш прысвячаўся Новаму, 1914 году, таму дапускаем, што быў напісаны ў канцы 1913 г.

На рускую мову пераклаў Г. Сямёнаў.

## 1914

*Груган і салавей* (с. 189)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Наша ніва», 1914, № 3, 17 студз. у рубрыцы пад загалоўкам «У мутным віры» і з подпісам: К-а.

Друкаваўся ў зб. «Спадчына», 1922 з датай: 1914 г., і таксама ў Выбр. тв., 1935, т. I.

Існуюць два аўтографы (адз. зах. 106 і 107). Яны адлюстроўваюць розныя этапы ўвасаблення аўтарскай задумы. Першы — толькі дзве пачатковыя страфы верша і двухслаёвай праўкай — дае ўяўленне пра крышталізацыю задумы твора: ідзе выбар галоўнага героя — першапачаткова абраны вобраз Асла замяняецца на Grугана і ў адпаведнасці з гэтым мяняецца ў многім лексічны пласт згаданых строф верша.

На гэтай жа старонцы, дзе змешчаны аўтограф (№ 1), запісаны дзве апошнія страфы верша «Асёл і яго цень». Відаць, гэтыя строфы не былі перапрацаваны, вобраз Асла не быў заменены на Grугана з усімі адпаведнымі далейшымі зменамі, а сталі часткай іншага верша.

Двухслаёвая праўка аўтографа № 2 адлюстроўвае пазнейшы этап удасканалення твора.

Пераклалі: на рускую мову — Б. Кежун, на ўкраінскую — П. Сліпчук, на балгарскую — Х. Бербераў.

Верш, на думку сучаснай крытыкі, «узнік у рэчышчы палемікі аб шляхах развіцця беларускай паэзіі, што незадоўга да гэтага разгарнулася на старонках «Нашай нівы». Ідэйнай скіраванасцю, зместам пераклікаецца з артыкулам «Чаму плача песня наша?», у якім Купала абараняў беларускую дэмакратычную літаратуру, творчасць паэтаў, цесна звязаных з жыццём народа» (ЭД. С. 170).

*Шарада № 2* (с. 190)

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1914, № 3, 17 студз., дзе ўпершыню апублікаваны, улічваючы наступную заўвагу, што была надрукавана ў «Нашай ніве», 1914, № 4, 24 студз.: «Папраўка. У шарадзе ў 3 нумары «Н. н.» укралася памылка. У трэцім радку 3-га чатырохверша, лічачы з гары, надрукавана: «І другога побач з ім»,— а трэба, каб было: «І трэцяга побач з ім». Пад шарадай і папраўкай подпіс: К-а. Дата адсутнічае.

Датуецца годам апублікавання.

Адказ: «Бе-ла-ру-сы» друкуецца ў № 10 «Нашай нівы», дзе тут жа крыху ніжэй: «Акуратную разгадку прыслалі І. Фарботка (вершам) і А. Ганчарык».

У прыжыццёвых і пасмяротных выданнях верш не друкаваўся.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Гл. каментарый да «Шарады № 1», с. 318.

*Моладзі* (с. 190)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Лучынка», 1914, № 2. Пад тэкстам памета: Янка Купала. Вільня. 23/I-14 г.

Друкаваўся ў зб. «Спадчына», 1922 з той жа датай.
Захоўваецца аўтограф (адз. зах. 105, л. 1—2). На адваротнай старонцы л. 2 напісаны варыянт першай страфы.
Пераклалі: на рускую мову — Л. Хаўстаў, на ўкраінскую — П. Галота, на кіргізскую — Ц. Уметаліеў, на літоўскую — В. Бложэ, на чувашскую — А. Кляменцьеў.
Верш пакладзены на музыку А. Стаповічам (зб. «За бацькаўшчыну». Вільня, 1935).

*Страшны вір* (с. 191)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.
Упершыню — «Лучынка», 1914, № 3. Пад тэкстам: Янка Купала. Вільня. 23/I-14 г.
Друкаваўся ў зб. «Спадчына», 1922 з той жа датай.
Верш напісаны ў жанры рамантычнай балады паводле народнай легенды.
Пераклалі: на рускую мову — Г. Сямёнаў, на англійскую — А. Пракоф'ева, на балгарскую — Я. Дзімаў.

*На полі тае* (с. 193)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.
Упершыню — «Спадчына», 1922 з датай: 23/I-14 г.
Друкаваўся ў зб. «Адцвітанне», 1930.
Аўтограф (адз. зах. 104) мае назву «На полі тае...» і памету: Вільня, 23/I-14 г.
Пераклалі: на рускую мову — С. Гарадзецкі і М. Камісарава, на ўзбекскую — Тулкун, на чувашскую — В. Дзмітрыеў, на чэшскую — I. Гора.
На музыку паклаў С. Палонскі.

*Па шляху* (с. 194)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.
Упершыню — «Наша ніва», 1914, № 9, 27 лют. пад назвай «На шляху». Пад тэкстам: Я. Купала. Вільня. 27/I-14 г.
Друкаваўся ў зб. «Спадчына», 1922 з той жа датай.
Пераклалі: на рускую мову — М. Камісарава і М. Галодны, на ўкраінскую — М. Зераў.

*Б'юць на трывогу званы...* (с. 195)

Друкуецца па зб. «Безназоўнае», выд. 2-е, 1928.
Упершыню — «Наша ніва», 1914, № 16, 25 крас. з паметай пад тэкстам: Вільня. 27/I-14 г., Я. Купала. Другая страфа адсутнічае (зроблена купюра).
Друкаваўся ў зб. «Безназоўнае», 1925.
У прыжыццёвыя Зборы твораў паэта, а таксама ў Зб. тв., 1951—1953 не ўключаўся.
Пераклалі: на рускую мову — Д. Бродскі і У. Раждзественскі, на балгарскую — Я. Дзімаў, на польскую — М. Ваўжкевіч.
Ілюстраваў верш Я. Чарняцін.

*Асёл і яго цень* (с. 196)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.
Упершыню — «Наша ніва», 1914, № 5, 31 студз. у рубрыцы пад загалоўкам «У мутным віры», з подпісам: К-а.
Друкаваўся ў зб. «Спадчына», 1922 з датай: 1914 г., а таксама ў Выбр. тв., 1935, т. II.

Аўтограф (адз. зах. 106) дзвюх апошніх строф верша змешчаны на адным лісце з аўтографам верша «Груган і салавей» (гл. каментарый да яго, с. 321).

Пераклалі на рускую мову — І. Залатарэўскі і Б. Кежун, на ўкраінскую — М. Білецкі і П. Сліпчук, на латышскую — Ю. Ванаг.

*Свінапас і стрынатка* (с. 197)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Наша ніва», 1914, № 7, 13 лют., у рубрыцы пад загалоўкам «У мутным віры», з подпісам: К-а.

Аўтограф (адз. зах. 102) не мае загалоўка і даты. На адваротнай старонцы ліста аўтограф верша «Груганы».

Друкаваўся ў зб. «Спадчына» з датай: 1914 г.

Пераклалі: на рускую мову — Б. Кежун, на ўкраінскую — І. Сварнык.

*Адступнік* (с. 198)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V. Радок 16 даецца паводле зб. «Спадчына», 1922. У асноўным тэксце: *Але пуста ўся хаціна.*

Упершыню — «Наша ніва», 1914, № 18, 8 мая. Пад тэкстам: Янка Купала. Вільня. 22/II-1914.

Друкаваўся ў зб. «Спадчына», 1922 з той жа датай і ў зб. «Адцвітанне», 1930, а таксама ў зборніку «Спадчына», 1955, дзе змешчаны ў раздзеле «Забраны край».

У пасмяротны Збор твораў уключаецца з 1961 г.

*Праявы* (с. 199)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V, дзе недакладна датуецца 28-II-16 г.

Упершыню — «Наша ніва», 1914, № 10, 7 сак. Пад тэкстам: Янка Купала. Вільня. 28/II-14 г.

Друкаваўся ў зб. «Спадчына», 1922 з той жа датай.

У Зб. тв., 1953, т. III адсутнічаюць дзве першыя страфы.

Пераклалі: на рускую мову — С. Гарадзецкі, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі, на эстонскую — М. Вээтам.

*Апраметная* — пекла.

*Шарада № 3* (с. 200)

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1914, № 10, 7 сак., дзе ўпершыню апублікаваны. Пад тэкстам: К-а.

Датуецца годам апублікавання.

Аўтограф (адз. зах. 99) не мае назвы і даты.

Адказ: «Са-ла-ду-ха» надрукаваны ў «Нашай ніве», 1914, № 14, 3 крас. пасля «Шарады № 4». Ніжэй ідзе пералік прозвішчаў чытачоў, якія даслалі правільныя адказы.

У прыжыццёвых і пасмяротных выданнях твор не друкаваўся.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Гл. каментарый да «Шарады № 1», с. 318.

*Валачобнікі* (с. 201)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Велікодная пісанка», Вільня, 1914. Пад тэкстам: Янка Купала. 22/III-14 г.

Друкаваўся ў зб. «Спадчына», 1922 з той жа датай.

*Валачобнік* — песеннік, які ходзіць у велікодныя дні па дварах з віншавальнымі песнямі.

*Шарада № 4* (с. 202)

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1914, № 14, 3 крас., дзе ўпершыню апублікавана. Пад тэкстам: К-а.

Датуецца годам апублікавання.

Аўтограф (адз. зах. 97) не мае назвы і даты, у правым верхнім вуглу разгадка: «Магдалена».

Адказ: «Маг-да-ле-на» надрукаваны ў «Нашай ніве», 1914, № 17, 1 мая, дзе змешчана «Шарада № 5». Па традыцыі пералічваліся прозвішчы чытачоў, якія даслалі правільныя адказы на «Шараду № 4».

*Рэчка ў дальнюю даль запёрта, // Слаўна золатам для нас // І крывёй ў апошні час.*— Відаць, тут намёк на крывавыя падзеі Ленскага расстрэлу 1912 г., водгалас якіх адчуваўся і на Беларусі.

У прыжыццёвых і пасмяротных выданнях верш не друкаваўся.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Гл. каментарый да «Шарады № 1», с. 318.

*Запела вясна сваю песню* (с. 203)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Лучынка», 1914, № 5 з паметай пад тэкстам: Янка Купала. Вільня. 16/IV-14 г.

Друкаваўся ў зб. «Спадчына», 1922 з той жа датай.

Пераклалі: на рускую мову — Л. Хаўстаў, на ўзбекскую — Тулкун.

*Шарада № 5* (с. 204)

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1914, № 17, 1 мая, дзе ўпершыню апублікавана; падпісана крыптанімам «Л».

Датуецца годам апублікавання.

Адказ: «Са-ла-вей» надрукаваны ў «Нашай ніве», № 20, 22 мая разам з прозвішчамі чытачоў, якія даслалі разгадку шарады.

У прыжыццёвыя і пасмяротныя выданні верш не ўваходзіў.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Гл. каментарый да «Шарады № 1», с. 318.

*Светлай памяці*
*Уладзіслава Эпімах-Шыпілы* (с. 204)

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1914, № 19, 16 мая, дзе ўпершыню апублікаваны, пад вершам: Янка Купала, Пецярбург. 10/V-14 г. Тут жа на першай старонцы газеты змешчаны артыкул Я. Купалы «Владыслаў сын Ігната Эпімах-Шыпіла (Пасмяротны ўспамін)».

У ЦДАМЛіМ РБ захоўваецца фотакопія аўтографа (ф. 8, в. 2, адз. зах. 1) з той жа паметай пад тэкстам.

Да 1961 г. у Зборы твораў паэта верш не ўключаўся.

Верш быў прачытаны Я. Купалам на пахаванні У. І. Эпімах-Шыпілы, малодшага брата Б. І. Эпімах-Шыпілы, вядомага беларускага культурнага і навуковага дзеяча.

*Эпімах-Шыпіла Уладзіслаў Ігнатавіч* (1864—1914) — удзельнік культурнага асветніцкага руху беларусаў у Пецярбургу, арганізатар тэатральных беларускіх пастановак «У зімовы вечар», «Хам» паводле Э. Ажэшкі; «Па рэвізіі», «Пашыліся ў дурні» М. Крапіўніцкага; «Міхалка» Далецкіх; «Паўлінка» Я. Купалы, якія рыхтаваліся студэнтамі Беларускага навукова-літаратурнага гуртка Пецярбургскага універсітэта. У «Паўлінцы» выконваў ролю Пранціся Пустарэвіча.

*Шарада [№ 6]* (с. 206)

Друкуецца па газ. «Наша ніва», 1914, № 20, 22 мая, дзе ўпершыню апублікавана пад назвай «Шарада № 5» (нумар 5 мела папярэдняя

шарада, трэба адзначыць відавочную друкарскую памылку ці аўтарскую апіску). Дата і подпіс адсутнічаюць.

Захоўваецца аўтограф (адз. зах. 98), які мае назву «Шарада», а таксама — разгадку яе: «Даліна». У «Нашай ніве» адказ не быў апублікаваны: ужо большую частку газеты займалі матэрыялы вайны. Напісаны рукой Купалы на такім жа лісце ў лінейку, як і папярэднія шарады. Тут жа, дзе змешчана шарада, толькі знізу, зверху — уроскід — запісы ключавых слоў да нейкіх новых шарад, а таксама — варыянт новых спалучэнняў складоў у ключавым слове «Магдалена» да «Шарады № 4»: «Прасонкі; Магдалена: 1) Маг 2) Леда 3) Лена; рысамака: 1) мары 2) каса 3) кары; Караліна: 1) кара 2) ліра 3) рана 4) Кана 5) каліна 6) Ліна; Варажбітка: 1) кава 2) бітва 3) жар (раж) 4) ражка; Маладзік: 1) мала 2) дзік. Асобна напісана слова «радзіны».

У прыжыццёвых і пасмяротных выданнях верш не друкаваўся.

У Збор твораў уключаецца ўпершыню.

Гл. каментарый да «Шарады № 1», с. 318.

### [*Шарада № 7*] (с. 206)

Друкуецца па тэксце чарнавога аўтографа (адз. зах. 99, л. 1), дата адсутнічае. Тут жа падаецца адказ: «Таратайка».

Друкуецца ўпершыню.

Датуецца ўмоўна 1914 г. паводле таго факта, што Я. Купала пазней 1914 г. да шарад не вяртаўся. Зварот да шарад быў звязаны з жаданнем аўтара, выдаўца і рэдактара «Нашай нівы» зацікавіць шырокага чытача газетай, выклікаць не толькі чытацкую актыўнасць у яе набыцці, падпісцы, але і перапісцы з імі. Падзеі на фронце, імкненне як магчыма больш матэрыялу змясціць пра вайну адсунулі на апошні план шарады. Па гэтай прычыне не была надрукавана разгадка да «Шарады № (6)», як і [Шарад № 7 і № 8].

### [*Шарада № 8*] (с. 207)

Друкуецца па тэксце чарнавога аўтографа (адз. зах. 99). Тут жа напісаны адказ: «Та-ла-ка».

Друкуецца ўпершыню.

Датуецца ўмоўна 1914 г. (Гл. каментарый да [«Шарады № 7»]).

Варыянт першай страфы аўтографа, які быў закрэслены:

> Як узлезе на плечы
> Першая і трэцяя,—
> Будзе ўсім ад рэчы
> На цябе глядзеці».

Радок 8 закрэсл.:

> *Той, хто вочы мае.*
> а *Вельмі памагае,*
> б *Спор дае вялікі.*

### *Сярод раз'юшаных сатрапаў...* (с. 208)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Беларусь», 1920, № 12, 10 чэрв. Пад тэкстам: Я. Купала. Вільня. 10/VI-14 г.

Друкаваўся ў зб. «Спадчына», 1922 з той жа датай.

У пасмяротны Збор твораў уключаецца ўпершыню.

### *Ўспомні!..* (с. 209)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V з прысвячэннем: Ул. Станкевічанцы.

Упершыню — «Наша ніва», 1915, № 3, 23 студз. з датай: 13/XII-14 г. і прысвячэннем.

Друкаваўся ў зб. «Спадчына», 1922 з той жа датай.

Я. Купала прысвяціў гэты верш, як і другі — «Гэй ты, дзяўчына, кветка-лілея...», Уладзіславе Францаўне Станкевіч — сваёй будучай жонцы. Вершы напісаны ў дзень яе нараджэння 13(25) снежня, калі ёй споўнілася 23 гады. У прысвячэнні «В. Станкевічанцы» (пазней, пачынаючы са зб. «Спадчына», ініцыял імені быў заменены на «Ул.») Я. Купала выкарыстаў псеўданім Уладзіславы Францаўны «В. Станкевічанка», якім яна падпісвала свае вершы ў «Нашай ніве».

На рускую мову пераклаў А. Андрэеў.

*«Гэй ты, дзяўчына, кветка-лілея...»* (с. 209)

Друкуецца па Зб. тв., 1928. т. V з прысвячэннем: «Ул. Станкевічанцы».

Упершыню — «Наша ніва», 1915, № 31, 7 жн.

Друкаваўся ў зб. «Спадчына», 1922 з датай: 13/XII-14 г.

Гл. каментарый да папярэдняга верша «Ўспомні!..».

Пераклалі: на рускую мову — А. Андрэеў і У. Мікушэвіч, на ўкраінскую — Р. Лубківскі, на англійскую — У. Мэй.

*Песні вайны* (с. 210)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V, дзе датуецца недакладна: 18-XII-14 г. Радок 128 даецца паводле «Нашай нівы». У асноўным тэксце: *Жонка дзяцей ціхамірыць.*

Упершыню паасобку вершы цыкла друкаваліся ў «Нашай ніве», 1914, № 39, 2 кастр. («Варожбы» і «Перад бурай»); № 40, 9 кастр. («Склік»); № 42, 23 кастр. («Разлука»); № 44, 6 лістап. («Асталіся нівы, сёлы»); № 51—52, 25 снеж. («Пабоішча»).

Вершы цыкла датуюцца годам апублікавання.

Цыкл цалкам упершыню апублікаваны ў зб. «Спадчына», 1922 з недакладнай датай: 18/XII-14 г.

У вершы «Варожбы» Я. Купала згадваў пра сонечнае зацьменне, якое ў сапраўднасці, як паведамляла «Наша ніва», адбылося 8 жніўня 1914 г. Вайна пачалася 20 ліпеня. Паэт, звязваючы гэтыя дзве падзеі, стварае трывожныя радкі: «Што то будзе, што то будзе?»

«...Зацьменне сонца Купала-паэт сустракаў, як колішняя дружына князя Ігара са «Слова аб палку Ігаравым». Усходнеславянскі паэт — нашчадак аўтара «Слова», Купала не мог не сустракаць зацьмення іначай як толькі трывожна...» (А. Лойка. Як агонь, як вада..., Мн., 1984. С. 217).

«Цыкл стаў прыкметнай, у многім этапнай з'явай у паэзіі Я. Купалы, засведчыў... паглыбленне антываенных матываў ва ўсёй тагачаснай беларускай рэвалюцыйна-дэмакратычнай літаратуры» (ЭД. С. 475).

Пераклалі: на рускую мову — М. Камісарава («Разлука», «Засталіся нівы, сёлы...») і В. Колычаў, на ўкраінскую — М. Нагнібеда.

На музыку верш «Перад бурай» паклаў Г. Фрыд.

*1914-ты* (с. 218)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Наша ніва», 1914, № 51—52, 25 снеж. з датай: 18/XII-14 г.

Друкаваўся ў зб. «Спадчына», 1922 з той жа датай, а таксама ў Выбр. тв., 1935, т. I.

Пераклалі: на рускую мову — В. Колычаў, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі, на грузінскую — Н. Гурашыдзе, на польскую — Т. Гіцгер.

*Крыўда* (с. 219)
(«З'ядае крыўда нас ад векаў...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Чырвоны шлях», 1918, № 7—8, 30 лістап. разам з вершамі «Як цені», «З дня ў дзень...», «З думак жабрака», «Матцы» пад агульным загалоўкам «Забраны край».

Пад тэкстам аўтографа (адз. зах. 101): Янка Купала. 1914 г.

Пераклалі: на рускую мову — Г. Сямёнаў, на балгарскую — Я. Дзімаў.

*Сваякі* (с. 219)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922 з датай: 1914 г.

Аўтограф (адз. зах. 100) мае назву «У мутным віры» і подпіс: К-а.

Друкаваўся ў зб. «Спадчына»», 1955 у раздзеле «Сатыра». У 1989 г. разам з іншымі вершамі ўвайшоў у зб. «Дзень паэзіі» (публікацыя Я. Саламевіча).

У пасмяротны Збор твораў уключаецца ўпершыню.

*«Я мецъ ад кагосьці...»* (с. 220)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI пад агульным загалоўкам «З думак мімаходам» («...Сонца кажа — ўкараную») 1911 г. Пад тэкстам: 1914 г.

Упершыню — «Полымя», 1930, № 5—6, дзе датуецца 1914 г.

Друкаваўся ў Выбр. тв., 1935, т. II.

У пасмяротны Збор твораў верш уключаецца ўпершыню.

*Груганы* (с. 220)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Спадчына», 1922.

Датуецца ўмоўна 1914 г., паколькі чарнавы аўтограф (адз. зах. 102) змешчаны на адным лісце з аўтографам верша «Свінапас і стрынатка», які напісаны ў 1914 г. Улічваем таксама, што паводле зместу верш можна аднесці да перыяду першай сусветнай вайны.

Не мае даты і другі белавы аўтограф (адз. зах. 103).

Друкаваўся ў 1989 г. у зб. «Дзень паэзіі» (публікацыя Я. Саламевіча).

У пасмяротны Збор твораў уключаецца ўпершыню.

## ПЕРАКЛАДЫ

Дакладна невядома, калі Я. Купала працаваў над перакладамі, змешчанымі ў дадзеным раздзеле. Але паколькі пераклады, за выключэннем «Нязжатых гоняў», упершыню былі апублікаваны ў зб. «Шляхам жыцця», 1913, то іх датаванне ўмоўна можна абмежаваць хроналагічнымі рамкамі перыяду падрыхтоўкі зборніка да друку (1911—1912), але не выключана верагоднасць стварэння перакладаў і ў больш раннія гады. Дата перакладу «Нязжатых гоняў» — невядомая.

*Пані Твардоўская* (с. 223)

Пераклад балады А. Міцкевіча «Pani Twardowska» (1840-я гг.).

Друкуецца па часоп. «Полымя рэвалюцыі», 1940, № 11. Радок 76 даецца па зб. «Шляхам жыцця» (1913). У асноўным тэксце: «Каб было дзе папасацца». Пераклад быў значна дапрацаваны Я. Купалам у 1940 г. у сувязі з 85-годдзем з дня смерці А. Міцкевіча.

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Пераклады з польскай». Тэкст значна адрозніваецца ад асноўнага, таму яго цалкам прыводзім у раздзеле «Іншыя рэдакцыі і варыянты».

Друкаваўся ў Зб. тв., 1926, т. II і ў Зб. тв., 1929, т. II.

Асобны чарнавы аўтограф 10—12 строф перакладу (адз. зах. 335) мае розначытанні з асноўным тэкстам. Белавы аўтограф, што ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (адз. зах. 118, с. 301—304), цалкам супадае з першадрукам, але некаторыя радкі мелі іншы першапачатковы варыянт:

17а А шаўца шась. Хвостам коткі
б *Як у першадруку*
33а А! Твардоўскі... Што чуваці
б *Як у першадруку і ў асноўным тэксце*
35а Ці ж мяне не знаеш, браце?
б Ці ж не хочаш і пазнаці?
77 Зруб стаўляй з зярон арэху
97а Чорт спужаўся аж прыгнуўся
б *Як у першадруку і ў асноўным тэксце*
115а зломіш хоць адзін варуна(к)
б *Як у першадруку і ў асноўным тэксце*

*Крапак* — Карпаты.

*Бельзабуб* — тое ж, што і Вельзевул,— д'ябал.

*Міцкевіч Адам* (1798—1855), польскі паэт, аўтар вядомых паэм «Пан Тадэвуш», «Дзяды», «Гражына», «Конрад Валенрод» і інш. А. Міцкевіч і Я. Купала блізкія па сваёй творчасці. Я. Купала развіваў яго лепшыя ідэйна-мастацкія традыцыі. Як вядома, адзін з дарэвалюцыйных псеўданімаў Купалы — Вайдэлота — быў запазычаны з паэмы «Конрад Валенрод».

У артыкуле «Купалаўская школа перакладу» С. Х. Александровіч прааналізаваў вынікі параўнання тэкстаў перакладу, што друкаваўся ў зб. «Шляхам жыцця», 1913 і ў «Полымі рэвалюцыі», 1940, № 11:

«Параўнанне двух варыянтаў сведчыць аб вялікай патрабавальнасці перакладчыка, стараннай працы над словам, пошуках яркай мастацкай дэталі, жывога выразу і параўнання. Праца ішла па лініі ўдакладнення паасобных дэталей вобраза, што рабіла больш выразнай думку.

Калі ў першым варыянце апошняя страфа перакладалася так:

А Твардоўскі пры ім суча,
Быццам гнецца, і ўсё бача,
Скочыў дзюркай чорт ад ключа
І дагэтуль недзе скача,—

дык у новым варыянце другі і чацвёрты радкі набылі больш выразны змест:

А Твардоўскі пры ім суча,
Нібы выпусціць баіцца,
Скочыў дзюркай чорт ад ключа
І дагэтуль скача гіцаль.

Выпраўлена сінтаксічная будова паасобных месц. З'явіліся яркія народныя звароты: «чэрцям добра ў знакі даўся», «капялюх зняў»,

«будзе чорту тут нагонка» і інш. Карэнным чынам перабудаваны многія строфы, а ўвогуле атрымаўся, па сутнасці, новы пераклад балады «Пані Твардоўская» (зб. «Народныя песняры», Мн., 1972. С. 143—144).

*Ваявода* (с. 227)

Пераклад балады А. Міцкевіча «Czaty», якая ў польскім арыгінале мае падзагаловак «Ballada ukrainska». «Czaty» — у перакладзе на беларускую мову азначае «Засада».

Друкуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1940, № 38, 23 лістап.

У сувязі з 85-й гадавінай з дня смерці А. Міцкевіча пераклад быў значна перапрацаваны.

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Пераклады з польскай» пад загалоўкам «Удагонку». Пад такой назвай пераклад друкаваўся ва ўсіх прыжыццёвых выданнях твораў Я. Купалы да 1940 г. Тэкст першадруку значна адрозніваецца ад асноўнага, таму гэтая першапачатковая рэдакцыя верша прыводзіцца цалкам у раздзеле «Іншыя рэдакцыі і варыянты». Супадае з тэкстам, надрукаваным у Зб. тв., 1926, т. II, а таксама з тэкстам аўтографа (белавы рукапіс), што ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (адз. зах. 118, с. 305—307), за выключэннем наступных радкоў:

55 *Яна ўсё йшчэ, як глуха*
71 *Я ўздрыгнуў, як на лёдзе*

Тэкст перакладу, папраўлены рукой аўтара непасрэдна на друкаваных старонках зб. «Шляхам жыцця», 1913, рыхтуючы кнігу для другога выдання ў 1923 г. (адз. зах. 357), мае нязначныя розначытанні з першадрукам у наступных радках:

| | Было: | Стала: |
|---|---|---|
| 3 | *Дзе ў бакоўку дзвер — стануў* | *Дзе ў бакоўку ўваход — стануў* |
| 13 | *Ўзялі броню — і ходу* | *Ўзялі зброю — і ходу* |
| 23 | *І тваё уздыханне і тваё прывітанне* | *І твае ўздыханні і тваё прывітанне* |

*Шпалеры* — тут спецыяльны шчыт або рашотка на бяседцы, па якіх уюцца расліны.

*Панеўка* — полка каля ружэйнага замка.

*Сакеўка* — кашалёк.

*Тры пары дня* (с. 229)

Пераклад верша М. Канапніцкай «Przyjdzie zorzeńka do mojej chaty».

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Пераклады з польскай».

Захоўваецца асобны аўтограф (адз. зах. 343, л. 1) з подпісам: Янук Купала, які адрозніваецца ад асноўнага тэксту.

У рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (адз. зах. 118) два аўтографы (л. 311 і 313), тэкст якіх супадае з асноўным, акрамя 7 радка, дзе замест: *ваяўніцы // баяўніцы.*

У Я. Купалы пераклад складаецца з катрэнаў. У аўтара верш падзелены на тры васьмірадковыя часткі.

Пераклад пакладзены на музыку і апублікаваны з нотамі ў зб. А. Стаповіча «За бацькаўшчыну» (Вільня, 1935).

*Канапніцкая Марыя* (1842—1910), польская пісьменніца. Паводле меркавання А. Лойкі, паэтэса Канапніцкая даволі значна ўплывала

на творчую эвалюцыю ранняга Я. Купалы. У дзень яе смерці Я. Купала напісаў верш «Памяці Мар'і Канапніцкай», дзе называе яе «пясняркай народаў», «заступніцай усіх нешчаслівых».

### *Каралі* (с. 230)

Пераклад верша У. Сыракомлі «Korale», які ў арыгінале мае падзагаловак «Dumka Kozacka».

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Шляхам жыцця», 1913 у раздзеле «Пераклады з польскай».

Захоўваецца аўтограф (адз. зах. 344) з подпісам: Янук Купала, тэкст яго адрозніваецца ад асноўнага. Другі аўтограф змешчаны ў рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» (адз. зах. 118, л. 313), які таксама мае разначытанні з асноўным тэкстам.

*Сыракомля Уладзіслаў* (сапр. Кандратовіч Людвік Францішак Уладзіслаў; 1823—1862), польскі і беларускі паэт. Я. Купала пераклаў таксама яго вершы «На Палессі», «Доля», «Груган», паэму «Нядзеля». Памяці Сыракомлі прысвяціў верш «Лірнік вясковы».

### *Нязжатыя гоні* (с. 231)

Пераклад першых 14 радкоў верша М. А. Някрасава «Нязжатая паласа».

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI, дзе ўпершыню апублікаваны.

Захоўваецца аўтограф (адз. зах. 345), тэкст якога значна адрозніваецца ад асноўнага.

Я. Купала змяніў строфіку верша. У перакладзе першы някрасаўскі радок «Поздняя осень. Грачи улетели» перададзены такім чынам: «Позняя восень. Буслы адляцелі», каб «прыдаць някрасаўскаму арыгіналу нацыянальна-беларускія фарбы»[1].

Узнікае пытанне: чаму перакладзены толькі 14 радкоў — палова верша? Ёсць розныя меркаванні. Д. Палітыка лічыць, што Я. Купала «тут праявіў творчую самастойнасць»[2].

Іншай думкі прытрымліваўся С. Х. Александровіч: «...гэта была своеасаблівая «проба пяра» Купалы-перакладчыка. І, відаць, ён не меў намеру змяшчаць пераклад у друку, а хацеў толькі пранікнуць у творчую лабараторыю, зразумець сакрэты паэтычнага майстэрства вялікага рускага паэта» (Зб. «Народныя песняры». С. 146).

*Някрасаў Мікалай Аляксеевіч* (1821—1878), рускі паэт. Крытыкі, у прыватнасці В. Івашын, Р. Бярозкін, А. Лянсу, Ц. Ліякумовіч, знаходзяць тыпалагічнае падабенства, блізкасць ідэйна-эстэтычных пазіцый двух паэтаў.

Я. Купала пераклаў таксама з паэмы «Каму на Русі жыць добра» дзве песні — «Галадоўліца» і «Соленая», вершы «Агароднік», «У людзей і ў нас», «Што ні год, памяншаюцца сілы».

---

[1] Палітыка Д. Сляды часу. Мн. 1967. С. 140.
[2] Тамсама. С. 143.

# АЛФАВІТНЫ ДАВЕДНІК*



---

* Першая калонка лічбаў — старонкі тэкстаў, другая — іншых рэдакцый і варыянтаў, трэцяя — каментарыяў.

# ЗМЕСТ*

## ВЕРШЫ

### 1911



* Першая калонка лічбаў — старонкі тэкстаў, другая — іншых рэдакцый і варыянтаў, трэцяя — каментарыяў.

## 1912

## 1906—1912

## 1913

## 1914

## ПЕРАКЛАДЫ

**Купала Я.**

К 92 Поўны збор твораў. У 9 т. Т. 3. Вершы, пераклады 1911—1914.— Мн.: Маст. літ., 1997.— 342 с. [4] л. іл.

ISBN 5-340-01463-0 (т. 3).

Трэці том Збору твораў складаюць вершы, напісаныя ў 1911—1914 гг., а таксама пераклады.

**ББК 84(4Бен)6**

Літаратурна-мастацкае выданне

ЯНКА КУПАЛА

*Поўны збор твораў у дзевяці тамах*

**Том 3**

*Вершы, пераклады 1911—1914*

Рэдактар *Н. І. Семашкевіч*
Мастак *М. Р. Казлоў*
Мастацкі рэдактар *А. І. Дрозд*
Тэхнічны рэдактар *Т. М. Сокал*
Карэктар *Л. М. Маслоўская*

Здадзена ў набор 04.02.97. Падп. да друку 26.05.97. Фармат 84×108[1]/32. Папера афс. № 1. Гарнітура літаратурная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 18,06+0,42 укл. Ум. фарб.-адб. 18,90. Ул.-выд. арк. 17,93. Тыраж 6000 экз. Зак. 1309.

Выдавецкае дзяржаўнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600. Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА ім. Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.